# ЗМЕСТ Крыніца

Я

# Мялецій СМАТРЫЦКІ




Мялецій СМАТРЫЦКІ **ТРЭНАС**

Уладзімір КАРОТКІ *Павел і Савел*

Якуб СУША *Савел і Павел*

Мялецій СМАТРЫЦКІ **ЛІСТ**

ТРЭНАС, альбо ПЛАЧ СВЯТОЙ УСХОДНЯЙ ЦАРКВЫ



# ТРЭНАС

**РАЗДЗЕЛ I,**
**у якім змяшчаецца плач, або нараканне святой Усходняй Царквы да сваіх адступных сыноў.**

Гора мне беднай, гора няшчаснай, з усіх бакоў у маіх уладаннях абрабаванай! Гора мне на свецкае асмянне аголенай, з якой сцягнутыя шаты! Гора мне, нязносным цяжарам апанаванай! Рукі ў аковах, ярмо на шыі, путы на нагах, ланцуг на бёдрах, меч над галавою абасечны, вада пад нагамі глыбокая, агонь на баках незгасальны — адусюль крыкі, адусюль страх, адусюль перaслед! Бяда ў гарадах і вёсках, бяда ў палях і дубровах, бяда ў горах і зямных бяздоннях! Няма ніводнага месца спакойнага ці надзейнага прытулку! Дзень у пакутах і ранах, ноч у стогнах і ўздыханнях! Спякотнае лета пазбаўляе мяне прытомнасці, лютая зіма даводзіць да смерці, бо бездапаможна цярплю галізну і да смерці бываю пераследаванай. Раней чароўная і багатая, цяпер знявечаная і ўбогая! Некалі каралева, якую любіў увесь свет, цяпер жа ўсімі адрынутая і засмучаная! Падыдзіце да мяне ўсе, хто жывы, усе народы, падыдзіце, усе грамадзяне зямлі, паслухайце майго голасу і спазнайце, чым я была раней, і падзівіцеся! Цяпер я — пасмешышча ўсяго свету, а перад тым была — здзіўленне людзям і анёлам! Упрыгожаная была лепш за ўсіх, грацыёзная і мілая, чароўная, як ранішняя зорка на ўзыходзе, прыгожая, як Месяц, святлейшая ад усіх, як Сонца, адзіная дачка ў сваёй маці, абраная той, што нарадзіла мяне, адзінай галубкай, нявінная, без адзінай плямінкі ці заганы, ці яшчэ чаго-небудзь падобнага. Міро — імя маё, крыніца вод жывых — так клічуць мяне. Калі ўбачылі мяне дочкі Сіёну, то прадраклі мне быць самаю багаславёнаю каралеваю. А карацей кажучы, тым я была паміж дочкамі

## *Павел і Савел*

**14 жніўня 1628 года, калі Мялецію Сматрыцкаму споўніўся 51 год, ён, змучаны хваробамі, пісаў да праваслаўнага мітрапаліта Іова Барэцкага: «З літасці Бога майго ўпэўнены, што Усходняя святая царква, якая спарадзіла мяне з Вады і Духа, атуліць і векам трунным». Словы гэтыя перапісваліся, перадаваліся з вуснаў у вусны, передрукоўваліся ў розных выданнях. За імі стаяла вялікая таямніца, вялікая трагедыя, вялікія планы. Так пісаў чалавек, які амаль год быў «патаемным» уніятам і на саборах выступаў як праваслаўны архіепіскап полацкі, епіскап віцебскі і Мсціслаўскі. Сёння мы па-рознаму ацэньваем яго адступленне ад праваслаўя: то асуджаем, то ставімся спагадліва, але самае складанае — зразумець, растлумачыць, што адбылося з праваслаўным аракулам, якія сілы прымусілі яго зрабіць такі крок. Крок ад усеагульнай павагі — да нянавісці, ад жорсткага ганіцеля вуніі — да яе стаўпа і абаронцы, ад Паўла да Саўла...**

**Ужо пры жыцці Мялецця распачаліся пошукі тлумачэнняў такога феномену. Адныя прычыну бачылі ў яго выхаванні, другія — у адукацыі, трэція — у асаблівасцях характару.**

**У лісце да канстанцінопальскага патрыярха Кірыла Лукарыса, свайго былога настаўніка ў Астрожскай школе, 21 жніўня 1627 г. Мялецій адкрыта заяўляў: «Не памылюся, калі дабаўлю, што на мяне звернуты пагляды амаль усёй Русі нашай. Гавару гэта не з гардыні, не з самахвальства (даруй мне, Божа), але таму, што, як гаворыцца, і аднавокі ў сляпых — цар».**

**Сматрыцкі прыгнечаным вярнуўся ў Дзерманскі манастыр. Разбіты духоўна і фізічна, пісьменнік пасля гэтага канчаткова адыходзіць ад царкоўна-грамадскай дзейнасці. Праявы дэпрэсіі былі відавочныя. Запаўняла душу згрызота ідэалагічнай і палітычнай ізаляцыі. Праваслаўныя суайчыннікі ненавідзелі і праклінaлі за рэнегацтва, а славаслоўі і пахвалы з боку уніяцкіх ідэолагаў не заспакойвалі душу, бо справа, якой аддадзена столькі сілы, энергіі, засталася нязддзейсненаю. Украінскі народ працягвалі раз'ядаць рэлігійныя сутычкі праваслаўных з уніятамі, прыносячы звесткі пра новыя крывавыя ахвяры. Царкву ліхаманіла, занепадалі школы. Не цешыў пісьменніка і пачэсны сан архіепіскапа ерапалітанскага, якім яго ўганараваў папа рымскі Урбан VIII. Да ўсіх непамыслотаў дадалося і тое, што настаяцель віленскага Святадухаўскага манастыра Бобрыкавіч унёс у гарадскія кнігі Луцка скаргу на Сматрыцкага за прысваенне ім манастырскіх кніг і каштоўнасцяў на 10 тыс. злотых.**

**Якуб Суша, біёграф пісьменніка, расказвае пра яго суровае, падвіжніцкае жыццё ў астатнія гады жыцця. Сматрыцкі жыў толькі кнігамі ды яшчэ гаспадарчымі клопатамі Дзерманскага манастыра. Здавалася, ён свядома аддаваўся маральнаму апрошчванню, аскетызму і самабічаванню. Апранаўся вельмі проста, як просты**

**Так, ён быў «царом», але не панаваў, ён клікаў да «жалеза», але сам баяўся «агню», шчодра раздаваў парады, але сам жа не прымаў іх. Вось чаму жыццё і творчасць, грамадская і рэлігійнаая дзейнасць Мялеція сталі адлюстраваннем той складанай, вірлівай эпохі, у якой ён жыў, якую сам і тварыў.**

**Сын выдатнага пісьменніка-палеміста, вучонага, перакладчыка, першага рэктара Астрожскай школы Герасіма Данілавіча Сматрыцкага, Мялецій з ранняга дзяцінства апынуўся ў асяроддзі высокаадукаваных людзей таго часу. У Астрожскай школе вучыліся брат Севярына Налівайкі — Даміян, легендарны гетман Сагайдачны, бліскучы красамоўца, перакладчык, педагог Лявонцій Карповіч... Аднак інтэлект пісьменніка складаўся не толькі са здабыткаў грэка-славянскай вучонасці. Пасля смерці бацькі малодшы з братоў Сматрыцкіх — Мялецій з пратэкцыі князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага накіроўваецца ў адну з найбуйнейшых навучальных установ Усходняй Еўропы — Віленскую езуіцкую акадэмію, дзе вучыцца на філасофскім факультэце. Пазней, стаўшы настаўнікам беларускага магната Багдана Багданавіча Саламярэцкага, Мялецій едзе ў Заходнюю Еўропу. Там ён слухае лекцыі ў славутых пратэстанцкіх вышэйшых школах Лейпцыга, Вітэнберга, Нюранберга. Навучанне пры «грабніцы Лютара» дапамагло яму зразумець сутнасць вучэнняў Лютара, Кальвіна і Цвінглі, авалодаць пратэстанцкімі метадамі і прыёмамі антыкаталіцкай літаратурнай палемікі.**

**Маючы траякую прыроду свайго пісьменніцкага таленту — глыбокі кансерватызм праваслаўя, інтэлектуалізм і рацыяналістычнасць рэфарматараў, вытанчанасць каталіцка-лацінскай пісьмовай культуры, а да таго ж прыроджаны дар адчування чалавека і чалавецтва, ён стаў увасабленнем інтэлектуальнай эліты праваслаўных беларусаў і украінцаў.**

**На пачатку XVII ст. амаль на дваццаць гадоў жыццё Мялеція звязваецца з Віленскім праваслаўным брацтвам. Тут ім былі напісаны «Анціграфі» і «Трэнас»*, «Граматыка» і «Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча», «Апраўданне невінаватасці», «Абарона невінаватасці», «Юстыфікацыя», «Суплікацыя»... Ужо першыя друкаваныя творы «Анціграфі» і «Трэнас» прадэманстравалі, што ў беларусаў і ўкраінцаў з‘явіўся таленавіты абаронца, слова якога заклікала да барацьбы, змагання за родную зямлю, яе традыцыі і звычаі.**

**Сімвалічны вобраз праваслаўнай маці-царквы, ад імя якой Мялецій Сматрыцкі звяртаўся ў «Трэнасе» да народа, і да яго неаднаразова выкарыстоўваўся ў палемічнай літаратуры Беларусі і Украіны ў творах Герасіма Сматрыцкага, Клірыка Астрожскага і іншых. Аднак толькі ў «Трэнасе» гэты вобраз-алегорыя стаў свайго роду вечавым званом, загучаў заклікам да яднання ўсіх сіл у барацьбе з наступам каталіцызму. Адступніцтва ад праваслаўнай веры трактавалася Мялеціем як здрада Радзіме. У гэтым палеміст бачыў вытокі дэнацыяналізацыі, акаталічвання беларусаў і ўкраінцаў.**

**Значнае месца ў творы Сматрыцкага адводзіцца крытыцы папы і яго двара. У «Трэнасе» паказваецца, што папства — гэта тая крыніца, якая не толькі вядзе да згубы душы людзей, але з‘яўляецца сілаю, што штурхае ў рабства цэлыя народы. «Ніколі,— пісаў першы біёграф Сматрыцкага, доктар тэалогіі, ураджэнец Менска Якуб Суша,— ніхто з ерэтыкоў не рабіў на святы апостальскі сталец такіх злосных нападкаў... Тут, што ні слова — то язва, што ні думка — то атрута, пагібельная яшчэ больш ад таго, што аўтар раствoрыў яе вытанчанасцю слова як салодкаю прынадаю».**

**Мялецій Сматрыцкі адным з пер-**

Сіёну, чым быў Ерусалім сярод усіх гарадоў габрайскіх; і што лілея сярод церняў — такою і я была паміж нявінніц. За гэтае хараство пажадаў кароль прыгажосці маёй, самы чароўны з усіх сыноў чалавечых, і, пакахаўшы, вечным сямейным зарокам паяднаў з сабою. Дзяцей нарадзіла і выхавала, але яны адракліся ад мяне і сталі прычынаю майго пасмешышча і глумлення, бо знялі з мяне маё адзенне і голую мяне з дому майго выгналі, адабралі аздобы цела майго і пазбавілі галаву маю яе чароўнасці Чаго ж ужо больш?! Удзень і ўначы клапачуся пра маю бедную душу і заўсёды пра згубу маю думаю. О вы, што стаіце перада мною, вы, якія пазіраеце на мяне, паслухайце і разважце, дзе ёсць яшчэ большая скруха, чым мая, дзе ёсць яшчэ такое гора і смутак, як пакуты мае?! Дзяцей нарадзіла і выхавала, а яны выракліся мяне і сталі прычынаю майго заняпаду,— таму і сяджу цяпер як адна з ляментуючых удоваў, яшчэ нядаўна ўладарка ўсходу і заходу Сонца, паўднёвых і паўночных краёў Удзень і ўначы плачу, а слёзы па ланітах маіх як патокі рэк цякуць, і няма ніводнага, хто б суцешыў мяне,— усе адступіліся ад мяне, усе пагарджаюць мною. Родныя мае далёка ад мяне, сябры мае зрабіліся ворагамі, сыны мае, пазайздросціўшы племю яхідны, істоту маю заразлівымі джаламі працінаюць.

Слухайце жалобную аповесць маю, усе народы, прыслухайцеся ўсе, хто жыве на зямлі! Сыны і дочкі мае, якіх я нарадзіла і выхавала, пакінулі мяне і пайшлі за тою, якая імі не пакутавала, каб удосталь насыціцца яе тлустасцю! Святары мае асляплі, пастыры мае, не хочучы ведаць, што размова ідзе пра душу, знямелі, старцы мае падурэлі, юнакі мае здзічэлі, дочкі мае кінуліся ў распусту, і ўсе з адзіным намерам, выракшыся Бога і яго праўды, згаварыліся супраць маёй душы Разявілі свае пашчы і, свішчучы, скрыгочуць на мяне сваімі зубамі, гавораць: «Вось ужо і прыйшоў той дзень, якога мы чакалі, пойдзем і знішчым яе, і выкаранім з зямлі памяць аб ёй!» Замест любасці ганьбяць мяне, за дабрыню маю злосцю мне плацяць і нянавісцю ўзнагароджваюць любасць маю. Замест каштоўных шатаў маіх усклалі на мяне спарахнелыя лахманы, і я ператварылася ў пасмешышча. О, пакута душы маёй, гора мне абшарпанай, гора мне адрынутай, ад няспынных слёз прытупілася вастрыня зроку майго, развярэдзілася нутро маё, спыняецца ў пакутах жыццё мае, і годы мае мінаюць ва ўздыханнях, праходзяць як дым дні мае, а косці мае як ссохлыя скваркі, як пасечанае сена, і звяла сэрца маё, ад голаснага плачу майго прысохлі косці мае да майго цела. Ашчэрылі на мяне свае пашчы, якія напоўненыя здрадлівымі і вераломнымі словамі, узялі сякеры ў рукі свае і шукаюць мае душы, каб яе згубіць. Адусюль сеці, усюды ямы, адусюль атрутныя джалы. Там — драпежныя ваўкі, а там — рыкаючыя львы, з гэтага боку — ядавітыя цмокі, а з таго — васіліскі раз‘юшаныя Не знаходжу, да каго можна звярнуцца, не ведаю, куды магу пайсці, да каго прыхіліць сваю галаву, да каго падацца пад абарону Ці не ёсць гэта, о неба і зямля, новая пакута і нечуваны смутак, што дзяцей нарадзіла і выхавала, а яны выракліся мяне. Аднаму мужу дзевіцаю пашлюбеная, за аднаго выдадзеная замуж, ад аднаго зачала, у адным чэраве насіла, адным малаком карміла, аднак розных звычаяў (о, гора) сыноў на сорам і пакуту маю бачу Няма нікога, хто быў бы паслядоўнікам бацькі, няма ніводнага, хто б ішоў за маці ...

У такой дабрачыннасці сыноў у доме сваім гадавала, у такой чалавекалюбнасці дзетак маіх у чэраве песціла, якія цяпер нутро маё разгрызаюць і імкнуцца давесці мяне да смерці Яны, што ніколі не былі вінаватыя і пад апекаю, загады не выконвалі. І не дзіўна, што ў іх сэрца было такое жорсткае, што, пазіраючы, не бачылі і, слухаючы, не чулі Цяпер стаіць ён сам, даўца апекі, старанна выконвае, заклікае і падае руку дапамогі, слых да слухання адкрывае і зрэнкі да святла, відушчым робячы Не толькі яму, аднак, непаслухмяныя і непакорлівыя, але і добраахвотна адвёўшы вочы свае, хаваюцца ад дабрыні Пана свайго і ў недасягальныя бездані сягаюць. Ах, цяжка мне, сапраўды, з гэтымі непакорлівымі нашчадкамі, як цяжка з гэтым ядавітым племем гідры! Хто ж майго пароўну не падзеліць гора?! Хто ж мне плакаць не дапаможа?! Сыноў нарадзіла і выхавала, а яны мяне выракліся і атрутныя джалы языкоў сваіх на мяне высунулі .

Такіх цяпер патрабую я сыноў, якія б, не зважаючы на асобы, бязбожных блюзнераў настаўлялі, а дамы тых, хто б на родных сваіх братоў скоса глядзеў, смела каралі «Не да сану вам, як гаворыцца о, разумнага статку Хрыстовага пастыры і настаўнікі, калі вашай чуласці і вернасці Сына божага абранніца даручана, па найменні быць пастырамі, а па сутнасці — драпежнікамі, самі ў зле сваё жыццё праводзіце і даручаным вам распусна жыць дазваляеце!» Айчынаю укрыжаванага растлусцеўшы і закаснеўшы, не шкадуеце няшчаснага па ўсіх сектах распылення сыноў Божых,—вось чаму вы ваўкі, а не пастыры, Хрыстом тытулуецеся, а ў сапраўднасці волю антыхрыста на зямлі выконваеце. Дай то

* Плач, лямант (*грэцк*).

**чарнец. На целе насіў валасяніцу. Суровы пост і пастаянныя малітвы сталі паўсядзённай нормай яго побыту. Праз гэта стан здароўя пісьменніка рэзка пагоршыўся. Нагадвала пра сябе хвароба, на якую ён скардзіўся яшчэ перад паездкай на Усход. Магчыма, гэта была хранічная хвароба парушэння абмену рэчываў. У 1633 годзе непакоіў боль у селязёнцы. Ездзіў на два тыдні ў Астрог да лекара. Мясцовыя знахары раілі змяніць суровае манастырскае жыццё — зняць з цела валасяніцу і надзець ільняную бялізну, есці мяса. Ён-такі зняў валасяніцу, а есці мяса адмовіўся катэгарычна.**

**Адчуваючы, што барацьба за жыццё марная, пачаў рабіць астатнія распараджэнні і прыгатаванні. Прасіў не рабіць пышнага пахавання. Потым усіх блаславіў і на самоце ў келлі мірна скончыў сваё жыццё. Гэта сталася 27 снежня 1633 года <...> на 58-м годзе жыцця.**

**Хаваў яго уніяцкі мітрапаліт Руцкі, які паспешліва прыбыў з Вільні. Рэктар Астрожскага езуіцкага калегіума Карцісцый прамовіў пахавальнае казанне, у якім у панегірычным стылі шчодра ўславіў дабрачыннасці і заслугі Сматрыцкага ў змаганні за царкоўнае адзінства. Пахаваны пісьменнік у Дзерманскім манастыры.**

**Парфірый ЯРЭМЕНКА.**
*Мелетій Смотрицький: Життя і творчість. Київ, 1986.*

*Пераклаў з украінскай Уладзімір КАРОТКІ.*

*Добраахвотнае адрачэнне Мялеція Сматрыцкага, публічна ўчыненае на саборы ў дзень Успення Багародзіцы ў царкве той жа Панне прысвечанай у Пячорскім манастыры кіеўскім пад час святой літургіі пасля прачытання Святога Евангелля менавіта такімі словамі·*

**Я, Мялецій Сматрыцкі, з літасці Божай архіепіскап Полацкі, будучы ўзяты ад усёй царквы нашай Рускай пад падазрэнне ў адступніцтве ад веры праваслаўнай грэцкай усяленскай выданнем з друку пад маім імем кніжкі, названай «Апалогія», яшчэ ў большае падазрэнне ў адступніцтве падлеглай, праз тое маё агалошанне ўсёй царкве маёй Рускай праз літасці Вашыя прысутныя на гэты час у манастыры Пячорскім у царкве гэтай святой Успення Прачыстай Панны Багародзіцы прысвечанай даношу да вядомасці, што часткова пад такое ад праваслаўных догматаў адступленне сам падпаў, аднак, пераважна адступленне гэтае, прызнаю, сталася праз свавольныя здагадкі той асобы, якой выданне той «Апалогіі» з друку было мною даверанае,— менавіта праз злыя задумы Касьяна Саковіча, старэйшага ў манастыры дубенскім Узнясення Гаспод-**

шых пераклаў на старапольскую мову творы такіх выдатных мастакоў слова як Гей, Пятрарка, Эразм Ратэрдамскі. З дапамогаю цытат з антыватыканскай літаратуры Захада Сматрыцкі паказваў рымскіх папаў як увасабленне ўсяго самага нікчэмнага і пыхлівага і даводзіў, што ўся іх дзейнасць накіравана на распальванне войнаў паміж народамі, а самі яны — лютыя драпежнікі. Скарыстаўшы ўжо вядомы ў езуіцкім тэатры і сатырычнах «пасквілях» метад парадзіравання, Сматрыцкі ўкладвае ў вусны рымскаму папу рэфрэн «Я ёсць слуга слуг Божых» і прыпадабняе яго прамову да малітвы: «Я ёсць слуга слуг Божых, аднак уладар усяго свету... Я ёсць слуга слуг Божых, аднак усім гэтым слугам Божым загадваю цалаваць мае ногі... Я ёсць слуга слуг Божых, аднак неабмежаванаю маёю ўладаю ўсіх гэтых слуг Божых традыцыі і ўставы знішчаю і па сваёй волі адныя адкідваю, другія адмяняю... Напраўду, незвычайны гэты слуга з нечуванай дыялектыкі няўдалую гэтую сувязь пачэрпнуў».

Пісьменнік-палеміст не абмяжоўваўся крытыкаю зла і заганаў толькі рымскіх папаў і іх двара. Не меншым злом у сферах рэлігіі, палітыкі і маралі Сматрыцкі лічыў езуітаў. Менавіта езуіты, пісаў Мялецій, садзейнічалі выгнанню з гарадоў і мястэчак ні ў чым не вінаватых людзей, іх вучні грамілі і знішчалі святыні народа, здзекваліся са звычаяў і традыцый усходніх славянаў. «Усюды поўна на іх слёзных скаргаў, поўныя земствы, поўныя гарады, поўныя, нарэшце, і надворныя суды, і соймавыя наказы, не гаворачы пра трыбунал,— пісаў Мялецій Сматрыцкі.— Сведчаць выгнаныя з дамоў шляхціцы, сведчаць пазбаўленыя маёнткаў удовы, сведчаць падманутыя ў сваёй спадчыне сіроты. Гэта — на касцёл, а вы, сынок і дачка, бярыце кайстру; гэта — на калегію, а вы, бацька і маці, самі паклапаціцеся пра сябе; гэта — на вызувіты (езуіты), а вы, браты, сёстры і сваякі, у чужынцаў хлеб выпрошвайце; гэта — на святых айцоў, а ты сам з жонкаю і дзецьмі, пазбавіўшыся ўласнага хлеба, дражні чужых сабакаў».

Кароль Жыгімонт III, кіруючыя колы Рэчы Паспалітай жорстка расправіліся з выдаўцамі «Трэнаса». Паколькі Мялецій Сматрыцкі не падпісаў свайго імя і кніга выйшла пад псеўданімам Тэафіла Арталога, яму ўдалося пазбегнуць кары. Аднак Лявонцій Карповіч, карэктар і рэдактар гэтага выдання, два гады знаходзіўся ў вязніцы. Паводле загаду караля, кожнаму, хто купляў ці прадаваў «Трэнас», пагражала пакаранне штрафам у пяць тысяч чырвоных залатых. Была зачынена брацкая друкарня пры Святадухаўскім манастыры, адабраны шрыфты. На дзесяць гадоў змоўкла вострае палемічнае слова Мялеція. Але ў гэты час ён рабіў не менш важную справу. Перад беларускай і украінскай інтэлігенцыяй паўстала неабходнасць абароны роднай мовы. «Свяшчэннымі» мовамі, паводле біблейскага падання, лічыліся тры — грэцкая, лацінская і габрайская. Беларусам і ўкраінцам трэба было даказаць, што і славянская мова — роўная сярод роўных.

У 1618—1619 гг. Мялецій стварае сваю бессмяротную «Граматыку», якую рускі вучоны, паэт і мысляр М.Ламаносаў разам з «Арыфметыкай» Магніцкага назваў «вратамі» сваёй вучонасці. Гэтая мовазнаўчая праца Сматрыцкага стала ўзорам для напісання рускай, балгарскай, сербскай, румынскай і іншых граматык.

Узнаўленне ў 1620 г. вышэйшай праваслаўнай ерархіі ерусалімскім патрыярхам Тэафанам узняло новую хвалю барацьбы беларусаў і ўкраінцаў. Мялецій Сматрыцкі быў пасвячоны на архіепіскапію полацкую, епіскапію віцебскую і мсціслаўскую. Вышэйшыя колы Рэчы Паспалітай называлі Тэафана турэцкім шпіёнам, а новапасвечаных уладыкаў абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе. Адстойваючы правы і прывілеі праваслаўнай царквы, Мялецій за два га-

Божа, каб на малацэ спыніліся, але ж прагнеце крыві.

Такіх, кажу, патрабую я цяпер сыноў, на такі майго разарвання час, такіх дзетак здабываю, якія б не толькі блюзнерцам распусныя вусны замкнулі, але таксама і сваіх ад самага вышэйшага да самага ніжэйшага, ад архіерэяў да ўсіх, што пад іх уладаю знаходзяцца ерэяў, разам і з даверанымі іх уладзе людзьмі справядліва і па меры заслуг іх ушчувалі, каралі і настаўлялі Але дзе ж такіх знайду? Хіба што з неба пераможцаў паклічу?! Але гэта немагчыма. Можа, у айчынных краінах пашукаю? Няма ніводнага. Усе супраць мяне, нібыта супраць той, якая імі ніколі не пакутавала, паўсталі. Усе ўзброеныя,— як на галоўнага ворага ўзбунтаваліся, і шукаюць душы маёй на пагібель. Няшчасная я маці, што ж я зрабіла такога, што невыносны пераслед ад уласных сыноў цярплю? Што ж я зрабіла вартага смерці, што жыццё маё ў небяспецы? Адныя дасаджаюць мне праз сваё нядбальства, другія — невыносным сваім глумленнем. Гэтыя нязносныя сваім праследам, а гэтыя выракаюцца праз непрыязнасць — якія, прыйшоўшы ў багну злосці (такая ёсць яе прырода), занядбалі Але паколькі пачаткам усякай справы ёсць слова, і ўсякаму пачатку папярэднічае гаворка, прыслухайцеся да мяне ўважліва, каб збаўлёная ў жалобе, у якой пачала, працягвала. <...>

Гора вам, пастыры, што распалохалі і разагналі статак авечак маіх і хваробаю нядбальства іх заразілі, за што будзе над вамі самы суровы суд і двайное пакаранне. Калі зветрае соль, чым жа будуць саліць, яна ўжо ні навошта не патрэбная, хіба толькі яе выкінуць прэч на патаптанне людзям. Зветраная соль, прыцьмелыя светачы, згаслыя лямпы, раз'юшаныя начальнікі, аслеплыя павадыры,— вы ў бездань нядбальства ўпалі, куды і давераных вам авечак цягнеце. Што ж скажаце ў той час, калі прыйдзе Айцец ваш і Пан па адказ ваш, сыноў і слуг сваіх, калі спытае пра давераныя вам таланты? О, цяжка мне, матцы, будзе ў той дзень, калі буду глядзець на пагібель сыноў маіх Гора мне будзе ў тую гадзіну, калі сыны мае і сыны Божыя, якія Евангельскай светласці ясноту добраахвотна згасілі, будуць укінутыя ў пякельны агонь. Хто мяне пацешыць у тую гадзіну? Хто стрымае патокі слёз маіх? Гора мне няшчаснай, што нарадзіла сыноў на пакуту сабе і дачок на раны мае! Лепей мне сапраўды было заставацца бясплоднаю, чым глядзець на такія шчыльныя раці бязбожных сыноў Лепей і ім было не прыходзіць на свет, чым, нарадзіўшыся, спадкаваць вечную згубу, у якой лепш будзе Садоме і Гаморы, чым гэтым. Бо слуга, які ведае волю Пана свайго, а не робіць паводле яе, будзе моцна пакараны

О, архісвятары і святары, настаўнікі і пастыры авечак Айца вашага, дакуль хочаце быць нямымі, дакуль бязлітасна авечак палыкаць будзеце? Не супакойваецеся на малацэ і воўне, якія лупіце, кроў п'яце, а мяса на паедак груганам і ваўкам выкідваеце. Самі знямелі і іншым гаварыць забараняеце. Хіба ж такі статак авечак у царкоўнай аўчарні быў у не такія далёкія часы? Ці столькі роду Божага ва ўладу і кіраванне вам было дадзена? Спіце, пастыры, а вораг чуе. Храпіце, вартаўнікі а Сатана, як леў, авечак хапае і адных вядзе да вечнае згубы, другіх — на сараматныя мукі, а Божых і вашых ворагаў павялічваецца. Затыкаеце вушы, бо не хочаце слухаць Айца, які гаворыць: «Сыне чалавечы, я паставіў цябе вартаўнікам дому Ізраілевага, і ты будзеш чуць з вуснаў маіх слова і прапаведаваць яго ад мяне. Калі я скажу беззаконніку: «Беззаконнік, ты смерцю памрэш», а ты не будзеш нічога гаварыць, каб перасцерагчы беззаконніка ад шляху яго, то беззаконнік памрэ ў граху сваім, але кроў яго спытаю ад рукі тваёй». Сапраўды, суровае слова і страшны прысуд. Хіба не баіцеся ці не палохаецеся страшнага гэтага дня, у які за давераны вам статак павінны даць адказ.< ...>

Дзе цяпер светачы без заганы, якія б не сабе дагаджалі, але даверанаму ім статку так, як ад іх найвышэйшы архісвятар патрабуе і, як вышэй у навуцы да іх я ўспамінала, клопат і старанне мелі? Цяпер такія настаўнікі, якіх прыстасавалі да сябе сыны мае паводле свайго жадання, лашчаныя па слыху, якія ад праўды слых адвярнулі, а павярнуліся да казак. Саміх сябе, свет, славу, багацце і раскошу больш, чым Бога і збавенне людское мілуюць; некалі мелі прыклад пабожнасці, аднак ад яе сілы і супрацівіліся праўдзе — людзі скажонага розуму і падазронай веры. Але больш не калачуся, бо шаленства іх будзе ўсім навідавоку, паколькі не нябеснымі, але зямнымі думкамі напоўніліся Праз іх прыйшоў да мяне не голад на хлеб, але голад на слова Божае, не прага вады, але смага Евангельскай пропаведзі. Адабраныя ад мяне прарок і настаўнік, пазбавілася я павадыра і пастыра: багата цяпер пастыраў іменем, але мала — справаю. Бо некаторыя з цяперашніх пастыраў разумнага статку Хрыстовага хіба што над неразумным статкам аслоў могуць быць годнымі пастырамі. Што ж яшчэ? Гэта не пастыры, а драпежныя ваўкі, не павадыры, а галодныя львы, якія адных авечак самі

**няга, і да гэтае неасцярожнае аблуды (што датычыць самога майго граху і шкоднага разумення насуперак праваслаўным догматам Усходняй царквы) і да граху майго, прашу, каб літасцівы быў Пан Бог, а ўсёй царкве маёй Рускай таго ж дабратлівага Бога майго добраахвотна абяцаю, што ўжо напотым усёй душою маёй хачу асцерагацца ад гэтага. Даючы ў гэтай святой царкве вядомасць гэтай маёй скрухі праз гэты знак, перад вачыма ўсіх Вашых літасцяў гэты мой скрыпт, названы «Апалогія», зневажаю, ірву і пад ногі свае кідаю пад клятваю, якую ўчыніў Пану Богу ў той час, калі быў пры Павялебным Пану маім і іншых нашай царквы Рускай архіерэях на архіепіскапства ад найсвяцейшага патрыярха Ерусалімскага Пана і айца Тэафана пад паслушэнства патрыярха Канстанцінопальскага пасвячоны і рукапаложаны.**

Року 1628, жнівень, 14 дня.

*Пры тым адрачэнні прыціснутая адна пячатка архіепіскапская, а таксама ўласнаручны подпіс:*

**Мялецій Сматрыцкі архіепіскап Полацкі, епіскап Віцебскі і Мсціслаўскі, архімандрыт Віленскі і Дзерманскі рукою ўласнай.**

**Андрэй МУЖЫЛОЎСКІ.**
Антыдотум. 1629.

*Пераклаў са старапольскай*
*Уладзімір КАРОТКІ*

# ТРЭНАС,

## альбо

# ПЛАЧ СВЯТОЙ УСХОДНЯЙ ЦАРКВЫ

Гора мне, беднай,
бяда — гаротнай!
З усіх бакоў я абрабавана,
з усіх уладанняў сваіх
абабрана,
з усіх убранняў сваіх
абадрана
на ганьбаванне свету!

Апанавала мяне навала
злыбедаў невымоўных!
Рукі мае ў вярыгах,
ярмо на шыі,
у путах ногі,
ланцуг на чарэслах,
меч паваротнавостры
над галавою,
вада глыбокая

ды піша «Апраўданне невінаватасці», «Абарону невінаватасці», «Эленхус»... З ім уступае ў палеміку вядомы пісьменнік, уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі, які адказвае Мялецію «Двайною вінoю», «Экзаменам абароны» і іншымі творамі. «Ніхто не хоча таго ведаць,— пісаў Мялецій,— што адступнікі нашы настойваюць на тым, каб Русі не было на Русі... Не было ў рускай царкве такой святой веры, якую нельга знішчыць раней, чым будзе знішчаны народ рускі, таму дабівацца змянення веры рускаму народу — значыць імкнуцца знішчыць рускі народ».

Галоўнаю, стрыжнявою ідэяй твораў Мялеція гэтага перыяду была ідэя роўнасці ўсіх народаў, якія ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што «рускі» народ быў далучаны да Польскай Кароны як роўны да роўнага, як вольны да вольнага. У сапраўднасці ж, апавядае палеміст, праваслаўныя цэрквы зачынены, дзеці без хросту, а дарослыя паміраюць без таінстваў. Дзякуючы «уніяцкім ерархам Пакастам, Шышкам, Сцецкам, Душафатам, Палісветам, Пачапоўскім, Руцкім» гарадскія суды, ратушы, сеймы перапоўнены скаргамі праваслаўных. Страшныя ганенні, пісаў Мялецій да караля Жыгімонта III, церпіць насельніцтва дзесяткаў гарадоў, у тым ліку і беларускіх — Наваградка, Гародні, Менска, Слоніма, Берасця, Пінска, Мазыра, Віцебска, Оршы, Магілёва і інш.

1623 год стаў рубяжом у жыцці Мялеція і прадвызначыў яго далейшы лёс. У той час як праваслаўныя ерархі «пакорне і слёзно» прасілі ў караля спачування, даведзены да адчаю народ адказаў гвалтам на гвалт. 12 лістапада жыхары Віцебска расправіліся з уніяцкім архіепіскапам полацкім Іясафатам Кунцэвічам, які напярэдадні зачыніў там усе праваслаўныя цэрквы і пачаў выганяць непакорлівых месцічаў з горада.

З нябачнай дагэтуль жорсткасцю вярхі Рэчы Паспалітай расправіліся з

без шкадавання пажыраюць, а другімі цмокавы пашчы без літасці затыкаюць. О, няшчасны статак, хіба настаўнікам і пастырам можа быць той, хто сам ніколі не вучыўся? Той, хто не ведае, што Богу вінен, што блізкаму свайму, а што ўжо даверанным яму авечкам? Хто з дзіцячых гадоў сваіх не ў навуцы Святога пісання, але ў іншай нейкай духоўнаму стану непатрэбнай забаве або ў нікчэмнасці малады век страціў  А калі надакучыў яму недахоп у ежы і адзенні, і нястача пачала шыю круціць, узяўся прапаведаваць, не ведаючы, што такое пропаведзь, і не разумеючы, як яе трэба чытаць  Але адныя з корчмаў, другія з двара, гэтыя з войска, а некаторыя з пабораў без усякага выбару і без усякага добрага сведчання з дапамогаю золата і срэбра ў дом Божы ўверглiся <...>

Гора мне, даверанай нядбайным работнікам! Гора мне, ненажэрным ласунам аддадзенай у апеку! Бяда вам, што прадаеце, і вам, што купляеце дар Духа святога, — срэбра вашае будзе вам на згубу  Не хочаце ведаць праўды — не хочаце бачыць і няпраўды  Не хочаце разумець, адкуль тыя, што вам даюць, набываюць, з якога промыслу багацеюць. Малако дояць з авечак, воўну стрыгуць, скуру лупяць і прадаюць, самі іх мясам кормяцца, кроўю ўпіваюцца, а вам з шчодрасці таго мяса і звыш меры нявіннае крыві выдзяляюць. О, брыдкастаўнікі, а не настаўнікі, гасільнікі, а не свяцільнікі, імпастыры (ілгуны — *У.К.*), а не пастыры епіскаты, а не епіскапы, адступіліся ад закону волі Божай  абдурманілі душы свае праклятаю мамонаю гэтага свету <  >

Дзе цяпер той каштоўны каменьчык — як свяцільня зіхоткі карбункул, які я паміж іншымі перламі, як сонца паміж зорамі, у кароне галавы маёй насіла, — дом князёў Астрожскіх, які бляскам светласці старажытнай веры сваёй над усімі іншымі свяціў? Дзе іншыя дарагія і каштоўныя той жа кароны камяні, дабрародныя рускіх князёў дамы  неацэнныя сапфіры, бясцэнныя дыяменты, княжаты Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ружанскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя без ліку, якіх называць паасобку было б доўгаю справаю? Дзе іншыя неацэнныя мае скарбы, радавітыя кажу, слаўныя, вялікадумныя, моцныя і старадаўнія, ва ўсім свеце ў добрай пашане, праслаўленыя адвагаю і мужнасцю народу рускага дамы — Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храбтовічы, Трызны, Гарнастайскія,

пад нагамі,
няўгасны агонь
абапал,
крыкі і скаргі
навокал,
страх і спалох
наўкруга,
і перасьледы — усюды.
Бяда ў гарадах,
гора ў вёсках,
гора ў дубровах,
бяда ў палях,
гора ў гарах
і ў зямных атворах,
бяда на сцежках
і на шляхах!..

Ці знойдзецца месца,
дзе б панавала бяспека,
ці вышукаецца прытулак,
дзе б гаспадарыў спакой?!
У ранах і ў верадзе
дзень брыдзе,
цягнецца ноч
ва ўздыханнях і стогнах.
Скварнае лета морыць
мяне да млосці,
даймае мяне да смерці
марозлівая зіма.
Была я прыгожай,
а стала ўбогай,
была каралевай,
якую кахаў увесь свет,
а цяпер

мяне адно толькі
пагарда кахае,
мяне адно толькі
смутак цалуе.

Усе, хто жывы,—
жыхары зямлі,
народы і людзі,
наблізьцеся да мяне,
паслухайце, што я кажу,
спазнайце,
якою была раней,
і пабачце,
якой цяпер стала!
Цяпер я пасмешышча свету,
а перад гэтым
была ў здзіваванне





Бокіі, Мышкі, Госкія, Сямашкі, Гулевічы, Ярмалінскія, Чалганскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Багавіціны, Паўлоўскія, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі і іншыя? Не ўспамінаю тут шырокай у межах Рускай зямлі княстваў і паветаў шаты маёй, аздобленай незлічонымі перламі, і рознага колеру каменьчыкі, якімі я заўсёды сябе ўпрыгожвала. Аднак жа вы мяне, злачынцы, з такой пышнай шаты маёй абдзёрлі і над бедным целам маім, з якога вы ўсе выйшлі, здзекуецеся смехам і кпінамі  Але пракляты кожны, хто адкрывае на знявагу голае цела сваёй маці, пракляты і вы, што з аголенасці маёй насміхаецеся і пацяшаецеся  Прыйдзе той час, калі вы ўсяго гэтага саромецца будзеце. Лепей бы вам і сапраўды было не пазнаваць святла праўды, чым, пазнаўшы яе, адкінуць, згасіць і заглушыць.<.. >

Каму ж ад гэтага бяда? Мне  Каму гора? Мне. Каму цяжка? Мне. Каму пакуты? Мне  Я — пагарджаная, я — зняважаная, я — выгнаная, я — абылганая. Бяда і вам, што пагардзілі мною, гора і вам, што зняважылі мяне, цяжка і вам, што мяне выгналі, пакута і вам, што мяне абылгалі. Бо сыноўняя бязбожнасць — непачцівасць да бацькоў  А матчына пракляцце — пагібель сынам. <  >

О, цяпер ужо іду і прашу тваёй невыпаведнай дабрыні, Божа, пашлі ім дар Літасці і Міласэрнасці свае, а сэрца іх сапраўдным розумам напоўні  Распалі ў іх агонь літасці тваёй, каб, слухаючы,— разумелі, зразумеўшы — прынялі, прыняўшы — пакутавалі  а праз пакуту каб нябесным тваім жыхарам весялосць учынілі  І паколькі ісці да іх задумала, трэба паразважаць, да каго найперш пайду, каб не распачынаць дарэмнае працы

Калі ж да простага люду пайду, баюся, каб, убачыўшы мяне, дзеля прастаты і слабага свайго розуму не накінуліся на мяне і рук сваіх у мацярынскай крыві не абмачылі, бо сэрца ў слугі — цвёрдае і словамі не можа быць навучанае, бо хаця што і зразумее, аднак ніколі не прыме. Ці пайду таксама да княжатаў, абраных і паноў; ад тых, калі б і хацелі мяне выслухаць і пры мне застацца, не да канца залежыць, бо падданыя іх не ў справах духоўных павінны ім быць паслухмяныя, але толькі ў свецкіх. Да тых, як бачу, ісці мне трэба, што кіруюць душою.<...>

**МЯЛЕЦІЙ СМАТРЫЦКІ**

*Пераклаў са старапольскай*
*Уладзімір КАРОТКІ.*

віцяблянамі. На загад Льва Сапегі, які кіраваў расследаваннем, былі адсечаныя галовы двум вышэйшым гарадскім саноўнікам і васемнаццаці гараджанам, амаль сто жыхароў Віцебска і Полацка былі асуджаны завочна. Акрамя гэтага, горад быў пазбаўлены магдэбургскага права, скасаваны дадзеныя гораду папярэднімі вялікімі князямі і каралямі прывілеі, а таксама, як пісаў Іосіф Руцкі кардыналу Бандзіні, «разбурана ратуша перад вачамі ўсіх, якія больш аплаквалі гэтую страту, чым абезгалоўленне іх сугрaмадзян». Ускосна вінаватым у гэтых падзеях быў прызнаны Мялецій Сматрыцкі.

Трагедыя ў Віцебску сталася і асабістаю трагедыяй Мялеція. Напрыканцы 1623 г. ён назаўсёды пакідае Вільню, Святадухаўское брацтва і накіроўваецца на Блізкі Усход. Да 1625 г  Сматрыцкі падарожнічае па Святых мясцінах, працуе над «Катэхізісам», якому не было наканавана ўбачыць свет. Душэўны надлом, імкненне мірным шляхам усталяваць спакой у дзяржаве, збліжэнне з князем-католікам Аляксандрам Заслаўскім, недавер праваслаўных ерархаў сталі прычынамі карэннага перагляду перакананняў Сматрыцкага. У 1627 г. патаемна, а ў 1628 г. адкрыта ён парывае з праваслаўем, з усім тым, за што змагаўся дваццаць гадоў

Абурэннем сустрэлі праваслаўныя беларусы і ўкраінцы здраду свайго былога павадыра, яго уніяцкія творы «Апалогію», «Паранезіс», «Экзатэзіс», лісты і пасланні. Аднак сам Мялецій па-іншаму ацэньваў свой пераход ва уніяцтва. Ён пачынае шукаць шляхі аб'яднання праваслаўных і уніятаў з мэтай стварэння асобнага беларуска-ўкраінскага патрыярхату, аб чым адкрыта заявіў у «Паранезісе». Мялецій лічыў, што залежнасць ад канстанцінопальскага патрыярха не мае ніякай ні рэлігійнай, ні палітычнай перспектывы, тым больш перад вачыма быў факт абвяшчэння ў 1589 г. незалежнага маскоўскага пат-

людзям,
была ў захапленне
анёлам.

Была я аздоблена,
як ніхто,
была пагляднай і мілай,
была, як зорка на ўсходзе,
святлістай,
была, як месяц апоўначы,
зіхатлістай,
была, як сонца апоўдні,
дзівоснай.
Дачка адзіная ў маці —
была абранніцаю адзінай,
была галубкай нявіннай,
без плямінкі і заганы.

Бальзам цудадзейны —
маё імя,
крыніца жывое вады —
найменне!..

Калі мяне ўбачылі
дочкі Сіону,
то прадракалі,
што буду
самай шчасліваю каралевай.
Вось жа,
чым быў спаміж
усіх гарадоў габрайскіх
Ерусалім,
тым я
была спаміж гожых
сіонскіх дачок,

і якой
была сярод церняў лілея,
была я такой сярод
астатніх нявінніц.

За гэту
маю прыгажосць
кароль,
за ўсіх чалавечых сыноў
прыгажэйшы,
мяне пажадаў,
пакахаўшы мяне,
і вечным
сямейным шлюбам
з'яднаў з сабою.

Дзяцей

рыярхату. На думку Сматрыцкага, арыентацыя на Захад, на заходнюю культуру — адзіны шлях выратавання беларусаў і ўкраінцаў ад немінучай пагібелі. Вось чаму кансалідацыя на рэлігійнай аснове магла пазбавіць народ ад «унутранай вайны».

Гэта быў шлях кампрамісу, але ж вядома, што народ не прызнае ніякіх кампрамісаў, калі яны датычаць традыцый, веры, побыту. Мялецій быў палічаны адступнікам, ворагам, які пасягнуў на культуру і самабытнасць народа. На Кіеўскім саборы 1628 г. праваслаўныя ерархі прымусілі яго зачытаць акт адрачэння ад «Апалогіі», праклясці яе і выдаўца гэтай кнігі Касьяна Саковіча. Яму забаронена было пакідаць Кіеў і ўступаць у якія-небудзь стасункі з уніятамі.

Абражаны і пакрыўджаны былымі аднадумцамі, Мялецій пакідае Кіеў і накіроўваецца архімандрытам у багаты Дзерманскі манастыр, куды запрасіў яго нашчадак Астрожскіх князь Аляксандр Заслаўскі. Там Сматрыцкі выношвае бадай апошні свой план — спробу аб'яднаць праваслаўных з уніятамі — на Львоўскім замірэнчым саборы 1629 г. Але ж і гэтым разам ён сутыкнуўся з неразуменнем і варожасцю праваслаўнага боку.

Пасля смерці князя Заслаўскага 14 лістапада 1629 г. Мялецій, па сутнасці, застаўся без магутнага патрона, без той славы, да якой імкнуўся. У 1631 г. рымскі папа Урбан VIII тытулаваў яго архіепіскапам ерапалітанскім, аднак гэты крок Рыму не меў для Мялецця істотнага значэння. Апошнія гады жыцця ён правёў у Дзерманскім манастыры, пазбягаючы вірлівага палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай напярэдадні казацкіх бунтаў.

27 снежня 1633 года зямны шлях Мялеція Сматрыцкага завяршыўся. Дваістасць яго натуры прадвызначыла і апошняе жаданне — пакласці ў труну грамату ерусалімскага патрыярха і брэве папы рымскага.

Уладзімір КАРОТКІ

# ЛІСТ

**Мялеція Сматрыцкага, русіна, архіепіскапа Полацкага, да святога Пана нашага Папы Урбана VIII[1] пра сваё схіленне да каталіцкае веры і пра сродкі, якімі на Русі русіны-схізматыкі могуць быць прыцягнутыя да уніі са Святой Царквою. З пастановы таго ж святога Пана нашага, якая была выдадзеная на святым сходзе, учыненым дзеля пашырэння веры 5 жніўня 1630 г. у замку Святога Анёла.**

Найсвяцейшы і найшаноўнейшы Айцец!

Калі Пётр спытаў: «Пане, колькі разоў брат мой будзе грашыць супраць мяне, і я павінен дараваць яму? Хіба, да сямі разоў?»,— адказаў яму Ісус. «Кажу табе, што не да сямі, а да сямідзесяці сямі разоў»[2] Як жа сталася, што я нашмат болей, чым семдзесят сем разоў грашыў, супраць цябе, брата майго,—аднак я, нікчэмны, блюзнеру супраць брата і, звыш таго, супраць Айца, і прытым такога Айца, якому над усімі Айцамі ад мора да мора і ад вытокаў да зямных нетраў кіраванне, клопат і ўлада дадзена, даручана і даверана тым, каму належыць падпарадкоўвацца ў сэрцы сваім і не належыць называць яго Богам[3]

Такім чынам, хоць я, невук і зласлівец, адначасова схізматык і ерэтык, больш за семдзесят сем разоў моцна саграшыў супраць цябе, майго найміласэрнейшага Айца, і не толькі супраць цябе, але і супраць Маці маёй, нявесты цнатлівай Пана майго Ісуса Хрыста, не толькі супраць цябе, такога знакамітага і шаноўнага Айца, і супраць такой знакамітай і шаноўнай Маці, але і супраць самога (ах, гора мне!) Бога, супраць самога майго адзінага творцы, збавіцеля, дарадцы, аднак ты, што мне даражэйшы за брата (калі ты нават узгадваў мяне, брата і такога атрутніка, у тваім напісаным да мяне, недастойнага твайго сына, і нават раба твайго нягоднага, брэве, вартым маёй найвышэйшае пашаны), усё, у чым я саграшыў, дараваў мне, і дараваў не толькі па-бацькоўску, але нават даў шчыра тваё апостальскае багаслаўленне. Што ж гэта, пытаюся? Няўжо ж ты лістацівейшы за айца нашага Якуба[4]? Няўжо ж ты літасцівейшы за Пятра, які згадзіўся дараваць таму, хто саграшыў семдзесят сем разоў? Няўжо ты даруеш больш за семдзесят сем разоў таму, хто саграшыў? Так, вядома, ты літасцівейшы, і літасцівейшы настолькі, наколькі я ўсіх грэшнікаў, і кожнага паасобку, пераўзышоў сваімі грахамі, і таму ўжо не мог сказаць, што Пётр дараваў мне грахі разам з усімі Ты літасцівейшы, і літасцівейшы настолькі, наколькі мае грахі шырэй і глыбей сягаюць, чым грахі тых, каму Пётр загадаў дараваць іх. Калі тыя грашылі перад Пятром, і Пятру была дадзеная ўлада дараваць семдзесят сем разоў, то калі я не толькі супраць шматлікіх братоў і Айцоў маіх, і супраць найвышэйшага Айца сярод найвышэйшых Айцоў, які стаў Пятром для мяне і ўсіх іншых, супраць Маці маёй, але і, як я ўжо казаў, супраць самога майго Бога больш за семдзесят сем разоў саграшыў,— ты дараваў. Дык вось, колькі слоў у маіх схізматычных творах, амаль што незлічоных, столькі жудасных грахоў, і хай бы лепей ніколі нічыё вока іх не бачыла, ніколі нічыё вуха іх не чула, больш таго, каб яны, напісаныя ў душы маёй, ніколі не ўбачылі свету — мне, схізматыку, было б нашмат меней пакутаў у судны дзень, чым зямлі Садомскай і Гаморскай[5]; аднак жа іх чулі і чуюць столькі вушэй, столькі вачэй іх бачылі і бачаць, што намнога меней пакутаў у судны дзень было б зямлі Садомскай і Гаморскай, чым мне, схізматыку і ерэтыку, калі б ты не прыйшоў мне на дапамогу, і мяне, такога вялікага грэшніка, не выратаваў больш, чым проста чалавека, сваім павучаннем ад таго невыноснага ліха. На маю думку, ты літасцівейшы датуль, пакуль даруеш больш, чым табе прызначана дараваць Пятром.

І вось перад самім Богам я асабіста пакаяўся за ўсё маё мінулае жыццё таму, каму я павінен падпарадкоўвацца згодна з прадпісаннямі і законам каталіцкай царквы. З дапамогаю розных публічных разважанняў, сачыненняў, прамоваў, лістоў, актаў і ўчынкаў на карысць Святой Уніі ты імкнешся (як кажуць) супрацьстаяць брыдкім, агідным, абуральным, злачынным, ліхамоўным, блюзнерскім нападкам на яе, і я пасля таго, як учыніў столькі грахоў, адмаўляючыся ад

## *Савел і Павел*

**Рым, 1666**

**Паходжанне, адукацыя Мялеція**

Мялецій набіраў жыццёвыя сілы ў Падоллі, паходзіць ён са знакамітага роду. Яго лёс быў вызначаны яшчэ пры хрышчэнні, але гэта выходзіла пераважна з цемры схізматыкаў, таму хай пра гэта будзе сказана менш. Ніхто не мог меркаваць, што ён стане ў далейшым вялікім чалавекам, хоць ён быў названы такім імем, якое прадказвае ператварэнне.

Яго бацька Герасім Сматрыцкі, пісар горада Камянца, бавіў з ім шмат часу. Гэта быў чалавек высокамаральны і не менш высокаадукаваны. Ён быў добра дасведчаны асабліва ў мовах грэцкай і лацінскай, а таксама славянскай. Доказам з'яўляецца тое, што яго «Люкубрацыі» былі вядомыя ўсёй Русі, як і Біблія, перакладзеная з грэцкай і лацінскай мовы на славянскую, якая была выдадзена на сродкі вялікага князя Астрожскага, вартага нашае памяці. Адзін экземпляр яе набыў нават у сваю надзвычай багатую бібліятэку знакаміты кардынал Францэска Барберыні.

Тады ж былі пасеяны зярняты ўзнаўлення адзінства паміж Рускай і Святой Рымскай Царквою. Іх праарастанню садзейнічаў сам Канстанцін Канстанцінавіч, у святым хрышчэнні Васілій, князь Астрожскі, ваявода

нарадзіла і ўзгадавала,
але яны
сцягнулі з плячэй маіх
шаты,
садралі з грудзей
уборы,
а з галавы — аздобу
і голую выпхнулі з дому
на вуліцы кпінаў,
пляцы глумлення,
а самі
паўсталі наводдаль.

Як аб нябожчыцы,
аб сваёй
бяздольнай душы смуткую
і думаю безупынна
аб згубе.
О, вы,
што мяне абступаеце,
што на мяне
гледзіце ў здзіўленні,
паслухайце і разважце,
ці ёсць дзе яшчэ жалоба
глыбейшая, чым мая,
ці ёсць дзе яшчэ маркота
хмарнейшая, чым мая,
і болеч,
балеснейшая за маю?!.

О так,
дзяцей нарадзіла
і ўзгадавала,
аднак яны
як бач
ад мяне адракліся
і сталі прычынай
майго змарнення,
гібення майго...
Нядаўна
яшчэ гаспадыня краёў,
дзе ўзыходзіць сонца
і дзе заходзіць,
поўдня
і поўначы,
я цяпер
няўцешніцай-удавой
у самоце
сяджу,
і па шчоках слёзы,
як струмяні рачныя,
цякуць удзень і ўначы.

І нікога
няма, хто б мяне суцешыў:
усе
адступіліся ад мяне,
усе
пагарджаюць мною.
Чужымі
зрабіліся сваякі,
прыяцелі зваражнелі,
ну а сыны,
узяўшы ў вужачага племя
здатнасць,
джаляць мяне заўзята
атрутнымі джаламі.
Слухайце, людзі,
усе, хто жыве на зямлі
і хто здольны пачуць,
маю
жаласлівую аповесць!..

Звабіўшыся,
сыны
і дочкі мае да той,
што імі не мучылася,
падаліся,
каб ад яе
насыціцца тлустасцю
ўдосталь.
Мае святары
змізарнелі,
мае красамоўцы,
не хочучы разумець,
што гаворка
ідзе аб душы,
знямелі,
старцы мае
здурнелі,
хлопцы мае
здзічэлі,
дзяўчаты мае
укінуліся ў распусту.

І ўсе як адзін
на маю душу,
Бога забыўшы
і занядбаўшы
Божую праўду,
уз'еліся ў злосці.
Разявілі пашчы свае

кіеўскі. Ён, стаўшы першым сярод князёў усёй Русі, са старажытнага роду, у велічы гонару, вялікі сваёю магутнасцю, безумоўна, быў роўны з вялікімі князямі. Яго спрыянне ў падтрымцы адзінства з Рымскім апостальскім пасадам высвятляецца з яго лістоў, напісаных у 1593 годзе да Іпація Пацея, тады Рускага епіскапа Уладзімірскага, а пазней — архіепіскапа, мітрапаліта Кіеўскага. Ён пісаў, што асабіста і прылюдна, ад усёй Русі, выказваючы паслушэнства Апостальскаму прастолу, прыпадае да ног вікарыяў Бога і Пятра. Аднак жа ён, з дазволу неспасціжнага Бога, вельмі ўсхваляваны і добра ўсвядомлівае, што калі дзве царквы, звязаныя паслушэнствам рускіх рымскаму епіскапу, будуць разлучаны ерэтыкамі, якія баяцца сваёй пагібелі ў Польскай Рэспубліцы, то ён, несумненна, рашуча адвяргае гэта, з вераю ў Святое пісанне. Як бачым, нават найвялікшая непрымірымасць рускай схізмы вартая пашаны.

Пасля гэтага, атрымаўшы грошы ад шчодрага князя Астрожскага, Герасім будуе гімназію для вывучэння не толькі славянскай, але і грэцкай мовы, а таксама лацінскай навукі. У ёй ён даваў адукацыю шмат каму з рускіх, як багатым, так і бедным. І, такім чынам, улічваючы вышэй сказанае, Герасім Сматрыцкі, пісар Камянецкі, маючы неблагую сярод рускіх адукаванасць, дасягнуў сваім аўтарытэтам таго, што, здабыўшы грамадскае прызнанне, заняў пасаду рэктара гэтай гімназіі. За заслугі ў працы ён атрымаў нават узнагароду, і звыш таго Астрожскія ўладары аддалі яму ва ўласнасць яшчэ маёнткі Баклаеўка і Барысаўка.

Герасім, выхоўваючы двух сваіх сыноў адпаведна сваёй сціпласці суровай навукай нораваў, аддаў іх у навучанне вучонаму грэку Кірылу, якога запрасіў вышэй званы князь, адукаванаму ў мовах грэцкай і лацінскай; пазней ён заняў Канстанцінопальскі пасад. Пры ім Максім, няхай меншы ўзростам, ды большы вучонасцю, быў адметны і ў той, і ў другой навуцы. Вядома ж, ён перахапіў пальму першынства ў старэйшага брата, што меў не горшыя здольнасці. Пасля бацькавае смерці яны трапілі пад апеку князя. Той, помнячы іх бацьку, будучы ўжо сам у шаноўным вяку, надалей апекаваў дзяцей свайго пісара. Малодшага разам з Георгіем Пузынам, юнаком з маладых князёў Валынскіх, які быў з ім у кроўнай повязі, у 1601 годзе накіраваў у Вільню да айцоў-езуітаў, у Акадэмію, дзеля вывучэння вызваленых навук. Менавіта ён праз некалькі гадоў, дбайна вывучаючы філасофію разам з Саламярэцкім, чалавекам княжацкага роду, але схізматыкам, імкнуўся больш глыбокімі ведамі супрацьстаяць горкаму плоду схізмы, робячы першыя юнацкія спробы свайго голаса. З ім ён наведаў Сілезію, Вроцлаў, потым — Лейпцыг і Нюранберг, іншыя гарады і акадэміі некаталіцкай Нямеччыны. У гэтых універсітэтах, пакуль вывучаў усялякія навукі, напоеныя атрутаю ерасі, сам увабраў у сябе гэтую атруту з іх патаемных нетраў, каб такім чынам ён першы мог лёгка вызначыць атручаных.

Потым ён вярнуўся з Нямеччыны ў Літву, у Менскае ваяводства (у маёнтак згаданага Саламярэцкага) і адразу ж высунуў джала на Святую Рымскую Царкву і на яе паслушніцу унію. Аднак падчас вяртання гэты міранін, амаль што настаўнік з вялікім аўтарытэтам у веры, ужо ў 1610 годзе напісаў твор; пад імем Тэафіла Арталога ён выдаў «Трэнас».

схізмы, асуджаючы ерась публічна, перад народам усёй Хрыстовай Царквы, шмат населенага Польскага Каралеўства, шчыра, даходліва і пераканаўча вытлумачыў, склаў і сфармуляваў прыхільнасць да Уніі, якой я трымаюся не з любасці да жыцця і не праз страх смерці, але ў спадзяванні і імкненні набыць з часам карысць для душ шматлікіх схізматыкаў Царквы Божай, а таксама прызнанне, тлумачэнне артадаксальнай веры і ўчалавечанне цела Хрыста, якое ёсць у яго Царкве. Таксама ж двум творам, выдадзеным нядаўна ліхамоўнымі схізматыкамі супраць маёй артадаксальнай «Апалогіі», я адказаў двума маімі каталіцкімі творамі і растлумачыў боскі сэнс догматаў, якімі Усходняя царква адрозніваецца ад Заходняй < .>

На маю думку, нядзіўна, найсвяцейшы Айцец, што гэты неадукаваны люд, здаўна недасведчаны ў боскіх справах, сам сабою не можа ні спазнаць, ні спасцігнуць нічога боскага.< ..>

Нядзіўна таксама, калі чалавек, пазбаўлены зроку, у яркім святле то ўдараецца тварам аб сцяну, то збівае свае ногі аб камяні, падае і не ведае, куды яму павярнуць. Аднак дзіўна, калі хто-небудзь з такіх людзей лічыць за лепшае штогадзіны, штохвіліны асуджаць сябе на пакуты і тварыць небяспеку свайму жыццю, чым ісці за відушчым павадыром бяспечным і роўным шляхам. Гэтаксама і людзі, аслепленыя пачварнай схізмаю, не інакш як з добрай волі пазбаўленыя розуму, імкнуцца да сваёй пагібелі Самі яны зусім не разбіраюцца ў справах збаўлення, у догматах веры, аднак адвяргаюць павадыра. Дык што ж рабіць з такімі? Нават я, навучаны такой вопытнай настаўніцаю, не знаходжу іншага сродку, акрамя адзінага найбольш надзейнага — кіраўніцтва Збавіцеля, што я і прапаную.< >

Аднак трэба аказваць падтрымку не мудрым людзям, а вар'ятам: той, хто супраціўляецца, не нашмат адрозніваецца ад вар'ята, бо як вар'ят не перастае чыніць ліха, калі яго не ўтрымаць, так і той, хто супраціўляецца, не робіць нічога добрага, калі яго не прымусіць. Значыць, і адных, і другіх аднолькава належыць вяртаць да здаровага розуму, хочуць яны таго ці не хочуць — так звязваюць вар'ята каб ён не чыніў ліха, а таго, хто супраціўляецца, прымушаюць, каб ён чыніў дабро нішто не падуладнае ягонаму разуменню, бо яно зусім сляпое.<. .>

Я, вядома, усімі сваімі намаганнямі буду асуджаць перад тваёй Святасцю нязломную ўпартасць схізматыкаў, аднак адкуль жа такая пыхлівая нядбайнасць у гэтым каралеўстве каталікоў? Не ведаю, ды ўсё ж хачу зразумець. Госпад кажа: «Раб, які ведае волю свайго пана і не гатовы, і не выконвае ягонае волі, будзе моцна біты»[6] І схізматык, і каталік — рабы, аднак схізматык не ведае волі Госпада свайго, а каталік ведае. І калі абодва гэтыя рабы не выконваюць волі Госпада свайго, абодва будуць бітыя, аднак гэты больш, а той менш Прынамсі, тыя рабы, якіх білі больш, павінны быць асуджаныя паводле закону; тыя ж, што не ведалі волі Госпада свайго і не былі гатовыя, тыя не выконвалі ягонае волі Каталікоў трэба асудзіць паводле закону, бо яны ведалі гэтую волю Госпада свайго, які хоча зрабіць усіх людзей цнатлівымі і прывесці іх да спазнання ісціны, аднак жа яны не былі гатовыя, і не выконвалі ягонае волі Не былі гатовыя, бо дазвалялі сваім вернікам прытрымлівацца пачварнае схізмы і патанаць у брудзе ерасяў < >

О ліхія паны, нядобрыя каталікі! Гэта тыя, тыя, найсвяцейшы Айцец, каго я асуджаю перад тваёй Святасцю. Гэтыя абыякавыя каталікі — прычына таго, што іскра збавіцельнай Святой Уніі ў нашай Айчыне, запаленая доўгімі намаганнямі многіх людзей дзеля разумнага чалавека (яна і цяпер яшчэ непагасная свеціцца), не выклікала жаданага, не выклікае полымя, бо яе гасяць тыя ж самыя каталікі сваім вусцішным холадам нават побач з такім вогненным кнотам уніятаў, і падаўляюць яе, каб яна не разгаралася ярчэй Гэтыя самыя каталікі падтрымліваюць у нашай Русі схізму, мацуюць і пашыраюць яе. Дзеля захавання яе яны напаўняюць манастыры ваяўнічымі епіскапамі свайго патранату, яны іх кормяць, яны Іх крояць, яны іх абараняюць. Яны, абяцаючы сваю падтрымку, соўгаюцца туды-сюды па ўсёй Русі, папоў сваіх накіроўваюць на падтрымку невуцтва сярод людзей малаадукаваных, збіраюць схізму, прапаведуюць ерась, і такім чынам дзеля сябе, сваіх прыхільнікаў і сваіх патронаў назапашваюць гнеў у дзень гневу і адкрыцця справядлівага боскага прыгавору Табе, найсвяцейшы Айцец, належыць супрацьстаяць гэтаму злу і зрабіць так, каб у адным і тым жа целе ўсе часткі выконвалі тое прызначэнне, якое дадзена ім уладаю галавы, а не тое, што ім самім падабаецца; і каб нешта з іх грахоў не пераносілася несправядліва на саму галаву, пастановамі ўлады якой усе яны кіруюцца. Ты, галава, амаль што разрываеш саму сябе штодзённымі клопатамі аб такім выратаванні аблудных душ — каб прыцягнуць, прывесці і далучыць дабрачыннымі намаганнямі народ наш рускі да Святой

на мяне
і, зубамі скрыгочучы,
кажуць:
«Вось і прыйшоў той дзень,
якога мы гэтак чакалі,
пойдзем і знішчым яе,
і вырвем
памяць аб ёй з карэннем
з зямлі!..»
За маю любоў
мне рыхтуюць згубу,
за маю дабрату
мне дзячаць зняваргай
і за пяшчоту маю
нянавісцю плацяць.
Забраўшы
каштоўныя мае шаты,
пакінулі мне
струхлелыя лахманы
і зрабілі
з мяне жабрачку —
свету на абгаворы,
мне на пакуты.

Бяда мне,
згалелай!..
Гора мне,
пагарджанай!..
Цяжэе жыццё маё,
быццам камень,
як дым,
растаюць мае дні,
і мінаюць
гады мае ва ўздыханнях.
Ад безупынных слёзаў
ступілася пільнасць
маіх вачэй,
счаўрэла нутро маё
ад нудоты,
ад горкага плачу,
як скваркі,
ссохліся мае косці,
звяла,
як скошаная трава,
маё сэрца,
і скура змаршчынілася,
як папера.

Ашчэрылі на мяне
драпежныя пашчы
і волю далі зласлівым,
зламысным словам.
Пабралі сякеры
у рукі свае
і шукаюць
душы маёй —
панакапаны
усюды ямы,
напнуты
з усіх бакоў сеткі
і адусюль цікуюць
атрутныя джалы.
Вось тут —
крыважэрлівыя ваўкі,
вунь там —
рыклівыя львы,
з таго боку —
жахлівыя цмокі,
а з гэтага —
лютыя васіліскі.

Гляджу —
і не ўгледжу,
шукаю —
і не знаходжу,
куды скіраваць свае крокі,
дзе прытуліць галаву,
у каго
прасіць абароны.
Узважце, нябёсы,
пакуту маю,
зямля,
змерай мой жаль:
хіба
гэтакае магчыма —
каб дзеці,
якіх нарадзіла і ўзгадавала,
зрабіліся не маімі?!
З адным
была я заручана,
за аднаго
аддадзена замуж,
ад аднаго зацяжарала,
у адным
лоне насіла,
адным малаком карміла,
аднак,
дзеці мае чужым
звычаям папрысягалі.

Няма нікога,
хто стаў бы

**Найчасцей наведваючы Менск, старажытны, дастаткова вядомы сярод рускіх горад, што быў бліжэйшы да Саламярэчча, ён сустракаўся там патаемна з простым і неадукаваным людам. Таму да яго імкнуліся як да аракула, усе гаварылі ягонымі словамі пра догматы веры, як крынічнай вадой, спаталяліся яго навукай; аднак, заражаная ерасcю, яна не была гаючаю. І тады менскія месцічы пакінулі уніяцкіх пастыраў і пачалі, як кажуць, патаемна ўмацоўваць праваслаўе і будаваць новую царкву Пазней Мялецій, пасвечаны ў сан архіепіскапа, ушаноўваў яе як святыню. Неўзабаве Сматрыцкі ўступіў у своеасаблівыя стасункі з мітрапалітам Русі Іосіфам Руцкім і імкнуўся да патаемнай гутаркі з ім. Руцкі, нават узрадаваны такім зручным выпадкам, адстойваючы сваё ўз'яднанне з каталіцкай царквою, звяртаўся да яго, наракаючы: чым жа мне змякчыць тваю душу, скарыць твой дух і атрымаць прызнанне ад такога слыннага чалавека, адзначанага прыроднымі дараваннямі? Аднак у душы ў Мялеція мела перавагу трывалая схізма, і таму перамовы гэтыя былі марныя.**

Якуб СУША

*Пераклала з лацінскай Жана Некрашэвіч.*

Уніі, без чаго народу гэтаму будзе пагібель, аднак шмат якія іншыя часткі гэтага цела, наадварот, вырашылі нават супрацьпаставіць сябе тваёй волі

І вось, змагаючыся з праклятаю схізмай, ты хочаш, найміласэрнейшы Айцец, < > праз доўгі час пасля сваіх папярэднікаў убачыць жаданую ўмацаваную надзейна ў нашай Русі Святую Унію, да якой далучылі ўсе русіны? Дык вось які я прапаную тваёй Святасці спосаб, ён зразумелы і дабрачынны, надзвычай лёгкі і дзейсны Адпаведна твайму аўтарытэту дзякуючы якому ты паводле боскага ўстанаўлення маеш уладу, скажы без ваганняў, Галава, рукам тваім, якія ёсць у цябе ў такім знакамітым Польскім Каралеўстве — і духоўным асобым і свецкім «Няхай будзе Унія ў Польскім Каралеўстве!» і праз слова хутчэй звернуць увагу на справу < .>

Ты маеш, найсвяцейшы Айцец, сына твайго, любаснага Богу, Найсвятлейшага Караля нашага (няхай Пан Бог захавае яго нам жывым, цэлым і здаровым на многія гады), свецкую, надзвычай дбайную і нястомную руку ў далучэнні да гэтае выратавальнай справы,— захоўваючы і пашыраючы ззянне святой Уніі для ўсіх каталікоў разам са схізматыкамі, яна яшчэ больш яго павялічвае. Ты маеш таксама і духоўную тваю руку, не менш прыдатную для з'яднання ў гэтую супольнасць,— найсвятлейшых Рымскіх архібіскупаў і біскупаў знакамітых сенатараў гэтага Каралеўства, і звыш таго, святлейшага Рымскага нунцыя з твайго асяроддзя Чаго ж яшчэ не хапае? Не хапае дзвюх акалічнасцяў Па-першае, калі свядары з дамовы і ўзгаднення духоўнай рукі (апрача таго яшчэ і свецкія асобы, а таксама настаўнікі якія маюць у асобных рускіх правінцыях епархіі, таварыствы і брацтвы, найперш, вядома, Айцы езуіты), калі яны падтрымаюць гэты твой заклік «Няхай будзе!», стаўшы шчырымі паслядоўнікамі то шчырымі стануць і іх паслядоўнікі а моўленае адразу ж здзейсніцца. < . > У паслушэнстве святому пагадненню трэба разлічваць не на асобных вернікаў, якія належаць да каталіцкае канфесіі, а на ўсіх тых, хто словам альбо ўчынкам знішчае Унію і мацуе схізму; трэба аддзяляць і не допускаць іх да прычасця таінства святога Алтара Як шмат гэтых дабрачынных апекуноў крыведушных схізматыкаў як шмат сярод іх прыхільнікаў (схізмы)! Яны ж вартыя за гэтую сваю злачынную дапамогу суровага царкоўнага пакарання не менш, чым самі тыя, хто штодня працуе дзеля гэтае ліхой справы Звыш таго, усім ім неабходнае пакаянне — дзеля апраўдання, каб знішчыць схізму і ўмацаваць Унію Трэба адлучыць епіскапаў-схізматыкаў ад іх манастыроў, пазбавіць іх утрымання, адмовіць ім у літасці, адмовіцца ад заступніцтва, не дапускаць да сваіх падданых ніякіх святароў, акрамя уніяцкіх, а таксама трэба, каб манастыры згодна з мудрым рашэннем свайго патраната, знаходзіліся пад юрысдыкцыяй епіскапаў-уніятаў. І тады слова тваёй Святасці адразу стане справаю. Каб разбурыць стаўпы, неабходна будзе зруйнаваць і падмурак, і дах. < >

Цяпер другое. Маладых людзей рускага паходжання, заможных і простых, са схізматыкаў, якія старанна займаюцца навукаю ў езуіцкіх калегіях, не павінны прымушаць да змены веравызнання, яны не павінны далучацца да іншага веравызнання, нават калі яны гэтага хочуць яны павінны ўпэўнівацца і прыцягвацца да Уніі добрымі ўчынкамі, застаючыся ў сваёй веры Бо ў нас хапае тых, хто дбае пра гэтае жніво Госпада, пра тое, каб прымушаць і далучаць да святой Уніі І сярод настаўнікаў ёсць такі, хто можа схіліць да гэтага сваіх вучняў. І акрамя яго, яшчэ шэсцьсот іншых, але вось найлепшая і самая надзейная парада апостала[7], які казаў: «Той, хто не клапоціцца найбольш пра хатніх сваіх, той адмаўляе веру і той горшы за няверніка» Але ж калі яны захочуць перашкодзіць, іх вельмі лёгка можна стрымаць. <...>

Спачатку меркавалі, што падтрымлівае сваю маці, Усходнюю царкву, той, хто застаецца ў сваёй грэцкае веры, пазней — што той, хто мяняе веру І наколькі больш надзейна — настолькі і больш дзейсна, калі яны самі падтрымаюць і пераймуць гэта як добрае і параяць гэта маці і братам, чым калі яны вырашаць, што гэта павінна быць адрынута як дрэннае і выроднае, і параяць гэта маці і братам.

Калі ты, найсвяцейшы Айцец, зможаш вырашыць для ўсіх сваёй воляю дзве гэтыя задачы, тады ты будзеш мець у руках жаданую Унію ў нашай Русі < > Свабода падымае галаву схізме, нявольніцтва падаўляе яе. І калі з нашым вольным ладам гэты брыдкі д'ябальскі выгнаннік будзе існаваць, то з тыранічным ладам ён будзе падаўлены і выгнаны хутчэй, чым можна чакаць. Аб гэтым клапоціцца сам Бог < >

З гэтым я, твой нікчэмны раб, нізка прыпадаю да ног тваёй Святасці, пачціва цалую іх, малю аб адпушчэнні грахоў маіх і прашу твайго пастырскага багаславення Хай Пан Бог захавае з боскай сваёй міласці тваю Святасць на ўладарства ў Святой сваёй царкве дзеля спакою ва ўсім хрысціянскім свеце на многія гады

**наступнікам бацькі,**
**нікога няма,**
**хто ішоў бы**
**услед за маці.**
**Наадварот,**
**са злачынцаў**
**і выродкаў узялі**
**прыклад**
**і языкі**
**на бацькоў навастрылі.**
**Навукаю бацькавай**
**пагарджаюць,**
**матчына дбанне**
**ганьбуюць,**
**бацьку няслаўяць,**
**а маці**
**даводзяць да слёзаў.**

Многа
было іх у нас,
і раптам
усе адпалі,
зрабіліся раптам усе
не сваімі.
З вялікага мноства
нікога не засталося,
хто б у дабры ўтрымаўся,
хто б у дабры ўмацаваўся.
Мела дзяцей —
і вось жа
цяпер не маю.

Гора мне —
беспатомнай,
бяда — няплоднай,
бо, як у Законе высноўваецца:
«Пракляты
кожны, хто не пакіне
патомства ў Ізраілі...»
А наколькі
горшая кара,
цяжэйшы грэх —
пакінуць на свеце
такіх нашчадкаў,
якія самохаць
да звычаяў злых
прышчапіліся
і не хочуць
бачыць,
што бацьку сорам,
а маці гора з-за іх.
Не чуюць слова Закону,
якое кажа:
«Жыць будзеце,
калі будуць людзі,
бачачы добрыя вашы справы,
хваліць
вашага бацьку».

Сын мудры і паслухмяны —
бацьку пашана,
а ўпарты і неразумны
у ганьбу
уводзіць маці.
Колькі разоў за сваё жыццё
зведала ад сыноў сваіх
розных крыўдаў,
колькі разоў
ад сваіх дачок
зазнала перад Законам
знявагі ўсякай,
аднак
у параўнанні з гарою
цяперашняй крыўды
гэта пясчынкі,
і ў параўнанні з морам
знявагі цяперашняй
гэта кроплі
расы.

І ўсё з-за таго,
што, пачаўшы
жыць па законе граху,
засланілі
сэрца сваё глухою
заслонаю
і перасталі
з воляю Божай лічыцца
і разумець,
што яна кажа,
і спраўджваць,
што яна вызначае.
Цяпер,
калі я сама да іх
наблізілася з любоўю,
што адсланіла б
з іхняга сэрца заслону,
калі б яны
гэтага захацелі,
і на сябе
усклала іхнія віны,
і перад Богам-Айцом
за іх заступілася,

Дадзена ў Валыні, правінцыі княства Рускага, уключанага ў Каралеўства Польскае, у Дзерманскім манастыры патранаце найсвятлейшых князёў Астрожскіх у год Гасподні 1630, месяц люты, дзень 16.

Правялебнасці тваёй

недастойны сын і штодзённы просьбіт перад Богам

Мялецій Сматрыцкі, архібіскап Полацкі, архімандрыт Віленскі і Дзерманскі

Theiner Augustino
Vetero monumento
Polonia et Lethuanias
Romae, 1863

*Пераклала з лацінскай*
*Жана НЕКРАШЭВІЧ.*

[1] Урбан VIII (Матэо Барберыні) — папа рымскі з 1623 да 1644 гг. Займаўся рэфармаваннем рымскага каталіцкага права; загадаў перакласці рэлігійныя гімны адпаведна класічным вершаваным памерам. Кананізаваў некаторых дзеячаў каталіцкай царквы і веры, у прыватнасці, распачаў працэс кананізацыі Полацкага архібіскапа Іясафата Кунцэвіча. Менавіта на час праўлення Урбана VIII прыпадае працэс над Галілео Галілеем. *(Тут і далей заўвагі перакладчыка.)*

[2] Параўн.. Тады прыступіў Пётр і сказаў Яму: Госпадзе!
колькі разоў дараваць брату майму, які грашыць
супраць мяне? Ці да сямі разоў? Кажа яму Ісус:
не кажу табе: «да сямі», а да сямі разоў па
семдзесят (Мф., 18:21—22).

[3] Маецца на ўвазе св. Пётр, які надзяляе рымскага папу вярхоўнай духоўнай уладаю на зямлі.

[4] Старазапаветны патрыярх, легендарны родапачынальнік «дванаццаці каленаў Ізраіля».

[5] Параўн.. А калі хто не прыме вас не паслухаецца слоў вашых, дык, выходзячы з дому, альбо з горада таго, абцерушыце пыл з ног вашых; праўду кажу вам: лягчэй будзе зямлі Садомскай і Гаморскай у дзень судны, чым гораду таму (Мф., 10:14—15).

[6] Параўн.. «Слуга ж той, які ведаў волю гаспадара свайго не быў гатовы, і не рабіў па волі яго, будзе крэпка біты, а каторы не ведаў і зрабіў вартае кары, біты будзе меней» (Лк., 12:47—48).

[7] Параўн.. «Калі ж хто аб сваіх, а асабліва аб хатніх не клапоціцца, той адрокся ад веры і горш за няверніка» (Цім., 5:8).

іх сабрала,
ачысціла,
апраўдала
і асвяціла —
ма́ю
пагарду ў аддзяку,
ва ўзнагароду помсту.

Што застаецца
аб гэтым думаць
і што казаць?
Лепей бы мне наўпраўду
памерці было без нашчадкаў,
чым бачыць у дзецях,
як ямы, плямы,
якімі яны ганарацца,
як дарагімі набыткамі,
і напаказ
іх выстаўляюць свету,
што сам паказаў ім у гэтым
вартыя прыклады,
і як мага
трымаюцца свайго змату.

Што сталася з імі?
Якую абралі
сабе дарогу?
Куды скіраваліся?
Вырашылі спаўняць
лепей Ваалаву волю,
чым Божую?
Намерыліся ісці
лепш ідалавай,
чым праўдзівай
апосталавай дарогай?
Заслоны,
адхіленыя ад сэрца,
зноў узялі,
палюбілі наноў няпраўду
і, чым далей,
тым горшым грахам
аддаюцца.
Калі іх клічу —
не чуюць,
калі ім тлумачу —
не разумеюць:
абранае топчуць,
святое бэсцяць
і справядлівае зневажаюць, —
плацяць,
коратка кажучы,





злом за дабро.
У цноце такой сыноў
у доме сваім гадавала,
з ласкай такой пеставала
дзяцей у абдымках сваіх,
а яны
нутро маё зараз грызуць
і заўзята
пнуцца давесці
мяне да смерці.
Ніколі
яны не былі
пад спраўцамі й апекунамі,
ніколі не дбалі,
каб споўніваць абавязкі
і каб загады выконваць, —
не дзіўна:
так зацвярдзела іхняе сэрца,
што пазіраюць,
але не бачаць,
што слухаюць,
а не чуюць.
Цяпер перад імі стаіць
сам спраўца над спраўцамі,
сам апякун над апекунамі:
чакае цярпліва,
гукае зычліва,
шукае рупліва
і падае́
руку дапамогі;
каб чулі —
слых адтуляе,
зрэнкі — каб бачылі —
рассвятляе.

Аднак і яму,
зацяўшыся ў непаслушэнстве
і ў непакорлівасці
здзірванеўшы,
пярэчаць:
вушы пазатыкаўшы,
вочы пазамыкаўшы,
хаваюцца ад міласэрнай
увагі свайго Ўладара
і ў прорвы,
адкуль вяртання няма,
уцякаюць.

Цяжка
мне з гэтай аглухлай гурмою,
з гэтым асляплым племем,
з гэтым вужачым родам!..
І хто нароўні
сёння падзеліць са мной
маё гора,
хто разам са мною сёння
цяжар мой падыме,
хто плакаць мне дапаможа?!

Сыноў
нарадзіла і ўзгадавала,
але сыны,
адрокшыся ад мяне,
нацэлілі на мяне
атрутныя джалы
сваіх языкоў.
Спачатку
яны не хацелі слухаць
ні слугаў,
ні пасланцоў,
але ўрэшце
сам Госпад прыйшоў да іх,
сам навучае і кліча,
каб, абцяжараныя грахамі,
у ім суцяшэнне знайшлі,
у ім бытнавалі.
Каго ж яшчэ
з большай ахвотаю,
як не яго,
павінны былі паслухацца,
і хіба
ёсць яшчэ нейчы голас,
праўдзівейшы за Гасподні?!

І што ж адказалі
на гэта яны —
вырадкі і недаверкі?
Яны пажадалі
пагнацца лепей
за казанамі егіпецкімі
і часнаком,
чым застацца
на той вячэры,
што Госпад угатаваў.

Дзе цяпер
тыя часы, калі я
пакутнікаў нараджала?
Дзе цяпер тыя гады,
калі
у доме сваім хавала
праведнікаў і набожных?
Дзе дактары,
дзе апосталы,
што былі
светачы ўсяму свету?
Дзе паслядоўнікі іх,
каму
было б крывадушша чужое?
Дзе пастыры,
вучыцялі?
У вас
маюць патрэбу вялікую
сёння
мае сыны.

Вас услаўляю,
вамі
цешуся і ганаруся,
што веру ў свайго Айца
не парушылі,
што за мяне
ахвяроўвалі душы.
Вы распазналі,
што парасць
сама па сабе не можа
даваць ураджаю,
калі не будзе
трымацца віннай лазы,
і, да Айца прышчапіўшыся,
неадменна,
аддана,
старанна
трымаліся ў ім.
І ні жыццё,
ні смерць,
ні анёлы
і ні прастолы,
ні меч,
ні агонь,
ні рэчы цяперашніх дзён,
ні рэчы будучых дзён,
ні высачыні,
ні глыбачыні,
ні іншыя сілы
вас не змаглі адлучыць
ад міласці Божай...

Маю патрэбу
сёння ў сынах,
якія б,
нягледзячы на імёны,
на званні
і на пасады,
тых, што блюзнерацць на Бога,
кара́лі,
якія б, звярнуўшы
свой твар паважна
да родных сваіх братоў,
рашуча
іхнія котлішчы,
імі сплюгаўленыя,
ачышчалі...

Маю патрэбу сёння
ў такіх сынах,
гэтакім дзецям рада,
якія б не толькі замкнулі
распусныя вусны
блюзнерцам,
але і сваіх —
ад найвышэйшых
да найніжэйшых,
ад архірэяў да іярэяў
разам з людзьмі,
што дaвераны іхняй уладзе,
як заслугоўвае кожны, —
ўшчувалі,
на шлях настаўлялі
і да жыцця вярталі.

Але
ці здолею дзе знайсці

дзяцей такіх сёння?
Ці іх з непрытомнай зямлі
уздыму?
Ці вазьму
іх з векапомнага неба?
А мо напаткаю раптам
іх у краях айчынных?
Шкада:
не ўздыму,
шкада:
не вазьму
і раптам не напаткаю.
Нікога нідзе няма,
хто б адгукнуўся на зовы.
Усе адхінуліся ад мяне,
усе насупіліся на мяне —
нібыта ніколі
я імі не мучылася
і не хварэла.
Усе ўвабраліся ў зброю,
усе паўсталі,
нібы я найпершы вораг,
і хочуць,
у што б там ні стала,
звесці
з гэтага свету
маю душу.

Няшчасная маці,
што я зрабіла такога,
што мушу
нязносныя праследы
зносіць
ад родных сваіх сыноў?!
Што я ўчыніла такога,
што ходзіць
па пятах за мною смерць,
што цікуе
за мной небяспека?!.

Адны нядбальствам сваім
даймаюць,
другія злаславасцю
дапякаюць,
адны сваёй жорсткасцю
ўводзяць у роспач,
другія сваёй прагавітасцю —
ў смутак.
Паадчынялі
бездані зла
і пабралі
з ягоных радовішчаў
гэтакія здабыткі.

Але пакалькі
усякай справы пачатак —
слова,
і папярэднічае развага
таму, што ўчыніцца мусіць,
я выкажу ўголас
усё, што ляжыць на душы,
каб не быць
мне прадузятай у смутку
і неабачлівай у жалобе.
Належыць
у справе, такой няпростай,
дзейнічаць не з гарачкі,
рашэнні прымаць
не спехам.
Загадвае справядлівасць
і вымагае болеч,
каб я,
ва ўсім разабраўшыся дбайна,
усё ўзважыўшы пільна,
прыйшла да высновы:
адкуль у маіх сыноў
так шмат уласцівасцяў
кепскіх,
так многа заганаў
прыкрых?!
І што паслужыла
прычынай таму,
што ў дзяцях
пасеялася і без меры
ўзбуяла да маці сваёй
нянавісць?!.

Яшчэ і яшчэ раз
удумацца ў гэта мушу,
перш чым навекі
у скрусе сваёй душы
адракуся ад іх;
і перш чым
у горычы свайго сэрца
аддам іх бацькоўскаму
пакаранню,
яшчэ раз да тых,
што прыклад
малодшым братам падаюць,
звярнуся
і з імі пагутару.
Можа,
убачыўшы воблік маці,
усё ж засаромеюцца,
пашкадуюць
яе пакутаў,
вытруць
з вачэй яе
слёзы,
змякчыўшы
сэрцы свае ў пакоры,
і ногі яе абдымуць,
зведаўшы,
што было б
ім лепш не радзіцца,
чым трапіць
на вечнае пакаранне
у рукі
усёмагутнага бацькі.

І хоць ён здаўна
ведае мае смуткі,
аднак
да гэтага часу чакае,
споўнены літасці,
затрыманы спадзяваннем,
што яны самі,
калі парасплюшчваюць вочы
і ўгледзяць мой боль,
пакутаваць будуць.
Ды ўжо неўзабаве
выпушчу з вуснаў слова,
якое ім будзе прысудам,—
пакуль найлягчэйшае,
калі толькі
цяжэйшае не пераважыць.
Не думайце,
што вы ў моцы
і можна
усё вам рабіць —
у імгненне вока
зніштожацца котлішчы зла
і тыя,
што ў зле раскашоўваюцца,
і памяць пра іх
віхура
развее па свеце,
каб нават знаку
не засталося ад месца,
дзе яны бытнавалі.
«Страшная справа,—
апостал кажа,—
упасці ў рукі
Бога жывога...»

Дайду да вытокаў
іхняй варожасці,
пашукаю
прычыну непрымірымае
іхняе злосці:
ці то ад бацькі,
паводле прыродных законаў,
займелі,
ці то ад маці,
калі гадавала,
ўзялі?
Бо як добры плод
сведчыць пра добрае дрэва,
гэтак і добрыя норавы
у дзяцей
пра добрых бацькоў гавораць.
І наадварот:
бацькоўскай
злоснай натуры
звычайна прыпісваюць тое,
што асуджаецца
у нашчадках.

Але нічога такога,
што варта было б
папракнуць ці зганьбіць,
не знойдзецца ў выпадку
нашым.





Бацька —
лагодны,
ціхмяны,
сціплы,
ласкавы,
пакорлівы,
добры
і паслухмяны да смерці;
маці —
пяшчотная,
чыстая,
шчырая,
ветлівая,
святая;
бацька —
мудры,
спагадлівы,
справядлівы,
шчодры,
на гнеў не паспешлівы,
міласэрны,
і калі гневаецца,
дык ненадоўга;
маці —
адданая дзецям:
яна іх мілуе,
яна іх гадуе,
яна цярплівая да крыві
і тым,
з кім злучана шлюбам,
аздоблена і абдаравана.
Таму ні бацькаў
прыродны закон,
ні матчына малако
не былі
прычынай таму, што ў дзецях
закрасавала зло...

Вы, княжаты, уладары,
судзіце
падданых,
якія давераны вам,
судом не сваволным,
а Божым,
асцерагаючыся, каб вы самі
тым жа судом
асуджаны не былі.
Не ўскладайце
на іх вялікай даніны,
ведаючы,
што дараваў
вам Гаспадар ваш
усе запазыкі вашы
і чынш за вас
заплаціў.
І калі
чыніце ўпотай што-кольвек,
дык не падманвайцеся:
«Хто ж нас бачыць?»,
бо ўсе вашы ўчынкі
бачыць Айцец ваш,
які — на нябёсах
і для якога
нічога няма,
што было б схавана,
нікога няма,
хто быў бы
утоены ў сваіх справах.

Архісвятары й святары,
пастыры і вучыцялі
разумнага гурту Хрыстовага,
стойце трывала
у веры,
што вам даравана ад Бога,
дбайна
вартуйце давераных вам
авечак,
адважна
супроцьнічайце і процістойце
тым, што стараюцца
зруйнаваць
муры і падмуркі
праўды.
Упартых — скарайце,
засмучаных — суцяшайце,
нявучаных — навучайце,
распешчаных — ушчувайце,
нямоглых — аздараўляйце,
распусьлівых — дакарайце,
зманлівых — выкрывайце,
непаслухмяных — сцішайце,
заціклівых — упікайце,
пужлівых — натхняйце,
а гаварлівых — спыняйце.

Будзьце ў паводзінах —
прыклад,
узор — у размове,
неба — ў любові,
апора — ў веры
і ў чысціні — люстэрка.
Трымайцеся навучання,
чытання,
напамінання,
дбайце
у час і звыш меры часу,
рупцеся ўдзень
і звыш меры дня,
Божае слова — кажыце,
знядужаных — бараніце,
зблуканых — вядзіце,
цярплівасці споўненыя —
прасіце,
мірам надзеленыя —
мірыце,
бо вы — святло свету,
бо вы — соль зямлі.
Абраны
вы Духам Святым
і пастаўлены ім,
каб Хрыстовы
пасвілі гурт,
што Хрыстос адкупіў
крывёю сваёю.

Будзьце ж
старонніх вадам,
пазбаўленыя заганаў:
пачцівыя,
чыстыя,
сціплыя,
кемлівыя,
не гультаі,
не п'яніцы,
не задзіракі,
да сварак не схільныя,
не сквапныя на багацці,
прыязныя да людзей,
паважныя ў сваім доме.

Вы невідушчым —
вочы,
кульгавым — ногі,
тым, што спрабуюць
вылезці з ямы,—
рукі.
Вы — брамнікі і ключары
нябеснага каралеўства:
дужасць
дадзена вашым рукам,
каб звязваць
і каб развязваць.
Вы — святары
найвышэйшага Бога,
і маеце дар пасвячаць
і сябе, і іншых.
Таму
пільнуйцеся,
каб нядбальства
не засланіла вам вочы
і каб лянота
вас не стуманіла сном,
і каб вы,
у слепаце і ў дрымоце,
не ўпалі ў прорву
і каб смуроднай
тхлінай пякельнай багны
не апаганіліся,
і каб тых,
што вам давераны,
за сабою
не пацягнулі следам,—
глядзіце,
іх беспавінная кроў
з рук вашых будзе
спагнана.

А паспалітаму люду
робім
гэтымі словамі напамінанне
і навучанне чынім.
Хай падначалена будзе

вышэйшым уладам
душа
усякага чалавека.
Бо ўладары
не страшны
для добрага ўчынку,
але для благога
страшны.
І калі хочаш
уладара не баяцца,
заўсёды
твары дабро
і будзеш заўсёды ўхвалу
мець ад яго,
бо ён
Божы слуга —
дзеля тваёй жа карысці.
А калі будзеш
рабіць благое —
асцерагайся,
бо нездарма
носіць ён меч з сабою.
Дык аддавайце,
як і належыць,
Богава — Богу
і Цэзару — Цэзарава.
Каму трэба
мыту аддаць —
аддавайце мыту,
каму трэба даніну —
даніну,
пакору каму —
аддавайце пакору,
каму пашаноту —
дык пашаноту.

Нікому нічога
павінны не заставайцеся,
але адно аднаго
любіце,
у зман не ўзводзьце,
не абгаворвайце,
не ганьбуйце,
ва ўсім падабайцеся
ўладарам,
і ва ўсіх
справах
паказвайце вернасць.

А вашым
духоўным уладарам,
што сядзяць
на Хрыстовым пасадзе
і навучаюць вас гэтаму ж,
што і Хрыстос,
заўжды паслухмяныя
будзьце,
ды з радасцю,
а не з нараканнем,
з бадзёрасцю,
а не з уздыханнем,
бо, як і тыя,
што пасвяць,
яны аб вас
даваць справаздачу мусяць.
Дык жа пашанаю
і любоўю
за іхні вялікі клопат
і за турботы штодзённыя
іх акружайце.
Божая воля на тое —
каб мы,
чынячы добрае,
замыкалі
невуцтву вусны,
загараджалі
дарогу варожасці
і каб свабода
ў нас дзейнічала незмусова,
а не была
заслонаю злосці.
Божыя слугі —
усіх шкадуйце,
брацтва любіце,
бойцеся Бога,
цара ганаруйце,
гаспадарам
з боязнасцю слугуйце,
прытым
не толькі лагодным,
не толькі добрым,
а і благім.

Бо таксама
гэта ўласцівасць любові:
нягоды зносіць,
крыўды цярпець беспавінна
згодна
з сумленнем Божым.
Які вам здабытак
дасца,
якая вас знойдзе
узнагарода,
якая хвала ўвянчае,
калі церпіце,
учыняючы грэх
і вінаватымі будучы?!
Але калі
добрае чыніце
і цярпліва
зносіце пераслeды,
гэта
знаходзіць у Бога водгук.
На тое
вы і пакліканы,
і Хрыстос
цярпеў дзеля нас
і пакінуў
на тое нам прыклад,
каб мы ішлі
следам за ім,—
і няма ў ім граху,
і няма ў яго вуснах
зману.
У гэтым
штодня настаўлялі
сваіх сыноў,
гэтаму пастаянна
іх навучалі —
і кожны, хто хоча,
пераканацца можа,
што не былі бацькі
прычынай таго, што дзеці
благое абагавілі,
добрае занядбалі.
Усіх супольна,
не вылучаючы анікога,
і кожнага паасобку,
нікому не лесцячы,
мы папраўлялі,
падтрымлівалі,
ушчувалі,
ахвоцілі,
павучалі.
Але, як бачым,
яны, каб не чуць
голасу нашага,
пазатыкалі
вушы сабе.
Каго наймацней
гэта, аднак, засмучае?
Каго кранае?
Каго вярэдзіць?

Пакінуў мяне спакой,
мір ад мяне адхінуўся:
з усіх мяцярок
маю найболей бедаў,
маю найменей шчасця.
Куды ні ступлю —
усюды
мне здраду сыны рыхтуюць:
тут глыбачэзныя ямы
капаюць,
там драцяныя цянёты
ставяць,
адгэтуль атрутныя джалы
стромяць,
адтуль атруту смяротную
точаць.
Адны — беспатайна,
другія — патайна,
тыя — з ліслівасцю,
гэтыя — са зласлівасцю,
адны — з перапросьбай,
другія — з пагрозьбай,
але і адным, і другім
нароўні
жыццё мае знелюднела,
і маюць адны і другія
ў нянавісці сваю маці.

Але хіба я баюся?





Хіба я палохаюся?
Ані.
Стаю вось, не тоячыся,
і хай прыйдзе
каторы з маіх сыноў
і ўразіць
жалезам завостраным
мне ў маё
самлелае сэрца.
Хай прыйдзе
і, быццам нітку
прадзіва, абарве
збалелы век
сваёй маці.
Хай прыйдзе —
і ўчыніць здзек
з цела тае,
што яго нарадзіла.
Бо лепей
смерць, чым такое жыццё,
і мілей
адзін раз памерці,
чым паміраць штодня...

Гора вам, пастыры,
што распалохалі,
расцерушылі
і заразілі
хваробай нядбальства авечак
з маіх чародаў:
на вас
збіраецца суд суровы,
і пакаранне
чакае вялікае вас.

Калі соль
страчвае сілу сваю,
чым жа тады саліць
чалавеку спожыць?
Ужо ні да чога
яна не прыдатна,
і застаецца
яе адно толькі
выкінуць прэч
на патаптанне людзям.
Звятрэлая соль,
згаслыя ліхтары,
здзічэлыя кіраўнікі,
сцямнелыя светачы,
аслеплыя павадыры —
вы паўпадалі
у багну нядбальства
і пацягнулі
авечак, давераных вам,
за сабою.
І што
скажаце вы тады,
калі прыйдзе
ваш Уладар і Айцец,
каб выслухаць вашы
адказы і справаздачы,
і папытае пра таленты,
што былі
давераны вам?!.

Як цяжка,
як цяжка
мне будзе ў той дзень,
калі буду
глядзець на згубу
сваіх сыноў!..
Як роспачна мне,
як горка
будзе ў той час, калі
дзеці мае,
што добраахвотна
згасілі святільнік
евангельскай светлыні,
урынуты будуць у апраметны
агонь.

Хто зможа мяне суцешыць
у тую часіну?
Хто зможа стрымаць ручаі
маіх слёз?
Сабе на пакуты
сыноў нарадзіла,
на раны сабе —
дачок.
Лепей бы мне наўпраўду
жыць беспатомнай,
чым бачыць перад сабою
сёння такой талакою
сваіх бязбожных дзяцей.
Лепей бы ім таксама
было не радзіцца,
чым, нарадзіўшыся,
спадкаваць
вечную згубу,
дзе будзе
лягчэй Садому й Гаморы,
чым ім.
Бо слуга,
што ведае волю
свайго Ўладара,
а згодна з ёй не жыве,
пакараны будзе
памножаным пакараннем.

О, архісвятары й святары,
пастыры і вучыцялі
чародаў айцоўскіх,
дакуль
хочаце быць нямымі,
дакуль
будзеце неміласэрна
авечак жэрці?
Вы не спыніліся
на малацэ,
вам не даволі
воўны —
лупіце скуру
і кроў п'яце,
і выкідаеце мяса,
самі
насыціўшыся па горла,
ваўкам, крумкачам.

Занямелі самі
і іншым замок на губы
вешаеце,
а хіба
столькі авечых чародаў
было ў царкоўнай аўчарні
яшчэ нядаўна,
у леташнія гады?
Ці столькі,
колькі цяпер захавалася,
божых душаў
вам было дадзена
у кіраванне,
у справаванне?
Спіце́, пастухі,
а супротнік дбае,
пасопваеце, вартаўнікі,
а д'ябал, як леў,
авечак хапае безабаронных
і аддае адных вечнай згубе,
другіх — брыдкім корцям,
каб вычваралі рэчы,
што даспадобы яму.
Аўчарні
пустошацца вашы
і множацца на вачах
чароды супротнікаў...

Дзе цяпер
святары без заганы,
павадыры без вадаў,
што дбалі б не аб сабе,
рупіліся б не для сябе
і не сабе дагаджалі б,
як патрабуе таго
найвышэйшы
Архісвятар
і як сама я казала.
Ды сёння ў настаўніках
тыя ходзяць,
каго абралі самохаць,
годзячы сваім хібам,
мае сыны,—
паадварочваўшы
вушы свае ад праўды
і прыхінуўшы да баек.

Сябе саміх,
славу,
багацце,
раскошу
яны палюбілі
больш, чым людское
збавенне,
і больш, чым Бога.

А некалі ж мелі
перад вачамі
узор дасканалай набожнасці,
ды, аднак,
людзі скажонага розуму
і падазронай веры,
заўпарціліся яе сіле
і запярэчылі яе праўдзе.
Але няхай —
неўзабаве
адкрыецца ўсім прычына
іхняга шалу
і ўсе пабачаць,
што не з нябеснымі скарбамі,
а з зямнымі,
кахаліся іхнія душы
і думкі цягнуліся іхнія
не ўвышыню,
а ўніз.

У гэтым разладдзі
апанаваў мяне голад —
але не хлеба,
а Божага слова,
і смага адолела —
ды не вады,
а евангельскай глыбіні.
Адняты ў мяне
прарок і настаўнік,
адрынуты ад мяне
пастыр і павадыр:
што з гэтых пракокаў,
што праракуюць,
сваю, а не Божую, волю,
што з пастыраў тых,
што значны
сваім найменнем,
а справаю — бедакі?!

Шмат хто
з пастыраў, што пасталі
над гуртам разумным
Хрыстовым
сёння,
не варты таго, каб стаяць
над аслiным гуртам.
Болей таго:
яны па натуры сваёй
не пастыры,
а ваўкі,
не павадыры,
а львы,
што самі няшчадна
адных авечак зжыраюць,
другімі цмокавы пашчы,
не лічачы, затыкаюць.

О, гарацешны гурт!
Хіба можа
быць пастырам той,
хто сам не вучыўся ніколі
і хто не ведае,
ш т о ён павінен Богу,
ш т о — бліжнім сваім,
і хіба
настаўнікам можа стацца
той, хто з дзіцячага веку
не прысвячаўся навуцы
Святога Пісання,
а бавіўся нейкай іншай,
не адпаведнай
духоўнаму сану,
забавай,
альбо марнаваў абы-як
свой час у гультайстве
і ў абібоцтве.
Але калі стала
цiснуць на скабы нястача
спожыцi і адзення,
а нэндза
шыю круціць пачала,
тады звеставаць узяўся,
не цемячы,
чым яно ёсць,
звеставанне,
як яно дзейсніцца мусіць
і кім.

І без разбору,
без Бога ў душы,
без дабра ў сэрцы,
без розуму ў галаве,
з карчмы
і з двара,
з пабораў у войска
і з войска —
хто як,
хто адкуль,
узяўшы ў пасрэднікі срэбра
і ў памагатыя золата
удзерліся ў Божы дом.
Дык не дзіўна,
што неўзабаве,
у ім не ўтрымаўшыся,
павыпадалі,
ганьбай заплямленыя,
з яго,
і сталі
поруч з прада́ўцамі
праўды Божай,
побач з пярэваратнямі.

Бяда
убогім авечкам,
што маюць
такіх пастухоў,
гора даверлівым,
што ідуць
за гэтакімі павадырамі,
якія
вабяцца прорвай сляпой
і самі
вабяць услед за сабой
астатніх.
Бяда і вам,
праз чыё нядбальства
ўвайшлі ў Божы дом
акаянцы такія,
і вам,
што, нібыта іржа,
што, нібыта цвіль,
яго спусташаеце,
бо і самі
спустошаны будзеце.
Гора, айцы, і вам:
сынамі
не навучыўшыся быць,
зводзіце тытуламі сваімі
дзяцей маіх
і, не выхаваўшы памысна
патомства свайго,
у трухлявых сваіх харомах
селіце Божых сыноў.

Гора таксама
вашым хлуслівым Сімонам:
яны ўвялі
вас у духоўнае пасвячэнне
не для таго,
каб вы
служылі сумленна Богу,
а каб на пасады высокія
узышлі;
і рукі на вас яны ўсклалі
не для таго,
каб вы
спаўнялі братоў вашых
просьбы,
а каб змаглі
цешыць свае заганы.
Сквапныя на ласункі,
хціва
да грошай ахвочыя,
вы адышлі
ад веры праўдзівае
і ўцягнулі
сябе ў безліч немачаў,
процьму хваробаў...

Вось гэтакіх вучыцялёў,
вось гэтакіх павадыроў,
вось гэтакіх кіраўнікоў,
вось гэтакіх пастыраў маю!..
Самі ад голаду
падыхаюць,
а іншых карміць бяруцца,
самі паслеплі,
а іншых мерацца весці,
самі кульгаюць —
ды на абедзве нагі,
а другім
апірышчам хочуць зрабіцца,
самі





у цемрадзі невуцтва тонуць,
а ўсіх
вучыць намагаюцца...

Гора мне,
што такім
нядбайным працаўнікам
даверана,
што ў апеку
аддадзена ненасытным такім
ласунам!..
Гора і вам,
што дарунак Святога Духа
купляеце й прадаяце:
ваша срэбра
на згубу вам будзе.
Не хочаце ведаць
праўды,
не хачаце бачыць
няпраўды,
не хочаце разумець,
адкуль
тыя, што вам даюць,
самі бяруць,
з якога
промыслу багацеюць.

Дояць штодня
малако з авечак,
воўну стрыгуць,
лупяць скуру
і, злупленую, прадаюць,
кормяцца мясам,
крывёй напіваюцца,
ну а лішкі
вам,
прыпадобніўшыся
дабрадзеям,
даюць.
О, круцялі,
а не вучыцялі,
о ліхвяры,
а не ліхтары,
драпастыры,
а не пастыры,
ліскупы,
а не біскупы!..
Павыпадалі з закону
Божае волі,
праклятай мамонаю
гэтага свету
свае ап'янілі душы,
прыробленай маскаю
ашукалі
нявінных Хрыстовых авечак
і яснасць евангельскую
зацьмілі
пошаснаю распустай.

Што
будзеце дзеяць,
калі ад вас
сад вінаградны
адняты будзе
і іншым аддадзены
працаўнікам,
а вы,
спрыязненыя са злом,
як зло,
адпрэчаны будзеце?!
І што
скажаце, калі будзе
сказана так:
«Вы сыны
не Бога, а д'ябла;
ідзіце, праклятыя,
прэч ад мяне,
бо не ведаю вас»?!
І што
скажаце,
калі будзе
сказана гэтак:
«Звяжыце
ім рукі і ногі
і ўкіньце
у цемру знадворную:
будзе там плач
і зубоў скрыгітанне»?!
Бяда
будзе, мае сыны,
вам у часіну тую
і мне гэтаксама:
вам —
церпячы мукі нязносныя,
мне —
бачачы вашу згубу.

О, біскупы, біскупы —
о сыны,
што маткай і бацькам
спагардзілі,
дзеці,
што ўзгадаваліся
у каралеўскіх палацах,
ды ў корчмы і ў буданы
звабіліся сваёй воляй,
дакуль
будзеце спаць,
расслабленыя лянотай,
дакуль
кароста вачэй вашых
вам
мілейшая будзе
за самі вочы?!
Прыйдзіце да водаў
чатырохрэчных
евангельскіх ведаў
і ў іх
твары свае абмыйце
і з розумаў сваіх змыйце
гразь неразумнасці.
Бо хіба
не досыць яшчэ той страты,
што зношу
праз ваша нядбальства,
хіба
не перапоўнілі
меры згубы
золата
срэбра,
перлы
і камяні дарагія,
якімі,
як найслаўнейшая каралева,
была я аздоблена колькі
дзесяткаў гадоў назад?!

Дзе цяпер
той неацэнны камень,
той прамяністы карбункул,
які ў маёй дыядэме
свяціўся між іншых перлін,
як сонца між зорак,
святлом
веры сваёй старажытнай, —
дом
слынных князёў Астрожскіх?
Дзе іншыя
роўна каштоўныя камяні
з гэтай жа дыядэмы —
дзіва-смарагды,
сапфіры-скарбы
і дыяменты-цуды?!

І вось
з гэтакай пышнай шаты
вы, ліхадзеі,
мяне абдзёрлі
і са згалелага
цела майго,
з якога
ўсе выйшлі,
здзекуецеся і смяецеся.
Але пракляты
кожны, хто адтуляе
голае цела маці сваёй —
і вы,
што кпіце з яго
ў дужасці свайго шалу,
клічаце на сябе
праклён.
Яшчэ прыйдзе,
о прыйдзе яшчэ той час,
калі
саромецца гэтага будзеце,
Лепей бы, сапраўды,
было вам не ўведаць праўды
і не спазнаць святла,
чым зараз,
уведаўшы і спазнаўшы,
адкінуць,
згасіць,
затаптаць...

Які ж ты пастыр,
што пастырствам ганарышся,
а зневажаеш Бога?!
Які ж ты святар,
што хвалішся пасвячэннем,
а Божую святасць
пляміш?!
Ні ваша жыццё,
ні звычаі,
ні паводзіны,
ні адзенне,
не сведчаць,
што вы сапраўды святары;
ні розум ваш,
ні размова,
ні ўчынкі
нічога пра ваша
пастырства не гавораць.
Вы карчмары —
у жыцці,
у звычаях —
абібокі,
невукі —
у размове,
лісы —
ў паводзінах
і ў адзенні —
ваўкі.
Яшчэ нешта
аб уласцівасцях вашых
скажу:
ваш розум —
прыстасаванства,
размова — глупства,
забавы — распуста,
і ў іх
гінеце вы
і гіне
той, хто ідзе за вамі.

А для чаго
абраны ты пастырам,
для чаго
прызначаны святаром?
Пасланы,
каб ратаваць,
сам становішся згубай,
пасланы,
каб пасвячаць,
з галавы да ног
упэцканы ў твань,
валяешся ля дарогі,
пасланы,
каб пасвіць даручаны гурт,
канаеш
у нэндзы сам.

Святар запаганены,
пастыр змарнелы,
які ж ты ліхтар,
калі
цемра ў табе пазвівала
гнёзды?!
Якое ж ты вока,
калі не даеш заслеплым
спазнання евангельскай
чысціні?!
І рука якая ж,
калі не выцягваеш
з д'яблавай ямы
тых, што пазвальваліся ў яе?!

Не баіцеся,
сыны безразважныя,
Бога —
дык пасаромейцеся людзей.
Знайдзіце
сэрца сваё —
і сумненне,
як стрэмку,
выцягніце з яго,
і прыйдзіце
да памяці,
а прыйшоўшы,
пакайцеся.

Хоць чалавечай істоце
упасці ўласціва,
але, у адрозненне
ад сатанінскай
закажанелай істоты,
уласціва і ўстаць.
І хоць бы адну гадзіну
вы паслужылі старанна
у садзе свайго Ўладара,
атрымаеце плату
нароўні з тымі,
хто працаваў там
ад самай першай гадзіны
і цэлы дзень зносіў
сонечны сквар.

Суйміце ж
хоць бы ў гадзіну апошнюю
горкія матчыны ўздыхі
і абатрыце
ёй вочы заплаканыя,
каб калі-небудзь на вас
яе крывавыя слёзы
не ўпалі,
а плач няўцешны
вас не спаліў.
Жадайце
быць пастырамі
не найменнем,
а ўменнем,
старайцеся быць святарамі
дбаннем
аб справе, а не аб страве.

Каму ж я кажу
усё гэта
і да каго
звернуты мае словы?
Ці да жалезнай сцяны,
ці на вецер
я іх пускаю?

Быццам са спячымі —
размаўляю,
нібы з няўцямнымі —
гутару,
а замоўкну,
яны, бы спрасонку,
пытаюцца:
«Ты гаварыла нешта?»
Лепей бы мне цягаць
соль і руду жалезную
ў нетрах,
чым са зласліўцамі
знацца,
чым з бессаромнікамі
сустракацца,
чым з дзецьмі зацятымі
размаўляць.

Каму ад гэтага гора?
Мне — гора.
Каму — бяда?
Мне — бяда.
Каму галеча ад гэтага?
мне — галеча.
Каму туга?
Мне.
Я пагарджаная,
я абылганая,
я абакраная,
я прагнаная,
але ж і вам,
што мною спагардзілі, —
гора,
што абылгалі мяне —
бяда,
што абакралі мяне —
галеча,
і што прагналі мяне —
туга.

Сыноўняя непабожнасць —
бацькам знявага,
а матчын праклён,
а матчын праклён —
загуба сынам.

Ператлумачыў
са старапольскай мовы
Алесь РАЗАНАЎ.



# Тодар КОПША

## Я маю твор...



*

Я
маю
твор
трава
малюе
твар
вартуе
аўтар

*

адтуліны
лятуць
у лета
дулі
дуб
у літве
у туле
дубальтоўка

# Анжаліна ДАБРАВОЛЬСКАЯ



## *Рысы далоні Тваёй*

*

Вершы - як сьлёзы·
хочаш - ня плачаш,
плачаш - ня хочаш

### Над Сьвіслаччу

птушынае пяро панесла хваля
крыло асірацела
верш патануў у водах Леты

*

Вы бачылі
куды
пайшоў дождж?

*

Ад тлуму зямнога і гною
у нябёсы ўцякае сланечнік -
наіўнае сонца зямное

*

у пражылках ліста
бачу рысы далоні Тваёй
вітаю Цябе

*

хвіля, спыніся!
зараз
ліст упадзе

### Басё

**1**
Рэха Тваё
адгукнулася мне ля Каложы
голас - адзіны

**2**
Схаваюся ў хоку:
у пялёстку
ракавіны марской

*

Бачу сьвет
вачыма стомленай кроплі
якая ціха паўзе праз аконнае шкло

*

Полымя белага сьвятла -
у падсьвечніку
згасае ноч

*

Закаханыя:
два ягняці
на адным ахвярніку

*

П'еш жыцьцё
- ваду з калодзежа свайго
ці чужога

*

у сказе я - проста кропка,
у слове я - проста рыска,
у знаку я - проста сьлед...



# ЗЬНІЧ





## *ПАКАЯНЬНЕ - ПАД ЗОРКАЙ-ПАЛЫН...*

.. у «мяшанца» - няпросты лёс:
ён паўсюдна - самотны чужынец...
ды мігціць яму зорны гасьцінец -
уваскрослы м я ш а н е ц
Хрыстос ..

. . . . . . . . .

.. на правох небаракі-мяшанца
(ён - нялюбы `ўва ўсіх «лягерох»)
паспрабую ўраз разабрацца
у «чужых» і ўва ЎЛАСНЫХ грахох ...

. . .

... хай-жа-ж Немчыкі будуць узорам
пакаяньня й цярпеньня - у с і м !
хай народы, што змоўклі зусім,
cтануць - В е л ь к і м -
маўклівым дакорам ...

... ня ўважце за блюз, ці за
scherzo
тое, што зарыфмару цяпер:
хай блюзнерыць ці кпіць малавер -
большае за Сусьвет
м а ё с э р ц а .

большае й за народ. і за людзтва...
бо ў ім - і шатан.. і Гасподзь..
акаянная рэўнасьць - выходзь
з маіх хцівых, парэпаных вуснаў!..

. . . . . . . . . . . . . . .

плач, як Пётра,
народ Бела-Русаў, -
бо ты здраджваў веры бацькоў
больш, чым тройчы ..
ў абдымках братоў ..
пад чужынцам, што ў сэрца
плявузгаў ..

... апаганьваў сядзібы паноў ..
Храмы Божыя... людзкія гнёзды ..
ды мяняў у спакусах стагодзьдзяў
на гарэзаў - сваіх Сьвятароў ...

. . . . . . . . . . .

плач, нашчадак Імпэрыі Русаў:
бацька браў і Парыж... і Бэрлін...
а цяпер - без вайны! - кволы сын
адыходзіць амаль да... Тарусы ..

. . . . .

... сьпіс грахоў можна доўжыць
б я с к о н ц а
і ўсе яны - пэўна-ж! -
м а е -
перад Тым, Хто з Крыжа паўстае
даравaньня і літасьці Сонцам

Далібог, столькі зла на Зямлі -
што і ў Ангелаў сіл нехапае ...
і Хрыстос
н е м а ў л я т а к
г у к а е ,
каб - за нас! -
памаліцца маглі ...

# Язэп ПАЛУБЯТКА



## СМЕРЦЬ КРУМКАЧА

Трыста гадоў жыў крумкач.

Трыста гадоў войны давалі яму спажыву.

Трыста гадоў ласаваўся ён вачыма безвінных ахвяраў, трыста гадоў сваім хрыплым голасам наводзіў жах на людзей і звяроў, прадказваючы ім пагібель. І ніколі не памыляўся.

Здавалася пачварнаму птаху, што ён будзе жыць бясконца-вечна...

На трыста першым годзе спынілася сэрца ненавіснай усім птушкі.

Упаў крумкач на зямлю і сам ператварыўся ў тло.

Змоўклі людзі і звяры, чакаючы, хто будзе зноў прадвяшчаць ім няшчасце.

## СТАРЫ ЗАНАТОЎНІК

З кожнай старонкі гамоняць людзі.

Клічуць да сябе перакрэсленымі адрасамі і тэлефонамі.

Кажуць слёзна мне свае крыўды.

Злуюцца на мяне,

Лаюць мяне,

Просяць прабачэння

Былыя сябры, знаёмыя, палюбоўніцы, каханыя.

Мінулае не вяртаецца.

Я кідаю стары занатоўнік у далёкі кут шуфляды ды купляю новы.

З асалодаю пішу адрасы і тэлефоны

Новых знаёмых, сяброў ды каханак.

З цягам часу і гэты занатоўнік будзе спісаны і скрэслены.

## МАЁ ЖЫЦЦЁ

Вакол мяне паміраюць людзі. чужынцы, знаёмыя, сваякі.

Усё жыццё хаўтуры: слёзы, галашэнні, невялічкі ўзгорак і тры чаркі за светлую памяць жыўшага на зямлі.

Усё гэта мне напамінае кола. Яно круціцца то паволі, то шпарчэй. Паварот - і ўсё паўтараецца. жалобныя твары, чорныя хусткі, свежагабляваныя дошкі і зноў тыя ж тры чаркі.

Мне робіцца страшна, і я мкну вырвацца з гэтага круга.

Некуды бягу, натыкаюся на сцены будынкаў і ўсё роўна застаюся ў межах нябачнага абмежавання, дзе адны хаўтуры змяняюць другія.

Адно выйсце, адзін спосаб перабароць непазбежнае - гэта памерці.

Але - пытанне, што мушу вырашыць, - **як?!.**



# Мікола КУПРЭЕЎ





*ВЕРШЫ*

З Міколам КУПРЭЕВЫМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

СПАТКАННЕ З ПАЭТАМ

КАБ УГЛЕДЗЕЦЬ КРЫЛО АДЛЯТАЮЧАГА ЖУРАЎЛЯ

ПОЙДЗЕМ У ХАРОШША

НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

Вершаў дастаткова...

ПОГЛЯД ПРАЗ ГАДЫ

Правінцыйная гісторыя, напісаная ў сааўтарстве з героем

*З Табой:*

# З Міколам КУПРЭЕВЫМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Г.** Мікола, даволі пагаманілі мы з табою сам-насам, а вось зараз давай рызыкнём пагаварыць «на людзі». Усё вельмі проста, прынамсі, як для мяне, тэлевізійнага журналіста, які звык варушыць чалавечыя душы Вось цыгарэты, вось кава. Кавы не п'еш? . Пачакай, гляну ў буфет

Ну што, цяпер можна пачынаць? А з чаго ж нам пачаць? Давай з каламбура: з чаго і з каго пачаўся паэт Мікола Купрэеў?

**К.** . Упэўнены, ніхто з Паэтаў (сябе я, канечне, не адношу да гэтай шаноўнай касты з вялікай літары) не помніць, з чаго і з каго пачаўся Як ніхто з людзей не помніць сваіх першых крокаў па зямлі, сваіх першых вымаўленых словаў Толькі версіфікатар, графаман можа сказаць. з таго і таго, тады і там. А юны чалавек са шчымлівай, трапяткой душою не скажа, нават не шапне, а проста няўцямна падумае нейкімі дзівоснымі словамі, можа — у лесе, можа — ля ракі, можа — ля вакна, расчыненага насцеж у сонечна-зялёны ранішні свет на родным падворку, а можа, і хутчэй за ўсё, крыху пазней — ля слядоў дзяўчынкі, калі цікаваў за ёю з-за дрэва, з-за куста, ці ля яе блізкага дыхання за пярэдняй партай; а можа — калі вучыў і ніяк не мог вывучыць на памяць «Мой родны кут! Як ты мне мілы! .» Не мог вывучыць на памяць таму, што побач з коласаўскім словам раптам страпянулася апантанымі крылцамі і сваё слова.. Але ён нічога гэтага ўжо не помніць — бо то быў проста працяг жыцця, але жыцця нейкага нетутэйшага.

Настаўнік прыходзіць да паэтычнага пачаткоўца сам Дакладней· патэнцыяльны настаўнік-паэт і патэнцыяльны вучань-паэт ідуць, імкнуцца адзін да аднаго на сустрэчу і, сустрэўшыся, злучаюцца ў адну душу Той настаўнік можа быць жывым сучаснікам, а можа быць ужо даўно па-за сваёй фізіялагічнай існасцю, але — не па-за паэзіяй. І неабходна, каб (калі настаўнік — жывы) вучань хоць зрэдку паказваў-чытаў яму свае творы· яны ж злучыліся ў адну душу, і таму таленавітаму пачаткоўцу дастаткова гэтага — павяраць свой радок (!) духоўнай і фармальнай, эстэтычнай сутнасцю паэзіі куміра. Паўтаруся. павяраць сутнасцю, а не радком яго, не слоўнікам яго...

Такое адбываецца калі пачатковец жадае, хоча настаўніка-паэта (дарэчы, настаўнікамі-натхняльнікамі могуць аказацца і празаікі, напрыклад. І.Бунін, К.Гамсун, М.Гарэцкі, Я.Брыль).

Але ж былі, і ёсць, і будуць пачаткоўцы-"адзінцы", пры тым — зацятыя, якія ад усіх адмахваюцца рукамі, упарта ўцякаюць ад усякіх уплываў, хоць нехта ж некалі і даў ім паэтычны штуршок, ДАЎ ПА СЭРЦЫ.

Але мы тут гаворым пра тое, як бывае — пра настаўніцтва і вучнёўства.

У маім сціплым выпадку ўсё, здаецца, пачалося з «Кургана» Янкі Купалы. «Курган» я ўпершыню прачытаў (ці пачуў — не помню) у другім ці трэцім класе, і паэма мяне так уразіла, што я доўга маўчаў у сваім кутку ў хаце,— уразіла нейкай дзівоснай, незразумелай тады, і прыгожай, і страшнай музыкай, сваімі не ўсюды зразумелымі і, зноў жа, страшнымі словамі. Гэта было насланнё, начараванне, штуршок (каторы помніцца) на задуменнасць у сваім кутку, у сваіх кутках. .

Настаўнікам маім Янка Купала не стаў У юнацтве растрывожылі мяне, шапнулі мне сесці перад чыстым аркушам паперы і нешта (нешта!) напісаць на ім Максім Багдановіч і Аляксандр Блок. Доўга пакутаваў іх музыкай і раскаванасцю (у «Страцім-лебедзі», у «Вольных мыслях»). А крыху пазней, але ўсё яшчэ ў юнацтве добра-такі патрывожылі палякі Галчынскі і Тувім, іспанец Лорка, француз Прэвер, летувіс Марцінкявічус. Але і яны настаўнікамі, у вузкім значэнні гэтага слова, не сталі, як не маглі імі стаць ні для кога. Ага!.. Усе

## *МАЯ МУЗА*

*Вечар*
*па гострым камені цягнуў*
*мае ногі,*
*на апошніх дыханнях я збочыў*
*з дарогі,*
*пад вярбою старою ўкленчыў,*
*яна вецце мне палажыла на плечы.*

*І ўжо не прасіў я ні ў чорта,*
*ні ў бога —*
*прасіў у вярбы: «Дапаўзці да парога*
*дзедавай хаты... дзе тая сцежка?*
*Дзе той палын на жытнёвым*
*узмежку?..»*
*Але дрэва ніколі нічога не скажа.*
*Ніякая зорка шлях не пакажа.*

*Лёг на карэнне, пад халоднай*
*расою,*
*і жанчына прыйшла з бела-русай*
*касою,*
*шапнула: «Я — муза твая,*
*я — даярка на ферме.*
*Хочаш — са мною за вугал*
*завернем,*
*напаю малаком, накармлю каласамі*
*і пойдзем у ночку цёплымі*
*верасамі».*

*Я адпіхнуў яе кволай рукою*
*і камень штурхнуў за музай сваёю:*
*«Чаму не была ты са мною ўчора,*
*як ішоў я пад небам чорным*
*па гэтым камені, па гэтым балоце,*
*па калючым, іржавым дроце?!»*
*Яна камень злавіла, у цыцках*
*схавала*
*і там, за вуглом, рагатала:*

*«Глядзіце, глядзіце!*
*Паўзе ад дарогі*
*праўдашукальнік, паэт бязногі.*
*Некалі я яго звала за поле,*
*я ўсё яму несла ў сваім прыполе:*
*хлеба акраец, рамонак і жаўранка*
*з неба —*
*пад куст калінавы на расцярэбе»...*

*...Ішоў процьму гадоў па камені*
*гострым*
*да музы-дзяўчынкі ў далёкі*
*Востраў...*

*Спыняліся чорныя «Волгі»,*
*глядзелі старшыні,*
*грымела рок-музыка ў кожнай*
*машыне...*
*За паўметра ад роднага плота*
*ўранні*
*мне дзедаў сабака залізвае раны.*

## *ЁН і ЯНА*

*Азіралася: Ён бег І падаў — і тады*
*Яна ўрачыста рагатала,*
*паказвала на райскія сады,*
*крычала: «Закахаю!» — і знікала.*

*Ён у тыя райскія сады*
*ўрываўся разгарачана-знямоглы.*
*І здрадзіў Ёй: шукаў вады.*
*А ў садах крыніцы перасохлі.*

*Памудрэў. Лёг на спіну.*
*Услухаўся ў зямныя нетры —*
*пачуў глыбокую струну*

# СПАТКАННЕ З ПАЭТАМ

**З усіх маіх школьных гадоў нязменна яркім застаецца 1963-і, асабліва пачаткам верасня. Тады нашая школа поўнілася святочнасцю не толькі ад вымытых вокнаў, выбеленых сцен і партаў, а і ад прыгожых маладых абліччаў новых настаўніц і настаўнікаў, што прыехалі ў вялікую, але даволі глухую вёску Чудзін адразу ўшасцёх ці ўсямёх. І сярод іх — завуч, высокі і дужа зграбны бялявец у гарнітуры-тройцы. Інтэлігент як ёсць. Строга праходзіў па калідоры, кароценька рабіў заўвагі ці скупа задаваў пытанні сустрэчным вучням, аднак, здавалася, быў заглыблены ў сябе. Свавольнікі (і я таксама) пабойваліся і слухаліся не гэтай ягонай строгасці як завуча, а найперш ягоных высакародных, сумна-дакорлівых вачэй, у якіх свяціліся недасягальны для нас досвед і адухоўленасць.**

**Міколам Купрэевым ён стаў для мяне крыху пазней, калі на старонках ганцавіцкай раёнкі пачалі зрэдзьчасу з'яўляцца ягоныя вершы. А пакуль што я толькі здагадваўся, што да нас прыехаў паэт. Не скажу, ці ведае дасюль сам Мікола Сымонавіч — у гэтым я не адкрываўся яму, але неяк хутка з'явіўся ў яго і адпаведны «псеўданім»: Пушкін. Ці з-за яго некароткіх кучаравых валасоў, найбольш густых на скронях? Ці з-за прадмета, які ён выкладаў,— рускай мовы і літаратуры? Ці проста паводле стэрэатыпу?.. І самае прыкрае: вельмі можа быць, што менавіта з маіх вуснаў упершыню зляцела тое недарэчнае слоўца-мяно.**

**Ішоў урок літаратуры, акурат пушкінскі. Прачытаць перад класам «В Сибирь» настаўнік прапанаваў мне. Не паспеў я прагаварыць — іменна прагаварыць — і дзве страфы, як быў рашуча спынены: Мікола Сымонавіч пачаў чытаць сам. У нас перахапіла дыханне! Чытаў настаўнік так пранікнёна, нібыта быў аўтарам верша, нібыта гэта сам Пушкін стаяў зараз перад намі...**

**Сёння я нізавошта не даўяўляўся б да такога параўнання. Мікола Купрэеў для мяне — цалкам беларускі інтэлігент і беларускі паэт. З шырокім мысленнем і дасведчанасцю ў еўрапейскай і сусветнай культуры. Філасофская глыбіня ў ягоных вершах дзівосна спалучаецца з прастатою інтанацыі і прыземленасцю вобраза, ад чаго гэткі вобраз і натуральны, і важкі:**

*...І я забуду,*
*што даўно ўжо, даўно ўжо*

*ў далёкім краі вербным.*

*І пайшоў на голас той —*
*вярнуўся ў роднае Палессе.*
*Спатоліў смагу прыпяцкай вадой*
*і ўсякі іншы рай закрэсліў.*

*І так качаўся па траве,*
*рагатаў з высокіх сосен.*
*Але прыйшоў зялёнавей,*
*верасы спаліла восень.*

*Тысячы гадоў маліў*
*пад халодным дрэвам —*
*і прашапталася ў камлі:*
*«Я згарэлага не грэю».*

*Ён зрабіў з ляшчыны лук —*
*пусціў стралу у голас.*
*Але пара лебядзіных рук*
*над ім расла з нябёсаў.*

*Яна зламаную стралу*
*да ног Ягоных палажыла:*
*«Пакуль рабіў ты ўнізе лук,*
*я ў небе з Марсам саграшыла».*

## *БАЛАДА АБ ПАКІНУТЫМ МАЛЕНСТВЕ*

*Яно хавалася на дрэвах,*
*язык паказвала з галля,*
*бегла голае па рэках,*
*васільком цвіло ў палях...*

*...Тады ўскочыў на каня я —*
*азірнуўся: даганяе.*
*Я прышпорыў — уцяклі*
*па зямлі, зямлі, зямлі.*

*Стаміўся*
*ў краях, краях.*

згаданыя мною паэты, пачынаючы ад Купалы, зліліся для мяне ў адну Асобу, асобу Паэта, да якое хацела далучыцца і мая перыферыйная душа.

Калі мы павялі ўжо гаворку пра настаўнікаў і вучняў, дык хачу тут успомніць...

Калі я ў 50-х гадах вучыўся ў Івацэвіцкай сярэдняй школе, там працаваў завучам Якаў Дзмітравіч Янчанка, выкладчык рускай літаратуры, інвалід вайны. У яго быў прыгожы адухоўлены твар. На школьных вечарынах ён чытаў са сцэны паэмы Пушкіна. Да вайны Якаў Дзмітравіч вучыўся ў мастацкім інстытуце. Пасля вайны давялося, замест мастацкага, канчаць філалагічны факультэт універсітэта. Але ён не кінуў жывапіс навучыўся малявацъ левай рукой. У калідорах, кабінетах школы віселі яго карціны Ён «заразіў» школу· шмат хто з вучняў, асабліва хлопцы, сталі маляваць — дома, у школе, нават на ўроках матэматыкі Прафесійных мастакоў з нас не выйшла, але, ведаю, некаторыя і цяпер, пад старасць, працягваюць маляваць, і нават няблага. (Дарэчы, некалькі гадоў таму ў «Нёмане» былі апублікаваны вершы таго ж Янчанкі.)

А цяпер пра сябе ў падобнай сітуацыі Хоць твар мой і не прыгожы, і не адухоўлены, як у таго нашага завуча. У шасцідзесятых гадах я працаваў завучам Чудзінскай сярэдняй школы Ганцавіцкага раёна, на былым маляўнічым беразе былой ракі Лані Я ўжо лічыўся маладым паэтам, друкаваўся ў «Маладосці» і мясцовых газетах. Мае вучні ведалі пра гэта. Адзін з іх — Алесь Каско — усур'ёз заняўся паэзіяй і з цягам часу стаў вядомым паэтам, выдаў некалькі зборнікаў і цяпер нават узначальвае Брэсцкае абласное аддзяленне СП Беларусі.

Потым я працаваў у Сташанах Пінскага раёна, таксама ў школе. Тут мае вучні ведалі, што ў мяне ўжо ёсць кніжачка вершаў Гэта некаторых з іх інтрыгавала і «падбівала» на свае вершы Сярод гэтых некаторых былі Мікола Антаноўскі і Анатоль Шушко. Нядаўна і той, і другі выдалі пад эгідай «Маладосці» свае, хоць і крыху запозненыя, паэтычныя зборнікі. Дык вось. усе трое, калі былі вучнямі, вершаў мне сваіх не паказвалі. Як прызнаваліся пасля Каско і Шушко,— яны саромеліся іх паказваць, а былі, паўтаруся, проста заінтрыгаваны: «Як так? Наш настаўнік піша вершы. А мы што — не можам?» Толя Шушко прызнаўся нават у тым, што цікаваў за мною з-за дрэва, з-за куста, калі я летам прыходзіў да сажалкі, і ён глядзеў, ці пішу я там што. А потым ён прыходзіў дахаты і пісаў сам. Тым летам, калі Толя канчаў сярэднюю школу, яго першыя (!) вершы былі надрукаваны ў газеце «Літаратура і Мастацтва» І цяпер я рады, што гэтыя тры хлопцы працуюць у паэзіі больш апантана, чым іх былы школьны настаўнік. От як бывае!

Вось і ты, прабач, Лёня, нагадваеш зараз вучня, якому не абрыдзела слухаць настаўніка. У старасці ўсе мы любім пагаварыць-паўспамінаць. Але ты, відаць, яшчэ ў тым узросце, калі маюць патрэбу слухаць.

**Г.** Ведаеш, цябе можна слухаць мова ж вельмі народная, не літаратурная ў пэўным сэнсе, хоць русізмы там-сям. Вось пра мову і добра было б працягнуць нашу гаворку.

**К.** Усё пачынаецца з роднага слова, схаванага глыбока ўнутры, удыхнутага ў сябе, а потым лёгка выдыхнутага разам з родным паветрам. Мне на гэты конт, асабліва напачатку, не надта пашанцавала. Глядзі Мая Рагачоўшчына Бацькава і матчына вёскі ля Дняпра Нашчадкі радзімічаў Зямля гэтая была калыскай найшчырэйшых беларусаў Ядвігіна Ш , Андрэя Макаёнка, Міколы Сурначова, Алеся Жаўрука, была дзяцінствам і маладосцю Міхася Лынькова, «запасным» прытулкам (па найбліжэйшай радні) і творчым жнівом для Уладзіміра Караткевіча. І ад такой беларушчыны я быў адарваны (пераезд сям'і) у дзесяцігадовым узросце. На Старапескаўскіх вуліцах у Бярозаўскім раёне я здружыўся з заходнепаляшуцкай моўнай стыхіяй. Але мова далёкай радзімы яшчэ дыхала ўва мне, да таго ж яна сілкавалася беларускімі ўрокамі ў школе. І таму, калі я, вучань сямігодкі, напісаў там свой першы, па-дзіцячы наіўны, верш пра Першамай,— напісаны ён быў па-беларуску

(Дарэчы, прыкладна ў той час у суседняй вёсцы Нівы падрастала Ніна Мацяш, а па той бок чыгункі Масква—Брэст, у Сяльцы, лазіў у чужы сад па яблыкі двух-трохгадовы Алесь Разанаў,— можа, тады ўжо Алесь задумаўся пра яблык Н'ютана?)

**Г.** Ну, наўрад ці ў такім малочным узросце Алесь Сцяпанавіч прылучаўся да сялянскай шкоды і гарадской мудрасці Ранавата.

**К.** Прабач, загаварыўся. З матэматыкай у мяне не зусім гладка было. .

Аднак да таго вярнуся... Недзе тады ж маленькая Райка Баравікова паехала з Бярозы на Магілёўшчыну



*Пасівелы конь стаіўся*
*на далёкіх берагах.*

*Але раптам заіржаў ён,*
*кінуў небу галаву,*
*капытом сваім дзяржаўна*
*біў маленькую траву,—*

*зелянела*
*капыту наперакор,*
*узнялася, паляцела*
*ў сіні бор, далёкі бор.*

*Святое штосьці*
*растрывожыла трава,*
*і паціху, як у госці,*
*пайшла кругам галава,*

*пайшлі ногі, пайшлі жылы*
*ў сіні бор, далёкі бор —*
*нейкі птах зялёны крылы*
*прада мною распасцёр...*

*Галаву схіліўшы долу,*
*я вярнуўся да каня,*
*але ён спіной крутою*
*мяне ў полі не прыняў.*

*І пайшоў за ім я моўчкі*
*праз асенні жоўты сад.*
*У варотах чорнай ночы*
*біўся белы снегапад.*

*...Шчаслівы*
*па той бок зямлі:*
*у бары далёкім, сінім*
*вечны рогат у галлі.*

## *НОВЫ ЦЫКЛОП*

*У пячоры светла і цёпла.*
*Вольны з пячоры выхад.*

*ў небе клін адгарэў*
*жураўліны*
*і што дзесьці далёка*
*ў балотцах*
*мерзнуць пакінутыя*
*журавіны.*

**Адгарэў... Мерзнуць журавіны... Вобразы дзейнічаюць на нас амаль фізічна. Патухлы жар зберагае цеплыню і працінае сэрца. Як развітальна-шчымлівая мелодыя славутага паланеза Міхала Агінскага (верш «Паланез Агінскага»).**

**У Купрэева не лёгкасць радка, не «изящность», а толькі разняволенасць. І ніякага лішку творчага майстэрства. І нельга Купрэева залічыць у «вершарубы» — якраз праз нязмушанасць паэтычнага складу, праз яго гарманічнасць, дзе няма ні следу ад «сякеры». Слова ў паэта эстэтычна выверанае, падпарадкаванае матыву, ідэі верша: нават адпілаваная *рука* дуба, што падае ў кузаў грузавіка, не ўспрымаецца за вобраз натуралістычны ("Маналог дуба").**

**Памятаю, калі ў 1967 годзе выйшаў зборнік «Непазбежнасць», рэцэнзенты, бы згаворанымя, узяліся крытыкаваць верш «Замест лекцыі пра жыццё», адзін з самых, на маю думку, лепшых у кніжцы. Нібыта за манернасць. Не ўхвалялася між тым гэтак званая «безыдэйнасць», палемічна падкрэсленая назваю твора. Якая, да д'ябла, манернасць, калі верш гэты проста выдыхнуты аўтарам! Такога згустку пачуцця, такой сканцэнтраванасці думкі шукаць ды шукаць у тамах шматлікіх класікаў сацыялістычнага рэалізму. Быў я ўзрушаны неймаверна:**

*Сонца паліла — дажджу*
*хацелася,*
*дажджы наваліліся — сонца*
*хацелася.*
*Быў юнаком — пасталець*
*хацелася,*
*выйшаў за трыццаць —*
*юнацтва схацелася.*
*Стаў паміраць — жыць*
*захацелася*
*у сонцы, у ліўнях,*
*у юнацтве, у сталасці,—*
*і таму, што жыў — жыў на*
*зямлі! —*
*плакаў прад сконам ад гора*
*і радасці.*

**Цытую па памяці. Зборніка таго даўно няма ў мяне — вярнуў настаўніку, які, урэшце, яго не збярог таксама. І не ў кожнай бібліятэцы ёсць «Непазбежнасць»: разабралі... Я рады. Паэзія Міколы Купрэева жыла і жыве ўва мне, як і ў сотнях, а мо і тысячах іншых чытачоў. І на сцяжынцы ў літаратуру, блаславёны Міколам Сымонавічам, я арыентаваўся на яе — на вершы «Непазбежнасць», «Замест лекцыі пра жыццё», «Жуpавы не пралятаюць міма», «Паланез Агінскага», «Я хацеў вам сказаць...» Мне радасна, што добрая палова першага і пакуль што (!) адзінага зборніка створана паэтам у маім родным Чудзіне.**

**Рады яшчэ і таму, што ў Паэта ўжо даўно, дзякаваць Богу, адкрылася другое дыханне, і сустрэчы з ім працягваюцца.**

**Алесь КАСКО**

*Цалуе Цыклоп мяне ў горла —*
*аж не дае мне дыхаць.*

*І старажытна рагоча:*
*«Папаўся — паэт! — у лапы,*
*гамеравай славы хоча*
*і яшчэ волі да славы!*

*Герояў было нямала,*
*за імі сачыў я зорка,—*
*Кабзары і Купалы,*
*Мандэльштамы і Лоркі.*

*Але ты хто, Мікола?*
*Чаго ты? Адкуль ты?*
*Якое трасцы, з якое долі*
*шукаў у мяне пакутаў?*

*І — на дошцы па моры!*
*Ах вы, новыя адысеі,*
*сядзелі б сабе ў канторах,*
*паціху паўнелі б, лыселі.*

*Дзе меч? Дзе згубіў сваю дзіду?*
*Што мне тваё санеты!*
*Якую Ітаку-радзіму*
*змяніў на пячору гэту?»*

*Выпхнуў на волю. Круча*
*над старажытным морам.*
*Ляцяць адысеі па хвалях грымучых*
*і паэты ў вышынях зорных.*

*Цыклоп камянямі крутымі*
*заваліў уваход у пячору:*
*«Не пушчу! Тыя былі святымі,*
*яны — маё вечнае гора».*

*Да мяне ён схіліўся нізка,*
*на ўсход паварнуў за плечы:*
*«Там, на лугах альпійскіх,*
*шукай і пасі мне авечак».*

І пасля гэтай «паляшуцкай» Бярозаўшчыны я стаў вучнем-старшакласнікам рускамоўнай Івацэвіцкай школы, а затым — студэнтам-філфакаўцам ушчэнт зрусіфікаванага тады, у другой палове 50-х гадоў, педінстытута імя Пушкіна ў Брэсце — горадзе з вуліцамі Гогаля, Лермантава, Талстога Тургенева, Маякоўскага, Шолахава Міцкевіча, Шаўчэнкі але без вуліцы Купалы (цяпер такая, нават з рэстаранам «Паўлінка», у адным з мікрараёнаў ёсць). Да ўсяго, гэтая — хатняя, у сям'і, «вучыцельская» — моўная трасянка Але ж паехалі мы на Брэстчыну, калі мне было ўжо дзесяць гадоў, і таму жывое роднае слова колькі часу яшчэ стаяла ў дзіцячай памятлівай душы ("А мая ж ты, таячка, а хадзі ж ты сюды! Можа, кулагі пасёрбаеш? Акы-ыш, пранцаватыя!" — так казала мая баба Марфа ля варотаў дзяўчынцы-сіраціне і праганяла курэй з гародчыка. Дарэчы, у хатах маіх абодвух дзядоў я не чуў паганых, «мацюжных» словаў, занесеных на Беларусь вятрамі з усходу «Пранцаватыя», «пранцы» — гэта адзіная, лічы, лаянка ад французаў 1812 года, «пранцы» — ад «французы» .)

Генная памяць матчынай мовы жывучая . У маім выпадку — дзедавай, бабінай мовы Я не ведаю і не помню, як і што гаварыла мая маці яе забілі ў вайну, калі мне было пяць гадоў.

От гэткія мае стасункі з роднай мовай, таму пачаў я пісаць «вершыкі» па-беларуску, а крыху пазней прозу — па-расейску Я быў радасна здзіўлены, калі мяне, дзевяцікласніка, паклікалі на абласную нараду маладых пісьменнікаў. Там я заікаючыся яшчэ больш, чым цяпер, чытаў свае мініяцюры перад Янкам Брылём, і ён ухваліў іх — тым самым велікадушна заахвоціў мяне да далейшай, як кажуць, творчасці Потым мініяцюры мае былі надрукаваны ў альманаху «Советская отчизна» (цяпер часопіс «Нёман»). А потым, ужо будучы студэнтам, я напісаў аповесць з такой рамантычнай назвай. «Бродят на рассвете юные» Рукапіс чыталі Янка Брыль і Барыс Бур'ян (апошні — ужо ў «Нёмане») Яны зрабілі мноства крытычных заўваг, але ў цэлым ухвалілі, параілі, як давесці пісаніну да ладу. Ды на той час я ўжо працаваў у Ляхавіцкім раёне (вёска Пранчакі, адкуль родам паэт-песеннік Леанід Пранчак), жыў-гасцяваў у цешчы ў Клецкім раёне, на беразе колішняй рамантычна-прыгожай рэчкі Начы, а мова ў гэтым краі чысцюткая, не засмечаная ні з захаду, ні з усходу (ты, браце, ведаеш гэта так добра, як ніхто іншы).



Вось тут лёгка і назаўжды вярнуўся толькі ў роднае — пісаў толькі вершы і толькі на сваёй мове. А тую аповесць падчас адной сваёй вандроўкі па Палессі я закінуў на гарышча ў аднаго знаёмага мужыка — а ён распальваў рукапісам аповесці дровы ў печы Усё ж карысць ад яе нейкая была.. Мне сорамна перад самім сабой за сваю прозу не ў роднай мове. Ад таго сарамоцця я нават не асмеліўся падзякаваць Янку Брылю за страчаны час... Ніякаватасць перад ім нашу па сённяя А сваё тое, даўняе ўжо, «рэнегацтва» нейк вытлумачваю сам сабе творчым лёсам такіх нашых літаратараў, як Казько, Тарас, Ждан, Някляеў .

А калі адкінуць усю гэтую маю гаварыльню і коратка адказаць на пытанне: з чаго пачаўся паэт Мікола Купрэеў? Я адказаў бы так. захацелася сказаць нешта такое самому сабе, што мяне ж самога і здзівіла. А сказаў я так: «Сонца ўзышло і пабег ручаёк» І здзівіўся ног жа ў сонца няма і ў ручайка няма. Толькі потым я дацяміў· я проста паўтарыў, сказаў тое, што казалі мае продкі сотні гадоў. Так што пачаў я з найгрубейшага плагіяту.

**Г.** Ты ўжо вопытны чалавек і не менш вопытны літаратар. Панюхаў удосталь, як гавораць, і потнага хлеба і застольнага чарніла.. І ў чым усё-ткі больш сэнсу — у жыцці-быцці ці ў паэзіі?

**К.** У жыцці (асабліва ў нашым учарашнім і сённяшнім) сэнс разбэрсаны, парваны. Яго тут трэба ўвесь час «збіраць», склейваць разбіты сэнс потам мазгоў,— не дай Бог крывёю. У паэзіі сэнсу больш-менш утульна. А што гэта такое, дарэчы,—сэнс жыцця? Можа, проста — жыць па-чалавечы, па-Боску. Да гэтага і просіць людзей ісці паэзія, песня, асабліва беларуская народная лірычная жаночая песня У ідэальным грамадстве (а ці было калі такое і ці будзе?) сэнс жыцця і сэнс паэзіі (увогуле сэнс мастацтва) — і гэта натуральна — павінны быць як адзін сэнс.

**Г.** Само па сабе напрошваецца пытанне: паэт і грамадства. «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан» ..

**К.** ..І ў дружбе, і нават ва ўзаемнай любові клянуцца, і — варагуюць, а грамадства ў аблічча дзяржавы нават на шыбеніцы валакло сваіх лепшых паэтаў, а потым велікадушна, яшчэ пры жыцці паэта ці пасля яго пагібелі, выходзіла да літасці. Францыа Віён быў асуджаны на смерць. Але перад шыбеніцай яму пашанцавала: ён прыняў удзел у турніры па-

* * *

*Як мне жывецца ў маім Хаосе? —*

*Мой утульна-няўтульны Хаос*
*лесам калючым і мяккім разросся*
*і горка-салодкую чару паднёс:*
*п'ю з тае чары — смяюся і плачу;*
*ля вокнаў балююць зайцы і ваўкі;*
*спыніўся Дняпро ля скалечанай*
*Начы;*
*сноп развязаўся — рассыпаў вякі;*
*у хату ідуць акупанты і госці;*
*каханне і здрада; ціша і тлум;*
*дзяды мае спяць на адным*
*пагосце —*
*калгаснік Іван, аднаасобнік Навум;*
*цягнуць мяне з маім чорным лёсам*
*д'ябал — у пекла, анёлак — у рай...*

*Між Ладам тваім і маім Хаосам*
*от і жыві тут — хоць памірай.*

### БОГАВЫ ЛАПЦІ

*І Бог з'явіўся. У лапцях,*
*стомлены, сухі. І торба*
*ў яго вісела на касцях.*
*Усміхнуўся Божа горка.*

*Стаў прада мною. Сухара*
*грызу, вадою запіваю.*
*«А ты ясі ўсё, божы рабі —*
*кажа ён, сухар хапае.—*

*Ну, як жывеш? Як новы верш?*
*А я во з неба пехатою.*
*Дай-ка ўсё-такі найперш*
*Богу богава запіць вадою».*

*Памаліўся на мяне*
*(на каго ж маліцца Богу?!),*

# КАБ УГЛЕДЗЕЦЬ КРЫЛО АДЛЯТАЮЧАГА ЖУРАЎЛЯ

**Вяртаюцца з выраю жураўлі. Прызямляюцца, усхвалявана курлыкнуўшы: здалося, убачылі ў траве шэрае пер'е сваіх крылатых бацькоў. Жураўлі не мінаюць спадчынных гнёздаў. А чалавек-вандроўнік зноў —**

*праехаў міма,*
*роднае*
*за вагонным акном адплыло...*
*О, каб сэрца ў мяне было*
*жураўлінае*
*ці, як у тых жураўлёў, чалавечнае*
*сэрца было!*

**Гэта — паэт Мікола Купрэеў.**

**Быў час, калі паэтычныя кніжкі звычайна адкрываліся вершамі-гімнамі, вершамі-одамі. На розныя лады, не ашчаджаючы клічнікаў, аўтары славілі партыю, кляліся ў любові і вернасці крамлёўскім бажкам, жывым і мёртвым.**

**У даўняй ужо кніжцы «Непазбежнасць» Мікола Купрэеў адкрыта заявіў· «Гімнаў не будзе. Шэптам грымне элегія».**

**Лірычныя вершы, прасякнутыя пачуццём смутку, журбы, ціхай радасці, ёсць, вядома, у кожнага з нас. Але не яны тады, у сямідзесятыя гады, вызначалі творчае аблічча паэта, прыносілі прызнанне крытыкі і дзяржаўную ласку тых, хто стаяў над гэтай крытыкай. А тут уся кніжка, лічы, афарбавана элегічнымі настроямі. Крытыкі не заўважылі ці, абачлівыя, не захацелі пачуць і зразумець падказку-прызнанне паэта: «шэптам грымне элегія».**

**Здавалася б, не стыкуюцца яны ў адным радку, словы-антыподы: шэптам — грымне. Аднак якраз у гэтай вобразнай алагічнасці ключ для адкрыцця і разумення паэзіі Міколы Купрэева. Ціха — пра самае дарагое, самае запаветнае. А той, хто ўмее думаць, чытаць сэрцам, пачуе-ўловіць у гэтай ціхай споведзі і водгулле тых грымотных падзей, што пакінулі след на зямлі і ў душы паэта.**

**Не расчуліць-зачараваць сваім смуткам, не паплакацца над страчаным і нявдзейсненым прыйшоў у літаратуру вясковы юнак з Рагачоўшчыны. Прыйшоў, каб спавядальна-шчыра сказаць пра свой лёс. Ідучы з дзяцінства ў сталасць, паказаць час, у якім жыў, расказаць пра людзей, з якімі сустракаўся ў розных жыццёвых варунках, апець мілы сэрцу край, дзе заўсёды рады гасцям. Шчасце тут і цябе не міне, абяцае паэт, прыязджай, толькі з адной умовай:**

*ад бруду featнага*
*ногі свае выцірай,*
*рукі свае выцірай,*
*сэрца сваё выцірай —*
*калі хочаш наведаць*
*мой родны*
*зялёна-блакітны край.*

**Можна пакрыўдзіць аднаго чалавека, паэта, але — не яго Радзіму і народ. І паэт тактоўна нагадвае пра гэта, не жадаючы, каб любоў пералілася ў гнеў і нянавісць.**

**Іх немагчыма пераказваць, творы Міколы Купрэева. Нават такія, здавалася б, сюжэтныя, як паэма «Арыніна студня», «Балада**

*павесіў лапці на сцяне*
*і выйшаў босы на дарогу.*

*Азірнуўся, прашаптаў:*
*«Не пішы хоць ты на Бога —*
*яго няма ўжо». І растаў*
*у сузор'і Казярога.*

*Паўз мяне ў Гарынь-раку*
*апошнія ляцелі коні.*
*Павесіў лапці я ў кутку,*
*дзе продкі ставілі іконы.*

## *ЛЕТУВІСКІ ХУТАРОК*

*«Няможна было пазнаць Монцю. Сляды мук, пера-жытага сораму і гвалту адбіліся... на твары... — Калі будзе, то і твой гэта дзіцёнак. — Не хачу я яго,— залівалася слязамі Монця».*

**М.Гарэцкі**
**«Літоўскі хутарок»**
**(1915 г.)**

*Чарот закалыханы Нярысам сонным,*
*аўкштайцкія певні на жэрдках*
*паснулі,*
*калыска ля ложка маўчыць,*
*на дарозе спакойна,—*
*адчыні ж мне дзверы,*
*самотная Монця,*
*стаю ля варотаў у белай*
*гудайскай[1] кашулі,*
*і пялёстак шыпшыны з гудайскага*
*берагу Віліі,*
*мілая,*
*б'ецца ў шыбу твайго аконца.*

этаў Францыі і быў прызнаны каралём паэтаў І грамадства дазволіла яму жыць. Разумнае грамадства. Яно спасцігла тую ісціну, што сапраўдны паэт, як і дзіця, не можа быць злачынцам. Хоць дзіця і можа ўзяць дарагую, прыгожую вазу і гахнуць яе аб падлогу

Добра, калі паэт і грамадства папікаюць, ушчуваюць адно аднаго ад любові адно да аднаго. Нагадаю Багдановіча: «Народ, Беларускі Народ! Ты цёмны, сляпы, быццам крот І душу тваю абакралі,— у ёй нават мовы няма». І «Народ» у Багдановіча з вялікай літары А ўспомнім нядаўнія вершы Пімена Панчанкі пра мову — з папрокамі да народа...

**Г.** Папахвае хрысціянствам . Дарэчы, як у цябе з веравызнаннем? Я заўважыў што ты і сёння пішаш слова Бог з малой літары?

**К.** Але Ісус Хрыстос я пішу з вялікай. Рэлігія з'явілася на зямлі, каб ўратаваць чалавека І кожная з яе галін (хрысціянская, мусульманская, іудзейская .) ратуе вернікаў па-свойму, хоць, зрэшты, кажа ім адно: узлюбі чалавека. А ці ж не гэта вяшчуе праз тысячагоддзі паэзія? Ці ведаем мы хоць аднаго вялікага (!) паэта-чалавеканенавісніка?! Давай канкрэтызуем так паэзія і царква (касцёл, сінагога, мячэць. .). Вернік уваходзіць у свой храм на ачышчэнне душы сваёй Перад святынямі ён моліцца, узносіць рукі да Бога са слязамі на вачах.. А ці з гэткім жа ўзрушаннем душэўным чалавек ідзе ў той храм, які мы называем паэзіяй? Зачараваны, шэпча радкі любімага паэта. Шэпча, як малітву .. Прычашчаецца — і ачышчаецца, і хочацца жыць яму прасветлена, з любоўю. Так, кожная вера робіць сваю святую справу па-свойму, толькі фармальна па-свойму, хоць у тых фармальнасцях шмат падобнага Біблія адрозніваецца ад Карана, але ў іх многа агульнага. Сэнс, па вялікім рахунку,—адзін

**Г.** Пытанне, блізкае да папярэдняга У тваёй паэзіі міфалогія фармальна як бы адсутнічае, але па-за словам чуецца Якая роля міфалогіі ў тваёй творчасці?

**К.** На жаль, міфы даўно-даўно ўжо нідзе на зямлі не ствараюцца. Мастацкая літаратура, прынамсі — паэзія, як, дарэчы, і жывапіс, толькі час ад часу сілкуюцца міфамі (у нас — паданнямі, легендамі, казкамі) для вырашэння сваіх сэнсавых і фармальных задач. У нашай паэзіі, напрыклад, з такою мэтай звяртаўся да міфічных вобразаў Максім Багдановіч («Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя .» «Страцім-лебедзь»), былі спробы ў Анатоля Вялюгіна («След мастака»), ну і, вядома, шырока выкарыстоўваў міфалогію Уладзімір Караткевіч (асабліва ў прозе — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Ладдзя роспачы»).

З'явай грамадскага жыцця, а не толькі літаратуры, суджана было стаць напачатку 60-х гадоў баладзе ўкраінца Івана Драча «Крылы» Дзед Мароз раздаваў людзям навагоднія падарункі, дык мужыку Кірылу дасталіся ў падарунак крылы, мужык прымеркаваў іх на сабе, крылы прараслі праз сцены яго хаты і мужыка разам з хатай узнялі над зямлёй, далей змест балады — што адчуваў і што бачыў мужык з-пад неба на зямлі Верш — як паданне Магчымасці для паэта падсілкоўвацца міфамі не абмежаваныя. І я на гэта зважаю.

**Г.** Цікава было б пачуць тваё меркаванне наконт паэтычнай метрыкі, паколькі яна ў цябе, як бы гэта дакладней сказаць,— гіпертанічная Душэўны ўздым — высокі ціск радка, самотны стан — нізкі. Нерв верша «гуляе».. Вечная арытмія.

**К.** Верш — гэта дыханне яго творцы на той час, калі ён, верш, «выліваецца» На той час.. А з гэтым дыханнем, сапраўды, надараецца ўсякае. Роўнае, спакойнае дыханне — меладычны верш... А характар жа дыхання — ад гармоніі ці дысгармоніі ў паэтавай душы, якая, у сваю чаргу, такая чуйная на гармонію ці дысгармонію ў прыродзе, у грамадстве, нават у надвор'і за вакном.

У дзяцінстве і ў раннім юнацтве я надта (пасля нейкага ў вайну ўзрушэння ці перапуду) заікаўся .. У апошнія прыкладна трыццаць гадоў на Палессі, дзе я жыву, сатаной парушана гармонія, музыка-рытм у прыродзе. Бязглуздая асушка знявечыла векавечны рытм зямлі, напеўнасць яе рэк і рачулак, дарог і сцежак. А сацыяльна-палітычныя стрэсы ўжо даўно разарвалі рыфму «дарога — да Бога» І я не магу пісаць бёз спатыканняў-паўз, без «заікання» пра вайну ці якое іншае гора. .

**Г.** . .А можа, гэта і на карысць нашай паэзіі, бо гладкапісу прыпевачнага тыпу ў ёй цераз край... Адны іх (вершы) «адстрэльваюць» па сваіх франтавых успамінах, другія —«косяць», як незабыўны вясковы луг, трэція — «адбіваюць» пад дыскатэчныя рытмы, чацвёртыя — знемагаюць ад слоўнай «вольнасці» (я, спадзяюся, ты разумееш, што азначае гэтае народнае слова, акром сэнсу свабоды). . Ці не зашмат у нас трафарэтнай і «другаснай паэзіі», версіфікатарства?

**К.** Перад тым, як пачаць верш на чыстым аркушы паперы,

*Я не расейскі салдат і дух*
*прускі растаў, і*
*на непрытульным Усходзе згібеў*
*Гарэцкі,*
*толькі ўздых твайго бацькі з пустой*
*летувіскае стайні*
*лісце ліпы над полем задумна*
*калыша,*
*горка смяецца Ядвіська з травы*
*ля рэчкі,*
*і пра вашу слязу*
*на тым беразе Віліі*
*мілая,—*
*Максімаў няма! — ніхто сёння*
*не піша.*

*Не чуў твайго крыку ля прускіх*
*акопаў і рускіх:*
*мой конь капытамі не біў*
*пад штандарам Пагоні*
*шчэ ён і зачаты не быў на лугах*
*беларускіх,*
*шчэ гарадзішчы мае не згадалі*
*Міндоўга,*
*шчэ мае «Хутарком» не*
*ўстрывожаны скроні,—*
*ды скамянелы твой крык я*
*на беразе Віліі,*
*мілая,*
*пачуў у нябёсах Вялікага Княства,*
*крык доўгі.*

*Мой конь заблудзіўся ў Саюзе.*
*Збоч Мядзінінкая*
*на хутар ішоў праз лясныя нетры —*
*разам з табою і слухаць,*
*і бачыць, якая*
*зорная ноч над разбітаю нашай*
*дарогай,*
*як гайдаюцца сосны балтыйскім*
*ветрам.*
*хмарка з гудайскага берагу Віліі*
*мілая,*

**пра партызанскія чаравікі», верш «Як быў я цыганскім баронам». Трэба самому чытаць ці слухаць, як музыку. Бо словы Купрэева сапраўды больш музыка душэўнага настрою, чым жывапіс яркімі мазкамі-вобразамі, як у іншых паэтаў.**

**У вершы «Паланез Агінскага» не лішні і адзіны інфармацыйна-заземлены радок: «Хворы ляжу на канапе». Ён дапамагае зразумець і задуму, і вобразны лад, і кампазіцыю верша. З далёкага свету, дзе жыве каханая, балюча і радасна льецца дзіўная мелодыя. Туды не даляціш без крылаў. Але ў дрымотным паўзабыцці-трызненні ўсё магчыма, як у казцы:**

*Крылы праз сцены растуць,*
*дом паднялі на сабе,*
*і мы разам ляцім над лясамі —*
*урачыста, ціха і светла.*

**Верш і сам меладычны, як паланез. Пачуцці то набіраюць сілу, то падаюць, захлынуўшыся ад болю, то зноў, акрыяўшы, адорваюць надзеяй. Толькі ў такім стане, нібы гэта — твой апошні дзень на зямлі, і можна, здаецца, так шчымліва раскрыць сваю душу, так рамантычна, як святую, узвысіць каханую ў разлуцы.**

**Элегічныя вершы Міколы Купрэева нельга чытаць у нейкім адным настроі, сумным ці прыўзнята-святочным. Трэба абавязкова настроіцца на хвалю аўтарскага светаўспрымання, падняцца да яго радасці ці, скажам так, сысці да яго смутку. Паэт пазбягае інтанацыйнай аднастайнасці, у яго няма вершаў-блізнятак, вершаў-матрошак — з аднолькавым тварам, голасам, лёсам, нарэшце, калі працягваць параўнанне верша з жывой істотай.**

**«Начамі не зоркі гараць над светам — то сэрцы паэтаў гараць...» Лепшыя вершы Міколы Купрэева прываблiваюць яшчэ адной нед'емнай часткай элегіі — роздумам. Шчаслівы ў асяроддзі добрых людзей ці сам-насам з прыродай паэт доўга потым не можа заснуць: «у начной цішыні відней і чутней нашага веку грані». Думка сягае ў глыб вякоў, да легендарных буй Рурыча і Давіда, падымае з нябыту Кастуся Каліноўскага, бліжэй да нас — Веру Харужую, маладых байцоў Міхаську і Віцьку — герояў апошняй вайны. Паэт адчувае сябе жывым звяном у гэтай крэўнай повязі пакаленняў. Гістарычная памяць стала часцінкай яго памяці, і таму мае пад сабой трывалы грунт прызнанне-выдых: «О мая чыстая Белая Русь! Я тысячы год цябе ў сабе нёс».**

**Не дзяржаўных бажкоў, а простых людзей — жней, аратых, касцоў — з любоўю і пашанай узвышае Мікола Купрэеў. У цэнтры паэмы «Арыніна студня» — постаць вясковай жанчыны-працаўніцы, якая**

*рана ўставала, жала, капала,*
*арала,*
*гаравала, плакала і спявала,*
*кудзелю прала, палотны ткала,*
*кветкі і слёзы ў касу заплятала,*
*цалавала, кахала, раджала,*
*на турэцкую, на японскую*
*мужыка і сыноў аддавала —*
*не прычакала,*
*пяць разоў хату і студню*
*абнаўляла,*
*лепшы час прычакала,*
*ды сівою бабулькаю стала*
*і ўжо сабе месца вечнае аблюбавала —*
*Арына.*

**Вырваны з кантэксту, фрагмент гэты, можа, і не ўражвае. Але ў лірычнай аправе паэмы ён глядзіцца як каштоўны камень, у**

*цёпла праліцца хоча над вашым*
*парогам.*

*Світае. Шапчу: «Лаба дзена»[2]*
*Жалейка ў даліне*
*плача і кліча — ці гэта прыгожа*
*здаецца?*
*Крывавяць ля ганку сціхлыя*
*гронкі каліны.*
*Дзе ўздыхнула дзяўчынкай*
*далёкай вясною —*
*калючая груша з-за плоту*
*працягвае вецце.*
*Ты ўся тут, усюды. Над хатай —*
*бяскрылая*
*мілая! —*
*журліва ўзмахнула прывіднай рукою.*

*Ах, гэтых пакутаў і казак нам*
*хопіцы..*
*Гайдалі калыску вятры між*
*Масквой і Берлінам.*
*Інтэрпрах у калысцы. Высокі хлопец*
*сячэ старажытным мячом*
*літоўскім вяроўкі тугія.*
*Гляджу і маўчу. Я забыўся,*
*што быў я ліцвінам.*
*Нехта шэпча: «Су дзеў»[3] І брыду*
*на змялелую Вілію,*
*мілая,*
*брыду ў беларускія травы сухія,*
*глухія.*

## 2086 г

*Чарвяк я. Чырвонай халоднай*
*вадою напоўнены*
*клеткі майго пакручастага цела.*
*З падземнае цемры*

[1] Летувісы завуць беларусаў гудамі.
[2] Лаба дзена (*лет.*) — добры дзень.
[3] Су дзеў (*лет.*) — з богам.

трэба паглядзець на сябе ў люстэрка — каб яшчэ раз пераканацца, што ты з твару не падобны ні на кога ў свеце. Потым трэба ўспомніць, што і думаеш ты, мысліш так, як ніхто ў свеце. І бачыш ты вунь тую травінку, той каменьчык за акном не так, як бачыць іх нават найбліжэйшы табе па духу і па крыві чалавек. Дык чаму ж тады твой верш павінен быць падобны на верш Багдановіча ці Жычкі, Пушкіна ці Бадака?!

**Г.** А што для цябе найбольш блізкае і адметнае ў беларускай літаратуры?

**К.** Люблю апрадмечаную, сатканую з дэталяў побыту прозу Вячаслава Адамчыка і Анатоля Кудраўца, густую на думкі біяграфічную прозу Уладзіміра Арлова Запомніліся лімаўскія апавяданні Алеся Чобата, а таксама апавяданне «Маёр» Уладзіміра Сцяпана. Упэўнены В.Адамчык здольны на вялікі эпічны твор пра Беларусь. І — забываюся пра ўсё на свеце, пра свае нягоды, калі ў сваім кутку, у сваёй мансардзе бяру ў рукі «Полымя» ці «ЛіМ» з мініяцюрамі Янкі Брыля Лічу, што «Споведзь» Ларысы Геніюш — найадметнейшая з'ява ў нашай літаратуры. Сапраўды споведзь перад людзьмі, перад родным кутам, перад сабой.

Заўжды рады сустрэцца з простымі знешне і мудрымі ўнутры вершамі Леаніда Галубовіча (прабач, што нагадваю табе пра цябе, толькі не крыўдуй — лепш палічы за камплімент інтэрв'юеру), зачараваны паганскай паэзіяй Анатоля Сыса У вершаказах Алеся Разанава, асабліва апошніх, бачу паэзію ўсеславянскага маштабу Хацеў сказаць, еўрапейскага маштабу. Але на раманскія мовы паэзія Разанава не перакладальная, бо яна — у беларускай (а значыць — і ў славянскай) моўнай стыхіі Гэтаксама і Рыгор Барадулін не будзе ГУЧАЦЬ у іншай мове, як ён гучыць у роднай.

**Г.** А ці ведаеш ты свайго патэнцыяльнага чытача ці зважаеш ты на яго, пішучы той ці іншы верш? Для каго пішам, Мікола? Самае сумнае, відаць, пытанне.

**К.** Закаханы падлетак ведаў, для каго ён пісаў «Алесю» І Пушкін ведаў, для каго ён пісаў сваё «Послание в Сибирь» І санеты Пятраркі мелі свайго адрасата — Лауру І Багдановіч ведаў, каму пяе душа ў «Зорцы Венеры» А Якуб Колас «Новую зямлю» пісаў для беларускага народа. Але людзі зрабілі «Алесю» адной са сваіх любімых песняў. На покліч Пушкіна адклікнуліся не толькі сасланыя дзекабрысты Мільёны юных жанчын бачылі, а мо яшчэ і бачаць сябе Лаурамі



Увогуле ж, Паэт не думае, для каго ён піша Проста вылівае сваю душу на паперу а потым, збоку глядзіць са здзіўленнем на гэтую душу Быццам незнарок адашле ці аднясе верш у рэдакцыю. Але ж знаходзіцца недзе ў нейкім кутку яшчэ душа, і не адна якая схіліцца над тым вершам Дык для каго ж пішуцца вершы? А для НЕКАГА.

Ах, не будзем самі сабе хлусіць. вершы мы пішам для людзей і хочам, каб яны іх чыталі

**Г.** Будзем спадзявацца што нейкі ўсё ж чытач у нас яшчэ пакуль ёсць Як казаў Чэхаў калі гэтая маленечкая кніжачка пабачыла свет то, пэўна ж, недзе ў нейкім закутку свету жыве і яе маленечкі чытач Ці выжыве паэзія наогул у наш час?

**К.** А што — наш час самы трагічны з усіх часоў? У сярэднявечнай Еўропе вялікая паэзія (у тым ліку італьянская) выжыла ў час «вялікай» чумы І ніякія «гулагі» не змаглі яе ўсмерціць. Наш час, наадварот балюча пабіўшы ёй бакі узнясе нашу паэзію вышэй Праўда, гэта будзе каштаваць нямала паэтычных нерваў і самі вершы часта будуць нервовымі ці, як казала мая клецкая цешча «нарванымі» Але гэта толькі будзе адной з прыкмет паэзіі нашага часу

**Г.** Папраўдзе кажучы, не думаў, што ты такі аптыміст .

**К.** Гэта парадаксальна. паэзія, як і мастацтва ўвогуле,— самая кансерватыўная галіна чалавечай дзейнасці Глянь, як развіваюцца навука і тэхніка ў апошнія сто гадоў! А мастацтва і літаратура, прынамсі — паэзія? Што — сучасныя жывапісцы па майстэрству вышэй за Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла Босха, Брэйгеля-мужыцкага? Што — сучасныя кампазітары пераўзышлі вялікіх кампазітараў XVIII—XIX стагоддзяў? А ў архітэктуры — старажытныя храмы?.. І, нарэшце, у паэзіі Хто-небудзь з сучасных расейскіх паэтаў стварыў што-небудзь лепшае за лермантаўскія радкі «Выхожу один я на дорогу...»? Санеты якога сучаснага аўтара глыбейшыя мудрэйшыя за санеты Шэкспіра? А старажытная егіпецкая, кітайская, японская паэзія? А, бліжэй па часе і бліжэй да нас, «Пагоня» Багдановіча А нерукатворная песенная паэзія беларускіх жанчын, якая ўсё ж часткова захавалася да нашага часу (Гаворым пра дакладную рыфму, а яна найдакладнейшая, вось тут·

—Не хачу, матулечка, без кубла
—Ты ж мне кудзелечку не скубла

*выпаўз наверх праз калючы пясок*
*у світанак золкі*
*пад дубам струхлелым. Не ведаю:*
*восень? вясна? Навокал*
*ні лісціка, ні травінкі.*
*З чорных комінаў Калыбані*
*белы чарнобыл-палын у жоўтае*
*неба віецца.*
*Клеткамі чую і бачу, сказаць*
*не магу нічога —*
*таму я пішу-малюю згібамі цела*
*на вострым пяску ля канавы*
*Прыпяці.*
*Пясок цела рэжа. Чырвоныя кроплі*
*вады маёй камянеюць*
*і коцяцца ў Прыпяць-канаву.*

*Мне добра ў глыбінях зямлі —*
*пад былою ракою,*
*пад котлішчам — колішняй вёскай,*
*пад Беларуссю,*
*дзе некалі бегаў, хадзіў, і лятаў,*
*і плаваў,*
*цалаваў у Нароўлі дзяўчынку*
*ў лодцы на хвалях Прыпяці.*
*Хлопчыкам быў, юнаком,*
*мужчынам —*
*цяпер я чарвяк, халоднай вадою*
*напоўнены...*
*Зноў шукаю мякчэйшай зямлі —*
*прасачыцца ў глыбіні,*
*дзе ў нас камендантам чарвяк*
*акадэмік Лягасаў,*
*а прыбіральшчык — чарвяк адвакат*
*Вульянаў.*

*Па дарозе ў глыбіні вітаюся*
*моўчкі з паэтам —*
*цяпер чарвяком Шклярэўскім,—*
*цярпліва шукае*
*над Прыпяццю лес свой, які*
*пасадзіў за Дзяржаўную прэмію.*
*Настрэчу — самы сумленны чарвяк*

**якім спрасаваны ўвесь жаночы век. На такіх працаўніцах-пакутніцах трымаецца свет, жыццё. Заплюшчыш вочы, і бачыцца яна, як родная маці, каля сваёй студні — з бяроставым коўшыкам у руцэ.**

**Праз лёс гэтай жанчыны праходзяць розныя знакамітыя людзі. Усе яны на нейкі час спыняюцца каля студні, наталяюць смагу і зноў знікаюць — кожны ў сваім часе. А яна, Арына, жывая і цяпер, пасля смерці. Студня з гаючай вадой служыць людзям: «Здалося, з глыбіні зямлі голас ціхі Арынін пачуў: «Ну чаго ж ты, унучак? Пі».**

**Мікола Купрэеў шчодра чэрпае з фальклорных крыніц. Гэта адчуваецца, калі чытаеш яго вершы-балады, вершы-прытчы, вершы-плачы. Такі падзел, вядома, даволі ўмоўны, бо ў адным творы бывае сплаў элегіі і балады ці, скажам, прытчы і байкі, плачу і казкі. Блукае сухім рэчышчам Лані русалка, галосіць па сыне:**

*Траву папаліла сонейка,*
*ні алешынкі, ні вярбіначкі.*
*Над магілкаю сохнуць тваёй*
*рукі мае дзве галіначкі.*

**Фальклорны ўток прагляддваецца ў паэтычнай аснове многіх вершаў. Дзе сюжэтным матывам, дзе мастацкім вобразам, дзе мілагучным паўторам асобных радкоў ці слоў, дзе кампазіцыйным узорам страфы: пытанне адказ «Чаму сарамлівая тая вада, што вось тут, ля берага, застаялася? Тут учора жанчына купалася».**

**Паэт цураецца вялікіх гарадоў. Яго стыхія — Палессе, ціхія лясныя вёсачкі, дзе яшчэ крынічаць народныя песні, жывуць казкі. Непрыкаяны вандроўнік, ён любіць прыроду, звяроў і птушак. З птушак — найбольш шэрага жураўля. Відаць, за «чалавечнае сэрца», за вернасць родным гнёздам, за такую ж, як і ў яго, элегічную песню-жальбу ўвосень, калі адлятаюць птахі ў вырай. Адлятаюць не па сваёй ахвоце, як некаторыя людзі-манкурты, адлятаюць — з крыкам-плачам. Непазбежнасць адлёту на зіму закладзена ў іх лёсе прыродай.**

**Ёсць яшчэ непазбежнасць чыстага світання, кажа паэт, і непазбежнасць смерці. Паміж імі — жыццё. Доўгае ці кароткае, яно не заўсёды спрыяе людзям, нібыта выпрабоўвае іх на моц, сілу духу, бескампраміснасць І добра, што ўласным жыццём і творчасцю падмацаваны радкі паэта, скіраваныя ў заўтрашні дзень. «Часцінкі майго сэрца будуць біцца радасцю і смуткам на Зямлі». Як бы цяжка ні было, пройдзе боль, і зноў з'явіцца жаданне жыць, і зноў — шэптам грымне элегія. Да апошняга слова. Да апошняй усмешкі. Да апошняга выдыху.**

**Як мы праводзім у дарогу блізкіх сваіх, сяброў? Бывае, без жалю. Бывае, спазняемся на сустрэчу-праводзіны. Бывае, зусім не прыязджаем, каб правесці — нават у апошні шлях. Таму і не выклікаюць усмешку, а ўражваюць напалам пачуцця, сілай любові да людзей, высокай паэзіяй, нарэшце, радкі:**

*А я на сваім Палессі,*
*раздзіраючы скуру далоняў,*
*лезу на крохкі вяршок сасны*
*каб яшчэ раз угледзець*
*крыло адлятаючага жураўля.*

**Такі ён паэт, Мікола Купрэеў,— чалавек з жураўліным сэрцам.**

**Мікола МАЛЯЎКА**

*Адамовіч,*
*хоча крыкнуць — не можа,*
*звіваецца ў слова «Вандзя»,*
*адчайна крутнуўся кудысьці ў*
*пошуках ісціны.*
*Скруціўся ў пакутах чарвяк*
*Слюнькоў — былы Першы,*
*цяжка прабіцца ў родную*
*Гомельшчыну, хочацца плакаць,*
*няўтульна было і ў глыбінях*
*маскоўскіх —*
*пусціце яго на пакуты ў палескіх*
*тарфяніках,*
*даруйце яму, быў сляпы і глухі,—*
*пусціце.*

*Б'юць з нябёсаў званы беларускіх*
*цэркваў —*
*толькі яны й жывыя, і ў іх апантаным*
*звоне*
*я, чырвонай халоднай вадою*
*напоўнены,*
*чую крык маёй колішняй роднай*
*мовы,*
*чую ціхае ў звоне высокім маленне*
*нашай вечнай Жанчыны Полацкай.*

*Дайце дарогу, браты-чарвякі,*
*прапусціце, стаміўся —*
*паўзу я спачыць у нетры пад роднае*
*Ямнае.*

### *ВЯРТАННЕ АБЛУДНЫХ СЫНОЎ*
*(1772–1992)*

*Ноч. Кацярынінскі шлях. Рагачоўскі*
*мост.*
*Пад былою Цыганскай дарогай,*
*наўпрост*
*нясе думную плойму вады Дняпро*
*між лугам Вікоўскім, Збароўскай*
*гарой.*

*Двое на мосце. Золатам Млечны —*
*па дне.*
*Парожні мяшок з Калымы залатой*
*на спіне.*
*Крымскія стэпы страсае з падэшваў*
*другі —*
*пыл пахне віном, і травой*
*маладой — берагі*
*«Тихо дома у нас, хорошо,...*
*т-твою мать»...*

*У хаце ля мосту сівыя габраі*
*не спяць.*
*Ля берагу ў цёплым тумане,*
*па цёплай вадзе*
*нехта трэці аднекуль кудысьці*
*брыдзе.*

Гаворым пра асацыятыўнасць як пра адметнасць сучаснай паэзіі, а яна ж, асацыятыўнасць, і вось тут і даўно.

«Замуцілі гусі воду на Дунаі. .»,
«У полі вярба нахілёная .»)

Так, на фармальныя (!) адкрыцці сучасныя творцы надта здатныя (і ў жывапісе, і ў тэатры, і ў паэзіі). Але сучасны паэтычны андэрграўнд у шмат чым паўтарае італьянскі і расейскі футурызм і нават сімвалізм канца XIX — пачатку XX стагоддзяў Сучасная суполка рускамоўных верлібрыстаў здаецца, у Данецку на Украіне толькі тужыцца на адкрыцці даўно знаёмых прыёмаў версіфікацыі А Іосіф Бродскі, які толькі змястоўна паглыбіў і фармальна пашырыў традыцыйныя (!) магчымасці класічнай расейскай і англамоўнай паэзіі стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі

Наш даволі-такі незакамплексаваны паэт Алег Мінкін упарта перакладае вялікага польскага паэта-наватара Цыпрыяна Норвіда і... што-нішто пераймае ў яго ..

Што мне бачыцца ў вышэй прыгаданай кансерватыўнасці? Кансерватыўнасць спосабу мыслення чалавецтва ў апошнія стагоддзі. І гэта — добра Гэта — наша шчасце. Гэта сведчыць пра тое, што якіх-небудзь найтрагічнейшых катаклізмаў на Зямлі даўно-даўно, ці не з часу Ноева Каўчэгу, не было. Новы непрадказальны спосаб мыслення чалавецтва, а значыць — і новая ПАЭЗІЯ змогуць (калі, дай Божа змогуць) быць толькі пасля нейкага найвялікшага ўзрушэння на Зямлі І не дай Бог каб гэтае ўзрушэнне сталася найтрагічнейшым.

Дай Бог каб свяціла Сонца і зелянела Трава на Зямлі, а заадно — свяціла і зелянела ПАЭЗІЯ

**К.** Дзякуй, Мікола. Здаецца, няблага пагаманілі Кава ў мяне, вунь, ледзь не зледзянела... Праўда, твайму кубку гэта не пагражае. У тваім кубку заўжды цёпла і хмельна, як і ў тваёй душы. як і ў тваіх вершах. Будзь здаровы, Мікола! Жыві, твары

г.Мінск,
сакавік, 1994 г

# ПОЙДЗЕМ У ХАРОШША

**Марудна, з працяглымі і прыкрымі перапынкамі, але ўсё ж даходзіць да чытача па-свойму цікавая і па-чалавечы неабходная паэзія Міколы Купрэева. Новыя яго вершы, тыя, што з'явіліся ў друку пасля выхаду зборніка «Непазбежнасць», не могуць не парадаваць і шчырасцю хвалявання, і глыбінёй зместу**

*Па чорнай ночы скача белы конь,*
*па тумане цёплым скача...*
*Сплёўся з белай грывай*
*чорны чуб...*
*За Дняпром — дрымотная Расія.*
*Конь іржаў — ніхто яго не чуў,*
*толькі перапёлка галасіла.*

**А далей, расказваецца ў вершы, спыніўся гэты конь над цёмнай кручай «і прыпаў ён цяжка на калена... Так ляцім вось больш як сто гадоў каменнай глыбаю падучай... Сон як сон. Адно няўцям: нашто даў каня мне Каліноўскі».**

**Стыль той жа, але фраза, дэталь стала больш сціслай, выразнай:**

*З брацкіх магіл,*
*з-пад Курска, Варшавы, Берліна,*
*вечарам летнім прыйшлі*
*ў Зацішша*
*забітыя Вася, Валодзя і Міша...*
*...Сем крокаў адмераў ад мосціка*
*Міша*
*прытуліўся шчакой да парэпанай*
*вішні...*
*За акном, ці сабе ці суседзям*
*плачучы,*
*маці чытае:*
*«Мамачка, добры дзень!*
*Я жывы і здаровы і скора вярнуся...»*

**Па-рознаму складваецца лёс чалавека, бываюць уздымы і спады: скажам, піша Купрэеў пра бярозку, дык, мабыць, не толькі пра яе, а ў нечым і пра сябе («Мілая бярозка, не бядуй: мы яшчэ з табой устрапянёмся»). Але калі чалавек — паэт, дык ёсць у яго ўяўленні свая казачная краіна, дзе ў цяжкі час можна і самому прытуліцца і куды гасцей не сорам запрасіць.**

*Пойдзем у тыя лясы,*
*дзе і сцежак няма,*
*У Харошша!*
*Там блакітная цішыня праплывае*
*над лесам,*
*барвова-зялёная цішыня ападае*
*на дол.*
*Нязлосна мядзведзіха лае*
*пад елкаю Мішку-гарэзу.*
*Нехта жэніцца там на вавёрцы*
*прыгожай,*
*баль спраўляюць на соснах,*
*а сосны лятуць у вышыню...*

**Усё ў вершах М.Купрэева рэальнае і ў той жа час невераемнае. З'явы і карціны змяняюць адна адну, як паскораныя або замаруджаныя кінакадры. Людзі жывуць, бы ў зачараваным сне. Вось, здаецца, яны ачуюцца, хітравата пацяшаючыся, што так лоўка разыгралі нас, але нічога не здараецца, і ўсё ідзе само сабой. Такое ўражанне пакідае ва ўсякім выпадку большасць вершаў («Тады палюбіў я і вуліцы тыя», «Па вуліцы плыў тапаліны пух», «Кветкі ў расе»).**

**Непрыкаяны рамантык, герой Купрэева здольны на самыя нечаканыя і неверагодныя ўчынкі. Нездарма, мусіць, адзін з вершаў Купрэева так і называецца — «Апантаны».**

*...спалохаўся шчасця, уцёк пад*
*смалістыя сосны...*
*Ляжу пад сузор'ем Лебедзя,*
*сцішаны, босы.*
*Чую цяжкое дыханне зямлі...*
*Плыву, выбіраю свой бераг,*
*Іду праз пустыні і стэпы*
*І падаю тут вось на мяккі*
*вільготны мох.*

*Звонка падае шышка у ціш сасняку.*
*Вострым рогам месяц п'е малако*
*бярозы...*
*...Бягу роснай сцежкай, дарогай,*
*полем,*
*У горад. Да той, хто чакае мяне...*
*Зноў уцякаю ад шчасця у шчасце.*
*Калі гэта скончыцца?*

**Як усякаму рамантыку, герою Купрэева ўласцівы вострыя пачуцці, перажыванні. «Галава баліць, і сэрца разрываецца. Занадта многа шчасця, занадта многа кветак прынесла Вясна».**

**Каханне ў яго усёпаглынаючае і ўсёпераўтвараючае пачуццё. Калі ён палюбіў, дык палюбіў і вуліцы тыя, па якіх праходзіла каханая ў маі, і бэз на досвітку ў расе, які ламаў ёй за горадам, і тыя ліпеньскія адвячоркі, на якія яна глядзела, калі яны дагаралі недзе за Бугам, і тую ноч, калі валасы яе «былі раптам асыпаны зорным золатам».**

**На жыццё рамантык глядзіць праз прызму свайго пачуцця, а таму схільны да гіпербалізацыі, перабольшання рэчаў і з'яў:**

*У той вечар плылі мы з табой*
*па рацэ*
*ад бацькоў насцярожаных нашых,*
*бурклівых,*
*па Млечнаму Шляху...*

*...Рамонак, скамечаны ў тваёй*
*руцэ,*



*«Эй вы наверху! Помогите,*
*не доберусь...*
*Я из Минска» — «Куда?» —*
*«В Беларусь».*

*Мост рагачоўскі рагоча, ракоча*
*вада да дна.*
*Трэці пад мостам самотна стаіць*
*даўдна,—*
*мрояцца здані ў тумане: немец,*
*расеец і лях...*

*Узыходзіць вада Караткевіча*
*на Кацярынінскі шлях,—*
*світае. На ганку сівыя габраі*
*стаяць —*
*беларусаў аблудных выйшлі*
*страчаць.*
*За гарою пытае крывіцкая Друць:*
*«А хто там ідзе?» —*
*Адказаў іудзей: — «Беларусы»...*

*Брыдуць*
*дзвесце дваццаць расейскіх гадоў*
*Кацярынінскім шляхам у Збароў*
*і Вікоў.*
*Над імі тры чорныя птушкі крычаць...*

*Габраі пад небам славянскім*
*маўчаць.*

### *ВОЎК*

*Акно вечарэе. Каліна цвіце.*
*Хмара над хатай расце.*

*Ліпа трывожна шуміць.*
*Нехта пад ліпай стаіць.*

*Вочы гараць. Можа, ў хату пусціць?*
*Хай у кутку паляжыць?*

*Нехта шкрабецца паціху ў акно.*
*Пытаюся: «Хто?»*

*Шэпча: «Я воўк. Пусці*
*Холадна спаць у трысці».*

*Я хату яму адчыніў.*
*Старэнькі кажух пасцяліў.*

*Панюхаў кажух ён, сказаў:*
*«Пахне авечкай маёй.*

*Авечка была маладой —*
*не здужаў яе, не ўзяў».*

*Мы разам з ваўком ляглі*
*на мяккай авечай зямлі*

*І чуў я ўсю ноч праз сон:*

*па-чалавечаму плача ён.*

*...Світае акно. І каліна цвіце.*
*Воўк па дарозе ў пушчу брыдзе.*

## *АПОШНЯЕ ВЯРТАННЕ*

*Прысела хатка адпачыць*
*ля старой Варшаўскае дарогі.*
*На саламяна-травяным плячы*
*сумуе месячык двухрогі.*

*На скошаных дзвярах замок*
*з эпохі Жэчы Паспалітай.*
*Разбіты перунамі чыгунок*
*чарнее ля трухлявага карыта.*

*З зямлі пад месяцам бліішчыць*
*ад медаля бляшаная калодка.*
*Пад сцяной — на сонцы і дажджы*
*стамлёная*
*каса-літоўка.*

*Пад сухою вішняй стол,*
*пад ім — зламаная падкова,*
*вокладкі — Купала і Талстой,*
*павуціна ў шклянцы Малянкова.*

*Я з гэтай шклянкі піў!*
*Тут чытаў Купалу і Талстога,*
*Гэтаю касой касіў*
*ля бярозавага лесу маладога!..*

*Дошкамі забітае акно*
*Пастукаў ціха... Не азвецца*
*гаспадыня.*
*Дачка яе імклівым птушанём*
*не вылеце на ганак, не абдыме...*

*Ля ўпалых веснічак стаю,*
*не слухаю, не бачу ўжо нічога.*
*Пакінуў месяц мілую страху.*
*Іду паціху на дарогу.*

** * **

*Роднае поле падступіць да горла,*
*родным вось-вось захлынешся*
*паветрам,*
*веццем бярозы завяжуць дарогу*
*на апошнім тваім кіламетры —*
*тады стань на калені*
*на доле зялёным*
*і ў радзімы прасі, як у бога:*
*«Не трэба мне больш нічога —*
*дзякуй за поле.*
*І ў далях далёкіх,*
*куды адвязуць мяне ціха,*
*мне цяжка не будзе —*
*будзе вечна і лёгка*
*тваё зерне ў зямлі свіціцца...»*

*як пальцы аслаблі, ажыў імкліва*
*і злоўленай зоркаю стаў...*
*і на ўвесь гэты свет засмяялася*
*ты,*
*і я разам з сонцам цябе цалаваў,*
*плывучы, плывучы, плывучы.*

**Вобраз каханай для рамантыка — ідэальна чысты і прыгожы: «звар'яцелы, ляцеў я к небу тваймy святому, як хлопчык з бацькоўскага дому ў рамантыку мораў сіне-далёкіх».**

**А ў другім вершы гаворыцца аб тым, як ён блукаў у пошуках сваіх ідэалаў, сваёй мары ля сіняга мора, каля Алушты, а знайшоў іх на радзіме, ля роднай і навекі любімай рачулкі Начанкі.**

**Адна з найбольш каштоўных якасцяў яго — актыўнасць у абароне сваіх ідэалаў. Звяртаючыся да сонца, як сімвалу міру і жыцця на зямлі, ён заклікае: «З беларускіх узвышшаў, сціснуўшы кулакі, крычу і прашу цябе, палымянае, грэй нас — жывых! — вякі».**

**Толькі ў адпаведнасці з самым высокім ідэалам, па вялікім рахунку мяркуе аб сабе і аб іншых. Вось чалавек бачыць з вагоннага вакна свой родны куток, сумна і балюча праязджаць паўз яго. Вунь і жуpавы ляцяць на поўдзень. «Ніжэй апусціліся — убачылі росы, свежыя кроплі на голлях лясоў. Б'ецца птушынае сэрца: здалося — у травах пасохлае пер'е іхніх крылатых бацькоў...» Жуpавы не праляцелі міма, яны ўсім сэрцам прыпалі да роднай зямлі: «О, каб у мяне было сэрца жураўлінае ці, як у журавоў, чалавечае сэрца было».**

**Усе людзі такія ж для яго, як ён сам,— гасцінныя, добразычлівыя. Але ён не заплюшчвае вочы і на агіднае, нялюдскае, не дапускаючы яго ў свой рамантычны свет: «Сэрца сваё выцірай, калі хочаш наведаць мой родны, зялёна-блакітны край».**

**Ён ішоў сцяжынкай пратаптанай — лёгка і свабодна, але «знеціўкі» сцяжынка павярнула направа, а яму трэба прама, і, кланяючыся продкам, ён пайшоў сваёй дарогай далей — «ісці цяжка».**

**Герой Купрэева — бадзяга. Нібы Агасфер, прабіраецца ён па «краіне Спрадвечнасці» праз вякі і вёрсты. Нястомна шукае штосьці, імкнучыся спатоліць сваю неўтаймаваную прагу да ідэалу («Балада пра Шаблон»). З болем і радасцю шукаў Радзіму, сваю Белую Русь, праз тысячы гадоў і вёрст нёс яе ў сабе і нарэшце знайшоў.**

**Дзе б ён ні быў, на якой бы мове ні размаўляў, скрозь і заўжды думаў і жыў па-беларуску, заставаўся беларусам: «Раскосым не стаў ад татара-манголаў, ад туркаў не стаў гарбаносым, не стаў уніятам, а хацеў я — і стаў: непакорлівым. мірным, бела-русавалосым».**

**Паэтаў герой спрабуе «зламіць» бясконцае і непаўторнае: «рукамі хапаў паветра спыніўся, навокал азірнуўся — няма»; нястомна рвецца ў нейкі «ідэальны», выдуманы ім край, наперад знаючы, што такога краю не існуе:**

*Пакіну ўсё і пайду ў той край,*
*дзе няма ні сяброў, ні ворагаў,*
*дзе бацька не будзе вучыць*
*мяне жыць*
*і дзе жонка не будзе чакаць*
*і тужыць,*
*крыўдаваць і злавацца не будзе,*
*дзе ніколі нікому не змагу*
*я змяніць —*
*гэта нікому не будзе трэба,*
*ніхто не спытае:*
*дзе быў? што еў і што піў? і з кім?*
*...не скажа ніхто: гэта кефір,*
*а то ліманад,*
*гэта графік,*
*а то — расклад...*
*...буду плысці і плысці я*
*ў Спакойную Эру...*
*У той край ніхто не хадзіў ніколі.*

**Падзея ці карціна ў Купрэева часта нібы адыходзіць у бясконцасць. Апошняе звычайна перадаецца праз паўтор аднатыпных імкненняў або працэсаў, праз адлюстраванне знікаючай у неабсяжных далях перспектывы: «раздзіраючы скуру далоняў, лезу на крохкі вяршок сасны — каб яшчэ раз угледзець крыло адлятаючага жураўля», «плыў тапаліны пух — за горад, за рэчку, у белае мора рамонкаў...»**





**Шлях пошукаў ідэалу адводзіць у будучае. Канцы і пачаткі, шаблоннае і непаўторнае, адвечны рух і адносны спакой, час і вечнасць — вось найбольш пастаянныя і ўстойлівыя лейтматывы лірыкі Купрэева.**

**Быў час, Купрэеў захапіўся творчасцю і асобаю Ракуэла Кента, пра што, прынамсі, сведчыць яго верш пра гэтага мастака. Пачынаецца верш звычайным бытавым малюнкам, толькі непрыкметныя акцэнты на паасобных словах настройваюць на нязвыклы лірычны лад. Аўтар паступова рыхтуе чытача да таго, што размова пойдзе не на «поўным сур'ёзе», а з выгадкай, гумарам: «рукам маім, сілай налітым, пакратаць трэба зямлю...» Прамы і пераносны сэнс зліваюцца, адчуваецца, што не проста так сабе пакратаць, а, мабыць, з якойсьці мэтай. І сапраўды: «праверыць, ці задрыжыць, ці моцна трымаецца яна там, на цёплым і мяккім другім баку». Лірычны герой турбуецца, ці ўтрымаецца зямля ў час яго падарожжа. Неўзабаве мы пераконваемся, што неспакой быў не беспадстаўны: пачынаецца шалёны, нястрымны палёт на лыжах паўз заснежаныя гарады. Свет пераўвасабляецца, і гэта нядзіўна пры такім палёце:**

*...песняй звонкае цішыні*
*лажыцца за мною след.*
*І на гэтай зямной цішыні*
*расце і шырыцца дзіўны свет,*
*белы-белы і звонкі.*
*Яму і мне,*
*як снегу, і ветру, і вёснам,*
*не трэба граніц!*
*Мае лыжы — смычкі,*
*снег марозны — струны,*
*і нараджаецца песня.*

**Такая песня магла нарадзіцца толькі ў нашу эпоху, якая ломіць усялякія часавыя і прасторавыя абмежаванні. Лірычныя радкі плывуць, нібы радыёхвалі, ад краіны да краіны, праз увесь сусвет, і маюць яны не прамы, а сімвалічны змест, выпраменьваючы то цеплыню людскіх узаемаадносін, то халодны сарказм. Адбываецца ўзаемадзеянне адначасова розных зместаў, якія, аднак, не выключаюць адзін аднаго: «Няўжо і цяпер сэ ля ві? Ну, добра, адзью, Парыж! Лондан, олрайт! Нешта, Лондан, над зімою тваёй туман, над зімой тваёй чорны дым. Олрайт!»**

**У кнізе Ракуэла Кента «Саламіна» ёсць легенда. Дачка караля змагаецца з пеўнем, потым з гадзюкай, у якіх замест языка высоўваецца меч. Каралеўна перамагла, але гадзюка паспела дыхнуць на яе, і дзяўчына загарэлася, ператварылася ў попел, які кароль сабраў у карабок ад запалак. А вось як у Купрэева, таксама пра попел: «У каханні тваім і маім згараю. Попел з сэрца свайго страсаю. Гарыць!» Ёсць у яго яшчэ верш і пра тое, як герой марыць сабраць усё гора-тугу і сцерці ў порах:**

*Той порах я падпалю —*
*цэлыя Гімалаі,*
*хай застаецца праху яго*
*грудка малая.*
*Тады гэта збярыце*
*і, як самы сучасны*
*і арыгінальнейшы экспанат,*
*пад шкло ў Гугенгейм памясціце,*
*калі гэты музей хоча модным*
*быць нат.*

**Магчыма, гэта неўсвядомленыя, апасродкаваныя, але тым не менш плённыя рэмінісцэнцыі: аўтар творча пераасэнсоўвае набыткі мастацтва.**

**Але назіраюцца ў яго і выпадкі механічнага пераймання чужых узораў («Падзенне Ікара», «Я хацеў вам сказаць»). Сур'ёзныя хібы многіх вершаў Купрэева — кволасць радка, «празаічная расслабленасць» («Юліяну Тувіму», «Фрагменты»). Часам чуллівая рамантызацыя пераходзіць у слязлівае «сентыментальнічанне» («Сонечка», «Яблынькі», «Так яно пачыналася»). Вершы тады расплывістыя, ім бракуе выбуховай, лірычнай сілы.**

**І хібы, і вартасці звязаны ўсё з адным і тым жа — з рамантычна-ўсхваляваным успрыманнем жыцця, імкненнем перарабіць свет і сцвердзіць у ім высокі ідэал: усё гора-тугу марыць чалавек сцерці ў парашок і спаліць... Рамантычны парыў зрывае знешнія, прыродныя абрысы з'яў (іншы раз несамавітыя, непрыглядныя), агаляючы іх сутнасць або характэрныя асаблівасці (заўжды ўзнёслыя, прыгожыя); агіднае выкрываецца, каб яшчэ больш вялікасным і заманлівым на яго фоне выглядаў ідэал.**

**Янка ШПАКОЎСКІ**

# НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

**Два твары перад маім унутраным зрокам. Адзін — ясны, з чыстым высокім лобам, яшчэ больш падвышаным раннімі залысінамі, пастава галавы гордая, нават ганарлівая. З другога, нядаўняга па часе, здымка ва ўпор глядзіць чалавек спакутаваны і змарнелы, з запалымі вуснамі, як гэта бывае ў старых, з суровым паглядам. *Так* не зміняюць пражытыя гады. *Так* можа зынаЧыць толькі якасць самога жыцця, яго непрадбачаныя бездані і непасільныя для душы выпрабаванні.**

**Як мне скласці ў адно, аб'ядоаць два гэтыя неверагодна розныя твары ў асобу канкрэтнага паэта, нашага сучасніка Міколы Купрэева?**

**Яго першая кніга «Непазбежнасць» ("Беларусь", 1967) была, добра памятаю, у маёй хатняй бібліятэчцы. Дарма я пераварочвала паліцы — зборнічак знік, таму давялося карыстацца**

бібліятэчным. Вершы аказаліся знаёмымі — значыць, я не раз перачытвала іх «на зары юнацтва».

Што я згледзела ў іх сённяшнімі вачамі, з сённяшнім разуменнем жыцця, паэзіі і ўсяго астатняга? Наіву ў «Непазбежнасці» не шмат· кніга выйшла, калі паэту было 30. Найперш ён падаўся мне рамантыкам і кніжнікам — той, першапачатковы Мікола Купрэеў. Ён цалкам адкрыты для людзей і трошкі мараліст (што не дзіўна для настаўніка па прафесіі). Адсюль і дзеясловы загаднага ладу «будзьце прамымі», «любіце» і г.д. Мужчын ён заклікае быць Праметэямі, жанчын — каб далі волю сваёй пяшчоце, зоркі называе сэрцамі паэтаў. Ён поўны замілаванасці да жыцця («мілыя вы мае астраўляне!..») і крыху карцінна працягвае рукі «праз белыя туманы».

Вось, на мой погляд, верш праграмны ў кнізе:

*xxx*
*Калі разумець не хочаце*
*свежасць, зялёную*
*цішыню*
*не чапайце мой лес.*
*Калі разумець не хочаце,*
*як ранне сіняе б'е ў акно*
*не чапайце мой бэз.*
*І калі з далоні спакойна*
*зерне дзяўбуць галубы*
*галубоў вы маіх не чапайце!*
*І калі я па дарозе іду*
*і шчасця ўсім вам хачу*
*вы, калі ласка, мяне*
*не чапайце!*

А ў школьныя хрэстаматыі мог бы ўвайсці наступны — «Калі хочаш наведаць мой край».

Асноўнымі матывамі, тэмамі і нават рытмікай муза маладога Купрэева выразна перагукваецца з музай А.Вярцінскага, які — пэўна, невыпадкова — стаў грамадскім рэдактарам гэтай кніжкі.

Адметнасць паэтыкі — выкарыстанне пераважна свабоднага верша. Рыфма трапляецца сям-там, як разынка, яна не з'яўляецца рухавіком думкі, асацыятыўнай плыні.

...Але ў маю задачу не ўваходзіць рэцэнзаванне зборніка амаль трыццацігадовай даўнасці, я і так на ім затрымалася. Першая кніга, якая ў іншых бывае заяўкай на творчасць, стала для М.Купрэева адзінай літаратурнай наяўнасцю. Спроба замацавацца ў Мінску скончылася няўдала. Пазней былі эпізадычныя падборкі ў «Дні паэзіі» і рэспубліканскім друку і — маруднае зыначанне, пераўтварэнне, нябачныя свету драмы, пра якія можна толькі здагадвацца.

Цяжка сказаць, у чым тут вінавата правінцыя, а ў чым яго ўласная цыганская звычка да перамены месца і ўсялякіх іншых перамен. Горай тое, што ўсе яны былі, мякка кажучы, не на карысць.

### ПРА ШТО ЁН МАРЫЎ

Ён многае хацеў сказаць людзям, калі ішоў у літаратуру. Пры ўсёй узнёсласці ўжо тады гучалі ў асобных вершах ноткі незадаволенасці, тугі па нечым недасяжным. «Пакіну ўсё і пайду ў той край»,— так пачынаецца верш «Спрадвечная казка», і радкі гэтыя сталі рэфрэнам. Паэту мроіцца край, «дзе няма ні сяброў, ні ворагаў», ні павучанняў, ні нечых крыўдаў, ні дробязнай рэгламентацыі нашага зямнога існавання. Там паволі цячэ шырокая Лета, і ён паплыве, паплыве на спіне па яе блакіту — проста ў Спакойную Эру І толькі бярозка будзе шалясцець над ім сваім лісцем.

Верш не заканчваецца гэтай ідылічнай карцінкай. Нібы спахапіўшыся, што далёка зайшоў у сваіх мроях, паэт апрытомнеў і суха, цвяроза падсумаваў:

*Усё застанецца. І я не пайду*
*у той край.*
*У той край ніхто не хадзіў*
*ніколі.*

Я зачапілася за верш таму, што ў яго ёсць двайнік, антыпод — адбітак цяперашняга светаўспрыняцця аўтара, вынік пройдзенага ім чалавечага шляху.

### ДА ЧАГО ЁН ПРЫЙШОЎ

Маю на ўвазе верш з апошняй па часе нізкі ў «ЛіМе» (за 15 ліпеня 1994 г.) з назвай «Яма ў канцы XX стагоддзя». (Менавіта з той публікацыі, адкуль узіраюцца ў свет хваравіта-трывожныя вочы сённяшняга Міколы Купрэева ) Жыццё ўяўляецца лірычнаму герою пачварнай аграмадзінай, якая шалёна імчыцца ў нябыт Апакаліптычнае відовішча катастрофы: вагон пад адхонам, «душа раз'ядналася з целам».

*У крыві і асенняй гразі*
*я сабраў сваё цела*
*і паклікаў душу...*

Душа была паблізу, бо ў неба яе не пусцілі грахі. Мы робімся сведкамі цуда: душа зноў аб'ядналася з целам — амаль як у фільмах жахаў — і вядзе паэта на Радзіму.

Куды толькі падзеўся даўні прыхарошаны вобраз зялёна-блакітнай Беларусі! Горкі палын, дзікі ўзлесак, пакінутыя хаты... Герой бярэцца капаць каменны дол, і тут у прасторы верша з'яўляецца істота з іншага, фальклорнага ці казачнага, вымярэння — шэрая мышка-палёўка, што прапаноўвае сваю норку. Няма для героя жытла, прытулка, дома, апроч ямы, пакрытай дзірванам. Вось яскравы сімвал адрынутасці, адасобленасці — яма.

Ціха ў земляным сховішчы, спакойна — зусім як калісьці на хвалях Леты. Самападман, яшчэ адна ілюзія. Бо «у той край ніхто не хадзіў ніколі».

Няпростае вяртанне да сябе самога, пераадоленне сябе самога, спасціжэнне марнасці ўцёкаў ад свайго прызначэння і свайго таленту — вось магчымы варыянт далейшага шляху Міколы Купрэева. Мудрыя кажуць — ніколі не позна.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ





# Вершаў дастаткова...

Я не знаёмы з Міколам Купрэевым. Маю некалькі кароткіх лістоў ад яго і ягоныя вершы — кнігу «Правінцыйныя фантазіі», якая павінна выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1995 годзе. Зрэшты, лістоў (нават кароткіх) і вершаў дастаткова, каб упэўніць і сябе, і кожнага, што пра паэта я ведаю ўсё. Самараскрыццё, адсутнасць катурнаў — асноўная якасць яго творчасці. Рызыкоўная назва апошняй кнігі Янкі Брыля «Пішу як жыву» — мяркую, найлепшы да гэтай творчасці эпіграф.

Вершы Міколы Купрэева складаюцца з цудоўнай блытаніны празаічных і паэтычных радкоў; з фальклорных сімвалаў і засваення (не заўсёды заўважнага) рамантычнага Купалы; з рытмаў, абцяжараных збіўлівым дыханнем; з баладнай кніжнасці; з вобразаў, якія вырастаюць і выспяваюць як трава і яшчэ з нечага сутнасна-беларускага, патаемнага, крыўдлівага і адначасова заспакоена-немітуслівага, поўнага незалежнай годнасці. Трэба ўлічыць таксама, што на гэтых вершах ляжыць яшчэ і адбітак «верленаўскага» існавання самога аўтара і праз гэта яны ўспрымаюцца з найвялікшым даверам.

Вершы Міколы Купрэева не заварожваюць, а кранаюць, не мілуюць слых, а ўражваюць душу. Толькі стаіўшы дыханне, можна чытаць, напрыклад, «Праклятую ноч»: «Знайшоў запалкі ў століку. Але гэта была каробка з малакаліберныімі кулямі...» Скажаце — проза. Так, проза. Нават звычайная. Але калі бытавая памылка (шукаў чалавек запалкі, а знайшоў кулі) вырастае ў сэнсавую метафару, тады проза робіцца паэзіяй. І так скрозь у Купрэева — пыл прозы ператвараецца ў цвёрдае рэчыва паэзіі, сэнсавая метафара часам вырастае з будзённага пераліку:

*Пад сухою вішняй стол,*
*пад ім    зламаная падкова,*
*вокладкі — Купала і Талстой,*
*павуціна ў шклянцы Малянкова.*
*Я з гэтай шклянкі піў..!*

Колькі праўды ў апошнім (просценькім, на першы погляд) радку! А ўсё таму, што прамовіў яго менавіта Купрэеў. Калі б гэты радок, не мяняючы ў ім ні слова, напісаў іншы паэт праўда знікла б!

Цяжка назваць Міколу Купрэева майстрам, бездакорным выканаўцам. Яго вершаваныя струны іншы раз недастаткова настроены. І ў беларускай паэзіі ён хутчэй за ўсё не сын, а пасынак, якому ў спадчыну пакінута аголенае слова і беспрытульнасць. Верш «Мая муза» — яркае таму сведчанне. Паэт нібыта існуе па-за межамі нашай літаратуры, вельмі мала друкуецца і геніяльна абыякавы да сваіх выданняў. Ён быў і застаецца збоку, месца пад агульным цёплым дахам яму няма. Ён — коласаўскі Сымон-музыка ў старасці. Карыстаючыся моднай тэрміналогіяй, можна сказаць, што Мікола Купрэеў — з'ява маргінальная. Але ён не здабываў патэнт на сваю маргінальнасць. Яму проста наканавана жыць *з краю*, як і наогул беларусам. Дарэчы, тое сутнасна-беларускае, што мне, чытачу, бачыцца ў ягонай паэзіі, і пазначана маргінальнасцю нашага нацыянальнага існавання.

У пэўным сэнсе постаць Купрэева міфічная. Ён ёсць і яго нібыта няма. Ён з ліку тых рэдкіх творцаў, якія прыходзяць да чытача спачатку напамінам пра сябе, а пасля ўжо сваёй творчасцю. Памятаю, як Міхась Стральцоў аднойчы сказаў «Цікава, дзе цяпер Купрэеў?» «Хто гэта?» — спытаўся я і пачуў адказ: «Паэт...»

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# ПОГЛЯД ПРАЗ ГАДЫ

Я не першы раз пішу пра Міколу Купрэева. Першы раз — у 1967 г., калі маскоўскі часопіс «Дружба народов» (N 8) надрукаваў маю рэцэнзію на ягоны зборнік «Непазбежнасць». Вершы Міколы падабаліся мне даўно, і прыемна было, што яны выйшлі (з дапамогай А.Вярцінскага) асобнай кніжачкай. З маёй ацэнкай, аднак, не ўсе згадзіліся, знайшліся і нядобразычліўцы. «Адліга» тады ішла ўжо на спад, набліжаліся «замаразкі», якія, на жаль, падмарозілі і купрэеўскія вершы. Паэт доўгі час вымушаны быў пісаць у асноўным «у стол».

Шмат вады сплыло з той пары. Сёння выразней відаць мастацкая своеасаблівасць паэзіі М.Купрэева, каштоўнасць яго пошукаў з іх мацнейшымі і слабейшымі момантамі. Гэта паэзія ўзнікла, безумоўна, на глебе тагачасных духоўных запатрабаванняў. Трэба было вярнуць згаладнелую, закратаваную беларускую паэзію, змучаную рэпрэсіямі і рэгламентацыямі сталіншчыны, да жыцця. Гэта і меў на ўвазе аўтар «Непазбежнасці»:

*Я хацеў вам сказаць,*
*як на кончыку промня*
*калышацца ліст юнай яблыні...*
*Я хацеў вам сказаць,*
*што вы, людзі, добрыя і суседскія,*
*як тыя лісты на дрэве...*

Ціхі голас паэта, цеплыня і сардэчнасць, наіў, нязмушанае ўменне карыстацца свабодным вершам рабілі моцнае ўражанне.

Відаць было, што ў яго лірыцы адлюстраваліся рысы пакалення «шасцідзесятнікаў» (у беларускай паэзіі яго прадстаўлялі У.Караткевіч, Н.Гілевіч, Р.Барадулін, В.Зуёнак, А.Вярцінскі і многія іншыя). Духоўны свет гэтага пакалення фарміравалі 60-я гады, а дзяцінства прыпала на перыяд вайны і нялёгкі пасляваенны час, калі гора і нястач хапала. М.Купрэева таксама памяла вайна, хоць ён не ваяваў ні на фронце, ні ў партызанах і сёння, вядома, не лічыцца ветэранам. (Ветэранамі, на маю думку, сёння трэба лічыць усіх, хто пераежыў вайну і асабліва, можа, тых гаротнікаў, хто знаходзіўся ў акупацыі.) Дзіцём паэт шмат зведаў, увабраў у сябе ўсю тую гаркоту жыцця, якая пакідае след назаўжды.

«Над ранняй вясной сваёй горкай стаяў я з перавязанай рукой»,— успамінае ён першую пасляваенную вясну, што супала з вясной жыцця ("Вайна і вясна"). Ды і, дададзім, не адзін ён: зямля была літаральна начынена мінамі, снарадамі і іншымі падобнымі «цацкамі», перад якімі, забываючы на папярэджанні дарослых, не магла ўстаяць дзіцячая цікаўнасць...

Вось шчымлівае сведчанне паэта, калі ад голаду ў час пасляваеннага ліхалецця памерла суседская шасцігадовая дзяўчынка Сонечка:

*...я ўспамінаю Сонечку.*
*Я думаю: трэба наведаць магілку.*
*I не іду!*
*О, як робіцца страшна,*
*калі ўяўляю:*
*я стаю ля магілкі,*
*а магілка такая маленечкая,*
*а мне ж — дваццаць шэсць.*

Аблічча равесніка-"шасцідзесятніка" паўставала з многіх вершаў:

*Калі ўчую на вуліцы смех дзяцей,*
*іх гулянкі —*
*так хочацца босым да іх пабегчы...*
*Мо таму, што вайна была нашаю*
*нянькай,*
*а так трэба маленства спазнаць*
*чалавечае.*
*Да не бягу на вуліцу. Сорамна.*
*Скажуць: здурэў.*
*А сэрца ные... Ах, мілыя хлопчыкі!*
*Ганяйце мячы, бегайце і спявайце*
*з дрэў*
*і за нас*
*на ўвесь свет,*
*на ўвесь свет*
*смейцеся, смейцеся, хлопчыкі!*
*("І за нас")*

У вершах М.Купрэева (друкаваліся яны і ў брэсцкай «Зары», і рэспубліканскай прэсе) можна было адчуць тое «свячэнне душы», якое сведчыла аб сапраўднасці і непадманнасці гэтай паэзіі.

Духоўнымі яго сябрамі былі сусветныя славутасці — Юліян Тувім, Ракуэл Кент, Гарсія Лорка, Пітэр Брэйгель (Мужыцкі), чыімі кнігамі і рэпрадукцыямі была заставлена хатняя бібліятэка. Яны шырока рассоўвалі мастацка-інтэлектуальныя далягляды маладога аўтара, накіроўвалі пошук, уводзілі яго ў рэчышча творчых памкненняў сусветнай літаратуры і мастацтва XX стагоддзя.

Усё гэта не магло не адбіцца на мастацкай індывідуальнасці беларускага паэта. Лірызм яго выглядаў, з аднаго боку, крыху эсэістычным, эцюдна-замалёвачным, у чымсьці апісальным. З другога боку, яго вершы мелі адзнакі філасофскіх медытацый і рэфлексій. Паэт актыўна шукаў новыя формы паэтычнага асваення свету праз нерыфмаваны верш, парадаксальнасць думкі, разняволены асацыятыўны вобраз, разгорнуты ва ўсе бакі, раскалыхваў фантазію, пашыраў абсягі мыслення.

Яго паэтычная мова дзівіла зыркасцю фарбаў, метафарычнасцю. Сонечны прамень у яго звінеў, над лесам плыла блакітная цішыня, з вясной паэт размаўляў як са знаёмай сяброўкай... Інтэлектуалізм у М.Купрэева не быў чымсьці знешнім, рацыяналістычна-прыўнесеным, ён выяўляўся знутры, спалучаўся з традыцыяй, любоўю да роднага, свайго.

Адмаўляючыся ад строгай рытмічнай арганізаванасці верша, аўтар імкнуўся кампенсаваць яе малюнкавасцю вобразаў, душэўным хваляваннем, шчырасцю і праўдзівасцю.

У яго шмат канкрэтыкі, але галоўны прадмет яго паэзіі — жыццё наогул, жыццё як чалавечае самаадчуванне, як філасофія жыцця. Нездарма адзін з вершаў так і называецца: «Замест лекцыі пра жыццё»:

*Паліла сонца — дажджу хацелася,*
*дажджы наваліліся —*
*сонца хацелася,*
*быў хлапчуком — пасталець*
*хацелася,*
*выйшаў за трыццаць юнацтва*
*схацелася.*
*Стаў паміраць жыць захацелася*
*у сонцы,*
*у ліўнях,*
*у юнацтве,*
*у сталасці*
*і — таму, што жыў,*
*жыў на зямлі! —*
*плакаў прад сконам ад гора*
*і радасці.*

Вось такое яно, на думку паэта, жыццё, чалавечая экзістэнцыя — у супярэчнасцях, процілегласцях, алагічнасці, і такім яно выступае ў вершах М.Купрэева. У яго не знаходзім схільнасці да якой-небудзь адной філасофскай сістэмы, якіх-небудзь адных вузка-дагматычных патрабаванняў і прынцыпаў — паэт шырока глядзіць на свет. Тым не менш, філасофскі светапогляд у паэта фарміруецца, і фарміруецца ён у судакрананні з ідэямі экзістэнцыялізму, якія ў той час шырока распаўсюджваюцца па свеце і, нягледзячы на пільную ідэалагічную варту, прасочваюцца і ў Савецкі Саюз.

У М.Купрэева сам талент і жыццёвы вопыт паэта падказвалі, што чалавечае існаванне на зямлі трагічнае па сваёй сутнасці і з гэтым нічога не паробіш: наканавана так, хоць знешне ўсё можа выглядаць спакойна, як на карціне П.Брэйгеля «Падзенне Ікара»:

*...Нага чалавека ўзмахнула*
*ля берагу, з мора, з пены.*
*А горы стаяць спакойна,*
*і неба, і мора спакойныя,*
*і не трапечуцца ветразі караблёў,*
*пастух спакойна на кій абапёрся*
*і пазяхае ў неба...*

Пазначаны трагізмам калаўрот жыцця паўстае перад намі ў вершах «Камень», «Спрадвечная песня», "Як зямля верціцца» і інш.

Але — і гэта самае каштоўнае ў паэзіі М.Купрэева — якой бы грэшнай і непрыветнай ні была гэта зямля, на ёй усё ж такі радасна жыць! Такая агульная думка вынікала з кніжкі і з тых твораў, што друкаваліся потым. Ясна чыталася яна і ў вершы «Непазбежнасць», які даў назву ўсяму зборніку:

*Непазбежнасць чыстага світання!*
*Блаславляю светлы твой прыход!*
*Загаі мае ўчарашнія крутыя раны,*
*абнаві маіх парываў бураход!*

*На парозе новых расцвітанняў*
*я ўтрапёна ахінуўся цішынёй,*
*працягну праз белыя туманы*
*рукі за фіялкай палявой.*

*Кіну ў неба жаўранку у крыльца —*
*хай пялёсткі раскідае на палі.*
*І часцінкі майго сэрца будуць біцца*
*радасцю і смуткам па Зямлі.*

*І пайду да светлых я вытокаў,*
*як той вольны, ваяўнічы,*
*мірны смерд,*
*аж пакуль не стрэне на гары*
*высокай*
*мяне другая непазбежнасць —*
*смерць.*

Выдатны верш — ці не праўда?

М.Купрэеў імкнуўся пранікнуць у тое, што Б.Пастарнак называў «непреложным ходом бытия». Гэта тая самая «непазбежнасць», якая, аднак, не змяншала маральную актыўнасць лірычнага героя.

Інтэлектуалізм паэта каранямі прарастае ў родную зямлю, складае жывую плоць купрэеўскай паэзіі, выступаючы ў адзінстве з прыродай, яе ўнутранымі законамі.

У інтэлектуалізме М.Купрэева спалучыліся і традыцыйнае, і новае для беларускай паэзіі. Гэта быў, па ўсім відаць, прарыў яе ў мадэрнізм з характэрнымі для яго асацыятыўнасцю мастацкага вобразу, зваротам да ўмоўных прыёмаў і форм паэтычнага мыслення, урэшце да міфатворчасці.

Зразумела, пра мадэрнізм, мадэрнісцкія ўплывы ў станоўчым плане тады гаварыць строга забаранялася, але ён прасочваўся і ў савецкую літаратуру і нярэдка даваў станоўчы вынік.

Яго ўздзеянне заўважна і ў купрэеўскай лірыцы. Напрыклад, у старадаўнім жанры балады, які, можна сказаць, асабліва блізкі паэту, аднак выглядае ў яго (і тады, і цяпер) зусім не традыцыйна. Многія аматары паэзіі памятаюць яго «Баладу пра партызанскія чаравікі», прасякнутую гераізмам і неад'емным ад яго трагізмам партызанскай барацьбы. Трагічная напружанасць той «пагранічнай сітуацыі, у якую трапілі героі балады, адчуваецца ў кожным радку...

Балады «Дзевятага мая» і «1863» напісаны ўжо пасля «Непазбежнасці», бліжэй да сённяшняга часу, аднак у іх, на маю думку, развіваюцца тыя ж мадэрнісцкія прынцыпы, якія былі закладзены ў першым зборніку: адмаўленне ад строгай дэтэрмінаванасці думкі, выкарыстанне ўмоўна-асацыятыўнай вобразнасці, маштабнасць мастацкага абагульнення, духоўная прасветленасць.

Усё гэта ёсць у баладзе «Дзевятага мая»:

*З брацкіх магіл*
*з-пад Курска, Варшавы, Берліна*
*вечарам майскім прыйшлі*
*ў Зацішша*
*забітыя Вася, Валодзя і Міша.*
*Вася — з асколкам у сэрцы,*
*Валодзя — з прабітымі скронямі.*
*Міша — сляпы і бязрукі.*

Помніцца даўні верш М.Ісакоўскага пра вяртанне салдата з вайны, які не застаў жонкі Праскоўі і прыйшоў на яе магілу. Але падабенства тут вельмі аддаленае. У М.Купрэева — усё інакш.

*Спыняецца Вася ля роднае хаты —*
*вясёлых гасцей у пакоях багата,*
*сядзіць яго ўнучка на покуце*
*ў вэлюме.*
*Дзед малады ля парога ўсміхнуўся,*
*родным дзвярам пакланіўся*
*і ціха пайшоў пад Курск...*

Другі герой — Валодзя.

*Спыніўся Валодзя ля крайняй*
*хаціны —*
*за акном пасівелая Кацярына,*
*стаіць з ручніком, палівае на рукі*
*мужчыны.*
*Першы муж ля парога з прабітымі*
*скронямі*
*шэпча: «Жывіце»,*
*пакланіўся абноўленым веснічкам,*
*ціха пайшоў пад Варшаву.*

Гэтаксама павёў сябе і трэці: «Хацеў крыкнуць — ды голас прастыў у магіле... Ціха пайшоў пад Берлін».

Тут не даводзіцца гаварыць пра нейкае «прамое» адлюстраванне рэчаіснасці: паэт выступае як міфатворца, і гэта ўзвышае яго паэтычны свет, надае яму глыбіню і эстэтычную прывабнасць.

Тое ж назіраем у баладзе «1863», якую сюжэтна арганізоўвае скразны вобраз белага каня, што разам з вершнікам задыхана скача праз начны прасцяг, сімвалізуючы трагічны вынік паўстання: «Вялікая сяўба не ўскаласіла...»

У М.Купрэева шмат моцных твораў, пра якія можна гаварыць у сувязі з агульным развіццём нашай паэзіі і лепшымі яе здабыткамі.

У той сваёй рэцэнзіі, завяршаючы размову пра першы зборнік М.Купрэева, я пісаў: часам паэт бывае надта шматслоўны, асобныя вершы яго

залішне расцягнутыя, варта вучыцца больш лаканічнаму пісьму Нешта ён, відаць, і ўлічыў, пра што сведчаць новыя лімаўскія падборкі.

Сёння хацелася б мець у руках кнігу выбранага паэта і новыя яго зборнікі. Гэта — цікавая старонка беларускай паэзіі. Яго пошукам варта давяраць і стымуляваць іх, бо яны звязаны з агульнай гуманістычнай скіраванасцю нашай літаратуры, з яе лёсам.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# Правінцыйная гісторыя, напісаная ў сааўтарстве з героем

Я пішу гэты тэкст за кухонным сталом, успомніўшы спрэчку з паэтэсай Валянцінай Аксак наконт аднаго верша Міколы Купрэева. Я сцвярджаў, што яго (верша) няма ў яго першай і пакуль адзінай кніжцы «Непазбежнасць», а яна ўпарта даводзіла, што — ёсць, ну, калі не ў першай, то ў другой... Я меў рацыю, што ў Купрэева не было другой кніжкі, яна — што такі верш ёсць. Усё гэта гаворыць пра тое, што творчасць паэта малавядомая нават у вузкім цэхавым коле беларускіх літаратараў.

А той спрэчны верш сапраўды быў надрукаваны на 41-й старонцы, якой якраз і не хапала ў маім пацёртым ад часу асобніку «Непазбежнасці». Называўся верш «Апошняга следу не будзе», а вы́клікаў зацікаўленасць, перш за ўсё, сваёй арыгінальнай і самабытнай запеўкай:

*Я пачаў гэты верш на падлозе,*
*на звычайнай сасновай падлозе,*
*ля парога... (!)*

Так «нізка» не пачынаў пісаць сваіх вершаў ні адзін з беларускіх паэтаў. А клічнік пасля слова «парог» я паставіў, каб акцэнтаваць на ім вашую ўвагу, бо яно нечым вызначальнае ў жыцці і творчасці таленавітага і СВЯДОМА, НАЎМЫСНА забытага паэта. «Ля парога» — гэта значыць на пачатку дарогі, якая, даў Бог, яшчэ доўжыцца, і пакуль не прывяла яго назад — да парога, бо парог — гэта і канец дарогі... Парог, з якога ўваходзім у жыццё, і парог, з якога сыходзім з жыцця...

Але вернемся ў думках да «першага» парога... «Непазбежнасць» Мікола Купрэеў выдаў у 1967 годзе, калі яму было трыццаць гадоў. Вершы яго настолькі выбіваліся з кантэксту беларускай савецкай паэтыкі, што наўрад ці наогул былі б выдрукаваны, калі б не паспрыяў яшчэ адзін паэт «с лица необщим выраженьем», Анатоль Вярцінскі, які адрэдагаваў кніжку на грамадскіх пачатках. Нешта ў гэтых паэтаў пераклікалася, агуквалася ў тым дысгарманічным часе. Магчыма, іх збліжала няўтульнасць таго часу, ненатольнасць і душэўная беспрытульнасць...

Празаічная, адвольная рытміка спараджала арганічнае дыханне ў радках Купрэева. Словы, быццам яблыкі, вымытыя ў ранішняй халоднай расе,— маладыя, здаровыя, звонкія, як помныя разанаўскія «ранеты», налітыя зямной сутнасцю .. Уяўляецца пад час чытання, што, вось, Купрэеў вярнуўся на золку з ляснога неруша і атрасае з сябе, сцепануўшыся на парозе, світальныя празрыстыя расіны слоў:

*Звонка падае шышка у ціш сасняку.*
*Вострым рогам месяц п'е малако*
*бярозы.*
*І чую, як п'юць ваду з ручайка*
*разгарачаны лось*
*з нясмела-прыгожай лошай.*
*Чую, як шэпчуцца адыходзячы.*

Паэт ад прыроды, Мікола Купрэеў калісьці збіраўся стаць і паэтам-прафесіяналам, членам СП БССР. Не лёс. Не выйшла па тым часе.

...І пайшоў ён вандраваць-бадзяжнічаць па палескіх прасторах паэтам-непрафесіяналам, настаўнікам і многа яшчэ кім і ўвогуле нікім — забытым у «краіне саветаў» чалавекам. Вандроўны мастак Ракуэл Кент ужо тады вабіў Купрэева сваім светаадчуваннем і бытаваннем. Цыганства душы навучыла яго хлусіць праўдзіва, па-мастацку, і сабе і чытачам:

*Пакіну ўсё і пайду ў той край,*
*дзе няма ні сяброў, ні ворагаў,*
*дзе бацька не будзе вучыць*
*мяне жыць*
*і дзе жонка не будзе чакаць*
*і тужыць,*
*крыўдаваць і злавацца не будзе,*
*дзе ніколі нікому не змагу*
*я змяніць —*
*гэта нікому не будзе трэба.*

*Толькі бярозка адна нада мной*
*будзе лісцем сваім шалясцець,*
*плывучы урачыста,*
*і лёгка*
*вочы замружыць мае*
*старадаўні навеў —*
*старадаўні спакой*
*і ўсміхнуся я светла і чыста...*

Дарога вандраванняў была незваротна абрана на ўсё жыццё, але, ідучы па ёй, трэба было абраць галоўнае — ШЛЯХ.

«...Любіў і люблю знікаць. Найбольш адметныя зніккенні помняцца ўсё жыццё.

...У 1949, калі пераехалі ў Заходнюю Беларусь (недзе туды, дзе цяпер Бярозаўская ДРЭС), мне купілі новае байкавае паліто. А я ў першы ж дзень яго парваў. Пакінуў кніжкі ў школе і 15 км ішоў пешшу да станцыі Бронная Гара. Сеў у цягнік і вылез ужо ў Баранавічах. А на пероне мяне чакаў міліцыянт. Завёў у дзіцячы прыёмнік, дзе мяне, упершыню ў жыцці, апранулі ў новы картовы касцюм ды яшчэ ўдосталь накармілі. А дні праз два «экспедытар» даставіў мяне пад акно настаўніцкага пакоя школы, дзе бацька працаваў дырэктарам. Экспедытар пайшоў да бацькі, а я — зноў знік...

...Пасля 9-ці класаў, летам, мы з сябрам укралі ў Івацэвіцкай СШ карту Беларусі, я знёс з хаты кілаграмы тры старога сала, сябар прадаў украдзеную ім дома муку (каб разжыцца грашыма), у мяне быў нямецкі, з цялячай скуры, поўсцю ўверх, ранец — і мы селі на цягнічок вузкакалейкі, які ішоў да Целяханаў. Адтуль — пешшу да Пінска. Там залезлі ў пасажырскі вагон, ды ўжо ў Лунінцы нас згледзелі міліцыянты... Уцёкі былі безвыніковыя, але мой ранец з камсамольскім білетам паехаў на Украіну...

...Пасля першага семестра ў Брэсцкім педінстытуце я прадаў гадзіннік і кінуў інстытут — паехаў да цёткі ў Растоўскую вобласць, на Дон. Даўно цягнулі мяне туды стэпы і казачкі. Вар'ята неўраўнаважанага, імпрэсіўнага, мяне вабілі туды яшчэ і «Кубанские казаки» і «Кавалер Золотой звезды». Во, які магутны быў сацрэалізм! Прычынаю кінуць інстытут была і тая, што тады, восенню 1956 года, мяне і яшчэ аднаго такога ж камсамольца ў Брэсцкім ваенкамаце не ўзялі, як мы ні прасіліся, добраахвотнікамі ў Венгрыю — гэтак хацелася абараняць заваёвы сацыялізма ў братняй краіне ад «происков империалистов»...

Праз год вярнуўся ў інстытут. Ужо пасля таго як летам папрацаваў на Доне камнячосам, як зведаў сухія, пыльныя дарогі па стэпе з чэзлымі сталінскімі лесапалосамі, як папрацаваў, ужо вярнуўшыся дахаты, рабочым у геолагавышуковай партыі, дзе трэба было насіць на плячах цяжкія трубы, круціць уручную снарад у слонімскую зямлю, дзе трэба было піць восенькімі вечарамі ржавую кіслую самагонку і танцаваць факстрот з грудастымі полькамі на п'янай вуліцы ў Тартаках. Вярнуўся на першы курс, сустрэў студэнтку з Сінаўкі, з якой пабраліся на 3-цім курсе, і ад якой потым 5 гадоў хранічна знікаў, і якой у апошнія гады прысвячаю самотныя вершы. Ад яе знікаў і вяртаўся, але перад тым, як зайсці ў хату, сустрэцца з ёй, мыўся чыстай сцюдзёнай вадой з былой рэчкі Начы (цяпер гэта канава ля Сінаўкі) і з іншых рэчак...

Знікаў пасля і ад другой, юнай, жанчыны...

...З 1967-га па 1986-ы год (пасля зборніка «Непазбежнасць») знік — не з паэзіі, не са старонак газет і часопісаў — з самога сябе. Знік у нетры Палесся... І толькі калі зразумеў, што знікаць ужо няма куды, што ўсе ногі і дакедкі пра сябе згублены і само Палессе згублена ўшчэнт, і калі пачуў, адчуў, што недзе там, наверсе, нешта цікавае і чалавечае вяртаецца на гэтую гаротную зямлю — і я стаў вяртацца. Але ўсюды і да ўсяго вярнуцца ўжо, на вялікі жаль, немагчыма...»

*(з лістоў М.Купрэева да Л.Г.)*

Калі хто бачыў Міколу Купрэева, па-руску кажучы, «во плоти», то пэўна, жахнуўся кантрасту той плоці і яе духоўнага зместу. Ён яшчэ не вярнуўся да нас такім, якім ён ёсць, але ўжо вяртаецца да самога сябе. Яго зболеная, звярыная плоць акрэслена адмежавана ад яго першабытнай затоенай душы. Вітаешся з адным Купрэевым, развітваешся — з іншым... Так чалавеку цяжка жыць. Тое самае, як быць злодзеем — і не красці. І тады — крадуць у самога сябе. Купрэеў «абакраў» сябе дарэшты. У яго ўжо нічога няма свайго, акром таго, што нейкім чынам аказалася нашым... Гэта — паэзія. Не кожны, далёка не кожны заплаціць сёння за ЯЕ такую цану, лічы што ўсё жыццё...

Напаўжывы, напаўраздзеты, ён яшчэ чапляецца за вагонныя поручні электрычак... і немагчыма зразумець: ці гэта спроба апошняга знікнення ці адчайнае намаганне вярнуцца да самага запаветнага. Яшчэ нехта знаходзіць у гэтых электрычках і на чыгуначных станцыях яго скамечаныя рукапісы, яшчэ не затаптаныя вострыя сляды ягонае кульбы каля тых ветраных пасялковых прыпынкаў, на якіх ён сходзіў, проста таму што хацеў сысці. Мы там не сыдзем. Мы сходзім толькі на тых станцыях, да якіх аплочаны нашы квіткі.

Прырода і шлях не стамляюць яго. Тым больш, што ў яго няма канкрэтнай мэты, для дасягнення якой трэба ахвяраваць многім. І ўрэшце, што гэта за шлях, калі ён АДТУЛЬ і ДАГЭТУЛЬ?

...Цяпер у яго ёсць свой часовы самотны прытул: мансарда вялікай драўлянай хаты на самым ускрайку вёскі Папялёва, што на Пружаншчыне. За сто крокаў ад Белавежскай Пушчы. Яе таемны зааконны шум напаўняе прастору яго вершаўсказаў. Замест адной сцяны — у мансардзе вялікае акно, якое якраз і выходзіць на пушчу. Сама мансарда аб'ёмная як для адзінокага чалавека. Але для такога, які жыве прасторай,— якраз. Ёсць дзве вучнёўскія этажэркі з кнігамі, шырокі стол са школьных партаў, улежны металічны ложак, некалькі цвікоў у сцяне для адзення, электраплітка, чыгунок, міска, лыжка, брытва, печ, што зыркае цёмным вокам у чаканні дроў і брыкету, сырасць, мышы, два крэслы... Жыў матыль, які трагічна згарэў, заляцеўшы на яркае святло тэлевізійнага юпітэра. Шырачэзнае акно на мансардзе не адчыняецца, яно глухое, і матыль увесь час стукаўся ў шыбу, летучы да святла, як нярэдка стукаецца сваёй кульбай Купрэеў у падлогу да

свайго сябра Валодзі Цануніна, які жыве пад мансардаю. О, каб не той сябар з паэтычнаю натураю — гісторык, вядомы нумізмат, прафесійны турыст, разбяр па дрэву, бард, гарманіст і, Бог ведае, на што яшчэ здольны чалавек, — то Міколу прыйшлося б туга... Аднак яму шанцуе на добрых людзей, не тое што згаданаму пакутніку-матылю. Вершы можна запісваць і на пустым супавым пакеце, але ці доўга будзеш пісаць адно на пустым? Іншы раз трэба стукацца — на святло, да людзей, бо іначай адзінота стане тваім апошнім прытулкам.

На мансарду трэба падымацца па высокай драўлянай лесвіцы. Гэта нават рамантычна для маладых і здаровых. Купрэеву цяжка. Аднак ніхто іншы, як ён, гаворыць: «Каб не гэтая лесвіца, я не ведаў бы, на што я яшчэ здольны». Ён жыве перадоленнем.

«...Мне, браце, зноў падоўжылі 2-ую групу, але ўжо не па лёгкіх, а па «опорно-двигательному аппарату». От гэты апарат, а не партыйна-савецкі, мяне больш за ўсё і мучае. І ўсё ж я магу іншы раз, раптам, махнуць рукой на ўсе апараты і, сцяўшы зубы (забываю, што ў мяне іх няма, дык — сцяўшы дзясны), куды-небудзь абрынуцца — мне абы толькі сесці-залезці ў мясцовы аўтобус, а там, у Аранчыцах,— у цягнік, а ў Жабінцы — у дызель і, напрыклад,— у Іванава (па-тутэйшаму — Яніў), а там, блізка,— у хату, у якой жыве адзін мужык (адзін! больш нікога) і — тут можна крыху разгавецца, а потым цешна-цешна, з пустою душой, дабірацца назад у Папялёва і тут спачываць лёгка на сваёй адзіноце, ад якое я быў уцёк...»

*(з лістоў Купрэева да Л.Г.)*

Ад каго і чаго, да каго і куды ўсё сваё жыццё ўцякае-імкнецца зболены Паэт? Тут бы дарэчы цытатку якую з яго вершаў прышпіліць, але не буду. Яго вершы трэба чытаць цалкам, урыўкамі яны не даюцца, не паспяваюць самаапраўдвацца, самаўдастаткоўвацца. Яны цэльныя, з аднаго сонечнага, смалістага ствала яго істоты. Гутарковы, апавядальны, са збівамі рытма-дыхання, нервовымі паўзамі напружання, стыль. Але гэта не набыты прафесійны стыль яго паэтычнага пісьма, гэта — стыль і форма яго жыцця, паўсядзённага чалавечага бытавання. Мне нават здаецца, што ён піша свае вершы не столькі ад рукі, колькі ад сэрцабіцця, прасцей кажучы, ад пэўнага рытму сваёй натуры ці нават, і часцей за ўсё, яе арытміі. Можна дадаць, што ён не працуе над вершам і не апрацоўвае яго так, як гэта разумеецца многімі літаратарамі.

«Існуе загнаны псіхапат, які не хоча нікога чапаць — таму што самае галоўнае ёсць не літаратура, а здольнасць нікому не зрабіць балюча; ды замест гэтага я нешта ляплю пра Кантэміра, Дзяржавіна і іншых, а яны слухаюць, адкрыўшы рот, быццам на свеце ёсць нешта яшчэ, акром адчаю, неўрастэніі і страху смерці». Так напісаў у адным са сваіх эсэ Іосіф Бродскі пра сябе і пра тых, хто жыве пад небам, але ўжо не на зямлі.

«...а ты, Лёня, (толькі не ведаю: ці па прыродзе ці ад жыцця-быцця) — маштабны песіміст. У тваіх вершах поўна самоты.

Пры кожнай нагодзе выязджай (!), з сям'ёй ці адзін, у лес (!). Далей ад людзей! У глыбокі лес! На Клеччыну. Едзь! Уцякаць іншы раз трэба (!) не толькі ад гарадоў, ад людзей — а й ад самога сябе. Я таксама (па прыродзе) самотны. Але мне зручней і лягчэй: я адзін. Магу ўзяць пляшку, хлеб, цыгарэты — і схавацца дзе-небудзь за вываратнем, пад нізкімі елкамі, найлепей ля мурашніку (каб не заснуць), дый цікава глядзець на мурашыную сцежачку, а яшчэ, ведаеш, Лёня, цікава глядзець, калі схіліцца галавой-вачмі да травянога карэння,— глядзець, як там поўзаюць і нешта робяць, жывуць розныя казюркі, чарвячкі; і вельмі хораша на душы, калі — раптам! — лёгенька так і цёпла, капне на лысіну зверху птушачка! Увогуле, дзякуючы сваім хваробам, я стаў лепш адчуваць і прымаць да душы гэтыя і кроплі зверху, і гэтыя рухі ў травяным дольным панізоўі — тады я і сам нават крыху (крыху — таму што ёсць яшчэ ўсёткі гонар «гомо сапіенс») поўзаю разам з казюркамі або збоч мурашынай сцежкі — і мне тады так добра».

*(з лістоў Купрэева да Л.Г.)*

Адзінота ў адзінстве з прыродай. Ён і сам ёсць з'ява і голас прыроды. Як і прырода, моцны сваёй унутранай гармоніяй і вонкавай стыхіяй. Таму, хто ўзяўся за пяро, яно — посах.

«...Як ніколі доўга, некалькі дзён ужо, сяджу над Чарнабогам і Ісусам. Знайшоў «Культуру» з Юхнаўцом. Цікавая публікацыя, цікавыя «Зацемкі». Супярэчлівыя ў Юхнаўца разважанні пра — «Адмаўляю рыфмаваную паэзію. Там няма свабоды...», «Век класічнага верша мінуў...». А вось гэта мне імпануе· «Для мяне... верш мусіць быць *навелай — лірычнай ці драматычнай...»*. (Падкрэслена М.Купрэевым. — Л.Г.)

...Сёння раніцай, нарэшце, я зразумеў: пакуль што ў мяне нічога з Ісусам і Чарнабогам у пустэльні не атрымаецца, бо змест не знайшоў ува мне сваёй формы. Так, ува мне. Гэта значыць, пакуль што (а можа, і ніколі) я сам не адпавядаю намечанаму зместу. А ўсё лета сядзеў над пустэльняй. Можа, сама душа мая ўжо стала пустэльняй. А добра ж вывучыў Евангелле ад Лукі і, галоўнае, «Біблейскую экцыклапедыю» — тое ў ёй, што мне патрэбна было. Рабіў выпіскі, нават нешта маляваў, чарціў. А можа, здарылася так таму, што — пастаянныя перабоі з курывам і няма, калі трэба (для творчага тонусу), віна-гарэлкі.

...Каб думалася больш канкрэтна, гэта значыць, востра і рашуча, учора, ідучы па школьным двары, сеў на плойму мурашак — на лаўку (блізка мурашнік). Але толькі дзве-тры залезлі мне ў штаны (пад штаны), і я далей пайшоў расчараваны. От, нават мурашкі ўжо грэбуюць мной. Тады я вырашыў змазаць цела ніжэй спіны адэкалонам. Але крама была зачынена. Не шанцуе кругом. Тады я прыйшоў дахаты і напісаў:

*Мне снілася жанчына боская адна.*
*Яна сказала: «Пі мяне да дна.*
*Пі мяне ад вечара да дня.*
*А як не зможаш піць мяне да дна —*
*Напіцца дам агдамскага віна.*

А снілася мне аднойчы (нават не снілася, а — мроілася перад сном) Маргарэт Тэтчар. Дарэчы, яна была не так даўно ў Азербайджане, гэта значыць, ля Агдама... Можа, такія вар'яцкія трызненні бунтуюць маё цела і душу таму, што даўно-даўно няма каля мяне ніякай жалезнай лэдзі...»

*(з лістоў Купрэева да Л.Г.)*

О Гасподзь, каб так іранізаваць і пасміхацца са сваёй фізічнай нямогласці, то трэба быць альбо адчайным дон-жуанам альбо — Паэтам. Дарэчы, непадалёк ад згаданай геаграфіі пасецца ў памяці імя вялікага Байрана. Але куды Купрэеву да яго! Хаця, каб той байранаўскі дабрабыт ды хоць адна здаровая нага?! Га?! А што — маглі б і пацягацца... Дзе-дзе, а за сталом рыфмамі... пазвінелі б... Да сваіх чарговых знікненняў.

Шлях не адпускае тых, хто абраў яго за мэту. Але ці ёсць пэўны накірунак таго Шляху? Ці гэта спрадвечная дарога вандроўніка, які тым і жыве і жывіцца, што бачыць і сустракае, ідучы тым Шляхам. Бескарысна. Ён — не першапраходзец, ён не пракладвае гэты шлях-дарогу для наступнікаў, ён — засцерагае... Таму Шлях — бясконцы, як бясконца, бязмежна разуменне Слова ў шматлікасці яго сэнсаў. Шлях — ад Слова. Пакуль жыве чалавек — ён ідзе ад Слова. Яно паказвае і вызначае напрамак нашага Шляху ў залежнасці ад таго, як мы разумеем Слова.

«...ты ўспамінаеш пра дранікі. Дык от: тады я дранікі так і не спёк — таму што спачатку ўзяўся быў за шпакоўню. Пакльпаў на школьны двор, знайшоў там не дошкі, а нейкія аполкі, «склеіў» з іх сякую-такую, па ўсёй форме, скрыначку і прымацаваў — праз акно з мансарды, там, на сцяне сенцаў, як і трэба шпакам, на ўсход сонца. Два дні рабіў усё гэта. Потым два дні чакаў. Нарэшце Ён і Яна знайшлі маю шпакоўню,— паселі, свішчуць-верашчаць... Дык ты ведаеш, Лёня, калі птушкі прыляцелі да мяне — у мяне ажно вочы памакрэлі,— таму што мне 57-ы год, а гэта ж першая мая ў жыцці шпакоўня, у якой і ля якой пасялілася песня... Праўда, некалі я ўжо рабіў шпакоўню, але ў ёй чамусьці тады птушкі не прытуліліся... Ну! — у маленстве ў мяне не было такога! Ніколі не было такога! Няўжо чалавеку Богам суджана зведаць пад старасць тое, чаго ён не зведаў у дзяцінстве?! Калі гэта так — дык можна жыць...»

*(з лістоў Купрэева да Л.Г.)*

І гэта піша чалавек — пасівелы, палыселы, зболены, шасцідзесяцігадовы! Ці Паэты — людзі без узросту? Жывуць — тады, калі пішуць, і ўваскрасаюць — тады, калі ў нечых вуснах паселіцца іх слова, як Ён і Яна ў шпакоўні Купрэева, каб абнадзеіць свет песняй...

*Жалезабетонны мост над нічым.*
*Толькі трава — з дзірвану таго*
*самага.*
*А ў траве стаіць ветрык.*
*Тваё дыханне.*

Каб так сказаць, то трэба, «каб сэрца ў ЯГО было жураўліна ці, як у тых журавоў, чалавечае сэрца было!»

Нейк агулам, па аркушыку, сабралі нарэшце для выдавецтва рукапіс другой ягонай кніжкі «ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ФАНТАЗІІ». Пачытаем, парадуемся, спадзяюся. І чытачы — таксама. Дарэчы, як новаспечанаму сябру Саюза пісьменнікаў Беларусі, афіцыйна зарэгістраванаму спадаром Зуёнкам В.В., ці не час паднялца з падлогі і сесці за які ні ёсць стол? Як-ніяк, статус і статут абавязваюць...

А то ўжо пайшоў розгалас у літарацкім асяродку: Паэт новы з'явіўся! Дзе? Хто? Ды вунь жа —

*Глядзіце, глядзіце! Паўзе ад дарогі*
*праўдашукальнік, паэт бязногі.*

Ць-фу ты! Ды гэта ж Мікола Купрэеў!.. Мы яго ўжо сто гадоў ведаем. Яшчэ ў Каралішчавічах, у 60-тых, помню, выпівалі перад прыёмам у Саюз, а ён — вазьмі і ляпні... Ну, і адправілі яго далёка ад сапраўднай літаратуры! Глядзі ты, на кульбе з такой далі прыклыпаў! Мужык! Здароў, Мікола! Праходзь, прысаджвайся. У нас — дэмакратыя, чуў? Цяпер што хочаш пішы — усім месца хопіць...

«Толькі што левым вухам пачуў па радыё вельмі харошыя словы: "Такое маўчанне ў снезе..." А хто іх сказаў — не ведаю...»

*(з лістоў Купрэева да Л.Г.)*

Леанід ГАЛУБОВІЧ

Я маю твор... | Іван АРАБЕЙКА



НА ПЛІТАХ ЛІТАРЫ



Людка СІЛЬНОВА | Я маю твор...



## ЯСНЕЮЦЬ ДНІ...

Яснеюць дні. І адчуваю, Божа, я:
Мы нарадзіліся для нечага большага.

У нашых клетках - сяпваюць такія птушкі!
Ў садах душы - такія высокія гушкалкі!

А коні думак - такія лятуць хутканогія
Па ўсіх , нам вядомых і нам не вядомых,
дарогах!..

І сэрца імкнецца ў бязмежжа спакою
прыгожага:
Хіба не для большага мы нарадзіліся?!
Не для божага?!

## ТАЯ, ШТО ЖЫВЕ ЎВА МНЕ

Тая, што жыве ўва мне, -
Мацнейшая за мяне;

Тая, што жыве ўва мне, -
Маладзейшая за мяне;

Тая, што жыве ўва мне, -
Мудрэйшая за мяне;

Яна - сонца мне, а я -
не.

# Я маю твор... | Сяржук МІНСКЕВІЧ



***

горад - тут пуп дарог
аблок бы рыб колба
а гром - шабаш морга
асобам узор ісьці розума боса

горад - пуп тут дарог

---

Падказка 1 х - у = у - х,
дзе х - у = радок (паліндром)

Падказка 2 (не для філёлёгаў):
ц = тс (афрыката)

## КАРОТКАЕ ЗАМЫКАНЬНЕ

пах... укус тока
атака з агню
і курганок
попела
дар тут

---

Падказка: х - у == у - х,
дзе х - у = радок
(антыпаліндром).

## ЯК ЗДЫМАЛІ ВІДЭАКЛІП ПРА КЛАПА І ВЫКРАДАНЬНЕ МАЛАДОЙ

к(х)лоп.
шх(х)лоп
клоп.
шлоп

клюб.
шлюб
к(г)лыб.
ш(г)лыб
к(х)леб.
ш(х)леб
клуб.
шлуб
кляп.
шляп
клёп.
шлёп
кліп.
шліп

---

Падказка: у творы выкарыстаны
матывы п есы Ул. Маякоўскага «Клоп».

## ЭПІЗАД ЖУЦЬЦЯ

Гарыць лухтар
Лятаюць шмухі

Хаду спыніў мулнар,
У штаны засунуў крукі.

Цьмяніць ліхтыр
Жагаюць млёхі

Зяхнуў лезь-лезь млыкныр
Прымроіў жабу шлёхі.

Мігціць лохтар.
Зьнікаюць жмухі.

У трусах жуе амар
І вырабляе жухі.

Ляжыць млянар,
Хрыпіць, бы хрукі.

Загас даўно ляггар.
Паснулі ціха мрухі.

## з цыклю «ПЭЙЗАЖЫСЬЦІКА»

чароты чаплі чорнымі чубамі чэшуць ачмурэлы чэраў вечара
а бот у рот эпілепсіка ці бо псіха ціха глыбока патопнуў
думаеш тумкаеш мокнеш мохнеш гаркнеш ды чакаеш нечага
адна жабоціна са дна жэўжыцца можа жэніцца квохча журботна
вусны сьлінькія сінімі цуглямі з гусьлямі ўвушна цягнуць
сонца соц'юмам збагнена за берагам праз метр цемры дасягне
«ЗАХОД СОНЦА НАД БАЛОТАМ»



# ТВАРАСЛОВЫ

**Знадукоўваць** — павучаць каго-небудзь, «адукоўваць», стоячы над яго душой; ***назидать.***

**Знадукаванне** — ***назидание.***

**Знадукоўвацца** — ***назидаться.***

**Знадукоўны** — ***назидательный.***

**Знадукаванае** — ***назидаемое.***

**Знадукоўваючы** — ***назидая.***

**Знадукоўца, знадукоўнік** — ***назидатель.***

Цэрквы ж па ўсёй Іудзеі, Галілеі Самарыі былі ў спакоі, знадукоўваючыся і ходзячы ў страху Гасподнім (Дзеі, 9:31).

А вы, узлюбёныя, знадукоўваючы сябе на найсвятой веры вашай, молячыся Духам Святым, захоўвайце сябе ў любові Божай (Іуда, 20—21).

Хто гаворыць на незнаёмай мове, той знадукоўвае сябе; а хто праракуе, той знадукоўвае царкву (1 Кар., 14:4).

Калі вы сыходзіцеся, і ў кожнага з вас ёсць псалом, ёсць павучанне, ёсць мова, ёсць утаяванне, ёсць вытлумачэнне,— усё гэта хай будзе на знадукаванне (1 Кар., 14:26).

Пісаць вам аб тым жа для мяне не нудна, а для вас знадукоўна (Піліп., 3:1).

**Самсць** — матэрыя, што «саманалежыць» жывой істоце; ***плоть.***

**Самсны, самсоўны** — ***плотский.***

**Самсценне, самсаванне** — атаясамліванне з **самсцю**, упадзенне ў **самсць.**

**Самсціцца, самсавацца** — атаясамлівацца з **самсцю**, упадаць у **самсць.**

Таму пакіне чалавек бацьку свайго і маці сваю, і прылепіцца да жонкі сваёй; і будуць адна самсць (Быц., 2:24).

І прыйшлі ўсе калены Ізраілевы да Давіда ў Хяўрон, і сказалі: вось, мы — косці твае і самсць твая (2 Цар., 5:1).

Цябе прагне душа мая, па Табе тамлее самсць мая ў зямлі пустой, ссохлай і бязводнай (Пс., 62:2).

І ты будзеш стагнаць потым, калі самсць твая і цела будуць знясілены (Пр., 5:11).

Неразумны сядзіць, згарнуўшы рукі, і з'ядае самсць сваю (Екл., 4:5).

Так кажа Госпад: пракляты чалавек, які спадзяецца на чалавека і самсць робіць сваёю апораю (Іяр., 17:5).

Самсценне засціць зрок чалавеку, і па крывых сцежках блукае яго жыццё (Апокр.).

Спакуса, якая цікуе за чалавекам у днях яго,— самсаванне, і той, з кім самсуецца асалода, губіць шчасце (Апокр.).

**Звыдумны** — той, хто мае пра сябе высокую думку, але, павышаючыся ў ёй, паніжае пры гэтым іншых; ***надменный.***

**Звыдумняць** — ***надмевать.***

**Звыдумняцца** — ***надмеваться.***

**Звыдумненне** — ***надмение.***

**Звыдумнасць** — ***надменность.***

**Звыдумна** — ***надменно.***

**Звыдумняючыся** — ***надмеваясь.***

За тваю здарсць супраць Мяне і за тое, што звыдумненне тваё дайшло да вушэй Маіх, Я ўкладу кальцо Маё ў ноздры твае і цуглі Мае ў рот твой (4 Цар., 19:28).

Яны заключыліся ў туку сваім; звыдумна гавораць вуснамі сваімі (Пс., 16:10).

Госпадзе! не звыдумнялася сэрца маё, і не ўвазносіліся вочы мае (Пс., 130:1).

Звыдумны распальвае сварку, а той, хто спадзяецца на Госпада, будзе лабгадзейнічаць (Пр., 28:25).

І пакладу канец звыдумнасці дужых, будуць апаганены святыні іхнія (Езяк., 7:24).

Бо людзі будуць самалюбныя, срэбралюбныя, ганарлівыя, звыдумныя, зламоўныя, бацькам непакорлівыя, няўдзячныя, нечымлівыя, непрыязныя (2 Цім., 3:2).

**Грайшч** — стан надзвычайнай радасці, захаплення, шчасця, які, як вясёлка, грае ў чалавеку і афарбоўвае рэчаіснасць у колеры раю; ***восторг***

**Грайшчыцца** — ***восторгаться.***

**Грайшчыць** — ***восторгать.***

**Узграйшчыцца** — ***восторжествовать.***

**Грайшчасны, грайсны** — ***восторженный.***

Узрадаваліся б да грайшчу, звысціліся б, што знайшлі труну? (Іоў, 3:22)

Бо Ты засланіў сэрца іхняе ад разумення, і таму не дасі ўзграйсціцца ім (Іоў, 17:4).

З таго даведаюся, што Ты добразычлівішся да мяне, калі вораг мой не ўзграйсціцца нада мною (Пс., 40:12).

Узвяселіцца сэрца іхняе, як ад віна: і ўбачаць гэта сыны іхнія ўзрадуюцца; у грайшчу будзе сэрца іхняе аб Госпаду (Зах., 10:7).

Азмрочацца позіркі, грайсныя галасы аціхнуць, тое, што было трывалае, нібы камень, стане — нібы туман (Апокр).

**Звышчэнне** — стан, які прычашчае чалавека да вышыні і ў якім чалавек асягае сваё вышэйшае прызначэнне; ***восхищение.***

**Звышчацца** — ***восхищаться.***

**Звышчаць** — *восхищать*.
**Звысціць** — *восхитить*.
**Звысціцца** — *восхититься*.
**Звышчаны** — *восхищенный*.
**Звысны** — *восхитительный*.

Зразумейце гэта, хто забываецца на Бога, каб Я не звысціў,— і не будзе таго, хто выбаўляе (Пс., 49:22).

Бо Ты ўзвесяліў мяне, Госпадзе, тварэннем Тваім; я звышчаюся справамі рук Тваіх (Пс., 91:5).

Я сказаў: Божа мой! не звысці мяне ў палове дзён маіх (Пс., 101:25).

Праведнік памірае, і ніхто не прымае гэтага да сэрца; і мужы лабгадзейныя звышчаюцца ад зямлі, і ніхто не пакмеціць, што праведнік звышчаецца ад зла (Іс., 57:1).

Ад дзён жа Іаана Хрысціцеля дагэтуль Царства Нябеснае сілаю здабываецца, і хто намаганне ўжывае, звышчае яго (Мацв., 11:12).

Ведаю чалавека ў Хрысце, які назад таму чатырнаццаць гадоў,— ці ў целе — не ведаю, ці па-за целам — не ведаю: Бог ведае,— звышчаны быў да трэцяга неба (2 Кар., 12:2).

**Чалемец, чалец** — той, хто ўзначальвае людскую грамаду, хто цягне лямку правадырства; *глава*.
**Чалемны** — *главный, главенствующий*.
**Чалемнічаць** — *главенствовать*.
**Чалемства** — *главенство*.
**Чалень** — *глава* (кнігі).

Зробіць цябе Госпад чалемцам, а не хвастом, і будзеш толькі на вышыні, а не будзеш унізе (Другазак., 28:13).

Адыме розум у чалемцаў народа зямлі, і пакіне іх блукаць у пустыні, дзе няма шляху (Іоў, 12:24).

І прытым рука знакаміцейшых і чалемнейшых была ў гэтым беззаконні першаю (Езд., 9:2).

Бо чалень Сірыі — Дамаск, чалень Дамаска — Рэцын (Іс., 7:8).

Таму што муж чалемец жонкі, як і Хрыстос чалемец Царквы (Еф., 7:23).

**Спараптоўны** — ці гэта ўчынак, ці думка, ці рашэнне, яны паспешлівыя, яны не ўзважаныя на шалях развагі, не вымераныя мерай мэтазгоднасці, не ўзгоднены з акалічнасцямі; яны не вынікаюць арганічна знутры іх саміх і абганяюць самую сваю праяву; *опрометчивый; внезапный*.
**Спараптоўнасць** — *опрометчивость, внезапность*.
**Спараптоўна** — *опрометчиво, внезапно*.
**Спараптоўнец** — займець прыкметы *опрометчивости*, стацца *внезапным*.

Спараптоўна яны паміраюць, сярод ночы народ узбунтуецца, яны знікаюць (Іоў, 34:20).

Я сказаў у спараптоўнасці маёй: усякі чалавек зман (Пс., 115:2).

Ці бачыў ты чалавека, спараптоўнага ў словах сваіх? на неразумнага больш надзеі, чым на яго (Пр., 29:20).

Глядзіце ж за сабою, каб сэрцы вашы не ацяжарваліся спожыццю і п'янствам і клопатамі жыццёвымі, і каб дзень той не заспеў вас спараптоўна (Лука, 21:34).

Спараптоўнелі дні мае, і ночы не мне належаць (Апокр.).

**Зміштаванне** — урываецца, нібы вецер, і прасочваецца, нібы вада, у прастору, асвойтаную людзьмі, і, парушаючы яе лад, змешваючы яе з'явы, змяшчаючы з месца яе прадметы, змушае людзей упадаць у роспач, трывожыцца і мітусіцца; *смятение*.
**Зміштавацца** — паддавацца *смятению*.
**Зміштоўны** — *мятущийся, мятежный*.
**Змішчаны** — *смятенный*.
**Зміштоўнасць** — *смятенность*.
**Змішта** — *мятеж*.
**Зміштоўнік, змішчоўца** — *мятежник*.

Але выдасць іх табе Госпад, Бог твой, і прывядзе іх у вялікае зміштаванне, так што яны загінуць (Другазак., 7:24).

У зміштаванні маім я думаў: «адрынуты я ад вачэй Тваіх» (Пс., 30:23).

Магутнасцю сваёй уладарыць Ён вечна; вочы Яго пазіраюць на народы, хай не ўзвасяцца зміштоўнікі (Пс., 65:7).

Хай пасаромяцца і змішчуцца навекі, хай зганьбуюцца і загінуць (Пс., 82:18).

І не быць падобнымі бацькам іхнім, роду ўпартаму і зміштоўнаму, не ўладкаванаму сэрцам і не вернаму Богу духам сваім (Пс., 77:8).

Бойся, сыне мой, Госпада і цара; са зміштоўнікамі не спаемнічай (Пр., 24:21).

Бо гэта народ зміштоўны, дзеці хлуслівыя, дзеці, якія не хочуць слухаць закона Гасподняга (Іс., 30:9).

**Здатнаваць, здатнавацца** — спаборнічаць, выяўляць, спаборнічаючы, свае здатнасці; *состязаться*.
**Здатнаванне** — *состязание*.
**Здатнавальнік, здатнавалец** — удзельнік **здатнавання**.
**Здатнавальнасць** — *состязательность*.
**Здатнавальны** — *состязательный*.

Але я да Усёмагутнага хацеў бы гаварыць, і жадаў бы здатнавацца з Богам (Іоў, 13:3).

О, калі б чалавек мог мець здатнаванне з Богам, як сын чалавечы з бліжнім сваім! (Іоў, 16:21).

Таму што Я буду здатнавацца з супротнікамі тваімі, і сыноў тваіх Я выратую (Іс., 49:25).

Ад неразумных і невуцкіх здатнаванняў ухіляйся, ведаючы, што яны спрычыняюць сваркі (2 Цім., 2:23).

**Самнасць** — уласцівасць, якая падзяляе жывых істот на мужчынскія і жаночыя асобіны; *пол*.
**Самнасны** — *половой*.

Калі ахвяра яго ахвяра мірная, калі ён прыносіць з буйнай жывёлы, мужчынскай альбо жаночай самнасці, няхай прынясе яе, беззаганную, Госпаду (Ляв., 3:1).

Усе нашчадкі Аронавы мужчынскай самнасці могуць есці ўсё (Ляв., 6:18).

Няма ўжо Іудзея, ні паганца; няма раба, ні свабоднага; няма мужчынскай самнасці, ні жаночай: бо ўсе вы адно ў Хрысце Ісусе (Гал., 3:28).

**Вушыць** — уводзячы ў вушы субяседнікам-вучням свае высновы, прышчапляць ім свае перакананні, змушаць іх думаць дзейнічаць паіншаму, чым яны думалі і дзейнічалі дагэтуль; *внушать*.
**Звушчыць, увушчыць** — *внушить*.
**Звушчанне, звушчэнне** — *внушение*.
**Вушачы, звушчаючы** — *внушая*.
**Звушчаны, увушчаны** — *внушенный*.
**Звушчаваны** — *внушаемый*.





**Вушчанне** — *наущение*.
**Навушчаны** — *наущенный*.
**Падвушчваць** — *подстрекать*.

Увушчы народу, каб кожны ў бліжняга свайго кожная жанчына ў бліжняй сваёй выпрасілі рэчаў срэбраных рэчаў залатых (Зых., 11:2).

І ўвушчай іх (словы) дзецям тваім і кажы аб іх, седзячы ў доме тваім і ідучы дарогаю, кладучыся і ўстаючы (Другазак., 6:7).

Перастань, сыне мой, слухаць звушчанні аб ухіленні ад высноў розуму (Пр., 19:27).

Бо гэтак казаў мне Госпад, трымаючы на мне моцную руку і ўвушчаючы мне не хадзіць дарогаю гэтага народа (Іс., 8:11).

Але яны не паслухалі не прыхілілі вуха свайго, жылі па звушчэнні ўпартасці злога сэрца свайго (Іяр., 7:24).

Хто ўвушчыў вам уцякаць ад будучага гневу? (Мацв., 3:7).

Яна ж, навушчаная маці сваёй, сказала: дай мне тут на місе галаву Іаана Хрысціцеля (Мацв., 14:8).

Аднак Іудзеі, падвушчыўшы набожных і шаноўных жанчын і першых у горадзе людзей, узнялі ганенне на Паўла і Варнаву і выгналі іх са сваіх краянёў (Дзеі, 13:50).

**Цупарты, цупарлівы, цупарысты** —той, хто, выяўляючы сваю «цупкую» натуру, наперакор разумным высновам, упарціцца на сваім; *строптивый*.
**Цупарац, цупарлівец** — *строптивец*.
**Цупарнічаць, цупарсціцца** — *строптивничать*.
**Цупарніцтва, цупарлівасць** — *строптивость*.

Але яны зняварціліся перад ім, яны не дзеці Яго з-за сваіх заганаў, род цупарлівы і распусны (Другазак., 32:5).

Каб вам быць бездакорнымі і чыстымі, дзецьмі Божымі беззаганнымі сярод цупартага і распуснага роду (Філ., 2:15).

Пакінь цупарца на месцы яго: ён — быццам два чалавекі, якія кажуць адно аднаму: ідзі, і абодва адно аднаго трымаюць (Апокр.).

**Скрушатаваць** — уводзіць у скрушны стан, дарэшты маркоціць; *удручать*.
**Скрушатаваны** — *удрученный*.
**Скрушатаванне, скрушта** — *«удручение»*.
**Скрушатоўны** — *удручающий*.

І каб я не ўвазносіўся надзвычайнасцю ўтаяванняў, дадзена мне джала ў самсць, анёл сатаны, скрушатаваць мяне (2 Кар., 12:7).

Скрушатаванне крышыць апоры, на якія абапіраецца чалавек, сам сабе ён тады ў пакаранне (Апокр.).

**Уваждаваць, зваждаваць** — па рэчышчы ўвагі ўбіраць у сябе галасы з'яў людзей і, убіраючы, рабіць іх істотнымі і важнымі для сябе; *внимать*.
**Уваждзіць** — *внять*.
**Уваждаючы** — *внимая*.
**Зваждоўны, зваждоўлівы, уваждоўны** — *внятливый, внятный*.
**Уваждаванне, зваждаванне** — *внимание*.

Наўпраўду Ён любіць народ Свой; усе святыя Яго ў руцэ Тваёй, і яны прыпалі да ступняў Тваіх, каб уваждаваць словам Тваім (Другазак., 33:3).

чыталі з кнігі, з закона Божага, зваждоўна, і далучылі тлумачэнне, і народ разумеў прачытанае (Неям., 8:8).

Што такое чалавек, што Ты гэтак цэніш яго і звяртаеш на яго зваждаванне Твае (Іоў, 7:17).

Пачуй, Госпадзе, голас мой, якім я клічу; памілуй мяне і ўваждзі мне (Пс., 26:7).

Бо ад века не чулі, не ўваждавалі вухам, і ніякае вока не бачыла іншага бога, акрамя Цябе, які столькі зрабіў бы для тых, што спадзяюцца на яго (Іс., 64:4).

Слухайце, дзеці, настаўленне бацькі, і ўваждайце, каб навучыцца розуму (Пр., 4:1).

Але хто баіцца Бога, кажуць адно аднаму: «зваждуе Госпад і чуе гэта, і перад абліччам Яго пішацца памятная кніга пра тых, што баяцца Госпада шануюць імя Яго» (Мал., 3:16).

Не ўваждаючы Іудзейскім байкам пастановам людзей, што адварочваюцца ад ісціны (Ціт, 1:14).

**Вехкі** — той, чый век вялікі; стары; *ветхий*.
**Вякчэць** — *ветшать*.
**Звякчэлы** — *ветшающий, обветшавший*.
**Звякчэласць** — *ветхость*.
**Звякчэнне** — *ветшание*.

Калі я маўчаў, звякчэлі косці мае ад усядзённага стогну майго (Пс., 31:3).

Яны загінуць, а Ты бытнаваць меш; і ўсе яны, як рыззё, звякчэюць, і, як адзенне, Ты пераменіш іх,— зменяцца (Пс., 101:27).

Уздыміце вочы вашы да нябёсаў, і паглядзіце на зямлю ўніз: бо нябёсы знікнуць, як дым, зямля звякчэе, як адзенне (Іс., 51:6).

Ведаючы тое, што вехкі наш чалавек распяты з Ім, каб знічана было цела грахоўнае (Рым., 6:6).

Але цяпер, памёршы для закону, якім былі звязаны, мы вызваліліся ад яго, каб нам служыць Богу ў абнаўленні духа, а не па вехкай літары (Рым., 7:6).

Кажучы «новы», паказаў звякчэласць першага; а звякчэлае і састарэлае блізка да знішчэння (Яўр., 8:13).

**Судзень** — посуд, але посуд, які мае дачыненне да святога, і, як нядзеля вылучаецца сярод астатніх дзён тыдня, так і сярод посуду — **судзень**; *сосуд*.
**Судні** *сосуды*.
**Судзеньскі** — *сосудный*.

А вазьмі яго дзіду, якая ў галавах у яго, і судзень з вадою, і пойдзем да сябе (1 Цар., 26:11).

Я забыты ў сэрцах, як мёртвы; я — як судзень разбіты (Пс., 30:13).

Залатыя яблыкі ў срэбраных празрыстых суднях — слова, сказанае прыстойна (Пр., 25:11).

Вяльможы пасылаюць слугаў сваіх па ваду; яны прыходзяць да студняў і не знаходзяць вады; вяртаюцца з парожнімі суднямі (Іяр., 14:3).

І запаліўшы свечку, не ставяць яе пад суднем, але на падсвечніку, і свеціць усім у доме (Мацв., 5:15).

**Святоўны** — *священный*.
**Святоўнасць** — *священность*.
**Святоўнічаць** — *священнодействовать*.
**Святоўнічанне, святоўніцтва** — *священнодействие*.
**Святоўнік** — *священнодействователь*.

Вось дзялянка Арону дзялянка сынам яго з ахвяраў Гасподніх з дня, калі яны паўстануць перад Госпадам для святоўніцтва (Ляв., 7:35).

Ачышчаць жа павінен святар, які памазаны і які пасвечаны, каб святоўнічаць яму замест бацькі свайго (Ляв., 16:32).

Яны не будуць набліжацца да Мяне, каб святоўнічаць перада Мною і прыступаць да ўсіх святыняў маіх, да Святога святых (Езяк., 44:13).

І ёсць святоўнік свяцілішча і скініі праўдзівай, якую збудаваў Госпад, а не чалавек (Яўр., 8:2).

**Краень** — прастора краю; крайняя мяжа, укаранёная ў прастору ці дзеянне; *предел*.

**Краяні** — *пределы*.

**Краемны** — *предельный*.

**Бескраемны** — *беспредельный*.

Сыны Ізраілевы елі манну сорак гадоў, пакуль не прыйшлі ў зямлю запаветную; манну елі яны, пакуль не прыйшлі да краянёў зямлі Ханаанскай (Зых., 16:35).

Правяду краяні твае ад мора Чормнага да мора Філісцімскага і ад пустыні да ракі (Зых., 23:31).

Дазволь нам прайсці зямлёю тваёю; мы не пойдзем па палях і па вінаградніках, і не будзем піць вады са студняў тваіх; але пойдзем дарогаю царскаю, не павернем ні направа, ні налева, пакуль не пярэйдзем тваіх краянёў (Лічбы, 20:17).

Краянём жа на ўсход мора Салёнае, да вусця Іардана; а краень з паўночнага боку пачынаецца ад заліва мора (Іс. Нав., 15:5).

Па ўсёй зямлі праходзіць гук іхні, і да краянёў сусвету іхнія словы (Пс., 18:5).

І пабіў вінаград іхні і смакоўніцы іхнія, і скрышыў дрэвы ў краянях іхніх (Пс., 104:33).

**Недбаваць** — пакідаць па-за ўвагай, не даваць выявіцца таму, што хоча займець сваё месца ў быцці і ў свядомасці; *пренебрегать*.

**Знедбаваны** — *пренебрегаемый*.

**Знедбавальны, знедбавалец, знедбавальнік** — *пренебрегающий*.

**Знядбаць** — *пренебречь*.

**Знедбаванне** — *пренебрежение*.

**Знядбоўны** — *пренебрежительный*.

**Знядбаны** — *пренебреженный*.

**Нядбуючы** — *пренебрегая*.

Ва ўсякі час шляхі яго згубныя; суды Твае далёкія для яго; на ўсіх ворагаў сваіх ён пазірае са знедбаваннем (Пс., 9:26).

Чаму нечымлівец нядбуе Бога, кажучы ў сэрцы сваім: «Ты не зважаеш?» (Пс., 9:34).

Знядбаў запавет з рабом Тваім, зрынуў на зямлю вянец яго (Пс., 88:40).

Хто нядбуе словам, той прычыняе шкоду сабе; а хто баіцца запаведзі, таму ўздаецца (Пр., 13:13).

Слухайся бацьку твайго: ён нарадзіў цябе; і не нядбуй маці тваёй, калі яна і пастарэе (Пр., 23:22).

Яны пастаянна кажуць знедбавальцам, што нядбуюць Мяне: «Госпад сказаў: мір будзе ў вас» (Іяр., 23:17).

Але яны, знедбаваўшы тое, пайшлі, хто на поле сваё, а хто на гандаль свой (Мацв., 22:5).

**Спаемнічаць** — мець узаемаспалучаныя стасункі; *сообщаться*.

**Спаемства** — *сообщество*.

**Спаемнасць** — *сообщность*.

**Спаемнік, спаемца** — *сообщник*.

**Спаемны** — *сообщающийся*.

**Спаемна** — *сообща*.

Бацька наш памёр у пустыні, і ён не быў у ліку спаемнікаў, што сабраліся супраць Госпада (Лічбы, 27:3).

Ці ёсць такі чалавек, як Іоў, які п'е глумленне, як ваду, уступае ў спаемства з тымі, хто чыніць беззаконне і ходзіць з людзьмі нечымлівымі? (Іоў, 34:7–8).

Хто ходзіць пераносчыкам, той выдае таямніцу; і хто шырока разяўляе рот, з тым не спаемнічай (Пр., 20:19).

Хто абкрадвае бацьку свайго маці сваю і кажа: «гэта не грэх», той — спаемнік рабаўнікам (Пр., 28:24).

Калі ж хто не паслухаецца слова нашага ў гэтым пасланні, таго майце на заўвазе і не спаемнічайце з ім, каб усароміць яго (2 Фес., 3:15).

**Улашчуваць** — прыводзіць да розуму, выводзіць на праўдзівы шлях, кажучы словы, якія ўшчуваюць і ўлагоджваюць; *увещевать*.

**Улашчуванне** — *увещание*.

**Улашчуючы, улашчуваючы** — *увещевая*.

**Улашчувальнік** — *увещатель*.

**Улашчувальны** — *увещательный*.

Да каго мне гаварыць і каго ўлашчуваць, каб слухалі? (Іяр., 6:10).

Сцвярджаючы душы вучняў, улашчуваючы бытнаваць у веры і павучаючы, што многімі смуткамі належыць нам увайсці ў Царства Божае (Дзеі, 14:22).

Калі ўлашчувальнік — улашчоўвай; калі раздавальнік — раздавай у прастаце; калі начальнік — начальнічай з дбаннем; калі дабрачынца — чыні дабро з радасцю (Рым., 12:8).

Таму ўлашчвайце адно аднаго і знадукоўвайце адно аднаго, як вы робіце (1 Фес., 5:11).

Мэта ж улашчування ёсць любоў ад шчырага сэрца і добрага сумлення і некрывадушнай веры (1 Цім., 1:5).

Старога не дакарай, але ўлашчувай, як бацьку; малодшых, як братоў (1 Цім., 5:1).

**Лабожны** — суадносіцца з санскрыцкім labhate, што азначае «мае», «атрымлівае», з прускім labs, з латышскім labs, з літоўскім labas, што азначае «добры»; *блаженный*.

**Лабожнасць** — *блаженство*.

**Лабожнічаць** — *блаженствовать*.

**Лабожна** — *блаженно*.

Лабожны чалавек, што не ходзіць на раду нечымліўцаў (Пс., 1:1).

Яна (мудрасць) — дрэва жыцця для тых, што набываюць яе, і лабожныя, што захоўваюць яе! (Пр., 3:18).

А лабожнейшы за абодвух іх той, хто яшчэ не існаваў, хто не бачыў злых спраў, якія робяцца пад сонцам (Екл., 4:3).

Лабожныя ўбогія духам, бо іх Царства Нябеснае (Мацв., 5:3).

Ва ўсім паказаў я вам, што, так рупячыся, трэба падтрымліваць нядужых і памятаць словы Госпада Ісуса, бо Ён Сам сказаў: лабожней даваць, чым прымаць (Дзеі, 20:35).

**Лабогі** — *благ, благой*.

**Лабогасць** — *благость, благостыня*.

**Лабогда** — *благо*.

Бо лабогі і міласэрны Госпад, Бог ваш, і не адверне аблічча ад вас, калі вы звернецеся да Яго (2 Пар., 30:9).

Душа яго бытнавацьме ў лабогдзе, і семя яго ўспадкаемнічае зямлю (Пс., 24:13).

Навучы мяне спраўджваць волю Тваю, бо Ты — Бог мой; Дух Твой лабогі няхай вядзе мяне ў зямлю праўды (Пс., 142:10).

Бо Ты сустрэў яго лабгаславеннямі лабогасці, усклаў на галаву яго вянец з чыстага золата (Пс., 20:4).





Не ва ўладзе чалавека і тая лабгода, каб есці і піць і насалоджваць душу сваю ад працы сваёй (Екл., 2:24).

Лабгода табе, зямля, калі цар у цябе з высакароднага роду (Екл., 10:17).

Успамяні, Божа мой, у лабгоду мне ўсё, што я зрабіў для народа гэтага! (Неям., 5:19)

Лабгода таму, хто цярпліва чакае выратавання ад Госпада (Плач, 3:26).

**Лабгавець** — *благоговеть*.

**Лабгавенне** — *благоговение*.

**Лабгавейны** — *благоговейный, благоговеющий*.

«...І будуць лабгавець перад Госпадам і лабогасцю Яго ў апошнія дні» (Ос., 3:5).

Таму хай лабгавеюць перад Ім усе людзі, і хай трапечуць перад Ім усе мудрыя сэрцам! (Іоў, 37;24).

Зберажы душу маю, бо я лабгавею перад Табою (Пс., 85:2).

Сцвердзі слова Тваё рабу Твайму, дзеля лабгавення перад Табою (Пс., 118:38).

Спазнаў я, што ўсё, што робіць Бог, бытнуе навекі; да гэтага няма чаго дадаваць і ад гэтага няма чаго адняць; і Бог робіць так, каб лабгавелі перад аблічам Яго (Екл., 3:14).

А нечымліўцу не будзе дабра, і, нібы цень, нядоўга пратрымаецца той, хто не лабгавее перад Богам (Екл., 8:13).

Сцяфана ж пахавалі мужы лабгавейныя і зрабілі вялікі плач па ім (Дзеі, 8:2).

Вераю Ной, атрымаўшы ўтаяванне аб тым, што яшчэ не было бачна, лабгавеючы падрыхтаваў каўчэг для выратавання дома свайго (Дзеі, 11:7).

**Лабгодань** — *благодать*.

**Лабгадайны** — *благодатный*.

**Лабгадайнічаць** — *благодатствовать*.

Бо Госпад Бог ёсць сонца і шчыт. Госпад дае лабгодань славу; тых, што ходзяць у беззаганнасці, ён не пазбаўляе лабгодаў (Пс., 83:12).

Слова з вуснаў мудрага — лабгодань, а вусны неразумнага губяць яго ж (Екл., 10:12).

І Слова стала самсцю бытнавала з намі, поўнае лабгодані і ісціны (Іаан, 1:14).

І ад паўнаты Яго ўсе мы прынялі і лабгодань на лабгодань (Іаан, 1:16).

Анёл, увайшоўшы да Яе, сказаў: радуйся, Лабгадайная! Госпад з Табою; лабгаславёна Ты між жанчынамі (Лука, 1:28).

Калі ж збор быў распушчаны, то многія Іудзеі шанавальнікі Бога, навернутыя з паганцаў, падаліся за Паўлам Варнаваю, якія, гутарачы з імі, пераконвалі іх бытнаваць у лабгодані Божай (Дзеі, 13:43).

**Лабгадзеянне** — *благодеяние*.

**Лабгадзеяць, лабгадзейнічаць** — *благодетельствовать*.

**Лабгадзей, лабгадзейнік, лабгадзейца** — *благодетель*.

**Лабгадзейны** — *благодеющий, благодетельствующий*.

Успомні ж мяне, калі добра табе будзе; і зрабі мне лабгадзеянне, і згадай пра мяне фараону, вывядзі мяне з гэтага дома (Быц., 40:14).

Цяпер жа паўстаньце, і я буду судзіцца з вамі перад Госпадам аб усіх лабгадзеяннях, якія ўчыніў Ён вам і бацькам вашым (1 Цар., 12:7).

Бо мы, гаворачы з царом, сказалі: рука Бога нашага для ўсіх, хто звяртаецца да Яго, лабгадзейная, а на ўсіх, хто пакідае Яго,— магутнасць Яго і гнеў Яго (Езд., 8:22).

Ускліку да Бога ўсявышняга, да Бога, лабгадзейнага да мяне (Пс., 56:3).

Вусны мае будуць звяшчаць праўду Тваю, усялякі дзень лабгадзеянні Твае; бо я не ведаю ім ліку (Пс., 70:15).

Што ўздам Госпаду за ўсе лабгадзеянні Яго да мяне? (Пс., 115:3).

**Лабгадзенне** — *благоденствие*.

**Лабгадзеніць** — *благоденствовать*.

**Лабгадзенны** — *благоденствующий*.

Я пазайздросціў шаленцам, бачачы лабгадзенне нечымліўцаў (Пс., 72:3).

І вось, гэтыя нечымліўцы лабгадзеняць у веку гэтым, памнажаючы багацце (Пс., 7:12).

Каб мне бачыць лабгадзенне абранцаў Тваіх, весяліцца весялосцю народа Твайго, хваліцца са спадчынаю Тваёю (Пс., 105:5).

Пры недахопе апекавання падае народ, а пры многіх радцах лабгадзеніць (Пр., 11:14).

Цупарты распальвае сварку, а той, хто спадзяецца на Госпада, будзе лабгадзеніць (Пр., 28:25).

**Лабгаславенне** — *благословение*.

**Лабгаслаўляць** — *благословлять*.

**Лабгаславёны** — *благословенный*.

**Лабгаслаўляльны** — *благословляющий*.

І лабгаславіў іх Бог, кажучы: пладзіцеся і размнажайцеся, і напаўняйце воды ў марах (Быц., 1:22).

І Я ўтвару ад цябе вялікі народ, і лабгаслаўлю цябе, і ўзвялічу імя тваё; і будзеш ты ў лабгаславенні (Быц., 12:2).

Хто праклінае цябе — праклятты, хто лабгаслаўляе цябе — лабгаславёны! (Быц., 27:29).

Ад Бога айца твайго, які няхай дапаможа табе, і ад Усёмагутнага, які няхай лабгасловіць цябе лабгаславеннямі нябеснымі звыш, лабгаславеннямі бездані, што ляжыць долу, лабгаславеннямі грудзей і чэрава (Быц., 49:25).

Вось лабгаславенне, якім Майсей, чалавек Божы, лабгаславіў сыноў Ізраілевых перад смерцю сваёю (Другазак., 33:1).

Лабгаславёны ты ў горадзе, лабгаславёны на полі (Другазак., 28:3).

Так лабгасловіцца чалавек, што баіцца Госпада! (Пс., 127:4).

**Лабгоджанне, лабгоднічанне** — *благоугождение*.

**Лабгодны, лабгоднасны** — *благоугодный*.

**Лабгодна, лабгоднасна** — *благоугодно*.

Бо ён сказаў: «няма карысці для чалавека ў лабгоджанні Богу» (Іоў, 34:9).

У час лабгодны, Божа, па вялікай лабогасці Тваёй, пачуй мяне ў ісціне ўратавання Твайго (Пс., 68:14).

І будзе гэта лабгодней Богу, чым вол, чым цяля з рагамі і з капытамі (Пс., 68:32).

Ахвяра нечымліўцаў — блюзнерства перад Госпадам, а малітва праведнікаў — лабгодная Яму (Пр., 15:8).

Такім чынам, мы, прымаючы царства непарушнае, будзем зберагаць лабгодань, якою будзем служыць лабгоднасна Богу, з лабгавеннем страхам (Яўр., 12:28).

**Алесь РАЗАНАЎ**

Я маю твор...

# Ян ЧЫКВІН



## ЧАЛАВЕК ДАЖДЖУ

Дождж ідзе на маю галаву пахмурна-навесны,
Дождж-напамін пра хуткаплыннасць светлаблакітнай песні.

Дождж ідзе. На маю галаву. Дождж серабрыставалосы.
І сплывае, як ласка і глыбейшыя сэнсы маўклівых нябёсаў

Дождж ідзе і хвалюецца сам і мяне ён хвалюе да плачу,
Шапаціць над маёй галавой, як дакор мілагучны маці.

Ідзе дождж як не дождж - на маю галаву сыплецца шкліва
Наракannяў далёкіх і блізкіх людзей і праклён іх шчаслівы.

На маю галаву дождж ідзе. Дзень у дзень, дзе ні дзенься,
І плёхае следам па мокрых слізгах майго неадбежнага ценю.

Дождж празрыстаю песняй з вільготных аблокаў ідзе...
І я, родным ахутан макроццем, іду па плыткай, звонкай вадзе.

***

Не камень я, не векавечны -
Таму згартаю святло да святла,
Таму збіраю цяпло да цяпла.

І свет трымаю ў абдымку хлапечым.
Насустрач людзям душа ўсё імкне -
І, можа, гэта і ёсць жыццятворнасць ва мне?

Маўклівы сэрца чаўнок - ён трапеча
І тчэ кілім з невагомага жалю
З выяваю болю на дрогкіх скрыжалях.

Калісьці песняй для сэрца была агнеча
Цвітучай любасці ў садзе пачуццяў -
Цяпер адно сны тускноты мярэжкаю ткуцца.

Наводдаль спеўна змяркаецца вечнасць -
А я аскепкі цяпла да цяпла,
А я агніцы святла да святла.

***

Покуль у невады вечныя дзённае сонца не злоўлена
сонцам счарнелым,
З свету зыходзячы я астаўлю красу найпрыгожую -
бляск жыватворнага Немага.

Цела з праменняў ягоных было далікатным і гнуткім,
як чыстага золата пробы.
Рукі былі, каб лавілі гасцей наймілейшых
ганцоў светланосных - паўсюды,заўсёды.

Ах, вылятаюць з мяне, бы з гнязда, пакрыёму апошнія
спелыя, цёплыя промні.
І нічагуткі я хутка, як дрэва-не-дрэва, не буду,
не буду ні бачыць, ні помніць.

Смерць непазбежная будзе калісьці пазбежнай,
калі хто не схоча яе прыпадобы.
Нам яшчэ суджана з белаю дамай ісці ды ісці
пад чарнотаю сонца па мёртвых гарадах.

## ДЗЕЦІ

Дзеці спяць на падлозе,
Як авечачкі, збіўшыся ў кучу.
І зноў адно з іх не можа
Упасці ў сонныя травы,
У матчыных рук калыханне -
Вочкі трэ ўласнаруччу.

Як цвет яблыні танклявай,
Душа дзіцяці светлай плямай
Спаўзла са столі і па сценах
Паволі йшла дрыжачым бляскам
Да сонца зваблёнага шклянкай,
Туды, дзе жыў срабрысты ляскат.
Дайшла - і ў зіхотныя промні апала.
І трэск па шкле зышоў авалам.



# Яўген ГУЧОК

Я маю твор...

## *Мініяцюры*



***

Што ні душа -
То водгук свету нетутэйшага,
То з глыбіні Сусвету імпульс.

***

У самым галоўным коле Сусвету
Душа - найважнейшая
Спіца.

***

Душа яшчэ, вядома, і - мішэнь,
І ўсе на свеце стрэльбы
Адно ў яе заўжды пацэліць хочуць.

***

Душа! А мо яна -
Агонь і матылёк
Адначасова?

***

Расплывістыя душы, -
Бы аблокі,
Яшчэ хвіліна - і няма ўжо іх.

***

Бы ў карыта якое,
Чагосьці наляпалі ў гэта цела
І назву далі - душа.

***

Агіднай гэтай душы рухомасць -
Бегае яна, як прусак,
І лётае, нібы муха.

***

Душа - крыло,
Двудушша ж -
Кайданы.

***

Ў дрымучым лесе нашага жыцця
Заўжды прасекай светлай
З явіцца душа.

***

Хіба ж гэтак можна:
З душой, бы з мячом, гуляцца...
Тым больш - на пацеху пабочным?

***

Калі душа - шчабятуха,
То клопаты з ёю -
І языку, і губам.

***

Душа, што траціць суверэннасць,
У хуткім часе стане
Сувенірам.

***

Варатар - душа мая,
А вароты - увесь свет...
Поле ж для гульні - нябачны свет.

***

Прыгожая яе душа,
Як завушніца
Гэта.

***

Душа сасны - сляза сасны,
Адлежаўшы ў зямлі,
Ўзышла каралям на дзявочай шыі.

***

А можа, душа - гэта рэчка,
Якая цячэ
Праз мяне, праз цябе і ўсіх?

***

У круг у свой усё -
Ад мураша да зорак
Ўбірае спагадлівая душа.

***

Расколіна жывая
У прыродзе...
Чалавек.

***

Бы з дзьмухаўцом,
Гуляе чалавек
З прыродай.

***

Сёння па твары зямным
Рэкі, бы горкія слёзы,
Цякуць.

***

Шар зямны ў гарматное ядро
Ператвараюць людзі
Ўвесь свой век.

***

Ён расшчапляе прыроду
І цераз гэты расшчэп
Шчэміцца ў антысвет.

***

Заўсёдная прыроды дабрыня
На варварства
Двухногіх падпіхае.

***

Пад мастом
І вада -
Без неба.

***

Зарасла, здзірванела гісторыя наша, -
Перадгісторыяй
Стала.

***

Захутаны толькі ў гісторыю,
Наўрад ці да вечнасці
Дакранешся.

***

Гісторыя - гэта яшчэ і пляц,
Дзе сустракаюцца
Людзі, народы і Нехта.

***

А паміраць баіцца той,
У каго няма з чым
Паміраць

***

Смерць - простая,
А чалавек -
Крывы.

***

Вывярні жыццё навыварат -
Смерць...
А калі наадварот?

Я маю твор... | Віктар ШНІП



## ЛІХТАР

на бэльцы ў варыўні
вісіць ліхтар
павукі аплялі яго павутой
думаючы што ліхтар
гэта патухлае сонца
якое цяпер аплецenae павутой
належыць толькі ім
а ліхтар чакае свайго часу
калі гаспадар здыме яго з цвіка
пратрэ шкло і наліўшы газы
запаліць кнот
і знікне з варыўні цемра
і з'явяцца ў варыўні цені
але гаспадар заходзячы ў варыўню
нават і не глядзіць на ліхтар
і толькі ўляцелыя мухі
з крыкамі мой
кідаюцца да ліхтара
ліхтар злуецца але маўчыць
верачы што прыйдзе дзень
з'іржавее цвік у бэльцы
і зваліцца ліхтар на зямлю
і разаб'ецца
і зойдзе гаспадар у варыўню
і ўбачыць разбіты ліхтар
і заплача
але цвік не іржавее
і вісіць ліхтар забытым патухлым
сонцам
і радуюцца павукі
што ліхтар цяпер належыць толькі ім

## ГАЛАВЕШКА

ад белай бярозы
пасля чырвонага агню
засталася чорная галавешка
і ляжыць галавешка сярод выгарыны
і баіцца яе трава
памятаючы што ёсць гаспадар агонь
і поўзаюць па ёй мурашкі
гадаючы адкуль узялася галавешка
ці гэта тое што засталося ад маланкі
якая звалілася з неба
ці гэта што іншае
такое мёртвае і чорнае
і прыйдзе час і дождж
абмые галавешку
і прыйдзе час і трава
пакрые галавешку
і прыйдзе час і зямля
забярэ галавешку
а пакуль ляжыць яна
сярод спалоханай травы
на выгарыне як на падсцілцы
чорны сабака
якога пакінуў гаспадар
загадаўшы чакаць
і абяцаўшы вярнуцца
а ён яшчэ вернецца

## ПАДКОВА

на дзвярах пустой канюшні
дзе даўно жыве рэха
на іржавым цвіку
як на сваім шчасці
вісіць іржавая падкова
і сніцца па начах ёй брукаванка
як Птушыны шлях у невядомасць
і галасы шчаслівыя людзей
што едуць на кірмаш
нібыта цыганы ў рай
падкове сніцца мяккі цёплы туман
за якім усё прапала
як і сам туман пасля ўзыходу сонца
і ляжала падкова ля кузні
як згубленае шчасце
як непатрэбнае мінулае
і знайшлі падкову хлапчукі
і прыбілі яе на дзверы канюшні
прыбілі як пакаралі
і паляцела б яна ў неба
і ўпала і прапала б у траве
але яе трымае цвік
як галодны сабака костку
і я праходзячы ля канюшні
і бачучы падкову
успамінаю і кузню і коней
і брукаванку і свайго дзеда
і забраў бы я падкову дахаты
але няма ў мяне той хаты
адкуль можна ехаць па брукаванцы
праз цёплы туман на кірмаш
і вісіць на дзвярах падкова
як апушчаныя крылы
распятага анёла

## СВЕЧКА

У свечкі мяккі характар
і светлая душа
свечка ахвяруе сабой
і згараючы плача
ад радасці і суму
свечка гэта нож
які лязом агню
разразае цемру
вызваляючы з яе мой пакой
у свечкі кароткае жыццё
але яго хапае
каб я палюбіў свечку



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ | Я маю твор...



***

Будкі чыгуначнай сілуэт
Недзе пад кронамі дрэў адзінокіх...
Цёплая сінь краявідаў высокіх
Быццам адтуліна ў чорны сусвет.

Рэйкі і шпалы. На гэтым шляху
Пыл, настальгія, халодныя рукі.
Цёплыя фарбы і ціхія гукі.
Пах адзіноты і вечнасці гул.

Будка. Шлагбаум. І колаў туга.
Што пралятаюць імклівa і гучна...
Раптам душа паслізнецца балюча,
Быццам на снезе рыплівым нага.

Я нарэшце выплыву, упаду на жвір,
І жыццё прадоўжыцца на няпэўны
час.

І калі суцішыцца сэрца гучны стук,
І калі зацягнецца цёплы ліпкі страх,
Зазірну я з берага ў цёмную ваду
І яна паўторыцца у маіх вачах.

***

Рысу крэслю. Зноў. Яшчэ адну.
Вір. І я даўно ўжо ў ім тану.
Хто даруе мне маю віну?
Рысу крэслю. Зноў. Яшчэ адну.

Рысу пад надзеямі вясны?
Рыса ёсць, але няма віны.
Гэтак без пажару і вайны
Мы з табою на зямлі адны.

Рысу крэслю. І паперу рву.
Ахвярую полымю і рву.
Пэндзлю ахвярую і пяру,
Адбіраю, аддаю, бяру

Рысу, рыску і яшчэ адну.
Нібы рыбу з возера цягну.

***

Гэты рыбы слізкія, гэты цёмны вір,
Гэта багна чорная, што чакае нас...

***

Квадраты і лініі. Плямы і кропкі.
І - крохі. І - крыкі. І - крыўды. І - крокі.
Панылая бездань і светлы абсяг.
Вы што? Падаеце якісьці мне знак?

І белыя свечкі, і чорныя дрэвы,
І ціхія словы, і хрыплыя спевы.
Вы знак падаеце, вы нешта казалі?
Махну вам з вагона на гулкім вакзале.

### Правінцыя

І кожны чацвёрты падумаў: «Я - геній»,
І кожны пяты падумаў· «Я - цар».
І толькі адзін не ўстаў з каленяў,
Бо сваю скруху прынёс на алтар.

# НАШ Янка СТАНКЕВІЧ



## *Пра Янку СТАНКЕВІЧА*

**Не думаю, што кіраўніцтва Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі змяніла б сваю пастанову аб выключэнні навучэнца Янкі Станкевіча «за агрэсіўную беларускасць», каб даведалася, што якраз гэты юнак, народжаны ў 1891 годзе ў вёсцы Арляняты Ашмянскага павету, некалі стане аўтарам першага ў гісторыі поўнага беларускага перакладу Біблії (Нью-Ёрк, 1973).**

**Паміж развітаннем з семінарыяй і з'яўленнем у 1976 годзе яшчэ аднаго помніка на могілках у Іст-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, былі знаёмства з Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім і Максімам Гарэцкім, праца ў «Нашай Ніве», абароненая ў Карлавым універсітэце доктарская дысертацыя — дaследаванне Аль-Кітабу, абранне паслом у польскі сойм (і, вядома, ставутая турма на Лукішках), стварэнне ў гады нямецкае акупацыі падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў, выкладанне гісторыі ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, заснаванне ў ЗША Фундацыі імя Льва Сапегі, праца над капітальным «Беларуска-расійскім слоўнікам», які апублікуе (1305 старонак вялікага фармату) ужо сын Юрка.**

**«Аторва — сорванец, ашаўурак — замухрышка, бройка — шалуньня, похват — рикошет...». Гэты том з чародкамі птушачак на кожнай старонцы ляжыць у мяне на пісьмовым стале, нагадваючы пра тыя колькі тыдняў, калі ён быў самым цікавым чытвом.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом[1]

### І. Начырк гісторыі беларускіх мусульманаў

Мусульманамі ў Беларусі спачатна былі так-званыя Татары Зьяўляліся яны ў Беларусі або як палоньнікі, узядзеныя на вайне, або як палітычныя ўцекачы, а напару былі й самахвотныя калёністыя з татарскіх аддзелаў, памагаючых Беларусам у вайне іх з суседзьмі Першыя весьці аб Татарах у Беларусі ё ўжо з пачатку чатырнанцатага стагодзьдзя У 1319 годзе яны прыймалі ўчасьце ў вайне Беларусаў і Ліцьвіноў із Крыжакамі[2] Летапісец францішканскага ордэну пад 1324 г сьведчыць, што пасярод Вялікага Княства Літоўскага жывуць людзі, каторыя прыйшлі з Азіі і ў сваіх малітвах ужываюць нейкую няведамую мову азыяцкую[3]

Гаспадары Вялікага Княства Беларускага (званага Вял. Княствам Літоўскім) карысталі з непарадкаў у Залатой Ардзе, што насталі тамака ад палавіцы чатырнанцатага стагодзьдзя, мяшаліся ў войны татарскіх ханаў за пасад, памагаючы сваім прыяцелям. Па гэткіх войнах выдатнейшыя прыхільнікі пераможаных ханаў звычайна знаходзілі прыпынак у вялікіх князёў беларускіх ("літоўскіх"). Асабліва гэткаю палітыкаю адзначыўся пры канцы XIV і на пачатку XV стагодзьдзя наймагутнейшы валадар на усходзе Эўропы вялікі князь Вітаўт (1386—1430). Геній Вітаўтаў ня меў сабе раўні Ніхто да яго і ніхто па ім не зразумеў так шырака і так добра заданьняў беларускае палітыкі, як Вітаўт; ён рупіўся прылучыці да ўсяго беларускага Народу часьць беларускага плямя Вяцічаў, што лучылі пад Маскву. Дзеля гэтага Вітаўт пры помачы свайго кандыдата на пасад Залатое Арды імкнуўся завaладаці гэтым гаспадарствам, а пераз яго і належачай да яго Масквой. Каб выпаўніці свае пляны, ён у 1396 г зрабіў паход за Дон проці Татароў Палоньнікі, узядзеныя пры гэтым паходзе, былі аселены ў Беларусі Паражка Вітаўта ў бітве на рацэ Ворскле 1399 г. не адхінула яго ад татарскае палітыкі Мы ведаем, што перад 1410 г. зносіны Вялікага Княства і Залатой Арды былі вельмі жывыя У гэтым годзе валадар Залатое Арды Цімур хан (1410—1415) прыслаў Вітаўту, як памогу проці Крыжакоў, колькі тысячаў[4] коньнікаў пад камандай Джэляль-эд-дына, сына Тухтамышовага

Па скончаньні вайны з Крыжакамі часьць татарскіх вояў асталася ў Беларусі Яны дасталі зямлю ад ураду за павіннасьць ісьці на вайну.

Борзда Вітаўт адудзячыў Джэляль-эд-дыну. За колькі год Джэляль-эд-дын прыехаў у Кіеў прасіці помачы ў вялікага князя, каб заняці пасад у Залатой Ардзе. Помач была дадзена і, скарыстаўшы з непарадкаў у Кіпчаку, Джэляль-эд-дын у 1415 г скінуў із пасаду Цімур хана, а сам стаўся ханам Залатое Арды[5].

Наагул значэньне беларускага гаспадарства ў тыя часы і ягоных гаспадароў, асабліва Вітаўта, было вялізарнае. Заходне-эўропэйскі падарожнік таго часу, Ляннуа, каторы праяжджаў пераз украінскія сьцяпы, расказуе, што Татары так напалоханыя Вітаўтам, што маткі страшаць ім сваіх дзяцей. Татары качуючыя на заход ад Дняпра і на'т Днястра, прызнавалі беларускага гаспадара сваім валадаром А Татары на ўсход ад Дняпра, блізка Кіпчаку, таксама залежылі ад Вялікага Княства Літоўскага (=Беларускага). На беразе Чорнага мора была беларуская гавань Хаджы-бэй, цяперашняя Адзеса Ля Дняпра Беларусь мела замкі — Крамянчуг, Упск, Місурын, Гербедзеяў, Рог, Тавань, Баргунь, Цягінь (Бэндзеры) і Ачакаў, у каторых дзяржала войска дзеля абароны ад татарскіх вордаў самастойных, качуючых за Донам[6]

Вялікі князь Вітаўт асяліў Татароў паміж беларускага насяленьня ў ваколіцах рэкаў Вяльлі й Нёмна, у паветах Троцкім, Віленскім, Ашмянскім, Лідзкім, Наваградзкім ды ў заходняй часьці Горадзеншчыны (паветы Бельскі, Берасьцейскі, Сакольскі і інш). Вышшай клясе перасяленцаў былі дадзены шляхоцкія прывілеі і вялікая зямельная собскасьць. Апрача таго вялікія князі, асабліва Вітаўт, давалі гэтай клясе розныя дары.

Палітыка Вітаўтава, каб аслабіці й узалежніці ад Беларусі Залатую Арду, мела ўдачу асабліва ў вадарваньню ад яе Крыму. Першы крымскі хан Азі-Гірэй (начай. Хаджы-Гірэй) да занятку пасаду жыў у Беларусі каля Трокаў. Адгэтуль Вітаўт паслаў яго на крымскае ханства[7] Азі-Гірэй быў закладчыкам крымскае дынасты Гірэяў. Па яго сьмерці ў 1466 г. паміж ягонымі сынамі ўзьнялася вайна за пасад. У гэтай вайне Казімер Ягайлавіч памагаў свайму

прыхільніку Нуры-дэўлету Як брат гэтага, Мэнглі-Гірэй, заняў пасад, прыхільнікі Нуры-дэўлетавы мусілі ўцякаць да свайго апякуна ў Беларусь[8].

Як у 1510 г Татары былі пабітыя ля Клецка князем Міхалом Глінскім, дык забраныя палоньнікі таксама былі аселены ў Беларусі, паміж іншым у Менску

Ня маем жадных весьцяў, ці былі яшчэ якія колёністыя татарскія ў пазьнейшую пару Відаць, што іх запраўды ня было, бо з пазьнейшае пары напэўна захаваліся-б якія весьці.

Адначасна з пасяленьнем у Беларусі Татары дасталі ваенную арганізацыю. Першым маршалкам іхнім быў Тэмір Туган-бэй, князь із Дагестану Усё войска мусульманскае дзялілася на сьцягі (пазьней харугвы). Камандзер сьцягу ўвайну вёў свой сьцяг да адпаведнага вайводы, а напару проста да польнага гэтмана. Галоўная каманда гэтага войска была ў Вільні ля цяперашняе Татарскае вул Хто йшоў на вайну, той не плаціў жадных падаткаў.

Апрача мусульманаў-вояў былі ў Беларусі яшчэ мусульмане меская, занятыя промыслам і гародніцтвам. Гэтыя плацілі падаткі.

Пры вайводзкіх урадах былі яшчэ так званыя татары-казакі, пасыланыя з лістамі

Паміж сабою ў рэлігійных і грамадзкіх справах мусульмане судзіліся Коранам. У зносінах із іншым беларускім насяленьнем паддадзеныя былі праву агульна-прызнаванаму, г зн Літоўскаму Статуту Ужываньне Корану, як юрыдычнае кнігі, было пацьверджана ім Вялікімі Князьмі[9].

Наагул ажно да сходу беларускага гаспадарства й залежнасьці ад чужнікоў мусульмане ў Беларусі мелі поўную рэлігійную свабоду Падарожнічалі яны так сама ў сьвятыя месты ісламу — Мэкку й Мэдыну. Дзеля таго што ня зналі мясцовае мовы, у Царгорадзе стараліся прылучыцца да тых падарожнікаў, што зналі турэцкую або арабскую мову Адзін із такіх беларускіх падарожнікаў, чалавек асьвячоны, у 1557 г. на просьбу вялікага візыра Рустэма пашы напісаў султану Сулейману рэфэрат аб палажэньні беларускіх мусульманаў У рэфэраце закранае траха ўсе бакі жыцьця мусульманаў Кажа, што ў кожным большым месьце ёсьць мэчыці. Да гэтакіх местаў належыць сталіца гаспадарства Вільня, Сорак Татары, Вака, Навагарадак, Трокі і інш — «У гэтых мястох вялікія мэчыці, а ўсіх, у тэй лічбе таксама малых, што ў прыватных дамох, можа быці балей за сто» Падарожнік зацеміў, што ў Вільні мэчыць стаіць на найхарошшым месцу. Гэтая зацемка, а таксама тое, што аўтар рэфэрату ня ведае аб пасяленьні ў Менску татарскіх палонных з 1510 г , сьведчыць аб яго паходжаньні з Віленшчыны. Аўтар рэфэрату пераканаты, што «Калі-б вялікі падышах (султан) паслаў у гэныя краі ад парогу свае шчасьлівасьці (Стамбулу) рупатлівых місыянэраў, бяссумлеву большасьць іхняга насяленьня была-б абдорана сьвятлом ісламу». Каб на гэта схінуць султана, падарожнік дадае, што султан і вялікі візыр мелі-б харошых одалісак. У Царгорадзе падарожнік бачыў сваіх родзічаў-мусульманаў, каторыя розьніліся ад Туркаў вопраткаю. Хоць ім было добра ў турэцкіх аднавернікаў, але яны тужылі па бацькаўшчыне.

Дабро, зробленае беларускім урадам мусульманам, зблізіла іх з беларускім гаспадарствам і народам. У мэморыяле, пададзеным 1519 г. Вялікаму Князю Жыгімонту II, мусульмане кажуць. «На шаблі нашыя мы прысягалі, што любім Ліцьвіноў (разумей: Беларусаў, бо гэткі быў тады беларускі нацыянальны назоў), каторыя ўвайну забралі нас у палон, але ўступаючым на гэтую зямлю сказалі, што гэты пясок, гэтая вада і гэтыя дзеравы нам супольныя І ля салоных азёраў (г зн у Крыме) і ў Кіпчаку ведаюць, што ў нашым краю мы не чужнікі».

Па сьмерці кожнага Вялікага Князя мусульмане мелі па ім службы ў мэчыцях. Асаблівую пашану меў у іх Вітаўт Вялікі. Службу па ім служылі яшчэ ў XVI ст Памяць аб ім была ў гэтым стагодзьдзі жывая ўва ўсіх мусульманаў. У тым-жа мэморыяле кажацца. «Няма слаўнае памяці Вітаўта, ён нам не казаў забыціся прарока, а мы, да сьвятых местаў вочы нашыя зварочуючы, так імя ягонае ўспаміналі, як нашых каліфаў Нашыя дзеці ведаюць аб ім» Аўтар рэфэрату султану Сулейману кажа, што Вітаўт быў стаўпом, удзержуючым іслам у краю няверных, і што «памяць аб ім захавалася да нашае пары, бо кожны год сьвяткуецца дзень, вылучна пасьвячоны памяці гэтага гаспадара. Мусульмане, жывучыя ў гэным гаспадарстве, такога дня зьбіраюцца ў мэчыцях і ўспамінаюць ягонае імя з захапленьнем».

Беларускія мусульмане ваявалі ня толькі проці Маскоўшчыны і інш , але таксама проці сваіх аднавернікаў — крымскіх Татароў і Туркаў Аб гэтым ёсьць шмат дакумэнтаў У 1510 г





татарскія ворды пусташылі паўднёвыя землі беларускія, пакуль ня былі пабітыя кн М Глінскім Яны клікалі сваіх аднавернікаў, каб злучыліся з імі. Нашыя адказалі: «Ані Бог, ані прарок ня кажа вам грабіці, а нам быці няўдзячнымі; б'ючы вас, б'ем грабежцаў, але ня нашых братоў».

У Літоўскай мэтрыцы ёсьць лісты Вял. Кн. Жыгімонта II з 1533 г да маршалкі і ўсіх камандзераў татарскіх сьцягоў на вайну проці Татароў.

Жыгімонт IV, даючы ў 1623 г Мурзе Барынскаму грамату на сьцяг, дадае да яе, што К. Мурза Барынскі быў «час немалы ў розных экспэдыцыях так маскоўскай з Інфлянцкай, яка і нядаўна прошлай Валоскай служачы і ў частых патрэбах з войскі непрыяцеля Крыжа сьвятога» [10]

Спачатныя татарскія колёністыя належылі да розных плямёнаў і расаў, каторыя вельмі розьніліся паміж сабою, асабліва антрополёгічна. Былі «татары», каторыя належылі да расы турка-татарскае, фінскае, а часткова так жа мангольскае. Апроч таго паміж Татарамі на паўночным Каўказе, а на'т у Крыме, былі народы арыйскага паходжаньня Уся менаваная мешанка была ведамая пад агульным іменем Татароў Расавая й племенная розьніца, аднолькава як і раскіданасьць на вялікіх прасторах паміж беларускім насяленьнем, не дала магчымасьці ім утварыць якуюсь этнографічную цэласьць, хоць гэтаму прыялі рэлігійныя ўмовы. Як ваенныя палоньнікі або наагул ваякі ці ўцекачы, ня мелі яны із сабою жанок свайго паходжаньня. Вялікі Князь Вітаўт дазволіў ім ажаніцца з Беларускамі. Як першыя, так і пазьнейшыя татарскія колёністыя жаніліся з Беларускамі-хрысьцянкамі Жанкі аставаліся пры сваёй веры хрысьцянскай і па сьмерці былі хаваны асобна ад мужоў на могільніках хрысьцянскіх. Але дзеці з гэткіх жанімстваў былі гадаваны ў веры айцоў Гэта было ў згодзе із загадамі ісламу, каторы дазваляе жаніцца з хрысьцянкамі й жыдоўкамі, але забараняе выходзіць замуж за хрысьцянаў і жыдоў; пры гэтым дзеці заўсёды мусяць быць магамэданамі.

Гэтакія жанімствы з хрысьцянкамі былі ў Беларусі звычаем ажно да XVII в. З XVI в. маем аб гэтым сьведчаньне ад вышменаванага аўтара рэфэрату. Гэтак ён кажа: «а дзеля таго што цяжка знайсьці тамака жанок нашае веры, жэняцца з няверніцамі (хрысьцянкамі), тым болей, што наш закон гэтага не забараняе»

Дазвол жаніцца з хрысьцянкамі быў дадзены з умоваю, што будуць меці толькі па аднэй жонцы Гэта пад уплывам суседзяў-хрысьцян увайшло потым у звычай, так што й багатыя ня мелі ніколі болей, як па аднэй жане.

У багатых сем'ях мусульманскіх краёў жанкі дзяньгубяць, але жанкі беларускіх мусульманаў, як бедных так і багатых, нічым ня розьніліся ў сваім жыцьці ад іншых Беларусак: працавалі ў гародах, на полі, пралі кудзелю і пад.

Ад жанок сваіх шмат хто з беларускіх мусульманаў дастаў сваё прозьвішча, напр. Родкевіч, Багдановіч, Юркевіч і пад. Іншыя ўтварылі прозьвішчы ад імёнаў сваіх айцоў, дадаючы да іх, паводле беларускага спосабу, суфіксы — *іч,— ов-іч,— ев-іч:* Ахматовіч, Дзяфіровіч (ад Джафіра), Юсуповіч (ад Юсуф) і інш. Некаторыя дасталі прозьвішчы ад сваіх двароў· Крычынскі, Карыцкі.

Жаньбамі з Беларускамі спачатныя татарскія колёністыя зьмянілі свой антрополёгічны тып ды прынялі мову й культуру беларускую Характарызуючы беларускіх мусульманаў. А. Мухлінскі кажа, што яны «ані непадобныя да мангольскіх плямёнаў» [11] Гэтая падвойная — этнічная й этнографічная — асыміляцыя беларускіх мусульманаў дае нам права зваць іх Беларусамі Вельмі борзда нашыя мусульмане забыліся сваю ранейшую мову, бо бяссумлеву жанкі-Беларускі ня вучыліся «пататарску». Дзеля таго ўжо наступное пакаленьне гаманіла вылучна пабеларуску Аўтар рэфэрату ў Царгорадзе 1557 г кажа· «Цяпер малая колькасьць мусульманаў гамоне тамака паатаманску, пры тым адно таковыя, што ў бліжшай да нас пары перасялілася ў той край» Умеючымі пататарску, мусіць, былі татарскія палоньнікі з 1510 г.

Аднак мусульмане ў Беларусі заўсёды былі званы Татарамі Аўтар рэфэрату кажа: «Называюць нас у гэных краёх агульным іменем Татароў, хоць найвялікшая колькасьць нас, здаецца, паходзе не ад тых дзікуноў, што былі заўсёды ў мусульманаў у найвялікшым грэбаваньні, але барджэй ад дабрароднага й ваяўнічага роду Сяльджукоў, продкаў Атаманаў Не качуем такжа ў буданох ані не бадзяемся па сьцяпох, але што зробіш, у гэных краёх, калі хто мае веру іншую, як нявернікі, ужо дзеля таго завуць яго Татарынам»

З часам беларускія мусульмане замест ранейшых кнігаў арабскіх і, хіба, часткова, татарскіх дзеля сваіх рэлігійных патрэбаў пачалі перакладаць і пісаць свае кнігі пабеларуску. Гэта была пара XVI й XVII в.в., калі беларускі язык быў царкоўнай (літургічнай) моваю ісламу ў Беларусі Адылі ня вылучана, што ўжо ў XV в. беларускія мусульмане мелі кнігі, пісаныя пабеларуску Не пазьней як у XVII стаг на беларускі язык быў перакладзены Коран [12]. Ужываючы беларускі язык у сваіх літургічных і наагул рэлігійных кнігах, мусульмане пісалі іх агульна прынятай у мусульманскім сьвеце арабскай абэцэдаю.

Рэзультаты ўпадку беларускае культуры адбіліся такжа на культурным жыцьці Беларусаў-мусульманаў У канцы XVI в. пачынаецца полёнізацыя беларускае шляхты З ёй разам полёнізуецца й яе мусульманская галіна. Уплыў польскае мовы ў беларускіх мусульманаў праяўляецца ўжо ў XVII стаг., калі побач з рэлігійнымі кнігамі беларускімі зьяўляюцца кнігі, пісаныя папольску (так сама арабіцаю) [13]. У XVIII і XIX стаг. у беларускіх мусульманаў існуюць побач кнігі беларускія й польскія. У XVIII стаг. беларуская мова пад націскам мовы польскае перастала быць царкоўнаю (літургічнаю) моваю ісламу ў Беларусі Але й польская мова, хоць і выціснула мову беларускую, сама не магла прыняцца ў мэчыцях у Беларусі, бо просты вескі й меські люд мусульманскі папольску не разумеў. У XVII і XVIII стаг на'т ня было перакладу Корану на польскую мову, каторы пераклаў ажно ў 1857 г. Ян Тарах Бучацкі. Проці А. Мухлінскага і Ю. Талька-Грынцэвіча цьверджу, што ніколі польскі язык ня быў моваю мусульманскае царквы ў Беларусі. Гэтыя два дасьледавальнікі гісторыі беларускіх мусульманаў на'т не прабуюць менаванага свайго пагляду давесьці, прыймаюць apriori, бо былі пісаныя некаторыя малітвеныя кніжкі папольску Але быцьцё польскіх малітвеных кніжкаў яшчэ не даводзе, што польская мова ўжывалася ў мэчыцях публічна або ўсім людам мусульманскім. У стаг. XIX і XX ё рэлігійных кніжкаў мусульманскіх, папольску пісаных і друкаваных (лацініцаю), шмат болей, чымся ў стагодзьдзях папярэдніх, аднак ніхто на'т не прабаваў увесьці польскую мову ў публічна-рэлігійнае жыцьцё мусульманскае — у мэчыць. Калі-б жа польская мова ўжывалася ў мэчыцях пад канец XVII або ў XVIII в., дык што яе адтуль выціснула-б? Гэта-ж ведама, што ўплыў польшчыны ў Беларусі ад XVII ст ўмацоўваўся. Падзел Польшчы толькі яго павялічыў, а дайшоў ён найбольшае сілы ў стаг XIX. Польская мова ў рэлігійным жыцьці беларускіх мусульманаў была справаю чыста шляхоцкай. Пэўна тое, што па ўпадку беларускае культуры мусульманскія малітвеныя кнігі, пісаныя, а пазьней і друкаваныя, папольску, служылі дзеля прыватнага ўжытку спалёнізаваных беларускіх паноў мусульманскае веры.

Аддаліўшы із свае царквы беларускі язык, мусульмане вярнуліся на колькі стагодзьдзяў назад да незразумелага арабскага языка Не разумеюць яго на'т імамы (муллы, малны). Гэтае заданьне разумець пакідаюць яны Богу, каторы, як кажацца ў кнігах нашых мусульманаў, «усіх языкоў знаны».

Апрача дарагіх памяткаў калісь пануючае беларускае культуры, захаваных у нядаўна знойдзеных кнігах, захаваліся яшчэ ў мусульманаў дробныя знакі гэтае культуры ў беларускіх надпісах з выбітым паўмесяцам і сэнтэнцыямі з Корану на магільных камянёх па ўмёрлых сяброх мусульманскае арыстакратыі, прыкл на могільніку ля мэчыці ў Даўбуцішках (Ашмянскі пав.). Пазьней замест надпісаў беларускіх ужываліся падобныя надпісы папольску. Просты народ на магільных камянёх надпісаў не рабіў

Шмат важней, што беларуская культура адбілася ў душах беларускіх мусульманаў, чаго довадам ё, што пахоўныя песьні іхнія, розьнячыся ад падобных песьняў Татароў казанскіх і крымскіх, сваёй мэлёдыяй вельмі блізкія да беларускіх народных песьняў [14].

Беларускія мусульмане карысталіся свабодаю рэлігійнай і поўнымі грамадзкімі правамі, мелі яны такжа гаспадарскі дабрабыт

Калі настаў сход беларускае культурнае й палітычнае магутнасьці ды прыйшоў чужы ўплыў і залежнасьць, палажэньне нашых мусульманаў памалу горшала Асабліва былі абмежаваныя правы мусульманаў за рэакцыйнае дзяржавы Жыгімонта IV (1587—1632). У гэтую пару настала запраўднае перасьледаваньне беларускіх мусульманаў. У «Літоўскі Статут» 1588 г ўнесьлі «Каб жадны мусульманін ня быў урадн ікам» У 1615 г. забаронена ў мусульманскіх харугвах меці сваіх ротмістраў і харужых, каторыя мусілі быць абіраныя із шляхты іншае веры. Нягледзячы на тое, што галоўным заняткам большасьці мусульманаў была вайна, мусульманін мог даслужыцца толькі да паручніка ўлучна. У 1616 г. сойм забараняе магамэданам жаніцца з хрысьцянкамі пад страхам сьмерці абедзьвім старанам. Даглядаць выпаўненьня гэтага права даручана інквізыцыі[15]. Забаронена так сама ставіць новыя мэчыці і папраўляць старыя

Пры гэтых ліхіх адносінах насяленьне мусульманскае меншала У 1557 г. аўтар няведамага прозьвішча вышменаванага рэфэрату султану Сулейману падаваў колькасьць мусульманаў у цэлым Вялікім Княстве (г. зн і з украінскімі землямі) на 200 000. Лічбу гэтую можна ўважаць за шмат большую, чымся была запраўды. Аўтар ня меў статыстычных дадзеных, яму адно здавалася, што толькі будзе. Аднак, хіба, колькасьць была ладная Тым часам каля 1618 г. было 10.000 мусульманаў у Беларусі, здольных на вайну У 1631 г паводле рэвізіі Кердзеевае, было ўсіх мусульманаў у Вял Княстве 20—25 тысячаў мускога полу У 1654 г было на службе ўсяе Рэчыпаспалітае адно 1383 мусульманскіх коньнікаў.

Вялікае няшчасьце стрэла мусульманаў у часе вайны із Швэдзіяй 1656—1660 г Расказуе аб гэтым Уладзіслаў Сыракомля на аснове знойдзеных ім дакумэнтаў мусульманскіх. У 1656 г , калі Швэды занялі Беларусь, шмат якія мусульмане із сваімі сем ямі ўцяклі ў Польшчу. Калі далей Швэды занялі Польшчу, мусульмане варочаліся назад у Беларусь. У 1656 г у чэцьвер перад Вялікаднем, калі яны ехалі із Замброва табарам з 300 вазоў із жанкамі, дзяцьмі й маемасьцяй, прагавітая польская шляхта кінулася іх рабаваць. Не памаглі на'т каралеўскія ўнівэрсалы узброеных мусульманаў пабілі, безбаронныя ўцяклі, табар зрабавалі, а жанок зьняважылі. Падобныя напады паўтараліся й на іншыя табары мусульманскія, прыкл на табар, што йшоў праз Ломжу ў кірунку на Гонёндз[16]

Непапраўнай шкодаю было, што польская шляхта, рабуючы мусульманскую маёмасьць ля Бронска й Гонёндза, зьністожыла рэлігійныя кнігі іхнія[17]

Рэзультатам падобных нападаў было тое, што сёлы мусульманскія асталіся без насяленьня.

У рэзультаце перасьледаваньня мусульманскае насяленьне змушана было высяліцца ў Крым і Турэччыну З эміграваўлых за Жыгімонта IV і пазьней утварыліся тры колёніі, каторыя дагэтуль розьняцца ад туркаў тыпам і адзежаю. Адна із гэтых колёніяў ё ў Дабруджы на беразе Дуная, другая ў ваколіцах Брусы ў правінцыі Хелевенгар, трэйцяя ў Малой Азіі ля вусьця ракі Кызыль-Ірмак. У палавіне мінулага стагодзьдзя колькасьць насяленьня гэтых трох колёніяў перавышшала 36.000 чал [18]

У 1672 г ў часе вайны з Турэччынаю часьць беларускіх мусульманаў перайшла на бок Туркаў. Гэтыя іх пасялілі ля Каменца Падольскага. Пад іменем Ліпкаў яны нападалі на належачыя да Польшчы ўкраінскія землі Дзеля таго што, апрача супольнае веры іх з Туркамі нічога ня лучыла, пайшлі яны на намовы Сабескага і ў 1683 г згадзіліся ваяваць проці Туркаў і Татароў

Таксама ў ліхіх варунках былі беларускія мусульмане ў XVIII стаг У другой палавіне гэтага стагодзьдзя ў Польшчы памалу пачынаюць разумець, што перасьледаваньне не вядзе да дабра. Дзеля таго йдуць такжа на ўступкі і ў вадносінах да мусульманаў У 1768 г дазволена беларускім мусульманам папраўляць і ставіць новыя мэчыці Зробленыя былі некаторыя палёгкі ў войску Але даўнейшае права, забараняючае мусульманам займаць вышшыя ўрады, асталося ажно да падзелу Рэчыпаспалітае.

Па падзелу Польшчы Беларусь лучыла пад Расею. Расейскі ўрад у сваіх русыфікацыйных імкненьнях стараўся выкарыстаць рэлігійную розьніцу паміж Беларусамі Стараючыся ў сваёй русыфікацыйнай палітыцы ў Беларусі знайсьці саюзьніка ў беларускіх мусульманах, Расейцы зраўнялі іх у правох з хрысьцянскім насяленьнем і далі прыступ да ўсіх урадаў і дастаенстваў. У 1831 г расейскі ўрад загадаў прызнаваць усіх беларускіх мусульманаў шляхтаю (дваранамі). Значыцца, вера сталася довадам шляхоцтва Мусульмане з гэтага карысталі, часта бывалі высокімі ўраднікамі, але ў русыфікацыі Беларусі, апрача колькі адзінкаў, ураду не памагалі

Паводле расейскага сьпісаньня насяленьня 1897 г мусульманаў у гэтым годзе ў Беларусі было: у Менскай губ. 5364, у Віленскай 3789, Горадзенскай 2084. У населенай толькі часткова Беларусамі Ковенскай губ. запісана мусульманаў 1443

Гэтай лічбаю абняты такжа расейскія жаўнеры мусульмане з казанскіх Татароў і інш Проф. Сьц. Базарэўскі, сам мусульманін, уважае, што без чужнікоў у менаваных губэрнях было ў 1897 г. 10680 мусульманаў[19]

Паводле тае-ж расейскае статыстыкі з 1897 г. ў Коўні былі 1004 мужчыны мусульманскае веры і адно 70 жанок. Коўня была крэпасьцяй. Дык трэба лічыць, што ў Коўні каля 900 мужчынаў мусульманскае веры былі чужнікі Калі далей зьвернем увагу, што ў пав. Браслаўскім, г зн. у беларускай часьці Ковенскай губ., было звыш 200 мусульманаў (у вадных Відзах, дзе не стаяла войска, было 150), абачым, што лічба мусульманаў у Літве не перавышае 300. Значыцца, на этнографічнай Беларусі ў 1897 г. мусульманаў было каля 10.400 чал

Із статыстыкі бачым, што цяперашняе расьсяленьне беларускіх мусульманаў адпавядае іх расьсяленьню ў XV—XVII стаг З местаў найбалей мусульманаў жыло ў Менску (1323) і ў Вільні (482). У паветах найбалей у Троцкім (1243), Наваградзкім (942), Менскім (818) і Ашмянскім (788).

У часе вайны насталі некаторыя зьмены ў колькасьці мусульманаў у васобных мясцовасьцях. Паводле статыстыкі мусульманскае арганізацыі ў Вільні ("Культурны Зьвяз") на землях, абнятых цяперашнім Польскім Гаспадарствам, у 1931 г было каля 6.000[20] мусульманаў; з гэтае лічбы колькі дзесяткоў жыве ў Варшаве, а ўсе іншыя ў Заходняй Беларусі.

Простыя мусульмане, як сяляне так і мяшчане, гамоняць пабеларуску, паны з народам пабеларуску, а з панамі і міжсобку папольску, часткава парасейску.

Як калісь, так і цяперака просты беларускі народ заве мусульманаў Татарамі, разумеючы пад гэтым назовам іх належнасьць да ісламу. І, так сама як калісь, мусульмане беларускія ўважаюць гэты назоў за зьнявагу заяўляючы, што яны мусульмане, але не Татары

Беларускія мусульмане апрычоных звычаяў, абрадаў, убораў і пад. ня маюць і ўва ўсім, апрача веры, ня розьняцца ад іншых Беларусаў Апрача ўсяго іншага, нашыя мусульмане розьняцца ад сваіх аднавернікаў — Татароў казанскіх і крымскіх — яшчэ тым, што мусульмане-Беларусы здольныя да навукі; пасярод іх выйшлі ведамыя навучоныя, прыкл тэорэтык коопэрацыі Туган-Бараноўскі.

## II. Беларуская літаратура арабскім пісьмом

а) **Гісторыя.** З гісторыі беларускіх мусульманаў ведаем, што, пачынаючы прынамся з пачатку XVI стагодзьдзя, была ў Беларусаў ладная літаратура арабскім пісьмом (арабскімі літарамі). Красаваньне яе прыпадае на XVI ст , значыцца на час найвялікшага развою агульна-беларускае літаратуры. Можна думаць, што ўжо ў XV стаг была ў Беларусаў некаторая літаратура арабіцаю (арабскім пісьмом). Гэтага можна спадзявацца ня толькі падзеля высокае роўні беларускае культуры ў XV стаг , але й дзеля таго, што ўжо ў XV стаг , асабліва ў другой яго палавіцы, мусульмане ў Беларусі былі ў вялікай колькасьці этнічна й этнографічна Беларусамі.

Дальшая доля беларускае літаратуры мусульманскае была аднолькавая з доляю агульна-беларускае літаратуры. У XVII стаг развой яе прыпынены ўплывам польшчыны, а ў стаг XVIII, здаецца, і зусім задзержаны. Як, наагул кажучы, Беларусы хрысьцяне, так сама й мусульмане ў XVIII стаг. не ствараюць новых літаратурных цэннасьцяў, але, перапісуючы ўперад напісаныя кнігі, жывуць культурным багацьцем, створаным прэдкамі іхнімі ў пярэднія стагодзьдзі.

У XIX стаг. пачалося адраджэньне беларускае літаратуры, але літаратура царкоўная, як Беларусаў праваслаўных, так і каталікоў, не адраджалася, наадварот, гэты век адзначыўся ў Беларусі найвялікшым упадкам культуры ў рэлігійным жыцьці Дык няма дзіва, што ня было адраджэньня царкоўнае літаратуры й у жменькі Беларусаў-мусульманаў Цікаўна, што ймкненьне ў Беларусаў да нацыянальнага адраджэньня ў XIX стаг. праявілася й арабіцаю ў напісаньні ў 1836 г турэцка-беларускага слоўніка[21] А ў сваім царкоўным жыцьці беларускія мусульмане пераз усё XIX стаг перапісуюць, як у XVIII стаг , свае даўнейшыя кнігі, напісаныя пабеларуску, часткава папольску.

Дык беларуская літаратура арабскім пісьмом, хоць і дайшла да нас у ладнай меры ў копіях пазьнейшых, але паўстала ў XVI—XVII стагодзьдзях, асабліва ў першым.

б) **Захаваныя памяткі.** Каб палажэньне беларускага народу ў XIX стаг. было балей меней нормальнае, каб у XIX стаг. была ў Беларусаў навука беларускае філёлёгіі, то бясcумлеву шмат памяткаў стара-беларускае літаратуры арабскім пісьмом было-б уратавана. Але гэтага ня было; наадварот, беларускі народ у XIX стаг. быў паняволены й упалы, а чужая навука памагла чужому ўраду ўціскаць Беларусаў і аб захаваньні беларускага культурнага багацьця ня рупілася Дык хоць яшчэ ў 1858 г. А. Мухлінскі пісаў, што тады ў мэчыцях у Беларусі было шмат беларускіх рукапісаў мусульманскіх[22], але ніхто ў той час іх ня зьбіраў. Пад канец XIX стаг., здаецца, аб іх чыста забыліся. З гэтае прычыны яшчэ ў XIX стаг. шмат беларускіх кнігаў арабіцаю загінула. Паміж іншым згінуў цікаўны містычны твор «Хікмэт» (духоўнае размышленьне), з каторага А. Мухлінскі ў 1857 г. прывёў гэт'кі адрывак: «Гэй нядужы адамскі чалавек! Астатні час прыйдзе, ніхто табе ня дасьць помачы, як тылька Бог Як там крычаць будзеш, ніхто тваго голасу не пачуе, тылька Бог».

«Калі-б хацеў уцякаць, ніхто табе дарогі ня ўкажа, да суднага дня ніхто а цябе не папытае, тылька Бог Мешканьне яко маеш мець, ніхто не абачыць, тылька Бог. Піць-есьць есьлі хочаш, ніхто ня дасьць, тылька Бог»[23].

Адно калі ў XX стаг паўстаў беларускі рух, зьявілася беларуская інтэлігенцыя і беларуская навука, былі знойдзены старыя, забытыя, але дарагія кнігі беларускае літаратуры арабскім пісьмом.

Наўперад быў знайдзены «Аль-Кітаб» Беларускага музэю Івана Луцкевіча ў Вільні. Знайшоў яго ў 1915 г. ў Сорак Татарах пад Вільняй беларускі дзяяч, археолёг Іван Луцкевіч (1881—1919 г.), закладчык Беларускага Музэю ў Вільні. Знойдзеную кнігу Ів. Луцкевіч аддаў у менаваны Беларускі музэй у Вільні, названы пазьней яго іменем.

«Аль-Кітаб" або проста «Кітаб» паарабску значыць «кніга» У беларускіх мусульманаў гэтак завуцца кнігі рэлігійныя, у каторых зьмешчаны выясьненьні малітваў, абрадаў, пастоў, апавяданьні з жыцьця Магамэда й пракокаў, рэлігійныя лягенды і на'т напару проста ўсходнія казкі

Калі беларуская прэса разьнесла весьць аб гэтым «Аль-Кітабе», то беларускай літаратураю арабіцаю зацікавіўся навучоны сьвет Тады проф. пецярбурскага ўнівэрсытэту Крачкоўскі (Беларус) знайшоў (1920—21 г.) у бібліётэцы гэтага ўнівэрсытэту 4 кнігі, пісаныя пабеларуску арабіцаю: 2 зборнікі малітваў і 2 пераклады Корану Запісаны яны былі ў каталёзе, як польскія, бо ўкладчык каталёгу, барон Розэн, ня знаў ані беларускага, ані польскага языкоў[24]. Рукапісы бібліётэкі пецярбурскага ў-ту паходзяць з XVII стаг

У 1925 г ў бібліётэцы духоўнае сэмінарыі ў Пскове знайшлі колькі арабскіх рукапісаў Паводле дагэтулешніх ведамасьцяў, гэныя рукапісы маюць прыпіскі словаў у беларускім языцэ. Аднак ня вылучана, што пры бліжшым разглядзе акажуцца ў іх цэлыя часьці беларускія.

У 1926-7 г ў Радавай Беларусі знайшоў адзін «Кітаб» беларускі Віталь Вольскі Ён-жа яго й транскрыбаваў Адна повесьць із гэтае кнігі ў кірылічнай транскрыпцыі была надрукавана ў часапісе «Узвышша» N 4 з 1927 г , бал. 135—146. «Аль-Кітаб» В Вольскага (так будзем яго звацць) пэўне ё копіяй з XVIII стаг. Пры перапісваньні копіяў (пэўне копія рабілася не адзін раз) беларуская мова повесьці, надрукаванай у «Узвышшы», з выняткам аднаго адрыўка, была вельмі спаленізавана.

Аб Аль-Кітабе мэчыці ў Крушынянах, Горадзенскага павету, напісаным у 1792 г. ў Сандыкаўшчыне Юсупам Эляшэвічам, паведаміў Якуб Шынкевіч у «Roczniky Tatarskim» 1932 г. Тамжа ў лацінскай транскрыпцыі пададзена колькі артыкулаў з менаванага кітабу.

Напасьледак, ладне беларускіх рукапісаў арабіцаю, хоць пазьнейшых копіяў, сабрана ў Муфтыяце ў Вільні Тутака ё гэт'кія рукапісы[25]:

5 Аль-Кітабаў (з 1771 г., 1836 г., 1837 г., 1885 г , адзін бяз даты);

1 кніга аб тым, як трэба чытаць Коран,

1 рукапіс (копія з 1890 г.) пераклад Корану;

6 зборнікаў малітвы (з 1803 г , з перад 1805 г., 1890 г і тры без паказаньня часу напісаньня).

1 Слоўнік турэцка-беларускі (з 1836 г.).

с) **Мова.** Захаваныя памяткі беларускае літаратуры арабскім пісьмом маюць вялікае значэньне дзеля іх беларускага языка. Як ведама, стара-беларуская літаратура, пісаная й друкаваная кірыліцаю, мае правапіс чужы — царкоўна-славянскі (стара-баўгарскі). Чужы правапіс не перашкаджаў поўнаму адбіцьцю ў менаванай літаратуры слоўніку й хормаў беларускага

языка. Накшая рэч была з фонэтыкаю (гукамі). Праўда, нягледзячы на чужы правапіс, па стара-беларускай літаратуры можна дасьледаваць блізу што ўсе фонэтычныя зьявы беларускага языка, але гэтыя зьявы праяўляюцца часта ў ёй не як штось звычайнае, а, наадварот, як абмылы або водхіны ад прынятага правіла правапіснага, водхіны тым большыя, чым пішучы быў меней асьвячоны ці — начай кажучы — меней навытыраны ў традыцыйным правапісе. Дзеля таго неадумыслоўцу, нефілёлёгу беларуская мова ў старой нашай літаратуры на першы пагляд здаецца як-бы чужою, бо апранена яна ў чужую вопратку — царкоўна-славянскі правапіс.

Зусім ня тое знаходзім у беларускай літаратуры арабіцаю. Пісьменьнікі з беларускіх мусульманаў ня былі зьвязаныя царкоўна-славянскаю традыцыяю ў правапісе, навет ня зналі царкоўна-славянскае мовы, а традыцыі арабскае не маглі перадаць правапісу беларускае мовы з прычыны вялікае розьніцы паміж беларускай і арабскай мовамі З гэтае прычыны пісьменьнікі арабіцаю прытарнавалі апошнюю да гукаў беларускіх, прыдумаўшы ў ёй апрычоныя значкі на гукі ***дз*** і ***ц*** ды пісалі так, як вымаўлялі. Дзеля таго ў літаратуры беларускіх мусульманаў адбіліся наагул усе асаблівасьці беларускае фонэтыкі. Маем у кнігах арабіцаю сыстэматычна аканьне, дзеканьне, цеканьне, пераход ***л*** у ***ў*** (быў, воўк), пераход ***в*** у ***ў*** (галоўка), пераход ***у*** ў ***ў*** (наўчоны) і шмат іншых. Менаваныя й іншыя асаблівасьці беларускага языка адбіліся так сыстэматычна й багата ў мусульманскіх кнігах, што цяпер звычайны чытар стара-беларускіх тэкстаў арабіцаю мае даймо (уражаньне) сучаснае беларускае мовы, хоць запраўды мова іх ладне розьніцца ад мовы цяперашняе.

Ё яшчэ адна важная асаблівасьць мовы стара-беларускае літаратуры арабіцаю. Урадовай моваю Беларускага Гаспадарства, званага Вялікім Княствам Літоўскім, была стара-беларуская мова літаратурная. Гэта-ж мова ўжывалася й у тагачаснай беларускай літаратуры Як у кожнай мове літаратурнай і ў ёй асаблівасьці мясцовыя дыялектычныя ў ладнай меры былі сьцертыя З гэтае прычыны дасьледаваць гісторыю беларускіх дыялектаў даволі трудна па стара-беларускай літаратуры (кірылічнай).

Тымчасам беларуская літаратура арабіцаю напісана мясцовай моваю народнай Гэта яе недасканаласьць у прыраўнаньні да агульна беларускае літаратуры але затое гэта самае дае цяпер нам магчымасьць добра студыяваць па ёй гісторыю беларускіх дыялектаў і тым ляпей пазнаваць усё багацьце беларускага языка.

З вышменаваных прычынаў памяткі беларускае літаратуры арабіцаю вельмі важныя дзеля беларускага языка й яго гісторыі.

d) **Зьмест** Агульны зьмест беларускае літаратуры арабскім пісьмом быў ужо відаць вышэй пры пералічэньні кнігаў гэтае літаратуры. Літаратурнае значэньне маюць пераклады Корану, рэлігійныя лягенды і іншыя апавяданьні Гэтта задзержымся на творах балей меней дасьледаваных кнігаў

***Апавяданьне аб ненаўчоным багамолцу.*** Напісана яно ў Крушынянскім аль-кітабе, з катарага надрукавана ў «Roczniku Tatarskim» 1932 Ненаўчоны багамолца йшоў у мэчыць. Падарозе была карчма Калі ён зайшоўся ў карчму, карчмарка замкнула за ім дзьверы і сказала, што выпусьце яго адно тады, калі ён або адзін кухаль гарэлкі вып'е, або з ёю «волю ўчыніць», або дзяцё заб'е. Багамолца падумаў, што найменшы грэх будзе выпіць кухаль гарэлкі. Але як выпіў адзін кухаль, другога сам захацеў, упіўся, з карчмаркаю «волю ўчыніў» і дзяцё забіў. Адгэтуль падвойная навука: трэба вучыцца й ня піць гарэлкі, бо «карчма шайтанскі дом нячысты, усім грахом галава»

***Лягенда аб бедным маладзёну, што стаўся султаном.*** З «Кітабу» В Вольскага ведаем толькі гэтую лягенду аб набожным мусульманіну Быў бедны, але добры й набожны дзяцюк мусульманін Затое просьле ўсіх бедаў Бог яму памог, і ён стаўся гаспадаром — султаном.

Дачуўся ён, што «спадарычна»[26] султанова дачка выбірае сабе мужа. Выйдзе яна за таго замуж, хто адгадае ўсе загадкі ейныя, а яна ягоных не адгадае. Затое тыя, што загадкаў ейных не патраплялі адгадаць, былі караны сьмерцяй. Бедны дзяцюк, спадзяючыся Божае помачы, пастанавіў папрабаваць шчасьця Але ён быў чысты галеча. Дык на зычэньне бацькоў прадаў іх. За грошы, дастаныя за бацьку, купіў каня, а за тыя грошы, што дастаў за матку, купіў кажух, сеў конна і паехаў у сваты Пад'яжджаючы да султановага замку, ён абачыў на тыне шмат галоваў. Гэта былі галавы кандыдатаў за мужа султанішцы, каторыя не адгадалі ейных загадкаў Аднак набожны дзяцюк не спалохаўся й сьмела пасватаўся да султанянкі. І





запраўды Бог яму памог: ён адгадаў усе загадкі. Із свайго боку дзяцюк загадаў гэт'кую загадку у матку апрануўся, на бацьку прыехаў. «Спадарычна» султанішка не змагла адгадаць гэтае загадкі і мусіла выйсьці за яго замуж. Ажаніўшыся із султанішкай, добры мусульманін адкупіў сваіх бацькоў А па сьмерці цесьця-султана ўсё гаспадарства ягонае дастаў гэты калісь бедны й няведамы дзяцюк.

Прыклад з разгледжанае лягенды (дзяцюк адгадуе загадкі султанішчыны):

Заяц, так-жа адна жонка была свавольная, так як ты дзеўка Бяз мужняга пазваленьня хадзіла, гдзе сама хацела; тады Пан Бог зайцам абярнуў. Мыш такжа адна жонка была, тая жонка барзда ліхая была, сварлівая, ніколі няўмоўчала і тады Пан Бог мышай абярнуў. Пес такжа чловек быў і з умарлых людзей саваны, адзежу зьдзіраў, без пакаяньня ўмер; тады Пан Бог псом абярнуў. Чырвоны матыль такжа жонка была. Тая жонка харашо адзявалася для чужых мужоў, а свайго ня любіла; за то Пан Бог чырвоным матылём абярнуў Сьвярчок такжа едын муж быў крыўднік людзкі. ілгаў і крадаў; тады Пан Бог казёлкаю благою абярнуў Сыч, такжа адзін гаспадар быў, мордэрства чыневаў над людзьмі, за то яго Пан Бог сычом абярнуў

("Узвышша" N 4 з 1927 г., бал 143").

З дасьледаваных дагэтуль беларускіх кнігаў арабскім пісьмом найцікаўшы «Аль-Кітаб» Беларускага Музэю Івана Луцкевіча ў Вільні. Транскрыбавала яго ў 1924 г. ў Празе арабістка др. Марыя Тауэр, а лягенду «Мэрадж», друкаваную ніжэй, транскрыбаваў З.С. Кадэрмэт. Абое транскрыбавалі пры ўчасьці маім. У разгляданым «Аль-Кітабе», апрача выясьненьня малітваў, абрадаў і пастоў, ё пяць лягендаў Іх мы й разгледзім

***Мэрадж (узьнясеньне).*** Найвялікшай ё лягенда аб узьнясеньні Магамэдавым на нябёсы, званая паарабску «Мэрадж» Гэта найхарошшая лягенда ў цэлай кнізе Пачынаецца яна ўступам на хвалу Бога. Далей «Аббасаў сын» расказуе, што яму перадаў сам Магамэд, г.зн. аб узьнясеньні Магамэдавым на нябёсы і падарожжы там па ўсіх нябёсах і раі. Дзеля таго што апавядальнік кажа словамі Магамэдавамі, мы заўсёды маем даймо, бы ён сам нам расказаваў.

Па вячэрняй малітве Магамэд пайшоў у горы Было цёмна, ішоў дождж і веяў вецер. Магамэду здалося, што настаў судны дзень. Ён думаў аб зямлі й нябёсах і дзіваваўся з магутнасьці Божае, каторы ўсё гэта стварыў. Раптам яму захацелася спаць. Прачхнуўшыся абачыў ён перад сабой 4-х ангелаў Увесь сьвет быў напоўнены сьветласьцяй

Наўперад падыйшоў да яго ангел Гаўрыіл, прывітаў яго і на пытаньне Магамэдава адказаў, што ў гэтую ноч споўніцца тое, што абяцаў Бог Магамэду. Дастаўшы надзвычайнага каня, Магамэд паехаў разам з ангеламі. Калі прыехаў да Сынай гары, там абачыў Майсея Бачыў такжа тамака прароцкія душы. Яны яго прывіталі.

Гэтак прыехаў Магамэд на першае неба. Бачыў там мноства розных ангелаў. Яны абсыпалі яго сьветласьцяй. Адзін ангел быў із сьнегу й агню. Пяючы ён маліўся за спасеньне прарока.

Як-га Магамэд апынуўся на другім небе. Там было ангелаў надзвычайнае мноства. Калі-б дзе мусульманская вера была ў небясьпечнасьці, дык яны пойдуць і ўсё зьністожаць. На чацьвертым небе бачыў Магамэд Хрыста й Ільлю.

Гэтак ішоў Магамэд да Бога. Напасьледак дайшоў да Божага пасаду Але мог глядзець на Бога адно «душнымі вачыма», бо людзкія вочы ня могуць Бога відзець. Бог абяцаў Магамэду ўсё даць, чаго ён толькі будзе прасіць. Магамэд прасіў адпусьціць грахі яго вернікам З вялікім націскам Бог абяцаў спасеньне тым, што належаць да царквы Магамэдавае

Пабожаму загаду адчыніліся перад Магамэдам райскія вароты, і ён увайшоў у рай. Пераходзе тамака з пакою ў пакой. Драбязна расказуе, што там бачыў У пакоях сядзяць райскія паненкі З вялікай любатой прарок апісуе іх харацтво. Ня могуць быць месяц ані сонца так ясны, як іх твары ясныя й харошыя У раі ё апрычоныя палацы прарокам, мніхам і звычайным мусульманам.

Вярнуўшыся на чацьвертае неба, бачыў Магамэд дзіўную дошку й дзерава, вялікае на ўвесь сьвет Ля дошкі стаяў ангел сьмерці Азраіл Калі Бог створа чалавека, дык на тэй дошцы будзе напісана яго імя. З нараджэньнем дзіцяці на дзераве зьвіцца лісток, каторы расьце разам з дзіцём. Калі чалавек памрэ, лісток зваліцца ў рукі Азраілавы.

Бачыў Магамэд такжа пякельнага вайводу, седзячага на ўслоне з агню ля пякельнае брамы У пекле мучыліся розныя грэшнікі

На сёмым небе абачыўся Магамэд з патрыярхам Абрагамам, каторы папытаўся ў Магамэда, як ён маецца. Быў тамака дзіўны ангел, маючы 70 тысячаў галоваў

Стыль лягенды ўрачысты, адпавядаючы зьместу.
«Гадавік Беларускага
Навуковага Таварыства».
Кніжка 1 Вільня, 1933.

**Важнейшая літаратура аб беларускіх мусульманах:**


Bartoszewicz J., Tatarzy polscy («Encykl. powsz.», t. XXV, Варшава, 1867).
Wójcicki K. Wł., Dokument Kierdeja o lustracji Tatarów z r. 1631 z metryki litewskiej («Teka Wileńska», t. VI, 1858).
Гембіцкі Яхыя. Да пытаньня аб соцыяльна-экономічным стане Беларускіх Татар у сярэднявеччу. Беларуская Акадэмія Навук. Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. Працы клясы гісторыі. Т. III. Менск, 1929.
Dziadulewicz St., Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Вільня, 1929.
Мухлінскі А., Zdanie sprawy o Tatarech litewskich («Teka Wileńska», 1858, t. 4).
Изследованіе о происхожденіи и состояніи Литовскихъ
Татаръ. Пецярбург, 1857
Rocznik Tatarski. Вільня, 1932.
Syrokomla Wł., Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna. Вільня, 1857.
Talko-Hryncewicz J., Muślimowie czyli tak zwani Tatarzy litewscy. Кракаў, 1924.
Янчукъ Н., О литовскихъ Татарахъ («Труды Антр. Отд.». Масква, 1897).


---

[1] На жаданьне Аўтара ў гэтай стацьці пакінены некаторыя асаблівасьці ягонага правапісу (поўнае «аканьне» ў чужаземных словах — «літаратура», «характарны», ужываньне формы «прэдкі» замест продкі, «адзінанцаць» замест адзінаццаць), этымолёгічных форм («узядзены» замест узяты, «зналы», «эміграваны»), слоўніку («просьле» замест пасьля, «даймо́» замест уражэньне, «падзеля» замест дзеля, «пярэднія» замест папярэднія) і стылю (стаўляньне азначэньня пасьля азначанага слова) і інш.— *Рэд.*

[2] А. Мухлинскій: «Изследованіе о происхожденіи и состояніи литовскихъ татаръ. С. Петербургъ, 1857, бал. 6.

[3] Lucae Wadingi Annales ordinis Minorum ab anno 1208 ad an. 1540 Lugdeni 1672, том I-ы, бал. 459.

[4] Прыраўнуй у А. Мухлінскага: Zdanie sprawy... бал. 12 і 38.

[5] Ibid., бал. 39.

[6] Аб гэтым сьведчыць Халькондыляс Ляонікус у другой кнізе гісторыі Турэччыны.

[7] Michalonis Litvani: De moribus tartarorum, litvanorum et moscorum fragmenta decem (Архивъ истор.-юрідіч.сведеній, относящихся къ Россіи, изд. Н. Калачовымъ. Москва, 1854).

[8] Што гэтак было запраўды, відаць вось із гэтага. Гісторык Крыму Сэід Мугамэд Рыза кажа, што просьле гэтае вайны праціўнікі Мэнглі-Гірэевы ўцякалі ў кірунку Волгі й да суседніх краёў. А. Мухлінскі, Zdanie sprawy..., бал. 32.

З другога боку, падарожнік з беларускіх мусульманаў, што напісаў у 1557 г султану Сулейману аб беларускіх мусульманах, кажа даслоўна гэтак: «Бацька мой знаў яшчэ старога, каторы прыехаў разам із іншымі, і казаў, што сем'і нашага роду, зморaныя несупакойным жыцьцём, пакінулі свае сялібы і перасяліліся ў гэныя краі».

Менаваны рэфэрат перакладзены А. Мухлінскім на польскую мову і разам із шмат якімі выясьненьнямі надрукаваны ў выдавецтве «Teka Wileńska», Вільня, 1858, т. 4—6. З яго тут шмат карыстаю.

[9] А. Мухлінскі, Zdanie sprawy..., 77

[10] А. Мухлінскі, Zdanie sprawy...

[11] Изследов. о происх. и сост. лит. татаръ. СПБ, 1857, бал. 48.

[12] Гл. нижэй на бал. 122 аб пары паўстаньня беларуска-мусульманскіх рукапісаў, што ў бібліётэцы Пецярбурскага ўнівэрсытэту.

[13] А. Мухлінскі ў «Изсл. о происх. и сост Лит. Татаръ» (СПБ, 1857) прыводзе прыклады з польскіх рукапісаў арабіцаю не ранейшых як з XVII стаг. Паводле тагачасных культурных адносінаў у Беларусі нельга спадзявацца ў беларускіх мусульманаў польскіх рукапісаў з ранейшае пары.

[14] Ю. Талька-Грынцэвіч, Muślimowie, 75.

[15] Vol. Leg., бал. 309—310.

[16] Сыракомля Ул., Wycieczki po Litwie. Том II, бал. 22—23.

[17] Ibid., бал. 23 й 25.

[18] А. Мухлінскі, Zdanie sprawy.., бал. 47

[19] Талька-Грынцэвіч, Muślimowie, бал. 68.

Сьц. Базарэўскі розьніцу ў 2,000 людзёў у колькасьці мужчын і жанок у веку 20—29 г. адыймае ад усяе колькасьці і гэтак дастае лічбу 10680.

[20] Rocznik Tatarski. Вільня, 1932, бал. 202.

[21] Глянь ніжэй пры пералічэньні памяткаў беларускае літаратуры арабіцаю.

[22] Zdanie sprawy..., бал. 35.

[23] Изследованіе о происхожденіи и состояніи Лит. Татаръ. Бал. 66—68. Тэкст гэтта перададзены паводле цяперашняга правапісу.

[24] Яўхім Карскі, Белорусы. III—2, бал. 239.

[25] Rocznik Tatarski. Вільня, 1932, бал. 314.

[26] паненка, панна.



# Пятро ВАСЮЧЭНКА, Антоні ВЫРВІЧ

Я маю твор...



## ЯНЫ ЗДАВАЛІ ГІСТПАРТ

*Навела*



Гэта здарылася ў тыя часы, калі слова «дысідэнт» гучала горш за «забойцу», калі савецкі народ з упэўненасцю ўзіраўся ў сваю будучыню і калі ўсе студэнты без выключэння здавалі іспыт па гісторыі КПСС. Калі б названы прадмет вывучаў, апроч з`ездаў і канферэнцыяў, людскія драмы, маленькія і вялікія, дык у будучы курс «Гісторыі партыі», поруч з матэрыяламі чарговага з`езду, абавязкова ўвайшло б здарэнне з Буркевічам. Аднак лёс Буркевіча не зацікавіў нікога з найноўшых гісторыкаў, і гэта не вельмі слушна, бо здарылася штось надзвычайнае. Мы лічым палітычнай памылкаю, што ў пераліку падзеяў паміж XXV ды XXVI з`ездамі партыі ані словам не згадваецца тое жудаснае, што адбылося з Буркевічам. Немалаважная акалічнасць: Буркевіч быў камуністы.

Ён адзіны на курсе меў гэтую чырванаскурую кніжачку - партбілет - і не мог не ганарыцца гэтым. Ганарыўся - не тое слова. Лепш сказаць, што сяброўства ў партыі перакуліла ўвесь ягоны свет, дакладней, увесь свет перакуліўся ў ягоных вачах, як займеў ён гэты партбілет Калі яму ў трамваі раптам усміхалася і падміргвала дзяўчына, ён лічыў, што яна ўсміхаецца ягонаму партбілету, нават не бачыўшы яго, бо білет той Буркевіч насіў у кішэні каля сэрца. Калі ж ён лавіў на сабе нечы крывы позірк, ён здагадваўся, што зайздросціць той, у каго няма і не можа быць партбілета.

Быў час, калі ён не мог выспацца з-за кашмараў: штоноч яму трызніўся жахлівы сон пра тое, што ён забывае пінжак разам з партбілетам у электрычцы «Мінск - Пухавічы», і Буркевіч падхопліваўся з немым крыкам, які, не паспеўшы растаць на вуснах, падкідаў з ложкаў суседзяў па пакоі.

Тады не ўжывалі выраз «дах паехаў», нічога не ведалі ні пра які дах, а паводзіны Буркевіча выглядалі ці не натуральнымі, бо каму яшчэ пашэнціла гэтак фантастычна? Ні Хаменка, ні Гаўрош, ні Валенты не мелі чырванаскурае кніжачкі, хоць і служылі ў войску, дзе чалавеку абярнуцца камуністым было куды лягчэй. Не меў партбілета, натуральна, і Жохман, бо габрай, а які з габрая камуністы? Пра ўдачу ж Буркевіча казалі, што такое надараецца раз гадоў на дваццаць. Прыйшла разнарадка - на студэнта, заўважце, менавіта на студэнта, а не на якоганебудзь дацэнта, хай сабе той дацэнт год дваццаць пакутаваў ад беспартыйнасці. І вось намеснік дэкана, які за нешта залюбіў Буркевіча падчас бульбы, яго ж і параіў у камуністыя. Не будзем апісваць даўгую працэдуру прыёму, адзначым адно: прайшоўшы выпрабавальны тэрмін, Буркевіч стаўся камуністым. У няпоўныя дваццаць адзін год. На найвялікшую радасць або найвялікшую бяду - але стаўся гэтым самым.

Мажліва, усё нейк і абышлося б, каб не іспыт па гістпарце. Перад гістпартам трымцелі ўсе. Выкладчыка гісторыі КПСС у вочы клікалі Барысам Іванавічам, а за вочы - Зверам. І не дарэмна. Пра ягоную хіжасць складаліся паданні, але сапраўднасць магла аказацца горшай за студэнцкую міфалогію. Барыс Іванавіч мог «зарэзаць» самага ідэйна вытрыманага студэнта, не зважаў ні на грамадскія абавязкі, ні на што іншае, варта было ўнюхаць яму пах свежае студэнцкае крыві. Ён мог нечакана заляпіць тройку студэнту, які барабаніў на адным дыханні цэлы раздзел з «Кароткага курсу», мог збіць з панталыку самаўпэўненага выдатніка якімсь каверзным пытаннем пра трацкізм або бухарынскі правы блок. Бывалі, праўда, выпадкі, калі Барыс Іванавіч пераставаў быць зверам, і нізавошта ставіў пяцёркі, але, каб злавіць такую халяву, трэ было мець прынамсі блакітныя вочы з даўгімі вейкамі, валасы колеру саломы і стромкія, як калоны, ногі, ледзьве прыкрываныя спаднічкаю. А такія рэчы не ў кожнага ёсць. У Буркевіча, ясна, не было. Ці не таму ён раней ад усіх адчуў боязь перад гістпартам - яшчэ тады, калі суседзі па блоку ні пра які гістпарт не думалі, а глушылі смаляна-чорны напой з пяш-

чотным назовам «Вера Міхайлаўна». Буркевіч, якога штурхаў ужо ў плечы гэты страх, наведаўся да суседзяў, машынальна кульнуў прапанаваную яму шклянку «Веры Міхайлаўны» і загаманіў пра гістпарт.

- Неяк будзе, - легкадумна вымавіў Гаўрош, надзеў белую, адпрасаваную кашулю і пайшоў на спатканне да свае чарговае красуні.

Генюсь з нейкім фатальным спакоем праказаў:

- Мне ўсё адно вышэй за траяк Звер не паставіць, - і конча паспакайнеў, заварушыў вуснамі, спрабуючы злавіць за хваста рыфму да слова, што не мела да гістпарту аніякага дачынення.

Хаменка ж не на жарт устрывожыўся. Ён падумаў пра тое, што атрымаць траяк па гістпарце - гэта табе не жартачкі, яно пацягне за сабою страту стыпендыі, і як жа тады ашчаджаць грошы?

- А што трэба Зверу казаць на іспыце? - наіўна запытаўся ён.

Валенты, які на той час быў закаханы ў пяцікурсніцу, меў ад яе рэцэпт, як здаваць Зверу гістпарт І ён, як істы таварыш, не стаў хаваць таямніцаў.

- Звер любіць пытацца прозвішчы ўсіх меншавікоў і рэнегатаў. Забыўся якога-небудзь Мартава ці Багданава - два балы. Яшчэ ён пытаецца, як у сапраўднасці звалі Троцкага...

- А як яго звалі? - пацікавіўся Хаменка.

- Не памятаю, - замуляўся Валенты. - Прозвішча нейкае... на нашага Жохмана чымсь падобнае. А яшчэ Звер пытаецца членаў групы «Вызваленне працы».

Хаменка спалохаўся:

- А іх шмат было, гэтых членаў?

- Няшмат. Мяне мая баба навучыла, як іх спрытней запамінаць. Па першых літарах. Вось, слухайце: Пляханаў, Ігнатаў, Засуліч... ну і гэтак далей.

- Ну і што? - спытаў тупаваты Хаменка.

- Вось табе і «што». Першыя літары складзі. Што атрымаецца?

Валенты яшчэ раз пералічыў усіх членаў групы, Хаменка склаў літары. Атрымлівалася жудасная непрыстойнасць. Хаменка зарагатаў, вельмі непачціва ў дачыненні да членаў «Вызвалення працы». Буркевіч, крыху заспакоены, выбраўся ад суседзяў, якія гэтак легкадумна ставіліся да іспыту па гістпарце. Нейкі час ён цешыўся думкаю, што Валенты ды ягоная кампанія нізавошта не заробяць вышэй за траяка, маючы ў галаве адно сапраўднае прозвішча Троцкага ды яшчэ непрыстойнае слова, якое сімвалізуе склад палітычнае групы. Але неўзабаве трывога наноў заварушылася ў ім. Яны - хай, яны ж не маюць парцейнае кніжачкі ў кішэні, а яму, Буркевічу, трэба ісці на іспыт з устаноўкаю на пяць. Толькі так. Ці ж прыстойна будзе, калі яны паатрымліваюць свае траякі, а ён - якую-небудзь чацвёрку, усяго на бал вышэй? Для камуністага такая рэч недапушчальная. Значыцца, трэба было рыхтавацца да іспыту з усяе парцейнаю адказнасцю.

Тым жа днём Буркевіч прытарабаніў з бібліятэкі вялікі стос кніжак - «Кароткі курс гісторыі КПСС», двухтомную гісторыю партыі пад рэдакцыяй Сікорскага і, нарэшце, шматтомную «Гісторыю КПСС» Апошні збор бібліятэкарка не хацела даваць на рукі, але Буркевіч так адчайна замахаў перад ейным носам чырвонай кніжачкай, што яна спалохалася і дазволіла. Няйначай, падумала, што перад ёю сакрэтны супрацоўнік ці хтось гэткага кшталту.

Пачаў Буркевіч са шматтомніка, але праз некалькі дзён з жахам пераканаўся, што не паспее агораць гэтакі мур. З кожнай новай старонкаю ён ведаў, здавалася, усё меней, як быццам новая інфармацыя ціснула на старую, выштурхоўваючы яе з памяці. Да двухтомніка Буркевіч звярнуўся, маючы ўжо якуюсь сістэму Ён сцяміў, што гісторыя партыі складаецца як бы з двух няроўназначных пластоў. Першы, самы грунтоўны - гэта звесткі пра з'езды, канферэнцыі, партыйныя дыскусіі, розныя там праграмы, фракцыі ды платформы. Другая ж частка - штось на першы пагляд расплывістае і сцюдзяністае, амаль няўлоўнае цечыва, у якім можна ўхапіць хіба што сказы накшталт «перамога сацыялізму ў адной, асобна ўзятай краіне», «кантроль і ўлік», «дэмакратычны цэнтралізм», «звонкая рэвалюцыйная фраза», ды яшчэ ўзоры моцнай палітычнай лаянкі, прыкладам, «рэнегат Каўцкі», «правы апартуністы», «дзіцячая хвароба лявізны ў камунізме» і гэтак далей. Гэтае цечыва як бы абмывае той, цвярдзейшы пласт гісторыі партыі, і з ім трэба абыходзіцца надзвычай асцярожна, каб таксама не ўпасці ў якую дзіцячую хваробу. Буркевіч адно спадзяваўся, што парцейная інтуіцыя яго не падвядзе. Галоўнае ж было - не блытаць з´езды і праграмы, правы ўхіл ад левага, адзавістаў з ліквідатарамі. Але шматлікія ворагі праўдзівага марксізму-ленінізму, як на тую злосць, працягвалі свае падкопы - перамешваліся, зліваліся паміж сабою ў мазгах Буркевіча, чым болей ён чытаў пра іх. Яму патрэбная была канцэнтрацыя, але засяродзіцца не давалі неспакойныя суседзі па блоку - яны беспярастанку ўключалі магнітафон з шлягерамі маладой Алы Пугачовай і нецэнзурнай паэмай пра Луку Мудзішчава, у іх пастаянна павісквалі дзяўчаты, роў пабіты за нахабства Жохман або п´яная хеўра гуляла ў карты і тады чулася «пас», «храп» і мацюкі, і ад усяго гэтага льга было звар´яцець. Калі ж за сцяною рабілася ціха, Буркевіча пачыналі непакоіць уласныя суседзі; яны не пілі віна, не гулялі з дзяўчатамі, затое елі - па чарзе і некалькі разоў на працягу дня і нават па начах, хаваючыся адзін ад аднаго, пакрыўма дастаючы са стаўбуроў сала, кілбасу, цыбулю. Кожны еў сваё, ні з кім не дзяліўся, і гэта, вядома, было не па-парцейнаму, але найгоршае было ў тым, што надта гучна чмякалі, а ў Буркевіча, які жыў надгаладзь, ад гэтага чмякання сціскаўся страўнік і плылі мазгі. Словам, ён вырашыў адасобіцца ад усіх.

Ён абсталяваў душавы пакойчык пад габінэт. Суседзі мыліся не надта каб часта, так што можна было замкнуцца ў ваннай на гадзіну-другую. Буркевіч выразаў з фанеры квадрат і паклаў на ракавіну - атрымаўся як бы стол, на які можна было пакласці падручнікі, канспекты, творы Маркса, Энгельса і Леніна.

Габінэт Буркевіча, аброблены белай кафляю, метр на два плошчаю, нагадваў бокс або карцэр, але ў гэтай усечанай прасторы нашмат лягчэй засвойваліся пэрліны гістпартаўскае фразеалогіі. Мажліва, ім проста не было куды выплыць адгэтуль, яны луналі пад столлю габінэта і раз-пораз заплывалі ў Буркевічаву галаву. Настаў момант, калі Буркевіч мог па пунктах давесці ўсё, дзеля чаго пагрызліся на другім з´ездзе меншавікі з бальшавікамі. Гэтага, аднак, яму не падалося даволі, і ён вырашыў улегчы ў тэорыю. Думка гэтая была адначасна і разумнай і згубнай. Буркевіч дапяў да першакрыніцаў, чытаў класікаў марксізму-ленінізму ўзапой, як раманы Сімянона, лютай нянавісцю ўзненавідзеў Дзюрынга ды Авенарыўса, дражніў Хаменку Менцалем-французаедам, аднак за два дні да іспыту з холадам у сэрцы адчуў, што не бачыць розніцы паміж з´ездамі - чатырнаццатым і пятнаццатым, дваццаць трэцім і дваццаць чацвёртым, не кажучы ўжо пра канферэнцыі. Аднолькавыя яны былі ў ягоным усведамленні, як спарышы, і хоць ты лоб разбі. Мусібыць, памяць Буркевічава ўяўляла з сябе нешта накшталт басейна з дзвюма трубамі, у адну з якіх заходзіла, а з другое выходзіла, а мала што затрымлівалася. Буркевіч ліхаманкава шукаў спосабаў, як затрымаць хоць што-небудзь.

Аднойчы Генюсь зайшоў да Буркевіча ў пакой папрасіць расейска-беларускі слоўнік - нейкую рыфму пашукаць. Ступіўшы за парог, ён падумаў, што ў яго закруцілася ў галаве, і нават ухапіўся рукою за білка ложка. Аж потым выявілася, што ў галаве не круцілася. Гэта Буркевіч стаяў на галаве, упёршыся дзвюма рукамі ў падлогу і паважна, строга глядзеў на Генюся. Той на ўсялякі выпадак адступіўся да дзвярэй і спытаў·

- Буркевіч, ты што робіш?

- Нічога, - адказаў Буркевіч, - гісторыю партыі паўтараю.

Генюсь вярнуўся ў свой пакой з навіною, што Буркевіч звар´яцеў на палітычнай глебе, і запрапанаваў выклікаць нуль-тры. Але Гаўрош, крыху больш дасведчаны, патлумачыў, што гэта няйнакш метода такая. Калі стаіш на галаве, кроў прыцякае да мозгу, і той пачынае спрытней варушыцца. Кажуць, што не адно навуковае адкрыццё было зроблена, стоячы дагары нагамі.

Буркевіч, пастаяўшы на галаве, напраўду сёе-тое ўзгадаў з забытага. Словы нібыта звальваліся ў чэрап з пятак, чэрава: «вялікі пералом», «з`езд пераможцаў», «калектывізацыя ды індустрыялізацыя», «культ асобы». Адно бяда, што праз сорак хвілінаў ён адчуў, як страпянулася і раптоўна боўтнулася ўніз сэрца, затахкала недзе ў самай гарлянцы, яму стала млосна, і ён гупнуўся на падлогу

За дзень да іспыту за Буркевічам хвастом хадзілі студэнты, нават Гаўрош з Хаменкам, пыталіся адказу то на адно, то на другое пытанне, і Буркевіч з задавальненнем бачыў, што можа рэзаць без перадыху па кожным білеце. Генюсь і Валенты да яго не падышлі. З Генюсем усё было ясна, ён змірыўся з непазбежнасцю траяка і складаў вершы, але што думаў сабе Валенты? Няўжо ён спадзяваўся сапхнуць іспыт, ведаючы адно склад групы «Вызваленне працы»? Ці то бо закахаўся ў пяцікурсніцу, і яму было не да гістпарту? Дзіўна гэта было і падазрона. Сам жа Буркевіч з упэўненасцю, як казаў за дзесяць хвілінаў перад Новым годам Леанід Ільіч, узіраўся ў заўтрашні дзень. Звер яго амаль не страшыў Буркевіч нават не зазірнуў у падручнік у апошні перад іспытам вечар. Адно на ўсялякі выпадак у трэці раз наведаў дамок-музей Першага з`езду РСДРП ды перачытаў у сваім нататніку даўжэзны спіс сакратароў камуністычных партыяў краінаў свету, ад Аўстраліі да Японіі. Ноч ён спаў спакойна, без сноў.

Раніцай ён не спяшаўся, не пайшоў здаваць першы. Пачакайма, разважаў ён, няхай Барыс Іванавіч паслухае Генюся, Хаменку, Валентага ды іншых беспартыйных балбесаў. А потым зойдзе ён, Буркевіч, які нядаўна атрымаў чырванаскурую кніжачку Няхай паслухае. Няхай пачуе, якая розніца.

Каля дзвярэй, за якімі здавалі, Буркевіча сустрэлі збялелыя, напалоханыя твары. Казалі, што Звер лютуе сёння, як ніколі. Рэжа студэнтаў, як на скуралупні. Каля вакна істэрычна рыдала выдатніца Света Пліска, атрымаўшы першую ў жыцці чацвёрку. Які ж гэта будзе дыплом, думала, усхліпваючы, Пліска, усе пяцёркі, і паміж імі - адна чацвёрка. І па чым? Па гістпарце! Ці ж возьмуць на людскую працу з такім падазроным дыпломам? Трое, у іх ліку Генюсь, скідваліся па тры рублі, каб напіцца, бо атрымалі «здавальняюча». Генюсь быў спакойны. Ён меў тое, чаго чакаў. Збіраўся ўвайсці Валенты. Буркевіч намерваўся заходзіць наступным.

Пасля Валентага дзверы не адчыняліся хвілінаў трыццаць пяць. Раптам пачуўся барытон Барыса Іванавіча, які спакваля ўзвысіўся да лірычнага тэнару і сарваўся на дыскант. Барыс Іванавіч, відочна, гневаўся, злавіўшы кагось на палітычнай памылцы. Выйшла, прыціснуўшы насовачку да вачэй, другая зарэзаная выдатніца. У Буркевіча злёгку затрымцелі каленькі. «Уваходзьце», - пачуўся за дзвярыма голас Барыса Іванавіча, які ізноў гаварыў нармалёвым барытонам. Буркевіч сутаргава схапіўся за партбілет, памясціў яго ў вонкавай кішэні пінжака так, каб вытыркаўся чырвоны краёк, і рушыў у катавальню.

Хваля халоднага жаху крыху ачахла, калі ён учытаўся ў выцягнуты білет. Па гэтых пытаннях ён мог барабаніць да знямогі, асабліва па другім - аб Праграме пабудовы камунізму Можа, такая самаўпэўненасць яго і загубіла. Бо ён ужо не раздумваў над білетам, змест якога падаваўся яму цалкам празрысты, а пачаў услухоўвацца ў тое, што адказвалі студэнты, узірацца ў твар суворага экзаменатара.

Яму падаўся дзіўным кантраст паміж жвавасцю рухаў Барыса Іванавіча, вастрынёй пагляду, маладым голасам - і цяжкасцю набрынялых павекаў, змаршчакамі, якія, бы нажом, пасеклі ўсе дзялянкі ягонага твару. Ці то ад няпростага жыцця, ці то ад пакутлівага роздуму над праблемамі гістпарту, якія не пакідалі Барыса Іванавіча ні ў аўдыторыі, ні дома, нават калі ляжаў з жонкай у ложку, - гэты чалавек, маладзён душою, заўчасна чаўрэў целам. Цікава, колькі год ён у партыі, падумалася Буркевічу Тымчасам у паводзінах Барыса Іванавіча наспявала нечаканая, як заўжды, змена. Ён амаль не слухаючы паставіў пяцёрку дзяўчыне, якая мела самыя гожыя каленькі ў групе, і тая, пунсовая ад шчасця, выбегла за дзверы. Да стала сеў Валенты. Ён панылым, споўненым скрухі голасам пераказваў словы з тае «бомбы», што спецыяльна для яго напісала ягоная пяцікурсніца. Барыс Іванавіч паглядаў у вакно, крывіўся, некалькі разоў нервова таргануў брывом, але маўчаў

- Досыць, - нарэшце сказаў ён Валентаму, - давайце другое пытанне.

Тым жа бясколерным, пазбаўленым інтанацыі голасам Валенты пачаў казаць па другім пытанні. І быў адразу ж спынены.

- Досыць, - кісла прамовіў Барыс Іванавіч. - Скажыце, хто ўваходзіў у склад групы «Вызваленне працы».

Валенты, страпянуўшыся, узгадаў тое адзінае запаветнае слова, якое трымаў у памяці з усяго курсу гісторыі КПСС.

- Пляханаў, Ігнатаў, Засуліч, Дэйч, Аксельрод, - бадзёра, амаль па-вайскоўаму адрапартаваў ён, гледзячы проста ў вочы Зверу

Той раптам заўсміхаўся:

- Малайчына.

І паставіў у залікоўцы «добра».

Ад абурэння Буркевіч пагубляў усе словы, якімі збіраўся пачаць адказ на першае пытанне, гэтыя словы выцiснуліся дзіцячымі, бездапаможнымі: ці ж так робіцца? за што паставілі добрую адзнаку Валентаму? які ж ён малайчына? ён жа нічога не ведаў апроч таго слова з пяці літараў! Чаго ж будзе вартая Буркевічава пяцёрка, зробленая коштам месяцовага мардавання ў кафляным габінэцэ? Ён не

ўсведамляў, што амаль тымі ж бездапаможна-дзіцячымі словамі пачынае першае пытанне, а Барыс Іванавіч глядзіць на яго з грэблівай цікавасцю.

- Слаба, зусім слаба, - агаломшыў ён Буркевіча. - Другое пытанне.

Ад жаху да Буркевіча вярнуліся ўсе згубленыя словы: імёны, даты, палітычная лаянка супраць ворагаў. Гамонка пабегла з яго вуснаў плаўна, з інтанацыйнымі пералівамі, лагічнымі націскамі, рытарычнымі пытаннямі. Але Барыс Іванавіч з той самай грэблівай мінай шукаў паміж гэтымі словамі чагосьці свайго, за што можна было б учапіцца і тарганууць. Буркевіч, прымружыўшы вочы, як глушэц, лупіў і лупіў аб Праграме пабудовы камунізму і не адразу пачуў, як да ягонага голасу прымешваецца барытон Барыса Іванавіча.

- Пачакайце, Буркевіч, - казаў барытон, - дык што, па-вашаму атрымліваецца, цяпер мы павінны былі ўжо дагнаць і перагнаць Амерыку? Так?

- Безумоўна, - ляпнуў, не падумаўшы, Буркевіч.

- Але ж мы яе не перагналі... Чаму?

Буркевічу заняло. Хвіліны тры ён бязгучна, нібы карась, варушыў вуснамі, а Звер маўчаў і з гідлівай насалодаю барабаніў пальцамі па стале марш з «Аіды». А потым агаломшыў Буркевіча абсалютна нечаканым пытаннем:

- Слухайце, Буркевіч, скажыце шчыра: вы «Голас Амерыкі» слухаеце?

- Не, не, што вы,- паспешліва зааднекваўся Буркевіч, збялеўшы. І быў конча знішчаны тым, што пачуў далей.

- І дарэмна робіце, што не слухаеце. Яны часам кажуць даволі цікавыя рэчы... Каб умець змагацца з ворагам, яго трэба ведаць. Таму іншым разам карысна паслухаць і «Голас Амерыкі». Хоць у вас такая каша ў галаве, што вам гэта можа і зашкодзіць. Як вам не сорамна, Буркевіч? Вы прыйшлі на іспыт абсалютна непадрыхтаваным. Вы ў падручнік заглядалі хаця б раз? Я не пытаюся ўжо пра першакрыніцы, пра іх у вас самае прыблізнае ўяўленне. Што вы на мяне гледзіце? Вы камуніст, Буркевіч, і павінны падаваць прыклад іншым, пагатоў у падрыхтоўцы да гісторыі партыі, а вы цэлы год займаліся немаведама чым. З павагі да таварыша, які рэкамендаваў вас у партыю, я не стаўлю вам тройку, хаця можна было б і ніжэй... Ідзіце.

Студэнты за дзвярыма з абміраннем слухалі, як голас Барыса Іванавіча ізноў сарваўся на дысканце. Буркевіч курчыўся, мізарнеў ад гэтага голасу і, маленькі, як землярыйка, вышмыгнуў на калідор. Да яго кінуліся, зазірнулі ў залікоўку, з жахам разглядалі чацвёрку, выпісаную нервовай рукой Барыса Іванавіча. Яня Мянташка, якая любіла ўсіх шкадаваць, глядзела на Буркевіча бы на невылечна хворага:

- Бедненькі, што ж з табою здарылася?.. Ты ж так рыхтаваўся...

Падышоў Хаменка, які не меў звычкі кагосьці шкадаваць, ляпнуў Буркевіча па плячы і цынічна зарагатаў:

- Эх, Буркевіч, Буркевіч, чаго ж ты так даў маху? Табе трэба было даць не Маху, а Авенарыўсу...

Староста групы быў заклапочаны сваімі думкамі:

- Буркевіч, што атрымаў? Чатыры? Малайчына. Давай тры рублі на п'янку.

Буркевіч не даў тры рублі. Паазіраўся памутнелымі вачыма, у якіх не адбіліся ні староста, ні Хаменка, ні жаласлівая Мянташка, і рушыў кудысь хадою не вельмі цвярозага чалавека.

Тым вечарам у старастаўым пакоі ішла гулянка, роўнай да якой яшчэ не было. Святкавалі здачу самага цяжкага іспыту, напапіваліся ўсе - ад Жохмана, які нічога не здаваў, але прыцёгся выпіць на халяву, да выдатніцы, якая, глынуўшы некалькі чарак, перастала перажываць з-за чацвёркі. Света Пліска абдымалася са старастам, вырашыўшы сёння ж развітацца са сваёю дзявоцкасцю.

Гадзіны праз тры тлуму, брыдкіх анекдотаў, песень агледзеліся, што няма Буркевіча.

- Ён не здаваў тры рублі, - патлумачыў староста.

- Можа, грошай не меў... - сказаў адзін.

- Перажывае недзе, што атрымаў чацвёрку. Хацеў пяць, - здагадаўся другі.

- Трэба яму наліць, - запрапанаваў трэці.

Адправілі Жохмана шукаць Буркевіча - ён не знайшоў. Пайшлі шукаць грамадой, адчынілі пакой - нікога. Хтосьці пацягнуў за дзверы ў ванную - аказаліся зачыненыя. Святло ў ваннай гарэла, але ніхто не адгукаўся.

- Буркевіч! - крычалі ў дзверы. - Адчыняй! Хадзі шклянку выпіць.

Ані гуку.

- Што ён там робіць? - пыталіся адзін у аднаго.

- Гісторыю партыі вучыць... У яго там габінэт... - тлумачыў п'яненькі Генюсь.

- Дурны, ён жа з намі здаваў сёння, Звер чацвёрку яму паставіў А ён расстроіўся...

- З-за чацвёркі?

- Ён пяць хацеў Нельга, казаў, каб і Валенты, і я аднолькавыя адзнакі мелі... Ён парцейны.

- Значыць, павесіўся ад гора, - падсумаваў бязлітасны Хаменка.

Усе пахаладзелі.

- Што рабіць?

- Дзверы ламаць!

- Ты што, ты што? - устрывожыўся Хаменка. - Навошта дзверы псаваць? Твае гэта дзверы? Ты іх пасля рамантаваць будзеш? Адразу ламаць... Трэба столяра выклікаць...

- Якога столяра? Там жа чалавек павесіўся!

- Дык што з таго, што павесіўся? Калі павесіўся, дык яму ўжо нічым не дапаможаш. Хай павісіць чалавек, пакуль столяр прыйдзе...

Але перамагла думка, што дзверы трэба ламаць. Адсунулі ў бок Хаменку, які спрабаваў ратаваць дзверы, і націснулі. Вушак імпэтна трэснуў. Вачам сп'янелага людства адкрыўся ванны пакой, абсталяваны Буркевічам у габінэт. На стале, замест тамоў гістпарту, стаялі два «фаўсты» - адзін парожні, другі напалову. На кафлянай падлозе ляжаў гаспадар габінэту, з тварам зялёнага колеру, галавою ў калюжыне вермуту, які не прыняла ягоная здаровая парцейная натура. Буркевіч так і не апрытомнеў, калі яго пераносілі ў пакой, клалі на ложак, не бачыў, як Хаменка цішком дапівае з бутэлькі рэшткі вермуту, каб не змарнавалася дабро...

Чытачоў з ліку крыважэрных усцешыў бы трагічны вынік гэтай гісторыі, якую тады можна было б назваць прыкладна так: «Смерць камуністага». Але Буркевіч не павесіўся і не памёр ад здушэння ванітнай масаю. Праз год ён ужо навучыўся жлукціць вермут настаяшча, ужо не званітавала б яго і ад двух «фаўстаў». Праз два гады на парцейным сходзе ён атрымаў строгую з апошнім папярэджаннем вымову за тое, што адарваў пагон у міліцыянта, які хацеў запраторыць яго ў выцвярэзнік. Праз год дзесяць ён трапіў у шэрагі тых, пра каго таварышы па партыі казалі, што яны «перафарбаваліся», тых, хто прылюдна, на былой плошчы Леніна чынілі аўтадафэ над сваімі чырванаскурымі кніжачкамі, пасля чаго адпівалі з гарла хаўтурнага па сваёй парцейнай маладосці...



# Альбэр КАМЮ | ЁН



*Трагедыя - гэта не выйсце.*

*Пра Яго*

## МІФ ПРА СІЗІФА
## ВЫГНАННЕ ГЭЛЕНЫ
## ЧУМА

*З нататнікаў*

### Дастаеўскі і Камю: дзве інтэрпрэтацыі духоўнага банкруцтва

### ГАНЕБНАЯ «ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ» ГІСТОРЫІ

### Камень Сізіфа

## *Пра Яго*

**1913, 7 лістапада** — *у гарадку Мандаві (дэпартамент Канстанціна, на поўначы Алжыра) нарадзіўся будучы вялікі пісьменнік і мысляр XX стагоддзя Альбэр Камю.*

*«Самай маёй вялікаю ўдачай быў той факт, што я нарадзіўся ў Алжыры,— прызнаецца ён незадоўга да смерці.— Я не напісаў нічога, што так ці інакш не было б звязана з гэтай зямлёю».*

*Бацька яго, Люсьен Камю, які працаваў на вінаградных палях, быў нашчадкам бардоскіх сялянаў, што эміғравалі з метраполіі ў яе ўлюбёную заморскую тэрыторыю ў 1830-я гады. Дзяцінства Люсьена Камю прайшло ў дзіцячым прытулку, дзе ён сяк-так вывучыўся чытаць і пісаць. Пазней, працуючы памочнікам у гандляра вінам, ён дапаў да простай навукі бліжэй і меў вялікае задавальненне складаць гаспадару справаздачы ў вычварных выразах.*

*Маці, Катрын Сантэс іспанка па паходжанні.*

**1914, верасень** — *Альбэр і ягоны старэйшы брат застаюцца сіротамі: бацька, смяротна паранены ў бітве на Марне, памірае ў шпіталі, удалечыні ад радзімы, за краіну, якой ён, па сутнасці, і не ведаў.*

*Маці неўзабаве перабіраецца з сынамі ў г. Алжыр, адміністрацыйны цэнтр дэпартамента, і пасяляецца ў бядняцкім квартале Бэлькур ("прыгожы двор" па-французску). Пенсіі за мужа на жыццё не хапала, і яна працавала прыбіральшчыцай у багатых дамах.*

**1918** — *хлопчыка аддаюць у пачатковую школу Бэлькура. Дзеці ягонага кола рана спынялі вучобу: бацькі лічылі лепшым знайсці ім добрую працу. Стрыечны дзед Альбэра казаў, што застрэліць любога, хто паспрабуе зрабіць з ягонага ўнука «інтэлігента».*

**1924** *Альбэр заканчвае школу з выдатнаю адзнакай. Ягоны настаўнік, былы ўдзельнік баёў на Марне, дамагаецца для хлопчыка стыпендыі ў рэспектабельным Алжырскім ліцэі Бюжо (названым так у гонар маршала, заваёўніка калоніі) у буржуазным раёне Баб-эль-Уэд. (Дзівосныя перапляценні афрыканшчыны і еўрапейшчыны ў тагачасным Алжыры: бедны квартал мае французскае найменне, багаты — арабскае.)*

*Становішча хлопчыка паміж дзяцей буржуа, адносіны да яго настаўнікаў і дырэкцыі (прынамсі, часткі апошніх) спрыялі ранняму абуджэнню пачуцця сацыяльнай несправядлівасці, уласнае годнасці, што прыкметна адбілася ў першым рамане пісьменніка «Шчаслівая смерць». (У канцы 30-х гадоў былыя ягоныя мецэнаты назавуць журналіста Камю, аўтара антыкаланіяльных артыкулаў, «няўдзячным паразітам». Нават у 50-я гады слава сусветна прызнанага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, не памяняла да яго адносін алжырскай арыстакратыі. ён заставаўся для яе «выскачкаю, знакамітасцю, але не раўнёю».)*

*Альбэр, як і ўсе дзеці ля мора, багата часу бавіў на пляжы, шмат і добра плаваў. Прыгажосць Міжземнага мора і ягонага ўзбярэжжа ўвайшла ў душу пісьменніка на ўсё жыццё.*

*Яшчэ падлетак, Камю вельмі любіў футбол, гуляў варатаром за футбольную каманду ліцэя. Пасля аднаго матча ён застудзіўся, запаленне лёгкіх перайшло ў сухоты, і хлопец быў змушаны на год пакінуць вучобу. Гэта было ягонае першае сутыкненне з смерцю: ён не толькі назіраў за асуджанымі на яе хворымі ў лякарні для бедных, але і сам глядзеў ёй у твар. Хвароба не пакінула яго да канца жыцця і перашкодзіла здзяйсненню багата яіх планаў.*

**1931, восень** — *Альбэр вяртаецца ў апошні клас ліцэя і пачынае займацца філасофіяй. Сустракаецца з Жанам Грэнье, маладым выкладчыкам філасофіі й літаратуры, які становіцца не толькі ягоным настаўнікам, але і сябрам. Рэлігійны экзістэнцыяліст Грэнье пачынае фармаваць кола чытання юнака.*

# МІФ ПРА СІЗІФА

Багі асудзілі Сізіфа вечна каціць вялізны камень да вяршыні гары, адкуль ён зрываўся пад цяжарам сваёй вагі Багі небеспадстаўна меркавалі, што няма пакарання жахлівейшага за бясконцую працу, якая не дае ні карысці, ні спадзявання

Калі верыць Гамеру, Сізіф быў наймудрэйшы і найасцеражнейшы з смяротных. Паводле ж іншых паданняў у яго была схільнасць да разбойніцкага рамяства. І я не бачу ў гэтым супярэчнасці. Погляды розняцца адносна прычын, з якіх ён апынуўся марным працаўніком апраметнай Збольшага Сізіфа вінавацяць у крыху легкадумным стаўленні да багоў Ён выдаваў іх сакрэты. Эгіна, дачка Асопа, была ўкрадзена Юпітэрам Бацька, знянацку заспеты яе знікненнем, расказаў пра сваё гора Сізіфу. І той, ведаючы пра выкраданне, абяцаў Асопу раскрыць таямніцу, калі стары бацька пусціць ваду ў крэпасць Карынф. Замест грому і маланак нябесных Сізіф абраў блаславенне вадой. За гэта ён быў пакараны ў апраметнай. Гамер распавядае нам таксама, што Сізіф закаваў ланцугамі Смерць. Плутон не здолеў вытрываць відовішча свайго пустэльнага і маўклівага царства. Ён паслаў бога вайны, і той вызваліў Смерць з-пад улады яе пераможцы.

Распавядаюць яшчэ, што на апошнім крэсе жыцця Сізіф неасцярожна захацеў выпрабаваць каханне сваёй жонкі Ён загадаў ёй не хаваць свайго цела, а кінуць яго пасярод гарадской плошчы. Неўзабаве ён апынуўся ў царстве ценяў І там, угнялёны яе паслушэнствам, настолькі супярэчлівым чалавечаму каханню, ён атрымаў дазвол Плутона вярнуцца на зямлю, каб пакараць сваю жонку. Але калі ён зноў убачыў дзённае святло, зноў зазнаў смак вады і сонца, цеплыню камення і прахалоду мора, ён не захацеў вяртацца ў змрок апраметнай. Напаміны, гнеў, пагрозы — усё было дарэмна. Яшчэ доўгія гады Сізіф жыў на беразе бліскучага марскога заліва, сярод усмешак зямных дабротаў. Спатрэбілася пастанова багоў, і вось Меркурый явіўся, каб схапіць свавольнага неслуха за каўнер і, адарваўшы ад жыццёвых уцех, сілаю звесці ў апраметную, дзе яго ўжо чакаў абломак скалы.

З гэтага ўжо зразумела, што Сізіф — абсурдны герой. Ён абсурдны сваімі пачуццямі як і сваімі пакутамі. Пагарда да багоў, нянавісць да смерці, прага жыцця каштавалі яму жахлівай кары, калі ўсё існаванне зводзіцца да марнага занятку, якому няма канца. Такою цаной даводзіцца плаціць за зямныя пачуцці. Апавяданні нічога не кажуць нам пра Сізіфа ў апраметнай. Але міфы і зроблены дзеля таго, каб нашае ўяўленне ажыўляла іх. Што ж датычыцца гэтага міфа, дык тут можна ўявіць сабе толькі вялікае напружанне мышцаў, намаганне ўзняць агромністы камень, пакаціць яго ўверх па адхоне і караскацца следам, сто разоў паўтараючы ўсё гэта зноў; можна ўявіць сабе сутаргава напяты твар, шчаку, прыціснутую да каменя, пляцо, што падпірае пакрытую глеем камлыгу, нагу, падаткнутую пад яе, як клін, далоні, што перахопліваюць пакутлівы цяжар, і ўласцівую адно чалавеку ўпэўненасць дзвюх запэцканых глебаю рук. І вось, у самым канцы гэтага доўгага намагання, што вымяраецца прасторай без неба і часам без глыбіні, мэта дасягнута І тады Сізіф бачыць, як камень кратаецца і за некалькі імгненняў злятае на самы ніз, адкуль яго зноў трэба ўздымаць да вяршыні. Сізіф спускаецца ў даліну

Менавіта падчас гэтага спуску, гэтай разрыўкі мяне і цікавіць Сізіф. Бо твар, які напінаецца побач з каменем,— сам ужо камень! Я бачу, як гэты чалавек цяжкай, але роўнай хадою спускаецца насустрач пакутам, якім не будзе канца Гэты час, калі можна вольна ўздыхнуць і які паўтараецца гэтак жа немінуча, як і самыя пакуты гэты час і ёсць час прасвятлення розуму У кожнае з тых імгненняў, калі Сізіф пакідае вяршыню і павольна спускаецца да паселішча багоў, ён узвышаецца над сваім лёсам. Ён мацнейшы за абломак скалы, які мусіць уздымаць.

Калі гэты міф і трагічны, дык толькі таму, што герой усве-

# Дастаеўскі і Камю:
## дзве інтэрпрэтацыі духоўнага банкруцтва

**Паслядоўны і рознааспектны ўплыў на творчасць Камю аказвалі самыя розныя кнігі Дастаеўскага. Але зусім асабліва месца сярод іх займае раман «Д'яблы» (упершыню надрукаваны ў перакладзе на французскую ў 1886 г., а з дадаткам раздзела «У Ціхана» — у 1925 г., неаднаразова пасля гэтага ў Францыі перавыдаваўся). Не выпадкова ў 1959 г. Камю скажа: «...калі «Д'яблы» — кніга прароцкая, дык не толькі таму, што яе героі прадугадваюць наш нігілізм, але і таму, што яны выводзяць на сцэну душы разарваныя і мёртвыя, якія былі няздольныя любіць і пакутавалі ад гэтага, прагнулі веры, але не мелі яе. Сёння менавіта гэтыя героі напоўнілі сабою наша грамадства, наш духоўны свет»[1]**

**Перазовы з «Д'ябламі» адчуваюцца як у ранніх эсэ Камю («Ніцво і твар», 1937; «Шлюбы», 1939), так і ў позніх апавяданнях (зб. «Выгнанне і царства», 1957). Тэма «вярхоўнага самазабойства» распрацоўваецца ім у п'есе «Калігула» (1939). Да «Д'яблаў» узыходзяць шмат якія этыка-філасофскія ідэі і вобраз распавядальніка-хранікёра ў рамане «Чума» (1947). Падабенства з «царом абыякавасці» Стаўрогіным дае аб сабе знаць у Мерсо — галоўным героі рамана «Чужаніца» (1942). Адзін з раздзелаў свайго філасофскага трактата «Міф пра Сізіфа» (1942) Камю спецыяльна адводзіць даследаванню цэнтральных пытанняў творчасці Дастаеўскага, знайшоўшых найглыбейшае асэнсаванне перш за ўсё ў «Д'яблах»: Бога і чалавека, быцця і небыцця, свабоды і асуджанасці, самазабойства рэальнага і філасофскага і іншых (раздзел «Кірылаў»). З інтэрпрэтацыяй «Д'яблаў» звязана сацыяльна-светапоглядная праблематыка п'есы «Праведнікі» (1947) і трактата «Чалавек узбунтаваўся» (1951), прысвечаных генезісу рускага нігілізму, у тым ліку адной з такіх яго крайніх праяў як «шыгалёўшчына». У тэатрах многіх краін свету пры пастаноўцы рамана Дастаеўскага выкарыстоўвалася інсцэніроўка «Д'яблаў», здзейсненая Камю («Апантаныя», 1959), сюжэтны стрыжань якой склала споведзь Стаўрогіна. Шматлікія алюзіі і прамыя, на наш погляд, аналогіі з «Д'ябламі», зноў жа ў першую чаргу са споведдзю Стаўрогіна, змяшчае ў сабе і раман Камю «Падзенне» (1956). <...>**

**Тут можа быць прыцягнуты і шэраг іншых адпаведнасцяў, найбольш важныя з якіх, безумоўна, пытанні самазабойства і**

*Сам Грэнье (1898—1972) стане філосафам і эсэістам, выпусціць кнігі «Астравы» (1933), «Міжземнаморскае натхненне» (1939), «Аб правільным скарыстанні свабоды» (1948), «Дух Дао» (1957), «Альбэр Камю» (1969) і інш. Вялікі ўплыў на маладога Камю мела першая кніга настаўніка, якую ён параўноўваў з лепшымі творамі Андрэ Жыда.*

*Любімыя пісьменнікі Камю-ліцэіста  Ніцшэ, Жыд, Франс, Вэрлен, Пруст, Мальро, антычныя аўтары і індыйскія містыкі. І ўсё ж у апошнім класе ліцэя, Ніцшэ быў для Камю, паводле слоў выкладчыкаў, «законам і пракокам, якога ён цытаваў з любой нагоды і без нагоды».*

**1932** — *па парадзе Грэнье юнак робіць першыя дзённікавыя запісы ў форме кароткіх эсэ і нататак аб прачытаным. Ужо тут відаць, што матывы смерці, нябыту займаюць надзвычай вялікае месца ў яго духоўным жыцці.*

*У ліцэйскім часопісе «Поўдзень» публікуюцца нататкі Камю.*

**1932**, *восень — Камю паступае ў Алжырскі універсітэт на гісторыка-філасофскі факультэт. Спецыялізацыя — філасофія, старажытнагрэцкая перадусім.*

*«Праз сваё паходжанне і беднасць ён павінен быў самасцвярджацца, каб не быць раздушаным»,  піша Грэнье. Вучыцца Камю бліскуча. Змагаецца з хваробаю. Падрабляе дробным клеркам у параходнай кампаніі, у прэфектуры, на універсітэцкай метэастанцыі, займаецца рэпетытарствам, прадае запасныя часткі для аўтамабіляў.*

*Кола любімых аўтараў пашыраюць філосафы і пісьменнікі Кіркегар, Шапэнгаўэр, Шпэнглер, Бэргсан, Шэстаў, Яспэрс, Дастаеўскі, Мэнтэрлан, Мартэн дзю Гар. Прачытвае кнігу Жыда «Дастаеўскі» (1923).*

*1934 — становіцца актыўным удзельнікам камітэта Судзеяння міжнароднага руху «Амстэрдам-Плеель» у абарону культуры супраць фашызму.*

*Рэгіструе ў мэрыі свой шлюб з Сімонаю Гіэ, студэнткай універсітэта.*

*Наведвае разам з маладою жонкай Балеарскія астравы (Іспанія).*

**1935** — *праслухоўвае курс лекцый доктара філасофіі Рэнэ Пуар'е (пазней прафесара Сарбоны, прэзідэнта Акадэміі палітычных і маральных навук), прысвечаны сучаснай філасофіі (Гусэрль, Яспэрс, Хайдэгер).*

**1935, восень** — *далучаецца да Алжырскай секцыі Французскай кампартыі.*

**1936** — *узначальвае Тэатр працы, у якім бярэ ўдзел моладзь з розных грамадскіх слаёў, пераважна актывістаў левых партый і палітычных рухаў. Спрабуе сябе ў ім і як драматург, і як актор, і як рэжысёр.*

*Рэпертуар тэатра: «На дне» Горкага, «Вяртанне блуднага сына» Жыда, «Праметэй» Эсхіла, «Браты Карамазавы» Дастаеўскага, «Каменны госць» Пушкіна. Камю граў ва ўсіх спектаклях. Паставіў «Гады пагарды» паводле аднайменнага рамана Мальро. Самая буйная роля — Іван Карамазаў.*

*Разам з жонкаю падарожнічае па Аўстрыі, Нямеччыне. Па дарозе ў Чэхаславаччыну захварэў: зноў сухоты. Тады ж маладыя сужэнцы сварацца. Як піша даследчык, «тым часам Сімона Гіэ занадта далёка зайшла ў сваіх паводзінах па шляху мэтанакіраванага «разбурэння ўсіх натуральных пачуццяў» — вядомага дэвіза Рэмбо, з імпэтам падхопленага сюррэалістамі. Яна канчаткова паглыбілася ва ўсё тое, што звязана з памкненнем да наркотыкаў». У Прагу Камю едзе адзін. Вяртаецца ў Алжыр цераз Італію.*

**1937, пачатак**  *выходзіць з кампартыі. Найбольш верагоднай прычынаю даследчыкі лічаць супярэчлівасці паміж ФКП і мусульманскім нацыяналістычным рухам. Зрэшты, Камю ніколі Марксам не захапляўся. Здаецца, ён і ў партыю ўступіў дзеля эксперыменту. Рашэнне загадак вечнасці хвалюе яго больш за марксізм, у якім погляды на чалавека і мараль гістарычна і сацыяльна абумоўленыя.*

дамляе сваё становішча. Сапраўды, ці такім бы быў яго цяжар, каб на кожным кроку яго падтрымлівала надзея перамагчы? Сучасны рабочы працуе штодня, усё жыццё — з той жа мэтай, і яго лёс не менеі абсурдны  Але трагічны ён робіцца адно ў тыя рэдкія хвіліны, калі яго асвятляе свядомасць. Сізіф, пралетар багоў, бяссільны і ўзбунтаваны, разумее ўсю глыбіню свайго мізэрнага існавання: менавіта пра гэта ён думае, калі спускаецца ў даліну  Яснасць розуму, якая б мелася стаць яго пакутай, вянчае яго перамогу  І няма лёсу  над якім было б немагчыма ўзвысіцца сваёю пагардай.

Калі ж іншы раз спуску спадарожнічае пакута, яму можа спадарожнічаць і радасць. І ў гэтым слове няма перабольшвання  Я зноў уяўляю Сізіфа, калі ён вяртаецца да абломка скалы  Спачатку была пакута. Калі выявы зямнога жыцця яшчэ надта свежыя ў памяці, калі покліч шчасця занадта магутны, здараецца, што туга агортвае душу чалавека: і гэта — перамога каменя, тады сам чалавек — камень. Роспач настолькі вялікая, што вытрываць яе вельмі цяжка. У кожнага з нас была свая Гефсіманская ноч  Але прыгнятальныя ісціны развейваюцца, калі іх усведамляеш ясна і цалкам. Так, Эдып спачатку падпарадкоўваецца лёсу, таго не ведаючы сам. І толькі з той хвіліны, калі ён раптам усё ўсведамляе, пачынаецца яго трагедыя  Але ў той жа час, сляпы і прыведзены ў роспач, Эдып разумее, што адзіная нітка, якая злучае яго з гэтым светам,— гэта кволая ручка дачкі. І тады ён прамаўляе ні з чым не параўнальныя словы· «Нягледзячы на ўсе выпрабаванні, якія давялося мне зведаць, мая старасць і веліч маёй душы дазваляюць мне меркаваць, што ўсё — добра» Сафоклаў Эдып, як і Кірылаў Дастаеўскага, вызначае такім чынам формулу абсурднай перамогі  Антычная мудрасць злучаецца з сучасным гераізмам.

Адкрыць абсурд можна адно адчуўшы спакусу напісаць падручнік шчасця  «Як! Прабачце — такімі вузкімі пуцявінамі?..» Але ж свет — адзін  І абсурд і шчасце —дзеці адной зямлі. Яны неразлучныя  Было б памылкай сказаць, што шчасце вынікае з адкрыцця абсурду. Але здараецца так, што пачуццё абсурду нараджаецца ад вялікага шчасця  «Я мяркую, што ўсё — добра»,— кажа Эдып, і гэта святыя словы  Яны адбіваюцца рэхам у суровым і цесным чалавечым сусвеце. Яны вучаць, што не ўсё яшчэ было і ёсць вычарпана. Яны выганяюць з гэтага свету бога, які ўвайшоў сюды разам з незадаволенасцю і густам да марных пакутаў  Яны робяць лёс справай самога чалавека, справай, якую людзі павінны вырашаць самі і паміж сабой

У гэтым і тоіцца маўклівая радасць Сізіфа. Яго лёс належыць яму  І абломак скалы — ягоная справа. Вось так, сузіраючы свае пакуты, абсурдны чалавек прымушае змоўкнуць усіх ідалаў. І тады ў раптоўна аціхлым сусвеце зноў пачынаюць гучаць тысячы тонкіх зачараваных зямных галасоў  Невыразныя і таемныя клічы, прывітанні, якімі вабіць кожны твар,— гэта і ёсць тое, што нясе з сабой перамога, гэта і ёсць узнагарода за яе. Няма сонца без ценю, і ноч таксама трэба зазнаць. Абсурдны чалавек кажа «так», і цяпер яго намаганням не будзе канца. Калі ж і ёсць свой лёс аднаго, дык нейкага вярхоўнага лёсу не існуе наогул ці існуе, прынамсі, толькі адзін — той, які абсурдны чалавек лічыць няўхільным і вартым пагарды  У астатнім ён адчувае сябе гаспадаром сваіх дзён. У тое мімалётнае імгненне, калі чалавек азіраецца і акідвае вокам сваё жыццё, Сізіф, вяртаючыся да камлыгі, сузірае чараду бязладных рухаў, якія складаюць яго лёс, створаны ім самім, злучаны непарушна яго памяццю і гэтак хутка змацаваны пячаткаю смерці. І так, упэўнены ў выключна чалавечым паходжанні ўсяго чалавечага, падобны да сляпога, які прагне ўбачыць і ведае, што ночы не будзе канца, Сізіф ніколі не спыняе свой крок. Яго камень коціцца і цяпер.

Я пакідаю Сізіфа каля падножжа гары! Свайго цяжару не пазбыцца ніколі  Але Сізіф вучыць найвышэйшай адданасці, якая адмаўляе багоў і ўздымае абломкі скалаў. Ён таксама мяркуе, што ўсё — добра. І цяпер гэты сусвет, дзе няма гаспадара, не здаецца яму ні бясплодным, ні нікчэмным. Кожны драбок гэтага каменя, кожны водбліск руды, затоенай у гэтай змрочнай гары, самі ўтвараюць сабой цэлы свет  І адной барацьбы за ўзыход да вяршыні ўжо досыць, каб напоўніць чалавечае сэрца  Сізіфа трэба ўяўляць шчаслівым

**Пераклаў з французскай Зміцер КОЛАС.**
***«Далягляды». 1988 г***

**смерці ўвогуле. Вядома, што першаму з іх Камю надаваў асабліва вялікае значэнне. «Ёсць толькі адно сапраўды сур'ёзнае філасофскае пытанне — пытанне аб самазабойстве»,— канстатуе Камю ў раздзеле «Абсурд і самазабойства» эсэ «Міф пра Сізіфа». Праблема смерці займала і Дастаеўскага. Мала хто з яго герояў не разважаў над ёю, не ўступаў з ёю ў адносіны небяспечна даверанья, канфідэнцыяльныя, мала хто не адчуў яе дотыку да сябе. Пры гэтым Дастаеўскі, безумоўна, уключыў у сваё ўспрыманне смерці і папярэдні філасофскі вопыт, асабліва вопыт XIX стагоддзя, калі гэтая праблема, як ніколі раней, прыцягнула да сябе ўвагу пісьменнікаў, што, магчыма, было звязана з зацвярджэннем у мастацтве рамантычнага героя з яго бясконцым скепсісам, адзінотаю, разладам з навакольным светам. Пры гэтым дзве тэндэнцыі, як нам уяўляецца, далі аб сабе знаць у літаратурным рамантызму  У адпаведнасці з першай, смерць — вяртанне да сапраўднай экзістэнцыі, вызваленне чалавека ад абсурднага зямнога існавання, ад яго бессэнсоўнасці і беспераспектыўнасці (Наваліс), але таксама і ўмова новага жыцця (Гёльдэрлін). Другая тэндэнцыя прасочваецца перадусім у творчасці Шатабрыяна, у прыватнасці — у яго рамане «Рэнэ». Рэнэ — натура дваістая, воля да жыцця ў ім змагаецца з бязвольлем, страх жыцця — са страхам смерці. Гэтую супярэчнасць тады ж, у пачатку XIX стагоддзя, сфакусіраваў у сваёй галоўнай працы «Свет як воля і ўяўленне» Шапэнгаўэр. З аднаго боку, згодна з Шапэнгаўэрам, «нашае быццё такое, што лепш бы яго зусім не было... найвялікшая мудрасць заключаецца ў адмаўленні ад яго», з другога — самазабойства «зусім бессэнсоўны ўчынак», бо «самазабойца менавіта таму перастае жыць, што не можа перастаць хацець». Гэтая супярэчнасць пазнаецца ў пакутлівых рэфлексіях героя «Д'яблаў»: «...из меня вылилось одно отрицание, без всякого великодушия и безо всякой силы. Даже отрицания не вылилось. Все всегда мелко и вяло. Великодушный Кириллов не вынес идеи и — застрелился... Я никогда не могу потерять рассудок и никогда не могу поверить идее в той степени, как он... Никогда, никогда я не могу застрелиться! — наракае на сябе Стаўрогін.— Я знаю, что мне надо бы убить себя, смести себя с земли как подлое насекомое; но я боюсь самоубийства, ибо боюсь показать великодушие. Я знаю, что будет еще обман,— последний обман в бесконечном ряду обманов». І тым не менш зыход — самазабойства, свядомае і наўмыснае,— так у апошні раз дала адчуць сябе дваістасць Стаўрогіна.**

**Такім чынам, дваістасць (іншымі словамі — разлад, ці абсурд), калісьці ў абстрактна-філасофскіх катэгорыях зафіксаваная Шапэнгаўэрам, знайшла вырашэнне ў мастацкай рэалізацыі Дастаеўскага  Шапэнгаўэр, як і Дастаеўскі, прыцягнуў увагу Камю. У «Міфе пра Сізіфа» ён, разважаючы пра абсурд і абсурднага чалавека, сцвярджае: «Заўсёды лёгка быць лагічным. І амаль немагчыма быць лагічным да канца. Людзі, якія накладваюць на сябе рукі, рухаюцца па нахіленай сваіх пачуццяў да самага канца». Падыходзячы да «мяжы», іншыя**

# ВЫГНАННЕ ГЭЛЕНЫ

У Міжземнамор'я свая — сонечная — трагічнасць, у якой няма нічога ад трагічнасці шэрых тумaноў. Пэўнымі вечарамі на мора, каля падножжа гор, апускаецца ноч, заліваючы надзіва завершаны выгін маленькай затокі і тады, з ацішаных вод, уздымаецца ўся паўната тужлівых пачуццяў У такіх краях пачынаеш разумець, што ў грэкаў роспач, калі ім і даводзілася яе спазнаць, была заўсёды звязаная з прыгажосцю і тым, чым яна прыгнятае Калі няшчасце ахінута залатою смугой, трагедыя дасягае вяршыні Наш час — наадварот — узгадаваў сваю роспач на брыдкасці і сутаргавых пакутах. І таму Еўропу можна было б назваць агіднай, калі увогуле так можна сказаць пра боль.

Мы выгналі прыгажосць, грэкі браліся дзеля яе за зброю. Першае адрозненне, але яго прычыны ідуць здалёк. Грэчаскай думцы заўжды было ўласцівае адчуванне межаў Яна ні ў чым не дасягала крайнасці — ні ў святым, ні ў рацыянальным, бо нічога — ні святога, ні рацыянальнага — ніколі не адмаўляла Яна ўсяму надавала аднолькавую вагу, ураўнаважваючы святло — ценем. Наша ж Еўропа, наадварот, у сваім памкненні да ўсеахопнасці паўстае дачкою празмернага. Яна не прызнае характва, як не прызнае нічога, што з яе самой не паходзіць. А з яе, няхай і крыху ў іншым сэнсе, паходзіць толькі адно — будучае царства рацыянальнага. У сваім шаленстве яна разбурае і адсоўвае ўсе межы — і ў тое ж імгненне Эрыніі накідваюцца на яе і пачынаюць яе раздзіраць. Немезіда, багіня меры — не помсты, ніколі не заплюшчвае вачэй. І ўсе, хто пераходзіць мяжу, бязлітасна ёю пакараныя

Стагоддзямі задаючыся пытаннем, што ёсць справядлівае, грэкі нічога не зразумелі б у нашае думцы пра справядлівасць. Роўнасць у іх мела пэўныя межы, увесь жа наш кантынент сутаргава кідаецца ў пошуках справядлівасці, якая, на яго меркаванне, мусіць быць усеагульнай, татальнай Ужо на заранку грэчаскай думкі Геракліт уяўляў, што справядлівасць абмяжоўвае нават фізічны свет: «Сонца не пяройдзе сваёй мяжы, інaчай Эрыніямі, якія ахоўваюць справядлівасць, гэта будзе адразу ж выкрыта». Але мы, зблытаўшы ўсё ў гэтым свеце і ў думках, смяемся з такой пагрозы Мы запальваем на сп'янелым небе сонцы, якія захочам. І тым не менш — межы ёсць, яны існуюць, і мы гэта ведаем. Нават у самых шалёных сваіх памкненнях мы мроім пра раўнавагу, якую пакінулі недзе ззаду, і наіўна верым, што знойдзем яе зноў напрыканцы нашых аблуд. Дзіцячая самаўпэўненасць, і сёння яна справядліва вядзе да таго, што хадою нашай гісторыі кіруюць народы-дзеці, спадкаемцы нашых вар'яцтваў

У адным фрагменце, які прыпісваюць таму ж Геракліту, гаворыцца проста «Самаўпэўненасць — рух назад у пасоўванні наперад» А многімі стагоддзямі пазней эфескі Сакрат, якому пагражала пакаранне смерцю, прызнаваў за сабою толькі адну перавагу' ён не лічыў, што ведае тое, што яму невядома. У тыя часы ўсе пуцявіны жыцця і думкі вянчала годнае прызнанне ў сваёй недасведчанасці. Забываючы гэта, мы забываемся пра сваю мужнасць. Мы аддаем перавагу магутнасці — нікчэмнаму падабенству велічы,— Аляксандру Македонскаму, а следам за ім і рымскім захопнікам, якімі, праз сваю непараўнальную духоўную нізкасць, нас вучаць захапляцца аўтары нашых падручнікаў І мы таксама захопліваем, перасоўваем межы, заваёўваем і зямлю, і неба Наша рацыянальнасць вядзе да спусташэння І вось, урэшце апынуўшыся на самоце, мы дабудоўваем сваю імперыю на голым пяску ў пустэльні Якое ж у нас можа быць уяўленне пра тую найвышэйшую раўнавагу, дзе прырода — была роўня гісторыі, а дабрабыту й маёмасці — характва, дзе стогалосая музыка чулася нават у крывавай трагедыі? Мы — паварочваемся да прыроды спінай, мы саромеемся характва Ад нашых нікчэмных трагедый патыхае духам канцылярыяў, і кроў, якою яны сплываюць, мае колер тлустага чарніла

Вось чаму сёння заяўляць, што мы сыны Грэцыі,—непры-

**1937, красавік** — *першая фармуліроўка тэмы «Чужаніцы».*

*«Чалавек, які не хоча апраўдвацца. Ён выбірае думку, што склалася аб ім. Памірае, так і не адкрыўшы нікому праўды пра сябе. Слабое суцяшэнне».*

**1937** *робіць першыя накіды да «Міфа пра Сізіфа», «Калігулы».*

*Піша ў дзённіку: «Мысліш адно вобразамі. Хочаш быць філосафам пішы раманы» і «Няма любові да жыцця без адчаю ў ім».*

*Канчае універсітэт. Дыпломная праца — «Хрысціянская метафізіка і неаплатанізм» (кіраўнік Пуар'е). Рыхтуючы яе, грунтоўна знаёміцца з работамі Плоціна і Аўгусціна (дарэчы, ураджэнца паўночнага Алжыра).*

*Крах спадзеваў на паступленне ў Эколь Нармаль, вышэйшую школу, дзе рыхтуюць універсітэцкіх выкладчыкаў філасофіі,— не дапускаецца да конкурсных экзаменаў у сувязі з станам здароўя: сухоты. Але адмаўляецца ад прапанаванага яму месца выкладчыка філасофіі ў ліцэі горада Сідзі-Бэль-Абэса, што на паўночным захадзе Алжыра.*

*Узначальвае Дом культуры ў г. Алжыр.*

*Хвароба перашкаджае выправіцца ў Іспанію на абарону Рэспублікі.*

*Супрацоўнічае ў левых газетах.*

*Развальваецца першы шлюб.*

*Заканчвае першае эсэ, якое стане пазней раздзелам «Міфа пра Сізіфа»,— «Пра смерць і філасофію Мальро» (у кнізе —"Заваёўнікі").*

*Выходзіць у свет першая кніга лірыка-філасофскіх эсэ «Ніцво і твар».*

*Выдавец Эдмон Шарло, які выпусціў першую кнігу Камю, даручае яму рэдагаванне першага алжырскага часопіса «Рываж» ("Узбярэжжа"). Выходзіць адзін нумар.*

**1936—1938** — *праца над першым раманам «Шчаслівая смерць». Закончыўшы яго, малады літаратар вырашае не публікаваць твор. Аднак многія раздзелы і старонкі рамана перайшлі, амаль нязмененыя, у кнігі эсэ «Ніцво і твар», «Шлюбны пір», раман «Чужаніца». Відавочная сувязь паміж ненадрукаваным раманам і п'есамі «Калігула» і асабліва «Непаразуменне».*

*(У 1971 годзе ўдава Камю, Франсін Камю, саступіўшы выдаўцам і прыхільнікам таленту пісьменніка, дала згоду на публікацыю рамана.)*

*Супрацоўнічае з тэатрам «Экіп» ("Каманда"), аб'язджае разам з ім увесь Алжыр. Зноў — «Браты Карамазавы», у ягонай уласнай пастаноўцы, зноў ён — Іван.*

**1938—1939** — *супрацоўнічае як аўтар і рэдактар з левай газетаю «Альжэ Рэпюблікэн» ("Рэспубліканскі Алжыр"), заснаванай парыжскім літаратарам Паскалем Пія, пазней відным дзеячам Супраціўлення і актывістам галісцкага руху. (Гэта яму Камю прысвеціць «Міф пра Сізіфа».) Піша перадавыя артыкулы, узначальвае літаратурны аддзел, аналізуе падзеі алжырскай і міжнароднай палітыкі, вядзе судовую хроніку. Пад рубрыкамі «Супраць сацыяльнай палітыкі ўраду» і «Справядлівасць і дабрачыннасць» публікуе дакументальныя нарысы аб нядолі карэннага насельніцтва заморскага дэпартамента і мусульман у метраполіі. У перадваеннай Францыі абвінавачанні супраць каланіяльнага рэжыму патрабавалі асаблівае мужнасці. Камю не ўзяў прыкладу з Мантэрлана, які перадумаў друкаваць свой антыкаланіяльны раман «Ружа вятроў», каб не «нашкодзіць Францыі».*

**1938** *заканчвае эсэ «Дастаеўскі і самазабойства», якое пад назваю «Кірылаў» уключыць пазней у «Міф пра Сізіфа».*

**1939, сакавік** *заканчвае першую рэдакцыю «Калігулы». Пасылае рукапіс дырэктару часопіса «Ля нувэль рэвю францэз» ("Новы французскі часопіс"). Дырэктар быў надзвычай уражаны п'есаю. Аднак вайна, што пачнецца праз паўгода, перашкодзіла выхаду твора ў свет.*

**1939** — *выходзяць два нумары «Узбярэжжа». Трэці, прысвечаны паэзіі Гарсія Лоркі, забараняе цэнзура.*

*У рэцэнзіі на раман Сартра*

**«князі духу», гаворыць Камю, адракаліся ад жыцця, «толькі скарыстоўвалі дзеля гэтай мэты самазабойства думкі ў разгар самага чыстага бунту». Безумоўна, да такіх «князёў духу» адносіцца і Стаўрогін. Са смерцю вырашаецца, знікае і разлад — умова ці нават сінонім абсурду.**

**Герой «Падзення» далёкі ад думкі пра самагубства; што ж, значыць, ён бліжэй да абсурднага чалавека, якім яго ўяўляў Камю («...як мага даўжэй захоўваць раўнавагу і разглядваць зблізку дзіўную раслiннасць гэтых краёў. Упартасць і празорлівасць з'яўляюцца прывілеяванымі гледачамі таго нечалавечага ігравога дзейства, падчас якога рэплікамі абменьваюцца абсурд, надзея і смерць»)?[2] На самой справе ўсё далёка не так. Тут, у стасунках са смерцю, з нашага пункту гледжання,— адно з галоўных адрозненняў паміж героямі Дастаеўскага і Камю. Сапраўды, быў час, калі і Кляманса наведвалі думкі аб смерці, аб самагубстве. Смерць палохала яго тым, што з ёю памрэ і яго, Кляманса, сутнасць, памруць яго «падманы і хлусня», і «ніколі, ніхто не дазнаецца праўды». Аднак Кляманс знаходзіць «патрэбны рэцэпт» душэўнай раўнавагі: «...сёння ад падобнай магчымасці я адчуў бы хутчэй далікатную асалоду»,— кпіць ён са сваіх былых сумненняў. Тое ж і з самагубствам: навошта яно, калі пры гэтым табе застанецца невядомым яго эфект, калі не зможаш «прысутнічаць на сваіх хаўтурах». Інакш кажучы, самагубства, смерць пралічваюцца героем як магчымыя «хады», як, зноў жа, ігравыя сітуацыі, не болей. Стаўрогін жа менш за ўсё клапоціцца аб «эфекце» самазабойства. І канчае ім, бо не можа далей выносіць свайго дваістага існавання. З аднаго боку, тое, што Ж.-П.Сартр вызначыў у драме «Фрэйд» як «цяга да жудаснага» і аб чым Стаўрогін гаворыць у сваёй споведзі: «Всякое чрезвычайно позорное, без меры унизительное, подлое и, главное, смешное положение, в каковых мне случалось бывать в моей жизни, всегда возбуждало во мне неимоверное наслаждение». З другога боку, разам з непамернай асалодаю, Стаўрогін адчувае яшчэ і «безмерный гнев» на сябе; па яго ж словах, «ни средой, ни болезнями безответственности в преступлениях» ён шукаць не жадае. Абедзве палярныя іпастасі Стаўрогіна ўбачыў айцец Ціхан. «...меня ужаснула великая праздная сила, ушедшая нарочито в мерзость».**

**Акрамя ўзроўняў знешнепадзейнага і псіхалагічнага, ёсць паміж персанажамі Дастаеўскага і Камю і адпаведнасці на ўзроўні сімвалічным. Ключавым жа ў сістэмах сімвалаў абодвух з'яўляецца вобраз д'ябла. Гэта ўвогуле адзін з найбольш культывуемых мастацтвам матываў, што маюць вытокі ў архетыпах. У Дастаеўскага ён гучыць асабліва часта — у «Братах Карамазавых», «Злачынстве і пакаранні» і інш. У «Д'яблах» імі з'яўляюцца, па сутнасці, усе персанажы, галоўныя і эпізадычныя; ва ўсіх дае сябе адчуць д'ябальскі пачатак. Назва твора і абодва эпіграфы да яго (з Пушкіна і з Біблії) прызначаны дэкляраваць гэтую аналогію. Стаўрогін — увасабленне аднаго з найбольш небяспечных разнастайнасцяў д'ябальскага. «Премудрого змия» ўгадаў у ім Ля-**

стойна. Бо калі мы і сыны, то — адступнікі Пасадзіўшы на трон гісторыю і скінуўшы з яго Бога, мы імкнемся да тэакратыі — як тыя, каго грэкі называлі варварамі і з кім біліся на смерць у водах каля Саламіна. Каб уявіць сабе, у чым наша адрознасць, трэба зірнуць на аднаго нашага філосафа, які паўстае сёння, як сапраўдны супернік Платону «Толькі сучасны горад,— асмельваецца напісаць Гегель,— уяўляе сабой тое месца, дзе дух здольны набыць сваю самасвядомасць». Вось мы й жывем у эпоху вялікіх гарадоў. Наш свет свядома й рашуча адрэзаны ад таго, што заўсёды было яго часткай: ад прыроды, мора, пагоркаў, вечаровага роздуму Жыццё ёсць цяпер толькі на вуліцах, бо толькі на вуліцах існуе гісторыя — так яно пастаноўлена. Найболей значныя нашыя творы заўзята следуюць гэтае пастанове. Дарэмна шукаць краявідаў у вялікай еўрапейскай літаратуры, пачынаючы з Дастаеўскага. Гісторыя не тлумачыць ні свету прыроды, што быў да яе, ні харраства, што існуе па-над ёю. Яна вырашыла не заўважаць іх. Калі Платон змяшчаў у сабе ўсё — і бессэнсоўнае, і міфічнае, і рацыянальнае, то ў нашых філосафаў — ёсць толькі бяссэнсіца, або толькі рацыянальнасць. на астатняе яны заплюшчваюць вочы. Крот — думае.

Узнікнуўшы, хрысціянства першае пачало падмяняць сузіранне сусвету — трагедыяй душы Але яно, прынамсі, судачынялася таксама з прыродай — духоўнай — і праз яе захоўвала пэўную сталасць. Са смерцю Бога — застаюцца толькі гісторыя і магутнасць. Ужо даўно ўсе намаганні нашых філосафаў скіраваны толькі на тое, каб замяніць паняцце чалавечай прыроды, чалавецкасці — на сітуацыйнасць, а старадаўнюю гармонію —на беспарадкавыя зрухі ці няўмольны наступ рацыянальнасці. Калі ў грэкаў рацыянальнасць абмяжоўвала волю, мы — скончылі тым, што паставілі валявы напор у цэнтр, у сутнасць усяго рацыянальнага, што зрабіла яго забойчым У грэкаў каштоўнасці па сваёй існасці папярэднічалі любому дзеянню, утрымліваючы яго ў пэўных межах. Сучасная ж філасофія месціць свае каштоўнасці ў канцы дзеяння, як яго вынік. Іх пакуль што няма — яны толькі ўтвараюцца, і ва ўсёй іх паўнаце нам будзе дадзена іх спазнаць толькі на сконе гісторыі А пакуль разам з імі знікаюць і абмежаванні, і вось — таму, што ўяўленні пра тое, якімі яны мусяць быць, розняцца, і таму, што не будучы стрыманаю гэтымі каштоўнасцямі, барацьба шырыцца без мяжы і граніц,— сёння месіянствы самага рознага кшталту паўстаюць адно супраць другога, і іх заклікі патанаюць у скрогаце змагання імперый Празмернасць — пажар, які спапяляе, казаў Геракліт. Сёння пажар расце, Ніцшэ пройдзены і пакінуты ззаду Еўропа выкоўвае сваю філасофію ўжо не ўдарамі молата, а гарматнымі стрэламі.

І ўсё ж прырода па-ранейшаму існуе. Яна супрацьпастаўляе людскому шаленству сваю рацыю і сваё спакойнае неба Так будзе, пакуль не зоймецца полымем атам і пакуль — у трыумфе рацыянальнасці і агоніі ўсяго жывога — не сканае гісторыя Але ж грэкі ніколі не казалі, што мяжу немагчыма пераступіць. Яны казалі, што мяжа — існуе, і той, хто асмеліцца парушыць яе, будзе бязлітасна пакараны Усё, што дзеецца ў сучаснай гісторыі, можа толькі пацвердзіць іхнія перасцярогі.

Мастацтва і гістарычнасць — абое хочуць ператварыць гэты свет. Але ж калі мастацтва па сваёй прыродзе мусіць ведаць свае пэўныя межы, то гістарычнасці яны невядомыя І таму мэта ў гістарычнасці — тыранія, а ў мастацтва — свабода, спрадвечны яго ідэал Усе, хто сёння вядзе барацьбу за свабоду, змагаюцца ўрэшце й за прыгажосць. Вядома, сэнс не ў тым, каб абараняць прыгажосць дзеля самой прыгажосці. Бо прыгажосць — няздольная абысціся без чалавека, а мы — не зможам падарыць спакой і веліч нашаму часу, калі разам з ім не падзелім яго бяды Ніколі нам ўжо не быць сам-насам з сабою. Але не меней слушна і тое, што чалавек — таксама няздольны абысціся без прыгажосці, хоць менавіта гэтага наша эпоха жадае не заўважаць Яна натужліва імкнецца дасягнуць абсалюту і падпарадкаваць усё адзінай імперскай уладзе, яна хоча перайначыць аблічча сусвету, так і не вычарпаўшы яго, і кіраваць ім, так яго й не спазнаўшы Якімі б яна ні прыкрывалася словамі, яна — выракаецца гэтага свету. Перад Улісам Каліпсо паставіла выбар неўміручасць — ці бацькаўшчына. Ён выбраў бацькаўшчыну, а разам з ёю — смерць. Мы сёння далёкія ад такой простай велічы душы. Хто-небудзь, напэўна, скажа, што нам нестае пакорлівасці. Але, калі добра прыгледзецца, гэтае слова мае

*«Ваніты» піша: «Канстатаваць абсурднасць жыцця — зусім не канец, а толькі пачатак. Нас цікавіць не само па сабе гэтае адкрыццё, а ягоныя вынікі і правілы паводзінаў, якія мы з яго ўстанаўліваем». Адзначаючы агульны для яго і Сартра клімат абсурду і супадзенне адпраўных палажэнняў, Камю не прымае ў аўтара рамана «пэўны смак да бяссілля, як у фізіялагічным, так і ў шырэйшым сэнсе гэтага слова». І паўтарае сваю думку 1936 года. «Раман ёсць ні што іншае, як філасофія, увасобленая ў вобразы».*

*Выходзіць у свет другая кніга эсэ — «Шлюбны пір».*

**1939, 3 верасня** — *пачынаецца II-ая сусветная вайна. У армію прызываюць брата Камю, ягоных сяброў. А з самім Камю нават вайсковыя дактары няўмольныя. сухоты.*

**1940, студзень** *генеральны губернатар Алжыра забараняе газету «Суар рэпюблікэн» ("Рэспубліканскі вечар"), якую ўзначальваў Камю. Яму згадваюць камуністычную мінуўшчыну і ўвогуле ўсю яго ранейшую антыкаланіяльную публіцыстычную і рэдактарскую дзейнасць.*

**1940, люты** *не знайшоўшы працы ў г. Алжыр, адпраўляецца ў Аран, дзе яго чакае Франсіна Фор, ураджэнка горада, ягоная будучая жонка. Незадоўга да гэтага закончыўся працэс аб ягоным разводзе з Сімонаю Гіэ. Дае прыватныя ўрокі.*

**1940, сакавік** — *атрымлівае ад Пія тэлеграму з Парыжа з запрашэннем працаваць тэхнічным рэдактарам у газеце «Пары-суар» ("Вячэрні Парыж").*

**1940, травень** — *У Парыж увайшлі немцы. Рэдакцыя «Пары-суар» перабіраецца ў Клермон-Фэран.*

*Заканчвае раман «Чужаніца».*

**1940, верасень** — *рэдакцыя «Пары-суар» перабіраецца ў Ліён.*

*Камю бярэ ў Ліёне шлюб з Франсін Фор.*

*Звольнены з рэдакцыі, якую ўзначаліў літаратар-прафашыст.*

**1940** *заканчвае эсэ «Надзея і абсурд у творчасці Кафкі», якое ўключыць у пасляваеннае выданне «Міфа пра Сізіфа».*

**1941, студзень** *цераз Марсель дабіраецца з жонкаю да Арана.*

**1941, люты** *заканчвае «Міф пра Сізіфа».*

**1941, студзень — 1942, ліпень** — *жыве ў Аране. Выкладае французскую мову ў прыватнай школе для габрайскіх дзяцей, пазбаўленых паводле «новага парадку» права вучыцца ў дзяржаўных школах. Працуе адначасна ў выдавецтве старога сябра Шарло, які вярнуўся пасля дэмабілізацыі ў Алжыр. Звязваецца з групамі Супраціўлення.*

*Першыя накіды рамана «Чума», дзея якога адбываецца ў Аране.*

**1942, ліпень** — *пераязджае ў Францыю. Удзельнічае ў руху Супраціўлення, супрацоўнічае з падпольнай газетаю «Комба» ("Змаганне").*

**1942** *выходзіць «Міф пра Сізіфа».*

**1943—1944** — *«Лісты да нямецкага сябра».*

**1944—1947** — *узначальвае газету «Комба», бадай, самую папулярную тым часам у краіне.*

**1944** — *пастаўлена п'еса «Непаразуменне» (1941—1943).*

**1945** — *пастаўлена п'еса «Калігула» з Жэрарам Філіпам у галоўнай ролі. (Гэта другі варыянт п'есы. Трэці з'яўляецца ў 1947 г. У 1958 г. Камю ўносіць у п'есу апошнія змены —сцэнічнага характару.)*

**1947** *выходзіць у свет раман «Чума».*

**1948** — *пастаноўка тэатральнай містэрыі «Абложнае становішча».*

**1949** *пастаноўка п'есы «Праведнікі» з гісторыі расейскага рэвалюцыйнага руху.*

**1951** *выходзіць у свет філасофскае эсэ «Чалавек бунтуе».*

*Камю парывае з кругамі левых інтэлігентаў.*

*Нататнікі папярэдніх гадоў (недзе з 1947 г.) поўняцца антыкамуністычнымі выказваннямі.*

**бядкін. Аб дэманічным у Стаўрогіну гавораць у рамане многія. «Да сохранит вас бог от вашего демона...» — заклінае Даша. «О, какой мой демон! Это просто маленький, гаденький, золотушный бесенок с насморком, из неудавшихся...» — іранізуе над сабою Стаўрогін.**

**Выключна важнае месца матыў д'ябальскага займае ў раздзеле «У Ціхана». Ён дапаўняе нашае ўяўленне пра Стаўрогіна як пра істоту «разарваную», глыбока дваістую і аднaчасова пакутуючую. Распавядаючы айцу Ціхану аб сваіх галюцынацыях, у якіх «он видит иногда или чувствует подле себя какое-то злобное существо, насмешливое и «разумное», «в разных лицах и в разных характерах, но... одно и то же», Стаўрогін запэўнівае, што гэта — ён, Стаўрогін, «сам в разных видах», и дадае: «...я верую в беса, верую канонически, в личного, не в аллегорию».**

**Да папаўнення д'ябаліяды прыклалі руку пісьменнікі XX ст.. Б.Шоу, Т Ман, М.Булгакаў, Ж.-П.Сартр і мноства іншых, у тым ліку Камю. Галоўны персанаж яго «Падзення», як і Стаўрогін, усведамляе наяўнасць у сваёй натуры д'ябальскага; усведамляе і сваё д'ябальскае прызначэнне: ён — лавец душ, а яго выпрабаваны метад — спрытныя маніпуляцыі гэтымі душамі, слоўныя хітраспляценні: «З галавою, пасыпанай попелам, са спісяжаным пазногцямі тварам і паволі выдзіраючы на сабе валасы, я стаю перад усім чалавецтвам і з пранізлівым позіркам пералічваю свае ганебныя ўчынкі. Я ні на хвіліну не выпускаю з-пад увагі эфект, які выклікаю пакутлівым крыкам: «О, я самы мярзотны з усіх мярзотнікаў!» А пасля, неўпрыкмет, пераменьваю «я» на «мы»... гульня зроблена». «Яшчэ адзін з даўжэзнага шэрагу д'яблаў, створаных літаратурай»[3],— дасціпна заўважыў вядомы расійскі літаратуразнаўца У.Дняпроў пра героя Камю.**

**Паўторымся: адпаведнасцяў паміж двума персанажамі мноства; у выніку часам узнікае адчуванне ці не люстранасці іх. Але гэтае адчуванне стабільна суправаджаецца і іншым — скажонасці, дэфармаванасці люстэрка, дакладней — таго, хто ў яго глядзіцца. Тут амаль той жа прыём «люстраў», які падкрэслена свядома скарыстаў Камю раней, у «Чужаніцы», толькі ў якасці кампазіцыйнага прынцыпу. Мы ж маем справу з яго сутнасна-філасофскім праламленнем. Кляманс — скажонае адлюстраванне свайго «прататыпа» Стаўрогіна, своеасаблівая трагічная пародыя на яго, створаная Камю з улікам новых варункаў. Своеасаблівая таму, што аўтар «Падзення» не імітуе ні філасофіі свайго вялікага папярэдніка, ні яго жанрава-стылёвых пабудоў. Камю не ў апазіцыі да Дастаеўскага, ён — у апазіцыі да рэчаіснасці, якая спараджала і працягвае спараджаць д'яблаў, пераўзыходзячых ранейшых гнюснасцю і дробязнасцю, а яшчэ — сваёю шматлікасцю, будзённасцю. Такім чынам, пэўная травестыйнасць «Падзення» абумоўлена імкненнем Камю паказаць небяспечную тэндэнцыю дэградацыі і распаду асобы і грамадства. Тут дарэчы прывесці горкія словы Г.Мілера з яго «Разважанняў аб пісьменніцтве»: «Спярша я марыў аб саперніцтве з Дастаеўскім. Спадзяваўся, што раскрыю свету нястрымныя і загадкавыя душэўныя змаганні, а свет**

*Кшталту:*[4]

*«Тлумачэнне бальшавізму — у хрысціянстве. Захаваем раўнавагу, каб не стаць забойцамі».*

*«Вярбоўка. Бальшыня літаратараў, што не адбыліся, ідзе ў камуністы. Гэта адзіны статус, які дазваляе глядзець на мастакоў высакамерна. У гэтым сэнсе камуністы — партыя няўдаліц. Натуральна, у іх адбою няма ад жадаючых».*

**1950, 1953, 1958** — *выходзяць у свет 3 кнігі «Надзённых нататак».*

**1954** — *з'яўляецца кніга лірычных эсэ «Лета».*

**1956** — *выдаецца аповесць «Падзенне».*

*Уласная пастаноўка сцэнічнай перапрацоўкі «Рэквіем па манахіні» паводле Фолкнэра.*

**1957** — *выходзіць у свет зборнік апавяданняў «Выгнанне і царства».*

*Камю прысуджаецца Нобелеўская прэмія.*

*У сваёй прамове з нагоды атрымання прэміі 10.02.1957 г. Камю сказа: «Я не магу жыць без свайго мастацтва. Але я ніколі не ўзносіў яго над усім светам. Наадварот, яно неабходнае мне менавіта таму, што ні ад кога і ні ад чога не адгароджваецца і дазваляе мне, як мастаку і чалавеку, жыць агульным жыццём з усімі людзьмі. Для мяне мастацтва — гэта зусім не забава самотніка творцы. Для мяне гэта спосаб закрануць як мага болей людзей, стварыўшы найбольш ёмістую карціну агульных пакутаў ды радасцяў».*

*1959 уласная пастаноўка сцэнічнай перапрацоўкі «Д'яблаў» Дастаеўскага.*

**1960, 4 студзеня** *Альбэр Камю разбіўся ў аўтамабільнай аварыі, вяртаючыся ў Парыж з калядных вакацыяў.*

*Пасля смерці ў шуфлядзе ягонага пісьмовага стала не знайшлося амаль нічога прыдатнага да друку, апрача накідаў да ледзь пачатай аповесці «Першы чалавек» ды кароткіх нататак.*

Падрыхтаваў
Алесь Асташонак.

падвойны сэнс. Нам, як тым блазнам у Дастаеўскага, якія выхваляюцца ўсім наскрозь, караскаюцца аж на самае неба каб нахапаць з яго зорак, а ўрэшце упершыню апынуўшыся на людзях, адразу выстаўляюць напаказ усю сваю ганьбу,— нам нестае аднаго: чалавечае годнасці што заключаецца ў вернасці сваім межам і цвярозай любові да свайго прызначэння і лёсу

«Я ненавіджу маю эпоху» — незадоўга да смерці напісаў Сэнт-Экзюпэры, і прычыны сказаць так былі ў яго даволі блізкія да тых, якія я згадаў толькі што. Але як бы ашаламляльна ні гучаў гэты крык чалавека, які гэтак любіў людзей за тое, што ў іх ёсць найлепшага, мы не будзем успрымаць яго асобна. Хоць часам, сапраўды, узнікае такая спакуса адвярнуцца ад гэтага змрочнага, змардаванага свету! Але гэтая эпоха — наша, і мы не можам жыць, ненавідзячы саміх сябе Бо калі яна і ўпала так нізка, дык толькі праз залішне бязмежную сваю дабрадзейнасць і веліч сваіх аблуд. Мы ж будзем змагацца за тую ве дабрадзейнасць, карані якой — у сівой даўніне. Патроклавы коні аплакваюць свайго гаспадара, што загінуў у бойцы. Усё страчана. Але вось у змаганне ўступае Ахілес, і яно ўвенчваецца перамогай, бо толькі што смерць зрабіла замах на сяброўства. сяброўства і ёсць дабрадзейнасць.

У прызнанні сваёй недасведчанасці, адмаўленні ад фанатызму, усведамленні абмежаванасці свету і чалавека, у кожным каханым твары, у прыгажосці, нарэшце,— вось у чым мы зноў злучаемся з грэкамі Сэнс заўтрашняе гісторыі бадай, не ў тым, у чым яго бачаць. Ён — у барацьбе ўсяго творчага з інквізіцыяй. І нягледзячы на цану, якую давядзецца сплаціць мастацтву за свае бяззбройныя рукі, можна спадзявацца на перамогу. Філасофія цемры будзе зноў і яшчэ раз развеяна па-над чыстым, бліскучым морам. О думка, што прыйшла да нас з поўдня, Траянская вайна вядзецца сёння далёка ад палёў бітвы! Але й гэты раз жахлівыя муры сучаснага горада будуць зрынутыя, і да нас «з яснай, як спакой марскіх водаў, душою» зноў выйдзе ва ўсім сваім харастве — Гэлена.

(1948)

**Пераклаў з французскай Зміцер КОЛАС.**
***«Культура». 1993. N 12***

**замрэ, уражаны. Але даволі хутка я зразумеў, што мы ўжо прайшлі пункт, адлюстраваны Дастаеўскім,— прайшлі ў тым сэнсе, што дэгенерацыя пацягнула нас далей. Для нас знікла само паняцце душы, дакладней, яно цяпер з'яўляецца ў якімсьці хімічна перайначаным і да дзіўнага скажоным выглядзе!» У гэтым выказванні — сутнасць адметнасці «д'яблаў» Дастаеўскага і Камю. Перад намі — два ўвасабленні аднаго духоўнага тыпа, але персанаж Камю — вынік далейшай дэградацыі героя Дастаеўскага.**

**Засталося патлумачыць празначэнне нашай спробы супастаўляльнага аналізу «Д'яблаў» і «Падзення». Па-першае, філасофска-этычная супольнасць дазваляе зрабіць высновy, што Камю, ствараючы «Падзенне», не проста зведаў уплыў «Д'яблаў» (не толькі, але іх — у першую чаргу), а непасрэдна арыентаваўся на гэты раман Дастаеўскага, прычым як на яго змест, так і на фармальна-вобразную структуру. Па-другое, не менш, чым супадзенні, істотнымі ўяўляюцца тыпалагічныя разыходжанні, найперш паміж цэнтральнымі персанажамі. Істотнымі ў тым сэнсе, што дазваляюць меркаваць пра генезіс філасофіі абсурду ўвогуле і экзістэнцыялізму Камю у прыватнасці. Па-трэцяе, заўважым, што ў нашай навуцы ўвага да праблемы традыцый Дастаеўскага ў сусветнай літаратуры скіроўвалася, за асобнымі выключэннямі, на лёс рэалістычнага мастацтва. Тыпалагічны аналіз твораў Дастаеўскага і Камю пашырае і паглыбляе нашыя ўяўленні пра літаратурны працэс у XX ст., асаблівасці якога пэўным чынам**





# ЧУМА

*Урывак*

Назаўтра пасля нарады хвароба зрабіла новы скачок. Пра яе нават загаварылі газеты, праўда, пакуль у даволі бясскрыўднай форме, абмежаваўшыся пэўнымі намёкамі А яшчэ праз дзень Рыё нарэшце заўважыў маленькія бялюткія лісточкі-аб'явы, спешліва парасклееныя прэфектураю ў самых непрыкметных закутках горада. Мяркуючы па іх змесце, цяжка было паверыць, што ўлады ясна ўяўляюць сабе ўсю сур'ёзнасць узніклае сітуацыі. Прапанаваныя захады былі далёка не жорсткія, і ўзнікала ўражанне, што яны гатовыя шмат чым ахвяраваць, абы толькі не турбаваць грамадскае думкі. Ва ўступнай частцы пастановы паведамлялася, што ў Аранскай камуне адзначана некалькі выпадкаў злаякаснай ліхаманкі, але пакуль немагчыма сказаць, наколькі яна заразная Сімптомы хваробы характарызуюцца не надта выразна, каб выклікаць сур'ёзную трывогу, і няма ніякага сумнення, што насельніцтва здолее захоўваць спакой. Тым не менш, дзеля натуральнай у такіх выпадках засцярожлівасці, якая павінна ўсімі быць зразуметая, прэфект лічыць нялішнім прыняць пэўныя запабягальныя захады. Будучы правільна зразуметымі і праведзенымі належным чынам, гэтыя захады дазволяць на карані зліквідаваць усякую пагрозу эпідэміі. Зыходзячы з гэтага, прэфект ні на хвіліну не сумняваецца, што яго асабістыя намаганні знойдуць шчырую падтрымку сярод насельніцтва дaверанай яму камуны

Ніжэй у пастанове даваўся спіс захадаў, сярод якіх значылася і пастаўленая на навуковы грунт барацьба з пацукамі з дапамогаю запампоўвання атрутных газаў у сістэму каналізацыі, а таксама пільны нагляд за якасцю пітное вады. Гараджанам рэкамендавалася строга захоўваць чысціню, а тым, хто мае вошай ці блох, прапаноўвалася з'явіцца ў га-

## З нататнікаў

**Шчырасць даецца яму без цяжкасці. Вялікая рэдкасць.**

**Самая небяспечная спакуса: не быць падобным ні на кога.**

**Імкненне заўсёды быць тым, хто мае рацыю,— прыкмета вульгарнага розуму.**

**Пекла — жыццё з гэтым целам, якое ўсё ж лепшае за нябыт.**

**Быць глыбокім дзякуючы няшчырасці.**

**Жанчыны на вуліцы. Звер, які згарае ад жадання, утульна размясціўся ў лоне й ступае мякка, бы дзікая жывёліна.**

**...Калі б я быў маралістам і пісаў кнігу, дык з сотні старонак дзевяноста дзевяць пакінуў бы чыстымі. На апошняй напісаў бы: «Я ведаю толькі адзін абавязак — любіць». Ніякіх іншых я не** *прызнаю.* **Рашуча не** *прызнаю.* **Пліты сцвярджаюць, што гэта марна й жыццё ідзе. Col so levante, col sol cadente?**[1] **Але марнасць не**

[1] Жыццё то ўзвялічвае нас, то губіць (*італ.*).

**вынікаюць са спецыфікі эпохі. У «Міфе пра Сізіфа» Камю, пацвярджаючы сваю «апошнюю выснову» пра тое, што «Браты Карамазавы» апаніруюць «Д'яблам», спасылаецца на размову дзяцей з Алёшам: «Карамазов, неужели и взаправду религия говорит, что мы все встанем из мертвых, и оживем, и увидим опять друг друга?» І Алёша адказвае: «Непременно восстанем, непременно увидим и весело, радостно расскажем друг другу все, что было». Пры жаданні і ў саміх «Д'яблах» можна знайсці паказальныя ў гэтым сэнсе месцы (напрыклад, словы Сцяпана Трафімавіча: «Но больной исцелится и «сядет у ног Иисусовых»... и будут все глядеть с изумлением...» і інш.). Інакш кажучы, згодна з Камю, у эпоху Дастаеўскага яшчэ можна было ўсцешвацца «надзеямі» — на будучае жыццё, на бессмяротнасць душы. Камю таксама, застаючыся ў межах філасофіі трагічнага гуманізму, падобным чынам сам сабе адказваў: стаіцызмам («Чума») — абыякавасці («Чужаніца»), бунтам («Чалавек узбунтаваўся») — абсурду («Міф пра Сізіфа») Нядаўні ўдзел у Супраціўленні нейкі час дапамагаў Камю «весласаваць супраць цячэння». Але найчуллівейшы мастак не мог не бачыць: набірае тэмпы працэс дэсакралізацыі свету, адчужэння і амяшчаньвання людзей. «Маральны крызіс XIX стагоддзя ўсяго толькі расчысціў шлях духоўнаму банкруцтву стагоддзя дваццатага»**[4]**,— канстатаваў яшчэ раней Г.Мілер. Камю гэтую тэзу пацвердзіў вуснамі свайго персанажа, «пераніцаваўшага» словы Збавіцеля «Якая карысць чалавеку, калі ён набудзе ўвесь свет, а душы сваёй пашко-**

радскія дыспансеры. Апроч таго, сем'і, у якіх медыкамі былі выяўленыя выпадкі захворвання, павінны былі ў абавязковым парадку паведамляць пра гэта ўладам і не пярэчыць ізаляцыі захварэлых сваякоў у спецыялізаваных палатах у шпіталі. Абсталяванне ў такіх палатах забяспечвае вылечванне хворых у мінімальна кароткі тэрмін і з максімальнымі шанцамі на поўнае ачунянне. У дадатковых артыкулах гаварылася пра абавязковую дэзінфекцыю пакоя, у якім знаходзіўся хворы, і транспарту, які яго перавозіў У астатнім пастанова абмяжоўвалася тым, што блізкім хворага рэкамендавалася прайсці санітарны агляд.

Рыё рэзка адвярнуўся ад аб'явы і рушыў дадому, дзе яго чакаў працоўны кабінет <. .>

Надвячоркам доктар звязаўся з Кастэлем. Сыроватка дагэтуль не паступіла.

—Зрэшты, ці будзе з яе нейкі сэнс? — папытаўся Рыё.— Бо вібрыён надта ўжо нейкі незвычайны.

—Ну, не. Я вашую думку не падзяляю,— азваўся Кастэль.—Гэтыя шэльмы заўсёды выглядаюць непадобна адна на другую. Але па сутнасці ўсе яны адно і тое ж.

—Ну, гэта толькі вашае меркаванне. А па праўдзе, мы пра гэта нічога яшчэ не ведаем.

—Безумоўна, гэта маё меркаванне. Але ж і іншыя пакуль толькі мяркуюць.

Увесь дзень доктар адчуваў, як у ім расце пачуццё млосці, якое мацнела штораз, як ён узгадваў пра чуму. Урэшце ён прызнаўся сабе, што яму страшна. Двойчы ён заходзіў у кавярні, у якіх было поўна народу Як і Катар, ён адчуваў патрэбу ў людской цеплыні. Гэтая цяга здавалася Рыё чыстым глупствам, але менавіта яна нагадала яму пра абяцанне наведаць камісіянера.

Калі ўвечары ён увайшоў да Катара, той сядзеў за сталом у ядальні. На стале ляжаў разгорнуты дэтэктыўны раман Але пачынала цямнець, і чытаць у густым сутонні было яўна цяжка. Хутчэй за ўсё Катар пэўны час проста так сядзеў у прыцемку, ужо не гледзячы ў кнігу, занурыўшыся ў свае думкі Рыё спытаў, як ён сябе адчувае. Павітаўшыся, Катар зноў сеў на крэсла і прамармытаў, што адчувае сябе добра, але адчуваў бы яшчэ лепей, калі б змог упэўніцца, што яго асобай больш ніхто не цікавіцца. Рыё заўважыў на гэта, што чалавек не можа вечна быць на самоце.

—О, ды я не пра гэта. Я пра тых, што толькі і шукаюць, каб падусобіць вам якое паскудства.



Рыё маўчаў

—Прашу заўважыць, што я зусім не сябе маю на ўвазе. Гэта я, вось, раман тут чытаў Уяўляеце сабе: жыве сабе адзін небарака, і раптам, адным ранкам, яго — гоп! — арыштоўваюць. Як высвятляецца, ім даўно ўжо цікавіліся, а ён і ведаць не ведаў. Абмяркоўвалі яго ва ўсякіх канторах, занатоўвалі іх рэнае імя ў розныя карткі. Вы лічыце, гэта справядліва? Вы лічыце, нехта мае права рабіць такое з людзьмі?

—Усякае бывае,— адказаў Рыё.— Хоць у іншым сэнсе, сапраўды, ніхто такога права не мае. Ды не гэта галоўнае. Нельга так доўга сядзець аднаму ў чатырох сценах. Вам трэба часам выходзіць.

Гэтыя словы прыйшліся Катару яўна не даспадобы, ён сказаў, што кожны дзень толькі і робіць, што куды-небудзь ходзіць, і, калі што, у ягоным квартале кожны можа пасведчыць на яго карысць. І нават не толькі ў ягоным квартале, знаёмых і ўсякіх сувязяў у яго хапае.

—Вы ведаеце архітэктара Рыго? Ён таксама мой сябар.

Прыцемак у пакоі згушчаўся У прадмесці паступова расло ажыўленне, і калі за вакном нарэшце запаліліся ліхтары, вуліца, нібыта з палёгкай, вітала іх абуджэнне нягучным ускліцаннем Рыё выйшаў на балкон, і Катар далучыўся да яго З усіх навакольных кварталаў, як і штовечар у нашым горадзе, лёгкі ветрык гнаў перад сабою розныя шолахі, пахі смажанага мяса, радасны і духмяны перагуд свабоды, які неўпрыкмет шырыўся і разліваўся па вуліцах, поўных шумнай, вясёлай моладзі. Усё мацней набягаў змрок, гучалі далёкія крыкі нябачных адсюль караблёў, ад мора і з натоўпа, што цёк унізе, далятаў няясны шапатлівы гул — гэта быў добра знаёмы Рыё час, які раней ён вельмі любіў, але сёння, пасля ўсяго, што ён цяпер ведаў, гэты некалі прыемны час выклікаў у яго гнятлівае пачуццё.

—Можа, запалім святло? — прапанаваў доктар Катару.

Калі святло заліло пакой, маленькі чалавечак, лыпаючы вачыма, зірнуў на Рыё і папытаўся:

—Скажыце, доктар, калі я захварэю, вы возьмеце мяне да сябе ў шпіталь?

—Чаму ж не?

Тады Катар пацікавіўся, ці бывалі выпадкі, каб чалавека арыштоўвалі, калі ён ляжаў у шпіталі ці клініцы. Рыё адказаў, што такое здаралася, але ўсё ў такіх выпадках залежыць ад стану хворага.

**аслабляе майго бунту, наадварот, яна яго распальвае...**

**Могілкі ў Эль-Кетар. Хмурае неба й бурлівае мора ля падножжа пагоркаў у белых магілах. Мокрыя дрэвы і зямля. Галубы між белых пліт. Адзінокі ружовы куст герані й бязмерная, безнадзейная і нямая туга, якая родніць нас з невыказна паглядным чыстым аблiччам смерці.**

**Створанаму для гульні заўсёды добра ў жаночай кампаніі. Жанчыны — удзячная публіка.**

**Чым больш шчасця ў жыцці чалавека, тым больш трагічныя ягоныя паказанні сведкі. Сапраўды трагічным творам мастацтва (калі лічыць твор мастацтва паказаннем сведкі) стане твор чалавека шчаслівага. Таму што твор гэты будзе цалкам змецены з зямлі смерцю.**

**Чэрствае сэрца творцы.**

**Пара ў цягніку. Яны непрыгожыя. Яна туліцца да яго, заліваецца смехам, какетнічае, заваблівае яго. Засмучаны, ён хмурыцца: усе бачаць, што яго кахае жанчына, якой ён саромеецца.**

**Каханне, якое не вытрымлівае сутыкнення з рэальнасцю,—гэта не каханне. Але ў такім выпадку нездатнасць кахаць — прывілея высакародных сэрцаў.**

**Вар'ят у кніжнай крамцы.**

**На пляжы чалавек, які раскінуў рукі,— распяты на сонцы.**

**Я ўсё дзіўлюся «развясёламу» выгляду, які прымае ў Алжыры ўсё, што мае дачыненне да смерці. Нішто не здаецца мне больш апраўданым. Што можа быць смяшнейшым за падзею, якую звычайна суправаджае булькатанне вады ў горле ды пот градам. Што можа быць дурнейшым за багавейлівае стаўленне да гэтай падзеі. Няма нічога больш вартага пагарды за павагу, заснаваную на страху. Адсюль вынікае, што смерць вартая не большае пашаны, чым імператар Нерон ці паліцэйскі камісар маёй акругі.**

**Скалы ў моры — усе ў чайках. Іхняя шэрая аграмадзіна, асветленая белымі крыламі, нібыта зіхоткія плавучыя могілкі.**

**Вызваліцца ад гэтага рабства — імкненне да жанчын.**

**дзіць?» (Мф. 16, 26) на іншую сентэнцыю: «Што за важнасць духоўнае падзенне, калі такім чынам можна ўладарыць над светам?»**

**Калі гэткае меркаванне займае месца біблейскага выслоўя і вызначае жыццёвую практыку не аднаго чалавека, а мноства, ці не належыць гуманісту прапанаваць яшчэ адну праграму выхаду з тупіка, як гэта Камю рабіў у «Чуме», «Аблоржным становішчы», «Чалавек узбунтаваўся» і некаторых іншых? У «Падзенні» такой праграмы няма. Значыць, капітуляцыя? Думаецца, усё ж не.**

**Тут самы час правесці аналогію паміж Дастаеўскім і Камю яшчэ па адным параметры. Ужо ў канцы XIX — пачатку XX стст. з'явіліся меркаванні, аўтары якіх ставілі знак роўнасці паміж Дастаеўскім і яго персанажамі (асабліва ў дачыненні да славутага выслоўя «все дозволено»). Аб недапушчальнасці такога падыходу да пісьменніка тады ж папярэджвалі М.Міхайлоўскі («Літаратура і жыццё», 1894), С.Булгакаў («Іван Карамазаў... як філасофскі тып», 1902) і інш. Здаецца, атаясамліванне аўтара і яго персанажа ў пэўнай ступені назіраецца і ў шэрагу даследаванняў творчасці Камю. Так, У.Дняпроў робіць наступную выснову: «І слабасць аўтара не ў тым, што ён прымусіў нас беспярапынна пакутаваць, гэта законны сродак мастака на шляху да высокай мэты. Але пісьменнік не паставіў ніякіх межаў адлюстраванаму ім жахліваму працэсу, ператварыўшы здраду і перараджэнне ва ўласцівасць усіх людзей. У гэтым яго віна»[5]. Л.Зоніна піша: «Жыццё Камю абарвалася на пакутлівай, трывожнай ноце адчаю, на «Падзенні»... Гэта быў тупік, з якога сам Камю выхаду не знайшоў»[6]. Пералік выказванняў можна працягваць. Звернем, аднак, увагу на тое, што ў літаратуры XIX ст. нярэдка сустракаюцца творы, у разуменні прызначэння якіх належыць, на наш погляд, ісці «ад процілеглага». Іх аўтары наўмысна ствараюць гратэскныя карціны рэчаіснасці, гіпербалізуюць негатыўныя з'явы, узнімаючы іх да ўзроўню алегорый, надаючы сваім аповедам прытчавы характар — тым мацней уздзеянне гэтых кніг на чытача, тым эфектыўней іх функцыя маральна-філасофскага папярэджвання. Менавіта такія «Чароўная гара» Т.Мана, «Тропік Рака» Г.Мілера, «Матухна Кураж і яе дзеці» Б.Брэхта і інш. Такое і «Падзенне» — своеасаблівая амальгама «разбуральных і брыдкіх павеваў нашага часу»[7].**

**Ева ЛЯВОНАВА**

[1] Цыт. па: Кушкин Е.П. Альбер Камю: Ранние годы. Л., 1982.

[2] Камю А. Миф о Сизифе // Камю А. Творчество и свобода: Статьи, эссе, записные книжки. М., 1990.

[3] Днепров В. С единой точки зрения: Литературно-критические очерки. Л., 1989.

[4] Миллер Г. Время убийц: Этюд о Рембо // Иностр. литература. 1992. N 10.

[5] Днепров В. С единой точки зрения.

[6] Зонина Л. Уступны артыкул да: Камю А. Из философской эссеистики // Вопросы литературы. 1980. N 2.

[7] Situations IV. P., 1964. P. 126.

**Ці бывае трагічнае дылетанцтва?**

**Гідка, калі пісьменнік гаворыць, піша пра тое, чаго ён не перажыў. Аднак чакайце, забойца ж не самы прыдатны чалавек, каб расказваць пра злачынствы. (Але ці не самы ён прыдатны чалавек, каб расказваць пра свае злачынствы? Нават у гэтым няма ўпэўненасці.) Трэба памятаць, якая адлегласць аддзяляе яго ад учынку. Сапраўдны мастак знаходзіцца на паўдарозе паміж сваімі вымысламі й сваімі ўчынкамі. Ён — чалавек, «здатны на». Ён мог бы быць тым, каго апісвае, перажыць тое, што апісвае. Але ўчынак абмежаваў бы яго, і ён стаў бы тым, хто яго здзейсніў.**

**Таямніца майго свету: уявіць сабе Бога без чалавечае бессмяротнасці.**

**Маладушнасць заўсёды знойдзе сабе філасофскае апраўданне.**

**Секс ні да чога не вядзе. Ён не амаральны — бясплодны. Ім можна займацца, пакуль не захочаш тварыць. Але ўдасканальвацца можа толькі асоба цнатлівая.**

**Секс прыносіць перамогу, калі чалавек вызваляе яго ад маральных імператываў. Аднак вельмі хутка перамога становіцца паражэннем, а сапраўднаю перамогай становіцца перамога над сексам — цнатлівасць.**

**Па-за каханнем жанчына нудная. Яна нічога не разумее. Трэба жыць з адною з іх і маўчаць. Ці спаць з усімі й рабіць сваю справу. Самае галоўнае — не ў гэтым.**

**Вось пытанне: ці любіце вы ідэі — усёю душой, усёю істотай? Ці можа ідэя пазбавіць вас сну? Ці адчуваеце вы, што гатовыя аддаць за яе жыццё? Колькі мысляроў адступілі б!**

**...Умова валодання — няведанне. Нават у фізічным сэнсе: валодаць да канца можна адно незнаёмкаю.**

**Прыгажосць, кажа Ніцшэ ўслед за Стэндалем,— гэта абяцанне шчасця. Але калі сама яна не з'яўляецца шчасцем, дык што яна можа абяцаць?**

**Страшны і ненасытны эгаізм мастакоў.**

**Якім чалавекам я стаў бы, калі б не быў такім дзіцём!**

**Філасофія — сучасная**

—Усё роўна, я вам давяраю,— сказаў Катар.

І потым спытаў, ці не мог бы доктар падвезці яго на сваёй машыне да горада.

У цэнтры было ўжо не так людна Святло ў вокнах гарэла радзей, але перад пад'ездамі яшчэ гулялі дзеці. Перад адной такой дзіцячаю групкай Катар папрасіў доктара прыпыніцца. З гучным крыкам дзеці гулялі ў класікі Адзін хлопчык, з гладка расчасанымі на радок валасамі і перапэцканым тварам, падышоў да машыны і ўтаропіў на Рыё свае настойлівыя светлыя вочы Доктар адвёў позірк. Катар ужо стаяў на тратуары. Ён паціснуў Рыё руку і загаварыў хрыпатым, здушаным голасам. Пры гэтым ён чамусь раз-пораз азіраўся

—Усе людзі вакол гамоняць пра нейкую пошасць. Няўжо гэта праўда?

—Людзі заўжды пра нешта гамоняць. Што ж ім яшчэ рабіць? — адказаў Рыё.

—Вашая праўда. А ўжо як памрэ чалавек з дзесятак, дык ім увогуле ўжо здаецца — настаў канец свету Не, нам не гэтага трэба

Рыё запусціў матор. Яго рука ляжала на пераключальніку хуткасцяў Але позірк ізноў упаў на хлопчыка, які па-ранейшаму са спакойным і важным выглядам разглядаў незнаёмца. І раптам, без ніякага пераходу, хлопчык усміхнуўся яму на ўвесь рот

—І што ж нам, па-вашаму, трэба?

Катар раптам ухапіўся за дзверцы машыны і на развітанне крыкнуў злосным голасам, у якім дрыжалі слёзы

—Землятрус! І каб трасянула па-сапраўднаму!

Але назаўтра землятрусу не здарылася, і ўвесь дзень Рыё правёў у бясконцых раз'ездах па ўсіх канцах горада, у перамовах са сваякамі хворых ды спрэчках з самімі хворымі. Ніколі яшчэ яго прафесія не здавалася Рыё такой цяжкаю. Раней хворыя заўсёды самі дапамагалі яму, цалкам аддаючы сябе ў яго рукі А цяпер — упершыню — доктар адчуваў іх незразумелую адчужанасць, яны нібыта замыкаліся ў глыбіні сваёй хваробы і пазіралі на яго са здзіўленым недаверам. Змагацца з гэтым Рыё яшчэ не прывык. І калі амаль а дзесятай гадзіне ён спыніўся перад домам старога астматыка, якога наведваў у гэты дзень апошнім, яму было цяжка выйсці з машыны Ён не спяшаўся пакідаць мяккага сядзення і стомлена пазіраў на цёмную вуліцу перад сабой і дрыготкія зоркі, што мігцелі ў чорным небе.

Стары астматык сядзеў у ложку Дыхаць яму было ўжо





лягчэй, і ён перабіраў сачавіцу, перакладаючы яе з адной місы ў другую. Доктара ён сустрэў у бадзёрым настрОі

—Дык што, доктар,— значыць, халера?

—З чаго вы ўзялі?

—З газеты, дый па радыё таксама казалі.

—Не, гэта не халера.

—Ат! — прамовіў стары ўзбуджаным голасам.— Зноў, значыць, гэтыя разумнікі не туды загнулі

—А вы ім не давайце веры,— параіў Рыё.

Ён агледзеў хворага і цяпер сядзеў у бедна абстаўленае ядальні Яму было сапраўды страшна. Ён ведаў, што заўтра, раніцай, у гэтым самым прадмесці яго будзе чакаць новы дзесятак хворых, пакутліва скурчаных над сваімі бубонамі. Але толькі ў двух-трох выпадках ускрыццё бубонаў дало паляпшэнне. А ў большасці адзіным выйсцем для хворага заставаўся шпіталь, і ён ведаў, што значыць шпіталь для бедных. «Я не хачу, каб яны рабілі з ім свае вопыты»,— сказала жонка аднаго хворага. Але ніхто ніякіх вопытаў з ім рабіць не будзе — ён проста памрэ. Захады, прадугледжаныя ў пастанове, былі яўна недастатковыя І што такое «спецыяльна абсталяваныя палаты», Рыё таксама выдатна ведаў: хуценька вызваляць ад іншых хворых пару карпусоў, заканапацяць вокны ды выставяць вакол санітарны кардон А гэта значыць, што калі эпідэмія не спыніцца сама сабой, дык гэткімі захадамі, прыдуманымі адміністрацыяй, перамагчы яе будзе таксама ніяк не магчыма.

Тым не менш, увечары афіцыйныя паведамленні былі яшчэ поўныя аптымізму. А назаўтра агенцтва Давінфарм паведаміла, што пастанова была сустрэта жыхарствам без лішняга ажыятажу і адпаведныя службы ўжо атрымалі звесткі пра тры дзесяткі захворванняў Да Рыё патэлефанаваў Кастэль.

—Колькі ў тых карпусах ложкаў?

—Восемдзесят.

—А хворых у горадзе, трэба меркаваць, ужо болей за трыццаць?

—Відаць, бо адны баяцца паведаміць, а другія проста яшчэ не паспелі

—І пахаванне ніхто не кантралюе?

—Не. Я казаў Рышару па тэлефоне, што патрэбныя не фразы, а самыя строгія захады, і што перад эпідэміяй трэба паставіць сапраўдны бар'ер, бо інакш лепей ужо зусім нічога не рабіць.

# ГАНЕБНАЯ «ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ» ГІСТОРЫІ*

**Таталітарны рэжым масава прадукаваў некрафілію, забойцаў і самазабойцаў. Іх найсімвалічны партрэт след шукаць... не ў айчыннай літаратуры.**

Адным з такіх «партрэтаў» ёсць вобраз рымскага імператара Калігулы — у тым выглядзе, у якім ён паўстае ў аднайменнай п'есе Альбэра Камю. Як вядома, гэтая рэч 1938 года адкрывае першы этап творчасці прадстаўніка экзістэнцыялізму, вызначаны ім самім як «цыкл абсурду» (што ўключае таксама аповесць «Чужаніца» ды філасофскі трактат «Міф пра Сізіфа»).

Упершыню імя Калігулы сустракаецца ў дзённіках Камю за студзень 1937 года. Маючаму быць нобелеўскаму лаўрэату ішоў дваццаць чацвёрты год.

Першапачатковая назва п'есы «Калігула, або Гулец» адсылае нас да тэорыі «лагічнага самагубства», адкрытай маладым Камю ў эсэ «Дастаеўскі і самагубства» (пад назваю «Кірылаў» яно ўвайшло як адзін з раздзелаў у «Міф пра Сізіфа»). Спазнаўшы шматразовыя аўтарскія папраўкі (найбольш істотнымі лічацца рэдакцыі 1944 і 1947 гадоў, хоць астатняя сцэнічная ўдакладненні Камю рабіў нават у 1958 годзе, незадоўга да гібелі), твор істотна змяняўся як у агульнай лініі, так і асабліва ў характарыстыцы галоўнага героя (падчас пастановак у толькі што вызваленай Францыі гледачы пазнавалі ў Калігуле Гітлера). Дыялектыку ператварэння «метафізічнага паўстанца» ў фашыста, як і супярэчнасці, закладзеныя ад пачатку ў вобразе Калігулы, найяскрава, мабыць, вызначыў сам Камю. «Калігула»,— пісаў ён пра сваю п'есу,— гэта гісторыя вышэйшага самагубства. Гісторыя, напоўніцу трагічная і чалавечая. Пэўны самому сабе, але несправядлівы да бліжніх, Калігула пагаджаецца памерці, спазнаўшы, што ніхто не здольны ўратавацца паасобку і што не можна быць свабодным супраць іншых людзей... Калі праўда Калігулы — у яго бунце, то яго памылка — у адмаўленні людзей. Нельга ўсё зруйнаваць, не зруйнаваўшы самога сябе».

Відавочна, гэтая ганебная «чалавечнасць» гісторыі, выкладзеная Камю, не вельмі адпавядае вобразам Гітлера ці Сталіна, ці не найбольшых «вярхоўных самагубцаў» (Гітлера — у прамым значэнні; што ж да Сталіна, дык і яго смерць, за найноўшымі звесткамі, мае таксама ці нямала агульнага з «вярхоўнай»

* Вынятка з эсэ аўтаркі «Любоў да смерці: тэма «некрафіліі» ў еўрапейскай літаратуры XX стагоддзя», якое надрукавана ў сшытку «ЗНО» газеты «Культура» за чэрвень 1994 г

**форма бессаромнасці.**

**Усялякая філасофія — самаапраўданне. Арыгінальнай была б адно філасофія, якая апраўдвае іншага чалавека.**

**Поўная адзінота. У пісуары вялікага вакзала ў гадзіну ночы.**

**Я аддаліўся ад свету не таму, што меў ворагаў, а таму, што меў сяброў. Не таму, што яны шкодзілі мне, як гэта звычайна бывае, а таму, што яны лічылі мяне лепшым, чым я ёсць. Гэтай хлусні я вынесці не мог.**

**Я выбраў творчасць, каб пазбегнуць злачынства. А тут іхняя павага! Нешта тут не так.**

**Да рамана: «Ён страціў усё, нават адзіноту».**

**Колькі начэй у жыцці, дзе нас ужо няма!**

**Але, у мяне ёсць радзіма: французская мова.**

**Усялякае здзяйсненне асуджае на рабства. Яно абавязвае да вышэйшых здзяйсненняў.**

**Пераклаў Алесь АСТАШОНАК.**

—І што ён?

—Кажа, што не мае паўнамоцтваў. Карацей, я гляджу, усё так і будзе расці.

Сапраўды, за два дні абодва карпусы былі ўжо напакаваныя цалкам. Рышар сказаў, нібы чуў, што збіраюцца правесці дэзінфекцыю нейкай школы і пераабсталяваць яе пад падсобны шпіталь. Рыё тым часам па-ранейшаму чакаў сыроваткі і ўскрываў бубоны. А Кастэль абклаўся з усіх бакоў кнігамі і гадзінамі сядзеў у бібліятэцы. Урэшце ён прыйшоў да высновы·

—Усе тыя пацукі памерлі ад чумы ці ад нечага вельмі падобнага. Ад іх паразбягаліся дзесяткі тысяч блох, якія будуць разносіць заразу ў геаметрычнай прагрэсіі калі ёй своечасова не паставіць заслону.

Рыё маўчаў.

Гэтымі днямі нарэшце нібыта ўсталявалася пагода. Сонца высмоктвала лужыны пасля нядаўніх залівных дажджоў Чыстае блакітнае неба поўнілася залатым святлом і самалётным зыкам, вакол прачыналася яшчэ прыемная гэтай парой гарачыня, і ўсё ў прыродзе веяла заспакаеннем. Тым не менш, чатыры апошнія дні адзначыліся чатырма рэзкімі скачкамі хваробы: шаснаццаць, дваццаць чатыры, дваццаць восем і трыццаць два смяротныя выпадкі. На чацвёрты дзень было абвешчана пра адкрыццё падсобнага лазарэта ў будынку дзіцячага садка. Жыхары нашага горада, якія дагэтуль стараліся прыхаваць сваю занепакоенасць жартамі, цяпер былі маўклівыя і хадзілі па вуліцах з прыгнечаным выглядам.

Рыё рашыў патэлефанаваць прэфекту

—Прынятых захадаў недастаткова,— заявіў ён.

—Я знаёмы з лічбамі,— адказаў прэфект — Яны сапраўды выклікаюць занепакоенасць.

—Яны выклікаюць не занепакоенасць, а даюць поўную яснасць.

—Што ж, я звярнуся да генерал-губернатара па адпаведныя распараджэнні.

Рыё павесіў слухаўку і павярнуўся да Кастэля

—Распараджэнні! Тут не распараджэнні патрэбныя, а ўсведамленне становішча.

—А што з сыроваткай?

—Будзе на гэтым тыдні.

Праз Рышара прэфектура папрасіла Рыё скласці невялікі рапарт, які можна было б перадаць у сталіцу калоніі з хадайніцтвам выдаць патрэбныя распараджэнні. Рыё ўставіў у

**пагібеллю Калігулы ад рук змоўнікаў). Прынамсі, у тым выглядзе, у якім тыраны нашага часу паўстаюць ва ўяўленні звычайнага чалавека; бо ж зразумела, што падмуркам іхніх гістарычных роляў таксама ёсць «праўда» пэўных «чалавечых» комплексаў.**

**У чым жа бачыць Камю «праўду» свайго героя? Гэта цікава тым болей, што «ісціна» Калігулы мае наўпросты стасунак да аналізу «абсурднага», або, як яшчэ яго называюць, «метафізічнага» ці «сюррэалістычнага» бунту — бунту, у аснове якога пратэст супраць смерці.**

**Мы знаёмімся з імператарам, калі пасля страты сястры-каханкі Друзіліі ён адкрывае «нясцерпнасць быцця», «ісціну», што штурхае да процідзеяння. «Людзі паміраюць, і таму яны нешчаслівыя». Адзін з сураз-моўнікаў, вызначаючы сутнасць яго пагрозы асягнуць немагчымае, заўважае, што ніхто, аднак, не намагаецца здзейсніць тую пагрозу цалкам. «Ты пра гэта нічога не ведаеш,— адказвае малады тыран.— Хто не намагаецца здзейсніць яго цалкам, той нічога не здабудзе. Прынамсі трэба быць лагічным да канца».**

**Сама ж трагедыя Калігулы перастае быць чалавечай. «Метафізічны» бунт героя выяўляецца ў акцыях, добра вядомых з «Жыцця дванаццаці цэзараў» Святонія: ад здзеку над багамі і сенатарамі да непрыхаванага тэрору і штучна арганізаванага голаду «Вярхоўны самагубца» робіцца надчалавекам, сапраўднай «бялявай бестыяй» і, як ён сам кажа, «замяняе сабой чуму». (Гэтак упершыню ў Камю з'яўляецца**





рапарт клінічнае апісанне хваробы і праілюстраваў яго лічбамі. У той дзень памерла чатыры дзесяткі чалавек. Прэфект, паводле яго словаў, узяў на сябе адказнасць ужо заўтра ўзмацніць прынятыя захады Па-ранейшаму заставаліся абавязковымі паведамленне пра ўсе выпадкі захворвання і строгая ізаляцыя хворых. Доступ у дамы, дзе выяўляліся хворыя, забараняўся усе ўнутраныя памяшканні ў іх падлягалі поўнае дэзінфекцыі, сваякі, якія былі ў кантакце з хворымі, мусілі прайсці каранцін, а арганізацыя пахавання памерлых ускладалася на гарадскія ўлады згодна з дадаткова выдадзенымі ўказаннямі. Яшчэ праз дзень самалётам была дастаўленая сыроватка. На ляхэнне ўжо выяўленых хворых яе хапала. Але калі б эпідэмія ўздумала пашырыцца, яе было б яўна не дастаткова. На пасланую ў сувязі з гэтым тэлеграму Рыё атрымаў адказ, што запасы сыроваткі цалкам вычарпаныя, але пачаты выраб новых партыяў.

Тым часам з прыгарадаў на рынкі прыйшла вясна. У кашах, выстаўленых гандляркамі ўздоўж тратуараў, вялі тысячы ружаў, і іх саладжавы водар лунаў па ўсім горадзе. Знешне нічога нібы і не змянілася У час розруху трамваі па-ранейшаму былі поўныя, а ўдзень — брудныя і пустыя. Тару па-ранейшаму назіраў за маленькім дзядком, а дзядок пляваў на катоў Гран кожны вечар спяшаўся дадому, каб аддаць сябе сваёй таямнічай працы, Катар без мэты бадзяўся па горадзе, а следчы Атон рупліва дрэсіраваў свой хатні звярынец. Стары астматык усё гэтак жа перакладаў з місы ў місу гарошыны, і часам у горадзе можна было ўбачыць журналіста Рамбэра, які спакойна шпацыраваў, зацікаўлена зыркаючы па баках. Вечарамі вуліцы па-ранейшаму запаўняў натоўп, і перад кінатэатрамі вырасталі чэргі. Эпідэмія, зрэшты, нібыта пачала спадаць, і за апошнія дні было адзначана ўсяго каля дзесятка смерцяў. Але потым крывая смяротнасці раптам зноў рэзка палезла ўгару. І калі колькасць памерлых дасягнула нанава трох дзесяткаў, Бэрнар Рыё нарэшце змог прачытаць афіцыйную дэпешу, якую прэфект яму перадаў са словамі: «Такі перапалохаліся!» Дэпеша загадвала· «Аб'явіць пра чумную эпідэмію. Горад лічыць закрытым».

Можна сказаць, што з гэтага моманту чума зрабілася нашым агульным клопатам. Дагэтуль, нягледзячы на ўсю нечаканасць і незвычайнасць падзей і выкліканае імі хваляванне, нашыя грамадзяне, кожны як мог, займаліся сваімі звычайнымі справамі на сваіх звычайных месцах. І безумоўна, так яно, мусіць, ішло б і далей. Але як толькі гарадская брама з грукатам зачынілася, усе — і ваш апавядальнік у тым ліку — раптам заўважылі, што сядзяць у адным катле і цяпер з гэтым трэба неяк мірыцца. Менавіта таму, напрыклад, такое асабістае пачуццё, як расстанне з каханым чалавекам, адразу, ужо з першых тыдняў, зрабілася ўсенародным і разам са страхам ператварылася ў галоўную пакуту нашай доўгае ссылкі.

А раптоўнае расстанне, напраўду, аказалася адным з найбольш адчувальных наступстваў, выкліканых закрыццём горада. Людзі былі да яго негатовыя. Усяго некалькі дзён назад маткі і дзеці, мужы і жонкі, закаханыя юнакі і дзяўчаты, развітваючыся на вакзальным пероне, думалі, што расстаюцца зусім не надоўга: яны абдымаліся, абменьваліся звычайнымі ў такіх выпадках парадамі і, праз нейкую бязглуздую чалавечую даверлівасць, былі цалкам упэўненыя, што ўсяго праз некалькі дзён ці, самае позняе, тыдняў, убачацца зноў, а таму, нават у гэтым вакзальным тлуме, падсвядома абдумвалі свае будзённыя справы — і раптам яны былі вымушаныя зразумець, што разлучаныя сапраўды і ўсур'ёз і болей не могуць ні ўбачыць адно аднаго, ні перамовіцца слоўцам. Горад быў закрыты за некалькі гадзін да таго, як апублікавалі загад прэфектуры, і, натуральна, прыняць пад увагу кожны прыватны выпа-

**слова, што неўзабаве стане назвай найлепшага яго твора.)**

**Парадоксы гісторыі, у якой «жыццё цэзараў» у ХХ стагоддзі паўтарылася серыяй крывавых дыктатур наўсцяж, як і палітычныя прычыны такіх паўтарэнняў, не ёсць, аднак, мэтай майго выступу. Нас цікавіць філасофскі падмурак — тая «логіка да канца» героя Камю. І з філасофскага гледзішча ў ім хутчэй можна ўбачыць не Гітлера, а Ніцшэ. Як бы мы «пачалавечылі» не спачувалі герою п'есы альбо яго прататыпу, чыя «галгофа розуму» сплачана вар'яцтвам, але, як зазначыў Камю ў эсэ «Чалавек бунтоўны» (1951), «сама плыня, што ўсё мацней захоплівала Ніцшэ, мела сваю логіку і заканамернасць, якімі тлумачацца крывавыя пераліцаванні яго філасофіі... Прававедзь надчалавека ўвянчалася метадычнай падрыхтоўкай недачалавекаў».**

**Можна паспачуваць Калігуле (літаратурнаму герою), які без вагання аддаецца рукам забойцаў — тым болей, што яго атачэнне не выклікае якіх-кольвек сімпатый. Але варта не пагадзіцца з антаганістам Калігулы Херэа, які, папярэджваючы патрыцыяў: «Я не буду служыць потым ніводнаму з вашых інтарэсаў», настойвае ўсё-такі на забойстве тырана: «Бачыце, як страчваецца разумнасць жыцця, знікае сэнс нашага быцця,— вось што нясцерпна. Жыць без сэнсу не можна.. Я магу прымірыцца з тым, што з вас здзекуюцца, але не магу пагадзіцца, каб Калігула рабіў тое, што ён марыць зрабіць... Ён выразіў сваю філасофію ў трупах».**

**У «Кірылаве» Камю гаварыў пра маральны выбар свайго вялікага настаўніка. Дастаеўскі,**

дак пры гэтым было немагчыма. Здавалася, першае, чаго вымагала ад нашых грамадзян такая брутальная чумная навала,— гэта жыць так, нібыта ніхто з іх не мае ніякіх асабістых пачуццяў. Але ўжо ў першыя гадзіны пасля таго, як пастанова набыла моц, прэфектуру літаральна захлынуў натоўп; людзі заходзілі ў кабінеты, званілі па тэлефонах, прасілі ўлічыць іх становішча, у якім кожнаму можна было паспачуваць, але, у роўнай ступені, і нельга дапамагчы. Праўду кажучы, спатрэбілася яшчэ некалькі дзён перш чым мы ўсвядомілі, што становішча, у якім усе мы апынуліся, безвыходнае, і такія словы як «дамовіцца», «паставіцца з прыхільнасцю», «зрабіць выключэнне» не маюць цяпер ніякага сэнсу.

Нават такая невялікая ўцеха як перапіска — і тая была нам недазволеная У пэўным сэнсе наш горад увогуле перастаў быць звязаны з астатнім светам нават самымі звычайнымі сродкамі сувязі. каб нашыя лісты не служылі разносчыкамі заразы, новая прэфектава пастанова забараняла ўсякі абмен карэспандэнцыяй. Напачатку сяму-таму з прывілеяваных яшчэ ўдавалася неяк дамовіцца з вартаўнікамі ў ачапленні, і тыя пагаджаліся перадаць іх весткі «на волю» Але так яно было толькі ў першыя дні эпідэміі, калі варта яшчэ дазваляла сабе саступаць натуральнаму пачуццю спагады. Аднак крыху пазней, калі вартаўнікі нарэшце ўсвядомілі ўсю сур'ёзнасць становішча, яны ўжо не хацелі браць на сябе адказнасць, межаў якой самі не маглі прадбачыць. Дазволеныя ж напачатку міжгародняя тэлефонныя размовы выклікалі такі наплыў на перагаворных пунктах і загружанасць ліній, што неўзабаве і яны былі на некалькі дзён перапыненыя, а потым — строга лімітаваныя і дазваляліся толькі ў самых пільных выпадках: такіх як смерць блізкага чалавека, нараджэнне дзіцяці або вяселле. Адзіным сродкам, які ў нас цяпер заставаўся, былі тэлеграмы. І людзі, злучаныя духоўнымі, сардэчнымі і крэўнымі повязямі, былі змушаныя шукаць скупых знакаў былое блізкасці ў надрукаваных буйнымі літарамі пасланнях, якія складаліся з нейкага дзесятка слоў. Калі ж улічыць, што формулы, якімі звычайна карыстаюцца ў тэлеграмах, вычэрпваюцца даволі хутка, дык нічога дзіўнага, што і доўгае сумеснае жыццё, і гарачыя трапяткія пачуцці хутка звяліся да перыядычнага абмену зацяганымі штампамі, накшталт: «Пачуваюся добра. Памятаю. Цалую».

Былі, праўда, спаміж нас і такія, хто, нягледзячы ні на што, па-ранейшаму ўпарта пісалі і нястомна выдумлялі розныя хітрыкі, каб заслаць свае лісты на волю. Хітрыкі гэтыя заўсёды выяўляліся марнымі, а нават калі сёе-тое з задуманага і ўдавалася, дык даведацца пра гэта мы не маглі, бо ўсё адно адказаў ніхто не атрымліваў. Доўгімі тыднямі мы змушаныя былі толькі зноў і зноў пачынаць і перапісваць адны і тыя ж лісты, адны і тыя ж пасланні, і ўрэшце словы, што спачатку выходзілі, аблітыя крывёю нашага сэрца, пачыналі пакрыёма страчваць усякі сэнс. Нашае перапісванне ператваралася ў чыста механічны працэс, у якім з дапамогаю нежывых фразаў мы намагаліся даць хоць нейкую згадку пра нашае нялёгкае існаванне. У выніку такога зацята-бясплённага маналогу, беспаспяховай размовы з глухою сцяной, нам пачынала здавацца, што сапраўды болей разумна карыстацца агульна дазволенымі тэлеграмамі.

Зрэшты, праз некалькі дзён, калі ўжо зрабілася ясна, што нікому з нашага горада выбрацца не ўдасца, узнікла думка папытацца, ці не будзе дазволена вярнуцца, прынамсі тым, хто з'ехаў да эпідэміі. Пасля некалькіх дзён развагаў прэфектура дала станоўчы адказ. Але адначасова было падкрэслена, што тыя, хто вернецца, выехаць назад ужо не змогуць і што кожны, будучы вольны прыехаць у горад, не будзе вольны яго пакінуць. Нягледзячы на гэта, знайшліся пэўныя — праўда, рэдкія,—сем'і, якія ўспрынялі такую сітуацыю легкадумна і, паставіўшы на першае месца асцярожнасць, а сваё гарачае жаданне пабачыцца са сваякамі, запрасілі крэўных скарыстацца зручным выпадкам. Але вельмі хутка нявольнікі чумы зразумелі, якою небяспекай гэта пагражае іх блізкім, і таму пагадзіліся мужна цярпець разлуку. У самы разгар хваробы мы былі сведкамі толькі аднаго выпадку, калі чалавечыя пачуцці аказаліся мацнейшыя за страх перад пакутлівай смерцю. Але насуперак таму, чаго можна было б чакаць, гэта была не парачка закаханых, якія, пагарджаючы небяспекай і болем, кінуліся адно аднаму насустрач, рухомыя сваім палкім пачуццём. Не, гэта былі старыя муж і жонка Кастэлі, якія жылі ў шлюбе ўжо шмат гадоў. А за некалькі дзён да эпідэміі пані Кастэль паехала ў суседні горад. Трэба, дарэчы, заўважыць, што іхні шлюб ніколі не служыў свету прыкладам узорнага кахання, і апавядальнік можа нават засведчыць, што кожны з сужэнцаў ніколі не быў надта ўпэўнены, што шчаслівы ад такога саюзу. Але нечаканая і доўгая разлука вымусіла іх пераканацца, што яны няздольныя жыць адно без аднаго, і побач з гэтаю раптоўна адкрытаю ісцінай чума была зусім нязначнаю драбязой.

Але яны былі выключэннем. У большасці ж выпадкаў, што само сабой зразумела, разлука мусіла скончыцца толькі з канцом эпідэміі. І ў сувязі з гэтым пачуцці, якія звычайна складалі нашае жыццё і былі, як нам здавалася, усім добра знаёмыя (а ў аранцаў, як ужо згадвалася, нават палкія пачуцці — самыя простыя), дык вось — гэтыя пачуцці адкрываліся нам з зусім новага боку. Мужы і закаханыя, якія заўжды мелі да сваіх сябровак поўны давер, цяпер раптам пераварочваліся ў раўніўцаў. Мужчыны, якія лічылі сябе незалежнымі ў любоўных справах, нечакана адчувалі трывалую і гарачую прывязанасць. Сыны, якія заўжды жылі побач з маці, але амаль ніколі не звярталі на яе ўвагі, цяпер з непараўнальным трывогаю і шкадаваннем прыгадвалі кожную зморшчынку на яе твары, які не выходзіў з іхняе памяці Нечаканая, раптоўная разлука, за якой нічога немагчыма было прадбачыць, кідала нас у разгубленасць і рабіла няздольнымі процістаяць наплыву ўспамінаў пра зусім яшчэ блізкае, але ўжо вельмі далёкае, такое нядаўняе жыццё, якое цяпер кожны дзень займала ўсе нашыя думкі. Па сутнасці, мы пакутавалі ўдвая — па-першае, праз тую трывогу, што адчувалі самі, і, па-другое, праз тую, якую, як нам уяўлялася, адчувалі нашыя блізкія — дзеці, жонкі, каханкі,— якіх не было цяпер побач.

Пры іншых абставінах, зрэшты, нашыя грамадзяне здолелі б знайсці пэўнае выйсце — напрыклад, у болей актыўным і адкрытым жыцці Але бяда ў тым, што чума прымушала ўсіх да бяздзейнасці, дазваляючы толькі марна і сумна бадзяцца па горадзе, штодня аддаючыся расчаравальнай гульні ўспамінаў. У такім шпацыраванні без мэты ўсе мы былі вымушаныя немінуча кружыць па тых самых вулках, а таму, што горад у нас невялікі, дык і вулкі гэтыя аказваліся якраз тымі, на якіх яшчэ не так даўно мы прагульваліся з нашымі блізкімі, якіх ужо не было побач.

Такім чынам, першае, што прынесла нашым грамадзянам чума, было пачуццё выгнанасці. І апавядальнік перакананы, што мае права ад імя ўсіх апісаць тут свае ўласныя тагачасныя адчуванні, бо адчуваў ён тое самае, што і большасць жыхароў нашага горада. Сапраўды, гэтая ўнутраная пустата, што ні на хвіліну не пакідала нас, гэтае неразумнае жаданне пабегчы назад ці, наадварот, паскорыць хаду часу, гэтыя пякучыя маланкі, што рассякалі нашую памяць,— усё гэта і было ні што іншае, як пачуццё выгнанасці.

І нават калі часам мы давалі волю ўяўленню і чакалі званку ў дзверы ці гуку знаёмай хады

---

на яго думку, «процістаіць уласным героям», супрацьпастаўляючы формуле «жыццё — няпраўда, або яно вечнае» іншую формулу: «жыццё — няпраўда, *і* яно вечнае». Няцяжка прачытаць між радкоў «Калігулы», што падобны выбар робіць і малады экзістэнцыяліст, усё больш паслядоўна супрацьпастаўляючы «лагічнаму самаапраўданню зла» «такое ж лагічнае апраўданне выбару на карысць дабра» («Чалавек бунтоўны»).

...Перачытваючы Камю ці Сартра, не раз ловіш сябе на думцы, што фальклорнае народнае (і хрысціянскае) табу на думкі пра смерць як несумніўную канцовасць існавання выглядае значна «маральнейшым», чым нуда адчаю, што не раз прыводзіць да вядомага выбару: «Бога няма, таму ўсё дазволена». Але калі чалавек не думае, а толькі верыць,— за яго думаюць (і дзеяць!) іншыя. «Пагодзімся,— кажа ў п'есе Херэа пра свайго антаганіста,— што ўплыў яго незапярэчны. Ён змушае думаць. Ён усіх змушае думаць. Небяспека — вось што змушае думаць».

Ці можна аднак сцвярджаць, што дэструктыўнасць Калігулы абумоўлена «любоўю да смерці»? Хоць ён і выражае сваю філасофію ў трупах, прытым у аснове агрэсіўнасці камюўскага імператара ляжыць якраз страх смерці (уласнай) і несупынная прага ўласнага жыцця — коштам чужой крыві. Тое, што Калігула не супрацiўляецца прэтарыянцам, а нібы сам шукае пагібелі, не пярэчыць той празе. Пра гвалт такога тыпу Э.Фром пісаў: «Праліццё крыві азначае адчуванне сябе жывым, дужым, непаўторным, больш значным ад усіх іншых... Насупраць, быць забітым — адзіная лагічная альтэрнатыва забойству. У архаічным разуменні раўнавага жыцця дасягаецца тым, што чалавек забівае як мага болей і сам гатовы быць забітым... Гэта — сцвярджэнне і трансцэндаванне жыцця на глебе найглыбокай рэгрэсіі» ("Fromm Erich. Die Seele des Menschen: ihne Fáhigkeit zum Luten").

Але Калігула марна дамагаецца «філасофскай» насалоды ад смяротных пакутаў сваіх ахвяр — тады як прымітыўны садыст атрымлівае яе без жаднай філасофіі. Чым жа абумоўлена расчараванне Калігулы? На пачатку п'есы ён перажывае ўзрушэнне веры, якое робіць яго цынікам і руйнавальнікам, «але так ці інакш усё ж стаіць на службе ў жыцця (альбо магічна, альбо прынамсі як спадкаемец... расчаравання жыццём)». Затым логіка п'есы ператварае ўсёмагутнага цэзара ў маральнага калеку, які знішчае... бо не здольны нічога тварыць пазітыўна. Прытым гэты матыў ужо не належыць задуме пісьменніка. Ён узнікае ў нашым успрыняцці відавочна спантанна, як адгалосак вядомага гістарычнага кантэксту. Тым часам напоўніцу тэма кампенсатарнага гвалту, вобраз некрафіла-імпатэнта выявіцца ў апавяданні, напісаным таксама ў канцы 30-х і таксама пяром маладога французскага экзістэнцыяльнага аўтара Ж.-П.Сартра...

...Аўтары «філасофіі існавання», якія на Захадзе ўжо даўно сталі паважанымі класікамі поруч з атакаванымі імі гуманістамі папярэдніх эпох, цяпер, можа, самі таму (а не проста праз забароненасць або

на лесвіцы, нават калі мы, падманваючы сябе, пагаджаліся ў такія хвіліны забыць, што ў наш горад не ходзяць ужо цягнікі, і заставаліся сядзець у кватэры, разлічваючы час, калі падарожнік, што прыехаў з вечаровым экспрэсам, можа дабрацца да нашага дому,— дык безумоўна, такія гульні не маглі доўжыцца вечна. Нарэшце заўсёды наставала хвіліна, калі мы з поўнаю яснасцю разумелі, што цягнікі стаяць. І да нас прыходзіла ўсведамленне, што нашай разлуцы наканавана быць доўгай і мы абавязаныя неяк прымусіць сябе прывыкнуць да маруднай хады часу Усвядоміўшы гэта, мы, па-сутнасці, пагаджаліся са сваім станам выгнаннікаў, нам заставалася толькі мінулае, а калі сёй-той яшчэ меў надзею жыць будучыняй, дык хутка — прынамсі, настолькі, наколькі яму ўдавалася,— ад яе адмаўляўся, бо раны, якія ўяўленне наносіць кожнаму, хто надта яму даверае, вельмі ўжо адчувальныя.

Так, напрыклад, нашыя грамадзяне вельмі хутка адмовіліся ад адной звычкі, якая пачала была ў іх узнікаць,— звычкі абмяркоўваць і прыкідаць на публіцы магчымыя тэрміны сваёй ізаляцыі. Чаму? Да таму, што, калі нават самыя вялікія песімісты вызначалі яе, скажам, у шэсць месяцаў, калі яны ўжо загадзя выпівалі ўсю горыч шматмесячнага расстання, збіралі ўсю волю ў кулак, каб вытрываць гэты іспыт, напружвалі астатнюю сілу, каб мужна адолець боль, расцягнуты ў бясконцую чараду дзён, а потым, выпадкам, пасля сустрэчы з сябрам ці прачытанай у газеце нататкі, адчувалі раптоўнае падазрэнне ці нечаканае прасвятленне, якое наводзіла іх на думку, што ўрэшце няма ніякіх падстаў меркаваць, што хвароба працягнецца не больш за шэсць месяцаў — чаму б не год, а можа, і болей,— у такія моманты ўся іхняя мужнасць, уся воля, усё цярпенне абрыньваліся з такою імклівасцю, што ім здавалася — яны ўжо ніколі не здолеюць выбрацца з гэтае бездані Таму яны і прымушалі сябе ні ў якім разе не думаць пра тэрмін свайго вызвалення, не зазіраць у будучыню і ўвесь час, так бы мовячы, глядзець толькі сабе пад ногі

Але, натуральна, усе гэтыя перасцярогі, усе гэтыя хітрыкі, дзякуючы якім яны імкнуліся ўнікнуць пакут, зашыцца ў браню і пазбегнуць бойкі,— усё гэта дарыла не надта вялікую ўзнагароду Стараючыся любою цаной не дапусціць непажаданага краху сваіх ілюзій, яны адначасна пазбаўлялі сябе і тых, увогуле даволі частых, хвілін, калі, аддаўшыся выявам памыснай сустрэчы, маглі забыць пра чуму І тады, апынуўшыся недзе на ўзбочыне на паўдарозе паміж безданню і вяршыняй, яны, па сутнасці, пераставалі жыць і проста плылі па волі бязладнае чарады дзён і бескарысных успамінаў, як бадзяжныя здані, якія здольныя зноў набыць сілу, толькі самаахвотна ступіўшы на зямлю сваёй пакуты і скрухі

Словам, яны адчувалі такі самы глыбокі боль, які адчуваюць усе вязні і ўсе выгнаннікі,— боль жыць пры памяці, якая ўжо нічому не служыць. І нават у самім мінулым, пра якое яны безупынку думалі, быў толькі прысмак шкадавання. Ім так хацелася б, каб у гэтым мінулым раптам адбылося ўсё тое, чаго яны, на вялікі жаль, не зрабілі, хоць і маглі, будучы з тым ці тою, каго яны цяпер так чакалі,— і таму цяпер, жывучы ў выгнанні, да кожнае жыццёвае сітуацыі, нават калі яна выдавалася адносна шчаслівай, яны дамыслівалі тых, каго ўжо не было побач, але праз гэта іх цяперашняе жыццё магло задаволіць іх толькі яшчэ менш Нецярпліва прыспешваючы сучаснае, варожа азіраючыся на мінулае і не маючы пэўнае будучыні, мы напраўду нагадвалі тых, каму людскім правасуддзем або людскою нянавісцю вызначана жыць за кратамі. Урэшце, каб унікнуць гэтых невыносных вакацыяў, адзіным сродкам у нас было, напружыўшы ўяўленне, ізноў пусціць цягнікі і, разарваўшы пустату маўклівых гадзін, прымусіць загучаць у дзвярах доўгачаканы званок. Але ён, тым не менш, упарта не азываўся

маладаступнасць той літаратуры ў нядаўнія дзесяцігоддзі) перажываюць сапраўднае нараджэнне ў колішніх ра́давых рэспубліках, што інтэлектуальныя, маральныя, эмацыйныя праблемы і кіданні іхніх герояў як ніколі адпавядаюць становішчу нашага цяперашняга міжчасся і міжбыцця, духоўнай (палітычнай і эканамічнай, вядома ж, таксама) неўладкаванасці і нявызначанасці індывіда ў посткамуністычным грамадстве.

Небяспека змушае думаць, казаў Камю. У яго ды Сартра эпосе тое была перадусім небяспека фашызму (ва ўсіх яго аспектах — палітычным, філасофскім, псіхалагічным). У наш час гэта небяспека больш размытая; магчыма, не так выразна акрэсленая; магчыма — набывае нечаканыя звівы і павароты. Калі прасачыць яе адлюстраванне ў еўрапейскай літаратуры, заўважым, што на змену напалову багавідным і над-эмацыйным «вярхоўным самагубцам» ды «чорным героям» прыйшоў тып чалавека халоднага і моцнага розуму пры поўнай адсутнасці эмацыйнага свету — стэрыльны гамункулус без «паху», без апрычонасці, для якога жыццё *ў прынцыпе* ёсць агіднае і будзённае.

На змену Калігуле і Герастрату прыйшоў Парфумер*...

Наталка БІЛАЦЭРКІВЕЦ

* Маецца на ўвазе аднайменны герой рамана Патрыка Зюскінда.





І ўсё ж, хоць гэта і было выгнанне, але ў большасці яно было выгнаннем дома І калі апавядальніку было дадзена зведаць гэтае ўсеагульнае пачуццё яго землякоў, ён тым не менш, не павінен забываць пра такіх, як, напрыклад, журналіст Рамбэр ці іншых, у каго боль расстання адчуваўся, бадай, нашмат мацней, бо яны былі ў нашым горадзе ўсяго падарожнікі заспетыя знянацку чумой, і таму разлучаныя не толькі з блізкімі, якіх ужо не маглі ўбачыць, але і з краінай, якая была іх радзімаю. У гэтым агульным выгнанні яны былі выгнаннікі ўдвая, бо, адчуваючы, як і ўсе, тугу, што наганяў на іх час, яны адчувалі сябе прывязанымі і да прасторы і паўсюль натыкаліся на муры, што аддзялялі гэты зачумлены іх прытулак ад іх страчанай бацькаўшчыны Не дзіва, што ў любы час іх можна было ўбачыць на запыленых вуліцах нашага горада, па якіх яны блукалі, шукаючы ў цішыні толькі ім вядомыя вечары і світанкі свайго роднага краю. У такія хвіліны іх боль абуджаўся нават самым няясным знакам, ледзь прыкметным намёкам — пралётам ластавак, вечаровай расою ці тымі дзіўнымі промнямі, якія сонца пакідае часам на ўжо апусцелых вуліцах. Той вонкавы свет, які так часта і шмат ад чаго дае паратунак, заставаўся па-за іхнім зрокам, бо яны цалкам сябе аддавалі сваім нязбыўным, але і вельмі рэальным мроям, не шкадуючы сілы ва ўпартай пагоні за выявамі той зямлі, дзе і своеасаблівае святло, і два-тры пагоркі і ўлюбёнае дрэва, і твары жанчын утваралі адзіную атмасферу, якую нішто для іх не магло цяпер замяніць.

І нарэшце, калі яшчэ раз асобна спыніцца на закаханых, якія ўяўляюць сабою найбольшую цікаўнасць і пра якіх аўтар можа, напэўна, казаць з найбольшай дасведчанасцю, трэба зазначыць, што апроч усіх іншых пакутаў яны мучыліся і яшчэ адною — згрызотамі Несумненна, становішча, у якім яны апынуліся, дазваляла ім зірнуць на сваё пачуццё з пэўнаю, хоць і гарачкаваю, але ўсё ж аб'ектыўнасцю. Рэдка перад кім у такіх выпадках яго ўласныя хібы не паўставалі з усёю выразнасцю. І першую падставу для гэтага яны бачылі ўжо ў тым, з якой цяжкасцю ім удавалася дакладна ўявіць, што робіць і чым займаецца ў гэты момант іх адсутны ўлюбёнец. Тады яны пачыналі сябе папракаць за тое, што не ведаюць яго дзённага распарадку, дакаралі сябе за легкадумнасць і няўважнасць, праз якую раней не лічылі патрэбным пра ўсё гэта цікавіцца і падманвалі сябе, мяркуючы, што ў таго, хто кахае, веданне распарадку дня яго ўлюбёнца не можа быць крыніцаю ўсіх яго радасцяў Зрабіўшы такую выснову, яны ўжо не адчувалі цяжкасці, каб вярнуцца назад, да вытокаў свайго кахання, і прааналізаваць усю яго недасканаласць. У звычайных варунках мы ўсе, свядома ці не, разумеем, што ў любым каханні заўсёды бывае магчымасць яшчэ больш яго ўдасканаліць, і, тым не менш, пагаджаемся, прычым без асаблівага хвалявання, што нашае — можа быць і другога гатунку. Але чалавечая памяць болей патрабавальная І кіруючыся жалезнаю логікай, бяда, што прыйшла да нас звонку і абрынулася на ўвесь горад, прынесла нам не толькі незаслужаныя пакуты, на якія яшчэ можна было б панаракаць. Яна прымусіла нас цвяліць сябе яшчэ і самастойна і, тым самым, рахмана цярпець любы боль. Гэта быў адзін з тых хітрыкаў, дзякуючы якім пошасці ўдавалася адцягваць ад сябе нашую ўвагу і зблытваць усе карты

Такім чынам, кожны з нас вымушаны быў пагадзіцца жыць дзень пры дні ў адзіноце. сам-насам з небам. Гэтая ўсеагульная самаадрынутасць магла б, здаецца, урэшце загартаваць пачуцці, але на справе чамусь паказвала толькі іхнюю марнасць. І ў гэтых абставінах пэўныя нашыя грамадзяне трапілі ў іншае рабства, упаўшы ў поўную залежнасць ад непагадзі і пагоды Пры іх выглядзе ўзнікала ўражанне, што яны ўвогуле ўпершыню пачалі ўспрымаць змены надвор'я і пры гэтым рэагавалі на іх самым беспасрэдным чынам. Ужо адзін залаты пра-

# Камень Сізіфа

*Я не ведаю, ці ёсць у гэтага свету большы за яго сэнс. Але я ведаю, што мне гэты сэнс невядомы і што цяпер у мяне няма магчымасці яго спасцігнуць.*

Альбэр КАМЮ

Камю ставіўся да жыцця і мыслення сур'ёзна. Магчыма, нават залішне сур'ёзна, як для еўрапейскага, тым болей — французскага мысляра сярэдзіны XX стагоддзя. Адсюль тыя недарэчнасці, у якіх ён апынаўся кожны раз, калі спрабаваў паяднаць маральны імператыў жыцця з імаралізмам мыслення. Аднак адсюль і вабнота Камю, бо дзякуючы гэтай сур'ёзнасці ў яго атрымалася з імаральнай мяшанкі быцця/мыслення выкласці свой маральны кодэкс.

Пагодзімся, гэта штучны маральны кодэкс, пераважна дэк-

меньчык адразу асвятляў іхнія твары радасцю, а дажджлівыя дні ахутвалі іх аблічы і думкі густою смугой. Усяго некалькі тыдняў назад яны не выяўлялі гэткае слабасці і безразважнай залежнасці, але гэта ўдавалася ім, бо тады яны былі не адны і той, хто быў з імі побач, у пэўнай ступені засланяў перад іх вачыма сусвет. Цяпер жа ўсё было інакш, і яны вымушаны былі падпарадкоўвацца капрызам прыроды і неба, што значыць — пакутаваць ці спадзявацца без ніякіх разумных падстаў.

Кідаючыся на самоце паміж гэтымі крайнасцямі, ніхто, урэшце, не мог спадзявацца на дапамогу суседа і быў вымушаны заставацца сам-насам са сваімі турботамі А калі выпадкам хто-небудзь і спрабаваў выліць душу і хоць некалькімі словамі абмовіцца пра свае пачуцці, дык любы адказ, у якой бы форме ён ні гучаў, часцей за ўсё ўспрымаўся як балючая крыўда Толькі тут шукальнік спагады пачынаў заўважаць, што ён і яго суразмоўнік гутараць пра розныя рэчы. Бо ён, далібог, выказваў тое, што было перадумана і перапакутавана доўгімі днямі, вобраз, які ён хацеў адкрыць суразмоўніку, так доўга гарэў на марудным агні яго палкіх пачуццяў і бясконцых чаканняў А той — куды там! — ён успрымаў гэта як звычайнае, нічым не прыкметнае хваляванне, як вядомую ўсім і кожнаму душэўную нераўнавагу, як банальную меланхолію. Словам, які б ні даваўся адказ, спагадлівы ці непрыхільны, ён усё роўна заўжды гучаў недарэчна, і таму ад такіх размоваў лепей было адмовіцца. Ну а той, хто ніяк не мог вытрываць цішыні, мусіў, улічваючы, што іншыя ўсё роўна не здольныя гаварыць ад шчырага сэрца, таксама перайсці на банальную мову і ўжываць сухія, нічым не прыкметныя фразы, як у рубрыках афіцыйных паведамленняў ці «коратка пра рознае»,—словам, гаварыць, у пэўным сэнсе, так, нібыта чытаючы газетную хроніку Урэшце гэта таксама выпрацоўвала звычку нават самыя балючыя пакуты выказваць у выглядзе заштампаваных, зацухмоленых формулаў Толькі такою цаной заложнікі чумы маглі дабіцца спагады ў свайго кансьержа ці выклікаць зацікаўленасць слухачоў

Тым не менш — і гэта, бадай, самае важнае,— якімі балючымі ні былі б такія пакуты, якім вялікім ні быў бы цяжар, што сціскаў спустошаныя закаханыя сэрцы, можна смела сказаць, што гэтыя выгнаннікі, прынамсі ў першы перыяд чумное навалы, былі, пэўным чынам, прывілеяваныя. Мяркуйце самі тады як усё насельніцтва пачынала ўжо ледзьве не траціць розум, іхнія думкі былі цалкам занятыя толькі тым ці тою, каго яны так палка чакалі. Эгаізм кахання ратаваў іх ад агульнай прыгнечанасці, і нават калі яны часам задумваліся пра чуму, дык толькі ў той ступені, наколькі яна магла ўяўляць рызыку, каб іхняе расстанне ператварылася ў вечнасць. Сваімі незвычайнымі паводзінамі ў разгар чумы — а іх шмат хто спрабаваў трактаваць нават як халоднакроўнасць,— яны давалі іншым ўратавальную магчымасць крыху адцягнуць увагу Іхні адчай аберагаў іх ад панікі, у іхнім няшчасці было нешта і дабратворнае. Калі, напрыклад, каго-небудзь з іх, здаралася, забірала хвароба, то небарака часцей за ўсё нават не здольны быў гэтага заўважыць. Ён не паспяваў яшчэ скончыць у думках сваёй доўгай размовы з далёкім і жаданым ценем, як ужо апынаўся ў глыбокае цішыні падзямелля. Заўважыць такі пераход у яго проста не было часу

**Пераклаў з французскай Зміцер КОЛАС.**

---

ларатыўны і, увогуле, не так этычны закон, як эстэтычны маніфест Але апошняе якраз і сталася прычынай доўгага рэха ад моўленага Камю, бо ў XX стагоддзі маральныя ідэі не могуць быць пачутымі, калі яны прамаўляюцца без увагі на эстэтыку красамоўства У Камю этычны закон і эстэтычны маніфест перагукнуліся адно ў адным, і гэты перагук потым шматкроць адбіўся ў лабірынтах стагоддзя. Хаця не забудземся, што век самага доўгага рэха даволі кароткі...

Камю гаварыў прыгожа і адважна мысліў Бога няма, а смерць ёсць. У сітуацыі адсутнасці Бога і непазбежнасці смерці жыццё ўсчыняецца і вяршыцца самім чалавекам. Яно ні на што не абапіраецца, нічым не трымаецца, ні да чаго не туліцца. Яно ёсць толькі як ёсць, і нічога болей за ім не паўстае, нічога іншага з яго не вымыкае, і ўсё канчаткова мяжуецца гібеннем: «...бачанню чалавека абсурду адкрываецца скоплены агнём і скаваны лёдам, празрысты і абмежаваны ў сваіх межах сусвет, дзе ўсё немагчыма, але ўсё дадзена і па-за чым няма нічога, акрамя пагібелі і небыцця».

Паколькі за тым, што ёсць,— няма нічога, то і не выпадае на што спадзявацца. Такая сітуацыя прынцыпова мяняла стасункі чалавека з быццём. У свеце без надзеі, у свеце панаванняневараці мусіў жыць ужо іншы, абсурдны чалавек, і ў яго павінны былі быць ужо іншыя, абсурдныя, рэлігія, філасофія, мастацтва... Ды і час ягонага быцця цяпер патрабаваў новай меры.

Чалавек паганскі таясаміў сябе з вечнасцю, чалавек хрысціянскі падзяляў час на пару́ жыцця і пару́ вечнасці, чалавек абсурду атрымаўся роўны моманту свайго існавання, ён праміна̀ў яго разам з часам і знікаў без следу.

Быць — каб памерці. З гэтай перспектывы выпаўз гнятлівы смутак — халодная вужака вусцішнасці пасялілася за пазухай еўрапейскага чалавека, і ва ўсёй пагрозлівасці паўстала пытанне: а навошта тады быць?

Каб жыць! — пераконваў Камю. Смерць — канец усяму, але так, як канец, яе і трэба ўспрымаць, не губляючы з гэтай акалічнасці мужнасці і адвагі («Абсурд — гэта ясны розум, які ўсведамляе свае межы»). Больш за тое, якраз эсхаталагічнасць нашага жыцця высвятляе яго сапраўдную каштоўнасць для нас саміх. Вызваленыя Ніцшэ ад дыктатуры Бога, мы павінны пераадолець адчай адзіноты і смерці ды дарэшты рэалізаваць падараваную нам свабоду.

«Чалавек абсурдны пачынаецца там, дзе заканчваецца чалавек, які меў надзею, дзе дух, пакінуўшы назіраць за гульнёй з боку, захацеў сам у ёй паўдзельнічаць».

Але не бывае гульні без правілаў і спаборніка. Гульня з самім сабой — не гульня, а забаўка. Нехта павінен быць насупраць, некаму трэба глядзець у пякучыя зрэнкі, цяжка дыхаць у твар, прамаўляючы шалёныя словы.

Гэтым спаборнікам, гэтым Другім стаўся для Камю ніхто іншы, як сам Абсурд.

Абраўшы за спаборніка Абсурд, Камю мусіў вырашыць надзвычай складаную задачу што супрацьпаставіць Абсурду, каб не прайграць?

Камю вынайшаў адказ і тым здабыў гонар.

Бунт!

Абсурд — гэта тое, што ні ахвярным змаганнем, ні ўпартай працаю, ні адмысловым хітрыкам адолець няможна.

А бунт і не створаны дзеля перамогі.

Бунт — гэта ўсяго толькі мажлівасць пярэчання абсурду жыцця, форма захавання годнасці, калі трываць адчай далей немагчыма, а пазітыўнага выйсця з яго няма. Да таго ж бунт — гэта альтэрнатыва самагубству, якое лагічна вынікае з абсурднасці чалавека ў абсурдным свеце, а яшчэ — пагарда да фатуму, што вызваліў чалавека з небыцця, аднак у быцці не даў яму нічога, акрамя часу і прасторы. Урэшце, бунт — гэта любоў-засцярога жыцця такога, якім яно ёсць, ад бессэнсоўніцы смерці...

Этычная філасофія Камю паўстала ў эсхаталагічным тупіку на скрыжаванні адчаю волі і радасці свабоды, што перамыкнуліся ў чалавечай душы пасля ягонага вызвалення ад дыктату Бога. Асноўныя чыннікі гэтай філасофіі гераічнай свядомасці (мужнасць, дысцыпліна і бунт) леглі ў падмурак этычнага кодэксу, што Камю запрапанаваў абсурднаму чалавеку ў якасці адзінага ратунку.

Аднак чалавек не ўхапіўся за яго. Чаму? Пэўна, найперш таму, што этычны кодэкс Камю запачаткаваны на эстэтычным маніфесце, які звернуты да праблемаў творцы і творчасці, і зусім не кранае праблематыку паспалітага жыцця. Згодна Камю, у чалавека, як і ў «звышчалавека» Ніцшэ, ёсць толькі адна задача вылучыць сябе з тальнасці быцця, вымкнуць з роўнядзі чалавечай абычайнасці ў максімум самога сябе. А гэта магчыма адно праз творчасць, ды не абы-якую, шараговую, знаёмую ў той ці іншай меры амаль кожнаму, а праз творчасць як бунт супраць абсурду жыцця.

«На вайне альбо гінуць, альбо выжываюць. Гэтак і з абсурдам: ім даводзіцца дыхаць, зазнаваць ягоныя ўрокі і ўцялесніваць іх. У гэтым сэнсе творчасць ёсць найвышэйшая радасць абсурду». І, дададмо з боку, адзіная альтэрнатыва абсурду нават тады, калі творнае само грунтуецца на эстэтыцы абсурду «Мастацтва дадзена нам, каб мы не памерлі ад праўды» (Ніцшэ).

Мастацтва нарадзілася з бяссілля розуму, з няможнасці зразумець, вытлумачыць сутнасць існага і сэнс існавання. Мастацтва — гэта татальная параза мыслення, адкуль яно і паўстала як вонкавае адлюстраванне незразуметасці і невыказанасці трансцэндэнцыі быцця.

Аднак мастацтва не было выйсцем з інтэлектуальнага тупіка, яно было ілюзіяй выйсця, якая сама гэтага выйсця і не патрабуе. Разам з тым мастацтва ў нейкай меры здымала праблему выйсця, бо, ствараючы другую, праз вобраз, рэальнасць, яно паказвала на іншы шлях: не ўразуменне прычыны і сутнасці некім намацанага свету, а стварэнне свайго ў малюнках, містэрыях, моўленых вобразах; у жыцці як непарыўным творчым акце.

У свеце, які не мае свайго Гаспадара, адзіным гаспадаром застаецца творца Урэшце, творцу і няма вялікай патрэбы ведаць, з чаго і дзеля чаго паўстаў гэты абсурдны чалавеку свет. Па вялікім рахунку, для творцы істотна толькі адно: тут маё «Я» мае магчымасць здзейсніцца ў творчым акце і тым самым з нечага стварыць нешта.

Прычына і сутнасць рэальнасці — у рэальнасці «майго» творчага акту. Абсурдная ў сваёй аснове воля да жыцця ўсяго падстава волі да творчасці. Яшчэ нічога не створана, яшчэ ўсё толькі гліна, пакуль ты не возьмеш яе, колькі зможаш, і не зляпіш свой вобраз сусвету, у выяве якога прычына цябе будзе ягонымі і сэнсам і сутнасцю.

Быццё — гэта абсурд і творчасць. І нічога болей няма Нідзе. Ніколі. «Працаваць і тварыць «ні для чаго», узяць з нічога, ведаць, што ў створанага табой няма будучыні, бачыць, як у адзін цудоўны дзень яно будзе разбураным, і ўсведамляць пры гэтым, што, у сутнасці, гэта таксама неістотна, як і будаваць на стагоддзі,— вось цяжкая мудрасць, якую ўхваляе абсурдная думка».

Але гэта яшчэ не ўсё, гэта яшчэ не ўся цяжкая мудрасць чалавека эпохі абсурду. Апошняя — у словах Эдзіпа, калі ён, сыходзячы ў невараць, кажа: «...усё — добра».

Пасля таго, як з усяго гаворанага шматпакутным Эдзіпам Камю вылучыў адно: «...усё — добра», нас наўрад ці здзівіць наступнае: «Трэба ўяўляць сабе Сізіфа шчаслівым». Затое грэцкіх багоў гэтыя словы Камю, бадай, моцна здзівілі і яшчэ мацней пакрыўдзілі. Псіхалагічна адмысловая формула прысуду, які бяссэнсіць знясільваючую працу, адымае ў дзеі вынік, а ў жыцця значэнне,— шэдэўр караючага генія. І, раптам, Сізіф — шчаслівы.

Але багі дарэмна закрыўдавалі, бо нават багам не варта таясаміць свойскае «цяпер» з чужыным да ўсіх «заўжды», каб аднойчы не апынуцца пад перакуленым сэнсам.

Старажытным грэкам было жыццёва неабходна павялічваць колькасць гармоніі ў свеце. Адно такім чынам яны маглі адсунуць падалей ад сябе пагрозлівую мяжу татальнасці хаосу. На гэтым і трымалася стратэгія сэнсу, гэтым і вымяралася чалавечая сутнасць і з гэтага была вынайдзена формула пакарання Сізіфа: змусіць бясконца дзеіць, але пазбавіць дзейнасць магчымасці вялічыць колькасць гармоніі...

Вымыкаючы з касмічнага хаосу гармонію чалавечага ладу, чалавек той пары добра разумеў адрознасць паміж вартай і дарэмнай працай, бо гэта на мяжы між імі палягалі канцы і пачаткі ўсяго, што ёсць і чаго не будзе. Натуральна, тады было немагчыма нават падумаць, што здарыцца такі час, калі не стане асаблівай розніцы, дзе ты цягаеш камень: на будоўлі ці па схіле гары, наперад ведаючы, што ён ніколі не ляжа ні ў падмурак, ні ў сцяну.

Для тых, хто нарадзіўся жыць у XX стагоддзі, у даўно збудаванай (і ўжо колькі разоў рэканструяванай) будыніне Еўропы, праблема мэты дзеяння страціла свой гарманізуючы пачатак, пакінуўшы па сабе адно праблему самога дзеяння. Адсюль і вынікла магчымасць «...уяўляць Сізіфа шчаслівым». Нават больш за тое, цяпер ужо бачыцца празмерным заклік Камю: «Трэба ўяўляць...». Па мерках эпохі абсурду ў Сізіфа зайздросная доля: ён мае і камень, і наканаванне цягаць яго.

З гэтага паўстае прынцыповае адрозненне Сізіфа ад чалавека абсурду, які пазбаўлены не толькі сэнсу, але, што больш трагічна, і наканавання.

Калі Камю запрапанаваў Сізіфа ў якасці інтэграла абсурду — значыць, ён не зразумеў галоўнага ў лёсе сына цара Эола і Энарэты. Сізіф увогуле не ёсць падзеяй абсурду, нягледзячы на ўсю бессэнсоўнасць ягонай працы, якая ніколі і ні ў чым не рэалізуецца. Праца Сізіфа не можа ацэньвацца па меры сэнсу, бо тое, што трывае наканаванне,— не патрабуе гэтай меры. Наканаванне само ёсць прычынай усіх верагоднамагчымых сэнсаў і бессэнсоўніц. І ўсялякі сэнс будзе заставацца ідэалагічнай аблудай, пакуль не пачне зыходзіць з той сапраўднай наканаванасці чалавека, якую ён раз-пораз страчвае, ні разу не знайшоўшы.

Камю абмыліўся, запачаткаваўшы на міфе пра Сізіфа філасофію абсурду. Але мы скарыстаем ягоную канцэптуальную метафару, каб інтэрпрэтаваць гэты міф у кантэксце ідэі «вечнага вяртання».

Чалавек толькі таму і магчымы так доўга, што камень скочваецца з гары. Калі аднойчы ратаўнічы камень не пакоіцца ўніз, то чалавек неўзабаве сам скамянее на вяршыні, бо вяршыня — гэта тое месца, дзе ўсё толькі заканчваецца і нічога не пачынаецца.

Вяршыня — магільнік, куды звальваюцца трупы рухаў і сэнсаў,— і там трупянее Сізіф, пакуль скінуты пад ногі камень не пачне спаўзаць уніз. У гэты момант — без каменя на плячах і з вяршыняй пад нагамі — Сізіф прыйшоў, далей яму няма куды і няма навошта хадзіць. Ён яшчэ ёсць, але ўжо ні для каго і ні для чаго. Ён — абсурдны чалавек.

Аднак вось камень зрушыў, і тым самым варухнуў успамін пра наканаванне. Сізіф падхопліваецца...

Прырода вяртаецца па крузе свайго кругавароту, а чалавек як найкарацей — напрасткі, каб потым зноў прайсці тым жа карацейшым шляхам, але ўжо з цяжарам іншага зместу на плячах.

Вечнае вяртанне непазбежнае, бо ўсе вяршыні занадта нізкія для чалавека, усе адлегласці занадта кароткія — і таму ўсялякі раз, калі чалавек заходзіць так далёка, што наперадзе ўжо нічога няма, яму даводзіцца вяртацца.

Так ён вяртаўся, скінуўшы камень егіпецкай цывілізацыі, так вяртаўся, скінуўшы камень антычнай цывілізацыі, так будзе вяртацца, скінуўшы крыжападобны камень хрысціянскай цывілізацыі, як толькі перачакае на вяршыні морак страты сэнсу...

А пакуль ён стаіць без каменя на плячах і з вяршыняй пад нагамі. Абсурдны чалавек у абсурдным свеце, і як ні далёка відаць з вяршыні, нічога трэбнага адсюль не ўгледзіш, перш чым камень наканавання сваім грукатам па схіле не падкрэсліць траекторыю вяртання да нейкага новага сэнсу...

Філасофія абсурду — гэта філасофія вяршыні, дзе ўжо нічога больш няма, акрамя таго, што ёсць.

Камю нарадзіўся і памёр на вяршыні, у паўзе паміж двума сэнсамі. Ён бачыў, як Сізіф падымаецца па схіле гары, ён ведаў, што той будзе вяртацца, і, калеючы ад нерухомасці на магільніку сэнсаў ды рухаў, зайздросціў: Сізіф шчаслівы!

У Сізіфа заўсёды будзе што яшчэ сказаць...

Пракляцце таго, хто абраны вяршыняй,— яму няма чаго болей сказаць.

Валянцін АКУДОВІЧ



# 21 x 21 | ЯНО

**У сярэдзіне года рэдакцыя звярнулася да тэарэтыкаў і практыкаў айчыннага прыгожага пісьменства з прапановай паразважаць над анкетай наступнага зместу:**

## «Ваш асабісты літаратурны заказ 21 беларускаму пісьменніку».

**З гэтага нумару пачынаем друкаваць атрыманыя адказы.**

## Сяргей ВЕРАЦІЛА

З якім захапленнем і радасцю я сустрэў бы падобную анкету гадоў дзесяць таму, калі ўзроставы максімалізм як бы даваў права патрабаваць ад іншых тых высілкаў, да якіх, можа, лічыў здольным сябе... Тады мроіў з'яўленне новых жанраў у літ. бел. і шукаў імёны, якія маглі б здзейсніць задачы па стварэнню Новага Беларускага Пісьменства (НБП). Час мінуў і расставіў свае акцэнты. І, далібог журботна было ўсвядоміць, што замова стварэння НБП была замоваю, нават і не патрэбнаю, а ўсяго толькі замоваю невялікае купкі нацыянальна–зарыентаванай інтэлігенцыі (да прыкладу: «Тутэйшыя»), да таго ж і самой не чужой пісьменству і яшчэ меншай па колькасці ад купкі г.зв. прафесійных літаратараў. Тады хацелася ад іх гарэння душы, бляску думак, урэшце геніяльнасці, але час мінае і «няма таго, што раньш было». Хоць не ўсё так кепска, бо акрамя расчараванняў ад таго часу засталіся прыхільнасці, як сяброўскія, так і літаратурныя. І так ужо сталася, што ў анкету (маю) патрапілі ў асноўным альбо людзі мне сімпатычныя, альбо сведкі майго пакалення, бо, выяўляючы свой боль, яны выяўляюць і мой, хоць сапраўдны талент выяўляе боль усяго народа... Можа, мне значна прасцей было б скласці трохсямёрачны спіс з тых, ад каго чакаю... маўчання, хоць графаманства таксама ёсць часткай літаратуры, і, можа, мае адзнакі тут занадта мае, і я пішу не зусім тое, што трэба. Але, відаць, анкета ёсць правакацыяй на выказванне, і я карыстаюся гэтай магчымасцю.

Спіс даю ў альфабэтным парадку:

1 Славамір Адамовіч (С.А.): І нават усяго–усяго яму будзе мала, бо ён — паэта і правакатар, бо яму хочацца быць і таленавітым і адыёзным, бо ён прагне дзеяння, і яно ёсць працягам верша, бо нават завяршэння для яго — недастаткова... Смейцеся з мяне, кпіце з мяне, гаварыце пра мяне, бойцеся мяне і... любіце мяне, бо я — паэта, і мне — самотна. Жыве Беларусь!..

2. Валянцін Акудовіч (В.А.): Цікава, калі ён прамаўляе, дык амаль заўсёды касамоўна, калі ж піша, дык прарочыць, весці з ім гутарку адно задавальненне... Як бы тое ні было, але ЗНО мае значэнне толькі для Культуры, а Крыніца выцякае са Свіслацкага раёна, і гэта цяжка ўцяміць толькі на першы погляд, бо трансцэндэнтнасць паступова пяройдзе ў рэгіянальнасць, і рознасць колераў ёсць не–Ісціна для дальтоніка...

3. Алесь Асташонак (А.А.): Пісьменнік — прафесія рэдкая. На 25000 жыхароў эРБэ — адзін прадстаўнік бел. літ Нехта павінен апісваць этнаграфію гэтае меншасці, няхай нават і на прыкладзе ўласнае асобы. Для аналізу не баіцца карыстацца скальпелем. Дыягназ: літаратар.

4. Ігар Бабкоў (І.Б.): Яшчэ адзін паэт эпохі заняпаду імперыі. «La belle franse!» Як цяжка пасвіць сонечныя

прамяні ў гарадскіх затуллях... Такі спакойны, мяккі, разважлівы, так лёгка згодны да інтэлектуальнага скандалу. Ягоны раман: «Уліс», а можа — «Гульня ў класікі» ці «Гульня ў шкляныя перліны», а можа — «Доктар Фаўстус», а можа — гэта ўсё пра Беларусь, якая яна там, а можа — ён ненапісаны... Міф пра раман, міф пра форму, форма рамана, раман–міф, форма міфа... Зацемкі і прыцемкі. Змярканне. Можа — сонца, а можа — багоў...

5. Алесь Ветах (А.В.): Смерць пільнуе нас паўсюдна і паўсюдна нас палюе, і толькі героям дадзена гінуць па–геройску, а простым людзям хочацца жыць прыстойна па–людску, але ўмешваецца Смерць ломіць бедны, але звыклы і, можа, дастатковы побыт... Смерць у жыцці г.зв. простых людзей становіцца фактам НБП.

6. Мікола Віч (М.В.): Яшчэ зусім малады з тэмпераментам байца і «разумнымі акулярамі» на носе, з прагай жыцця «на ўсю катушку» і яшчэ неўтаймаваным вершам, дзе спрабуе выказаць і прагу да жыцця, і радасць ад ягоных праяў, хай сабе і не заўсёды цэнзурных...

7 Адам Глёбус (А.Г.): Скандал. Вэрхал. Другаснасць дзеля арыгінальнасці. Фолкнер, Хэмінгуэй, Хіменэс. Вельмі моцны адбітак перыёдыкі і мастакоўскага мінулага графіка. Мастакі хваляць яго малюнкі. Думае, што ўсё зможа. Прагне ўлады і рэспекту. Часам выступае як займальны распавядальнік.

8. Юры Гумянюк (Ю.Г.): Ах, Юрась, гэта: Кузьмін, Мандэльштам, хто яшчэ там, ты, мяркую, ведаеш не горш за мяне. Але як хочацца, каб заўважылі пахвалілі за «кофту фота». Ад распешчанасці да распусты, ад фрывольнасці да эпатажу. І такая мяккая нервовасць. Але пакрысе надакучвае. Не крыўдуй, бо ўсе тыя якасці ўжо — фактам НБП...

9. Андрэй Гуцаў (А.Г.): Вучыцца і шукае. Шукае найбольш адпаведную форму для самавыяўлення вучыцца гэтай формай валодаць. Атаесамляе сябе з народам, хоць цудоўна ведае, што «народ» Канта не чытае. Бракуе трохі самаіроніі.

10. Сяргей Дубавец (С.Д.): Раней здавалася ўсё проста, гэта тады, калі ўсё было магчыма, але амаль нічога не было дазволена. Можна было стаць Скарынам, Ніцшэ, Кафкам, Дастаеўскім, Абдзіраловічам... але прыйшоў час станавіцца Сяргеем Дубаўцом і... адбыліся ўцёкі на Вільню. Але ў гэтым ёсць вобраз Дон Кіхота.

11 Анатоль Казлоў (А.К.): Яны прыходзілі, прыходзяць і будуць прыходзіць. Ад гэтага не падзецца. Але існуе спосаб паратунку: забіць іх тут на цэлюлозавай прасторы, забіць і тым самым даць ім жыццё. Я не баюся таго, што са мной адбылося, я не баюся таго, што са мной адбудзецца, я баюся таго, што са мной не адбылося... Умее спавядаць, нават рэчы. Ягоны герой яшчэ навучыцца лічыць прыступкі.

12. Мікола Касцюкевіч (М.К.): З тых літаратараў, для якіх чытаць чужое значна лягчэй і прыемней, чымсьці пісаць сваё. Увесь час заняты даследаваннем і апрацоўкай свайго ўласнага «еgo». Потым узнікне праблема ўключыць сусвет свайго «я» ў сусвет навакольны. Імкнецца да ўзвышанасці. Спрабуе шукаць незвычайныя сюжэты.

13. Алег Мінкін (А.М.): Жыве ў Вільні. Яму падабаецца злучаць словы ў мінорныя сугуччы, і ўжо мала яму ўласных тэкстаў Норвід, Стаф, Лесьмян... Яшчэ Вільня, што вуліца з вуліцы месціцца ў вершах.

14. Алесь Наварыч (А.Н.): У свой час змусіў шмат каго гаварыць пра сябе. Ягоныя «коні», сюжэт мова, лірызм. Здольны да разнявольвання фантазіі. Звязаўся з «яцьвягамі», але звычка да нечаканасцяў прымушае меркаваць, што мы яшчэ пачытаем дынамічныя раманы А.Н.

15. Барыс Пятровіч (Б.П.): Багата чытае, імкнецца да кароткае формы, валодае зброяй смеху, з'ява нячастая ў літ. бел., дарэчы, кароткая форма дае яму магчымасць прымяняць свае бліскучыя парадоксы. Умее рытмізаваць свае адчуванні ад знаёмства з Сусветам. Здольны аналітык. Гэта будзе незвычайны раман.

16. Алесь Разанаў (А.Р.): Я сказаў бы: «Клясык». Абуджае думку. Часам А.Р — старонні назіральнік, у «эмпірэях». Маг. Наступным крокам А.Р., відаць, стане задача на матэрыялізацыю Слова. Калі яно не зможа спыніць сонца, дык многіх напаткае расчараванне.

17 Міхась Скобла (М.С.): Рамантык, які яшчэ не дарэшты развітаўся з традыцыямі дзяржаўнай кан'юнктурнасці. Часам вельмі смелы, але байцом не стаў, хоць жанр балады падкрэслівае мужнасць. Яшчэ спадзяецца на Слова як на Сілу, здольную выправіць калі не ўвесь свет, дык хоць бы суб'ектаў пародыяў.

18. Уладзімір Сцяпан (У.С.): Піша вельмі ахайна і сціпла. Спрабуе разбурыць рэалізм у ягоных жа варунках. Па–мастакоўску адчувае паэзію рэчаў. Пейзажыст пад уплывам канструктывізму. Ягоная проза вельмі лёгка атаесамляецца з ягоным знешнім вобразам.

19. Андрэй Федарэнка (А.Ф.): Вельмі добра пачаў «Гісторыяй хваробы». Вельмі ў традыцыях расейскай класікі, якой захапляецца. Потым ударыўся ў палітыканства. Жыццёвы вопыт А.Ф. вельмі звужаны працай у «тоўстым» часопісе, гэта можа пагражаць альбо лубком замест рэчаіснасці, альбо саперніцтвам з А.А...

20. Вітаўт Чаропка (В.Ч.): Самы малады раманіст. У гісторыі — арыентацыя на Карлейля. Стараецца адпрацоўваць сюжэт і імкнецца да інтэлектуалізму, у той жа час пабудова прозы вельмі традыцыйная, хоць адчуваецца гатоўнасць да новых прыёмаў і формаў, асабліва ў кароткім жанры.

21 Алесь Чобат (А.Ч.): Можа быць, вобраз заходняга беларуса–"яцьвяга" здолее выйсці з «дзікай прэрыі» і заняць сваё пачэснае месца ў НБП? І не трэба палохацца этнаграфіі і збірання ўсім вядомых анекдотаў, можа, якраз смех дапаможа нам пазбавіцца аднастайнага лёду саўковасці.

Хай даруе мне рэдакцыя, якая прыдумала гэту анкету, бо, можа, тое, што я напісаў, ёсць не зусім тое, што ёй хацелася, каб я напісаў, і хай даруюць мне тыя, пра каго я напісаў, і тыя, пра каго не напісаў, бо ёсць яшчэ добры тузін імёнаў, вартых увагі, але анкетны спіс скончыўся ("версіі, якім не хапіла літараў" Б.Пятровіча). Зусім па–за ўвагай засталіся жанчыны, але пра іх я напішу асобна і за іншым разам.





## Сакрат ЯНОВІЧ

1 Ад Васіля Быкава спадзяюся панарамнай эпапеі пра ваенны лёс беларусаў не толькі ў савецкай арміі, але і ў іншых. Гэта не ёсць надуманае пажаданне: для напісання такога палотнішча трэба жыццё пражыць, свет зразумець, чалавека ўбачыць навылет Усе гэтыя перадумовы для таленту Быкава, як мне здаецца, маюцца.

2. Ад Янкі Брыля чакаю ўсё ж рамана пра вёску ў пасляваенныя гады. Брыль — гэта вялікі селянін, і ніхто лепей ад яго не ў стане паглыбіцца ў сялянскую душу. Тым болей маладзейшыя аўтары, якія не ведаюць селяніна, ведаюць ужо калгасніка, пачвару сялянства.

3. Арсень Ліс не напісаў свае найважнай працы: усёахопліваючы паказ нацыянальнага руху ў былой Заходняй Беларусі. Такой тоўстай кнігі і на такую менавіта тэму надта ж не хапае нам. Тэма гэтая фрагментарна распыленая па брашурыцах і адрэзкавых манаграфіях. У Ліса ёсць дзеля гэтага веды і навуковы апарат

4. Алесь Разанаў павінен надалей рабіць тое, што і робіць, адкрываць новыя і былыя кантэксты беларускаму слову. Вельмі важны гэта аўтар, які інтэгруе нацыянальнае з універсальным, прыдае нашаму слову сусветны кантэкст.

5. Іван Пташнікаў. Памятаецца ягоны «Тартак» і няшмат больш што. На маё адчуванне, шкада Пташнікава на *«ўсякія кнігі»*, яго пісьменніцкага інстынкту ў аналізе сітуацыі простага чалавека, зацюканага вяскоўца, які ўблытваецца не па сваёй волі ў глабальную завіруху. Нічога не разумеючы, што гэта і дзеля чаго адбываецца так страшэнна, і спрабоўвае шарак выратавацца ў класічна–беларускім стылі з XIX ст... *«Кінуў-рынуў я паўстанне...»*

6. Дануся Бічэль непатрэбна кідаецца ў публіцыстычнасць вершаў. Ёй час і пара заспяваць пра вечнае, пра развітанне з мінаючай эпохаю, з вёскаю, якой больш няма. Пра тую рачулку Гаўю і Біскупцы блізу яе. Там бачны і цяпер хаты, калі ехаць з Беластока цераз Гародню на Менск, але гэта ўжо не тыя, што ў памяці Данусі; дух даўні прапаў, і хто яго запыніць у веквечнасці Слова?

7 Алесь Дудараў. Нязвыклы з яго талянцюга ў драматургічным пісьменстве. Ён, чую, лезе ў гістарычную тэматыку... Па–мойму, лішне тое рабіць. Хай лепей канцэнтруецца на сваіх п'яніцах, лайдаках, дэгенератах. На гэткім матэрыяле нашмат больш скажа свету Дудараў.

8. Уладзімір Дамашэвіч. Часта думаю пра яго. Піша мала, але дакладна. А што скажа спадар Уладзімір на такую падказку: беларус у зломе эпох, калі заваліўся яму стары свет, а новы прыйшоў аднекуль з усходу, таксама не свой?! Беларуса, кажучы на купалаўскі манер, усё нехта ашчасліўляў, не даючы яму самому ашчаслівіць сябе.

9. Аляксей Пяткевіч. Прафесар з літаратурнымі здольнасцямі, адзіны ў Рэспубліцы Беларусь, які кваліфікавана змог бы ўвесці ва ўсебеларускую культурную свядомасць існаванне беларускай культуры менавіта ў Польшчы, асабліва літаратуры. Ды наогул стварыць нешта кшталтам універсітэцкага інстытута па вывучэнні беларушчыны пад Польшчай, з сядзібай у Гародні, вядома. А так, мы што маем: выпадковыя рэцэнзійкі пра таго або іншага «белавежца» з Беласточчыны. Нават у менскім Педагагічным універсітэце студэнты не чулі пра нас, аб чым пераканаўся я ў час сустрэчы з імі ў пятніцу 2 верасня 1994 года.

10. Анатоль Сыс. Падабаецца мне Сыс, веру ў яго, але ён настолькі малады, што не ведаю, чаго ад яго спадзявацца. Напэўна, паэмы, а калі паэмы, дык пра маладабеларуса (–аў), які намагаецца ў бок еўрапейскай нармальнасці, да выходжання з савецка–нацыянальнай засцянковасці, парафіяншчыны, дзе правілі абедню сакратары і парторгі. Будзь, Сыс, натуральны! Не бойся пердуноў!

11 Васіль Гігевіч выклікае ў мяне сімпатыі не толькі падабенствам фізіка–тэхнічнай адукаванасці. У яго ёсць шанцы на тое, каб вывесці беларускую літаратуру з монатэматычнасці «вёска–мястэчка». Трэба ёй не аднаго паху слова і прасторы яму, але і інтэлектуальнай важкасці, я б сказаў: інтэлігентнай эпічнай фразы. Мастацтва, як вядома, не мусіць быць інтэлігентным, але нам трэба яшчэ і інтэлігентнага якраз. Часамі мне ўяўляецца, што Гігевіч мог бы з галавою акунуцца ў навуковую фантастыку. Фізік жа, і бачыць ён свет не ў адзіных дагэтуль трох вымярэннях. У польскай літаратуры ёсць Лем, якога з экзатычнай у свеце польскай мовы перакладаюць у звыш ста краінах зямное кулі... Гэта, ясная справа, намёк у адрас Гігевіча, а нават калі хочаце, заказ–пажаданне.

12. Янка Сіпакоў столькі добрага ўчыніў для беларускай паэзіі, столькі цёплых слоў у яго адрас

наслухаўся я ў Варшаве, што аж сорамна неяк нечага жадаць ад яго. Аднак жадаецца. Паважаны Янка Сіпакоў, ці не адчуваеце вы сябе крыху як быццам недарэалізаваным акурат у своеасаблівым працягу «Усе мы з хат»? На мой густ, беларусы крыху недавысвечаныя, бы недавысвечанай бывае цікавая, але дрэнна выкананая тэхнічна, дакладней, недаконченая фатаграфія. Усе мы з хат але як быццам сорамна нам па гэтай прычыне, замест убачыць у тым свой вялізны шанц, творчы і ў публічным жыцці, і ў дзяржаўным (быць свядомым, раскамплексаваным, селянінам — гэта гіганцкая справа; на гэтым Скандынавія пабудавала сусветна вядомы дабрабыт і культурнасць, сялянскія фіны, нарвегі, шведы, што ў пачатку XX веку мерлі — так, так! — ад голаду ды холаду!).

13. Уладзімір Конан мае ў маёй асобе надакучлівага заказчыка. Тэма: Беларуская літаратура і свет Што? Прэтэнцыёзная? Не! Давайце, спадарове, без самапаніжэння… Беларускае — гэта не вершаскладанне падпітага свата на даўнім вяселлі па-над Свіслаччу, гэта і не хатка па-над рэчкаю, якой больш няма, як спявае лірычны Данчык, дзіўны гэты амерыканец з беларускай свядомасцю… Сур'ёзная справа, спадар Уладзімір, і вы дастаткова малады, каб паспець з ёю. Не мусіце адны самі, заарганізуйцеся з іншымі. Я вас вельмі прашу!

14. Вячаслаў Адамчык зачараваў мяне «Чужой бацькаўшчынай» і ўсёй дылогіяй, затым трылогіяй… Ажно шкада, каб на тым і затрымаўся. Работы ёсць, Чэсь, як ведаю тое сам па сабе: некаторыя рэчы трэба пісаць — і пішу! — аднова, цэлыя або фрагменты. Нешта такое адчуваецца і ў прозе Адамчыка — то спакойны, велічны рытм, то зноў нейкая журналішчына, спех, а гэта эпіку бокам вылазіць. Хаця б у тым «Годзе нулявым»… Нязгодныя? Ваша права, але я менавіта так адчуваю. Памятаецца Імполь, мястэчка з філянговымі дзвярыма ў хатах. Можа быць, таму, што ваша мястэчка нагадвае мае Крынкі, а тадышнія камунякі — маіх дзядзькоў, якіх потым Сталін слушна папёр у Сібір, як і ўсю расійскую рэвалюцыю.

15. Думаючы пра Галіну Каржанеўскую, думаецца мне пра даволі выразную адсутнасць у беларускай літаратуры так званай у іншым свеце жаночай плыні. Справа не ў люлюканні дзяцей ці каханні. Не, да такога непаразумення нельга апусціцца. Справа куды важнейшая — у жаночым светабачанні. Чалавецтва — жанчыны і мужчыны, як здаўна павялося. Оптыка ў іх розная, вось што. У кожнага з двух іншае павелічальнае шкельца. Ад прыроды. Жаночая літаратура ў нас распыленая ў наогул літаратуры. Каржанеўскай пад сілу крышталізаваць яе, вылучыць, інтэграваць у асобную з'яву. Найперш дэпалітызаваць паэтэс, адкамісарыць іх, вярнуць ім жаноцкасць, мяккасць бачання рэчаіснасці; рыцару хай будзе рыцарскае, мечаноснае, а дамам — несмяротная прыгажосць.

16. Алег Лойка дастаткова скампраметаваўся нібы-біяграфічнай аповесцю пра Купалу, робячы з Луцкевічаў нерэальных арыстакратычных хамаў, каб дазволіў я яму цяпер адпачыць, не склаўшы заказ на трылогію: Купала, Колас, Багдановіч.

17. Да Міколы Ермаловіча, як і да Адама Мальдзіса, няма ў мяне сумлення чапляцца з гэтымі нібы-заказамі, пажаданнямі. Яны адны выканалі працу нейкай акадэміі навук (з зіркастымі бенефіцыянтамі). Таму, замест надакучаць, карыстаюся нагодаю шчыра падзякаваць ім за зробленае!

18. Уладзімір Ягоўдзік паказаў сябе неблагім пісьменнікам для дзяцей, што мяне моцна ўзрадавала! Мала ў нас добрай дзіцячай літаратуры, мала яе ў кожнай літаратуры ў свеце. Такая ўжо спецыфіка гэткай творчасці. Ягоўдзік можа, калі пастараецца. Яму заказваю я цыкл баек, прыгодаў такіх сімпатычных звяроў, як заяц, ліс, барсук, выдра, бабёр, ну і рыбы: рак, шчупак, карп. Гэта надрукуюць яму хутчэй і шалёным тыражом, чымсьці Адамчыку перапрацаваную яго трылогію…

19. Прыемна мне думаецца пра эсэ і рэпартажы з дарогі, пісаныя Леанідам Дранько-Майсюком. Напрыклад, з Элады. Інтэлігентная ды кампетэнтная работа, без прасцяцкіх цвішэнруфаў, якімі некаторыя пакрываюць сваю недаадукаванасць. Пасылаю Леаніда ў Іспанію і Партугалію, а потым у Палесціну, дзе пачыналася Еўропа і хрысціянства, дакладней, наадварот, без хрысціянства не было б Еўропы, адно Рым і варвары.

20. Дарагі Максіме Танк, я Вас заўсёды цаніў не за гэта, за што чаплялі Вам ордэны ды медалі! З Вас вялікі лірык, і чытаць яе — незабыўная асалода для душы. Сядзьце пад стрункай сасною ў жывічнае лета над Нараччу, я Вас бачу менавіта ў такой позе, і не бярыце ў галаву гэтага цэлага віску акаляючага свету з забеганымі да паўсмерці людзкамі… У Вас няма маральнага права маўчаць. Вы павінны пісаць. Ведаеце, колькі разоў ні бываю я ў сасновіку, машынальна тады падумаецца мне, глядзячы на тыя сосны: як у Максіма Танка! Вы, мабыць, здзівіцеся гэтым, але дастаткова з Вас дасведчаны чалавек, каб асабліва ўжо не здзіўляцца людскімі асацыяцыямі.

21. Дваццаць першым у мяне Уладзімір Калеснік. Зусім не таму, што такая ў мяне іерархія: адказваю на анкету хаатычна, бо не люблю ўсякае іерархізацыі. Яна абняслаўляе потым такога складальніка рангаў, апошнія занадта часта бываюць першымі. Рамантычнасць у доследных памкненнях Калесніка проста зайздросная! Уменне ўвасабляцца ў прапаўшыя кліматы, у якіх жылі загубленыя паэты, расстраляныя навукоўцы, кінутыя ў сібірскія снягі адраджэнцы. Ветразі Адысея павінны скіраваць Вас у краіну беларускага Хадэса. Не хачу, каб Вы апісвалі кожнага нябожчыка, так сказаць. кожнай магіле па кожнай кніжцы… Не. Марыцца мне Ваша вандраванне, доўгае і не задыханае, займальнае, ад архіпелага да архіпелага беларушчыны, потым так апустошанай. Гэта не была б аповесць пра Жылку ці Дварчаніна, а пра тыя часы, тую эпоху ў нацыянальным станаўленні.





## Любоў ТУРБІНА

Замест заказаў атрымаліся сціслыя адвольныя характарыстыкі-заўвагі, але з іх і вынікаюць заказы.

1 Янка Брыль — яго прысутнасць у літаратуры і ў жыцці нават больш значная за ўсё іншае.
2. Алесь Яскевіч — як генератар трохі мройлівых ідэй у літаратуразнаўстве.
3. Віктар Антонавіч Каваленка — яго адчуванне часу неяк ураўнаважвае мройлівую сутнасць ідэі чатыры-солпса, акрамя таго, ён — майстар дакладных фармулёвак.
4. Віктар Карамазаў — на мой погляд, у апошні час імкліва набірае вышыню.
5. 6. 7 Айцы-заснавальнікі: той, хто адзначыў «каардынаты быцця», той, хто «сябе стварае, як камета».
8. Няўтомны Раланд (чытай — У.Арлоў): дай Божа яму крыху спакою.
9. Познабаковы Глобус. Як у песні нашай маладосці (на рускай мове): «Глобус крутится-вертится, словно шар голубой».
10. Зіхоткі Зьніч — ці ён ёсць, ці няма, таямнічая істота.
11 Пятро Васючэнка — тонкі даследчык, іранічна-фантастычна-дэмагагічны пісьменнік.
12. Людка Сільнова — уся эпічная і лаканічная.
13. Галіна Дубянецкая — эстэтычна-аўтэнтычная.
14. Галіна Каржанеўская — у меру едкая, заўсёды меткая.
15. Раіса Баравікова — усім лагодная, амаль народная.
16. Валянціна Аксак — зыбкая, смутная, заўсёды не пра мінутнае.
17 С.Дубавец; 18. Т.Сапач; 19. А.Мінкін. Кожны з іх — яскравая індывідуальнасць, але ў гэтым выпадку пераважае прысутнасць Балтыі — тое, што іх аб'ядноўвае.
20. Ігар Бабкоў — незразумелы, аўтарытэтны, таксама вельмі менталітэтны.
21 Андрэй Федарэнка — аб ім вельмі добра гавораць усе, з кім сябрую, хацелася б ведаць больш.

## Леанід ГАЛУБОВІЧ

1 Уласна кажучы, ад сябе я чакаю нечаканасці.
2. Ад паэта Міколы Купрэева — паэтычнай кніжкі, якая пісалася дваццаць пяць гадоў запар, а таксама аўтабіяграфічнай прозы.
3. Магу чакаць яшчэ даўжэй падобнай кніжкі ад Анатоля Сыса.
4. Ад Быкава чакаю поўнага «збору твораў».
5. Ад Брыля — няпоўнага «збору твораў».
6. Ад Разанава — выхаду яго новай кніжкі ў іншасвет
7 Чакаю, што паэт Данько-Майсюк выдасць чарговую кніжку вершаў Леаніда Галубовіча.
8. Ад Мінкіна — перакладаў з арыгінала.
9. Ад Дубаўца — тэкстаў.
10. Ад Арлова чакаю ўсяго…
11 Ад Глёбуса — новай п(р)озы.
12. Ад Галі Булыка чакаю поўнай літаратурнай эмансіпацыі.
13. Барадулін мог бы і сам пачакаць.
14-15. Ад Шніпа і Рублеўскай скасавання шлюбу не чакаю.
16. Ад Танка прыйдзецца чакаць вершаў.
17 Ад Адамчыка — раманаў.
18. Ад Казько — мастацкіх твораў.
19. Ад Літфонда і Жалязоўскага нічога чакаць не буду.
20. Асташонка чакаю заўсёды, усюды і ўсякага…
21 Да Акудовіча цягнуся сам…

Ад згаданых і ўсіх астатніх чакаю крыўды.

## Сяргей ДУБАВЕЦ

У нашай сітуацыі ўсё яшчэ больш чакаеш ад мёртвых, чым ад жывых. Гарэцкі, Ільяшэвіч, Віцьбіч, Дудзіцкі, Геніюш… Гэта таму, што жывыя ў большай ступені, чым мёртвыя, належаць гісторыі літаратуры, а не яе сучаснасці. Чаго б мы чакалі ад Купалы, калі б ён жыў сёння? Рацыя, мы чакалі б жывога прароцтва. А паколькі сённяшнія тытуляваныя купалы такога прароцтва не даюць, мы па-ранейшаму мусім абыходзіцца

самім Купалам. Я думаю, што сённяшнія мэтры мусілі б выйсці з гісторыі, з учарашняга дня, з сваіх гатовых энцыклапедычных дэфініцый і без усяго гэтага маскараду, па-простаму, без спасылак на Прышвіна з Салжаніцыным даць СВАЁ вытлумачэнне эпохі. Але ў сённяшніх народных, заслужаных і проста вядомых няма свайго акрэсленага меркавання пра тое, што адбываецца з народам. Мусіць, гэтаму ёсць свае прычыны. Не выпадае чакаць ад іх і нейкага эстэтычнага поступу. Таму я чакаю ад іх твораў у найбольш адпаведным нашаму часу і іхняй сітуацыі жанры. Я чакаю мемуараў. Па вялікім рахунку гэта — самарэфлексія культуры, якая паказвае на яе афармленасць. Гэта, так бы мовіць, «зад» літаратуры. Там мусяць знайсці свае месца і старэйшыя, і маладзейшыя літаратары, якія пачалі працаваць у 80-я і раней. Што тычыцца «пераду», то яго мусяць ствараць зусім яшчэ зялёныя творцы, чый светапогляд фармуе цяперашняе жыццё. «Перад» літаратуры будуць ствараць якраз тыя, ад каго мы чакаем тое, чаго не можам прадбачыць. Мы не мусім прадбачыць нават іхнія прозвішчы, каб не сурочыць, не сапсаваць, не зменшыць літаратурнае дзіва.

Калі б я быў мецэнатам, я замаўляў бы ім проста творы і кнігі. Усё, што напішуць і выдадуць астатнія, пралічваецца і не абуджае фантазію.

## Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Празаікаў, эсэістаў, драматургаў паважаю, вядома, таленавітых, але большую ўвагу заўсёды аддаю паэтам, таксама таленавітым, таму буду гаварыць толькі пра паэтаў. Дакладней, пра паэтак.

З прапанаванай анкеты хачу здабыць пэўны феміністычны эфект. Упэўнены, стварэнне вершаў — нежаночы занятак, але паколькі паэткі гэтак не думаюць, пакідаю сабе права ласкава-іранічнага назіральніка за іх творчасцю.

1 Эдзі Агняцвет — відаць, гэта немагчыма, аднак чакаю перакладаў з прозы (менавіта з прозы!) Гіёма Апалінэра.
2. Валянціна Аколава — пры ўсёй прадбачанасці характару, спадзяюся на стылёвую непрадбачанасць.
3. Валянціна Аксак — паэтка ведае, якіх вершаў я, як рэдактар, ад яе чакаю. На гэты конт у нас адбылася прыемная гаворка на Іслачы.
4. Ірына Багдановіч — захапляюся сціплымі паводзінамі і працавітасцю. Чакаю кнігу пра жыццё і творчасць Уладзіміра Дубоўкі.
5. Раіса Баравікова — чакаю ўспамінаў пра Літінстытут
6. Святлана Басуматрава — таксама.
7 Данута Бічэль-Загнетава — заўсёды чакаю таго, чым багатая паэтка,— прыгажосці і неспакою.
8. Таіса Бондар — жадаю творчай стрыманасці.
9. Галіна Булыка — пры наяўнасці дзвюх значных кніг («Сінтэз». «Турмалін»), жадаю гэткай жа значнай увагі да творчасці калег
10. Вера Вярба — каб напісаўся верш, які зноў стаў бы ўсебеларускай песняй.
11. Марыя Гудкова — каб і надалей ратавала сябе вершамі. Толькі шмат пісаць не трэба. У вершаванай дыеце ёсць спажыўны сэнс.
12. Зінаіда Дудзюк — чакаю кароткай вершаванай (абавязкова рыфмаванай!) п'есы. Прыспеў час ісці да свайго новага зместу праз «наўмысна» складаную форму.
13. Вольга Іпатава — чакаю канчатковага выбару: творчасць ці ўсё астатняе. Спадзяюся, дылема вырашыцца станоўча — гэта значыць, усё астатняе пераможа.
14. Ала Канапелька — маўчанне зацягнулася. Чакаю рашучасці. Дзе другі зборнік вершаў?
15. Галіна Каржанеўская — быў бы рады прачытаць кнігу кароткіх партрэтаў-характарыстык, прысвечаную нашым вядомым паэтам. Такой кнігаю, магчыма, адкрыўся б новы жанр. Прынамсі, у крытыцы. Вельмі ўдалая ў гэтым, пакуль безназоўным, жанры была лімаўская публікацыя. На жаль, адзіная.
16. Вольга Куртаніч — вабіць прыхаваная (у жанчын так і павінна быць) страснасць душы. Страснасць гэтая не губляецца і ў вершах. З кожнай кнігай яна мусіць паўтарацца, але ў новай мастацкай якасці.
17 Ніна Мацяш — чакаю пераклад «Дзённіка» Жуля Рэнара.
18. Кацярына Мяшкова — кажуць, што колер вачэй з гадамі не мяняецца. У паэткі дзівосныя вочы. Скарб на ўсё жыццё! Можна нават і вершы пакінуць пісаць.
19. Людміла Паўлікава — прыгожая жанчына і адзіная паэтка, ад якой не ведаю, што чакаць. Жадаю часцей бачыць на тэлеэкране.
20. Любоў Турбіна — душу яе не пакідае памылковая думка, што паэзія і жыццё — рэчы тоесныя. Ідэалізм, нічым не абаронены. Гэткі ж ідэалізм уласцівы Галіне Дубянецкай і Людцы Сільновай. Вядома, паэзія можа быць і такой, звышдатклівай, толькі робіцца трывожна за яе носьбітаў.
21. Соф'я Шах — высокая лагода нябёс — формула яе паэзіі. Ці ж гэта не радасць, калі лагода высокая?! Значыць, трэба ўсміхацца. Жанчына павінна ўсміхацца. Усміхніцеся мне, спадарыня Соф'я!





## Уладзімір КОНАН

У мяне для пісьменнікаў ёсць скарэй пажаданні, чым заказы. Бо заказ — імператыў былога, наменклатурнага СССР і сучаснага рыначнага грамадства. А я — за трэці, хрысціянскі шлях.

Маё агульнае пажаданне ўсім пісьменнікам і даследчыкам нашым на бацькаўшчыне, з блізкага і далёкага замежжа: хораша папрацаваць для «Крыніцы».

Каб пісьменнікі рэалізаваліся як творцы, неабходна вярнуць Беларусі беларускі воблік. Гэта ўжо — не пажаданне, а заказ грамадству і дзяржаве.

Нам прыходзіцца выбраць 21 Застаецца надзея, што дыялог працягнецца, каб звярнуцца да ўсіх, а не толькі да выбраных.

Алексіевіч Святлане: вярнуцца з вандроўкі ў Вялікі Свет да сваіх вытокаў — апавяданняў пра традыцыйныя беларускія тыпы.

Асташонку Алесю: напісаць раман пра беларускую сучаснасць.

Барадуліну Рыгору: штогод публікаваць новыя «абразы без абразы».

Букчыну Сямёну: чакаем ад Вас новых гістарычных аповесцяў і раманаў.

Бутрымееву Уладзіміру: пара засесці за драму прыватызацыі.

Васілю Быкаву: Васіль Уладзіміравіч сам ведае, што патрэбна для беларусаў. А вось свет чытае яго, але не ведае яго як след.

Бембелю Алегу: «...Маю проці цябе тое, што пакінуў ты першую любоў тваю. Дык прыпомні, скуль выпаў, ды рабі першыя справы твае; калі ж не, дык хутка прыйду да цябе і зрушу светач твой з месца ягонага, калі не пакаешся» (Адкр. 2:4—5).

Вярбе Веры: чакаю ад Вас новых песняў. Дадаў бы: і танцаў. Паводле Ф.Ніцшэ: Бо той дзень, калі вы не спявалі і не скакалі, лічыце страчаным назаўсёды.

Галубовічу Леаніду: цяжка падняць сучасную экзістэнцыю ў неба паэзіі. Дык пішыце, Лёня, для нас, сваіх сяброў, вершы, а для іншых — раманы і памфлеты.

Гігевічу Васілю: давай, Васіль, засядзем за раман, аповесць альбо нават драму пра жыццё-быццё братоў-пісьменнікаў.

Гілевічу Нілу: Для Вас, Ніл Сымонавіч, скарэй пытанне, чым заказ — ці ёсць магчымасць сёння напісаць новы раман у вершах?

Гілю Міколе: вёска жыве і, кажуць, абнаўляецца. А дзе ж падзелася новая вясковая проза?

Дамашэвічу Уладзіміру: чакаем кніжку Вашых эсэ ў абарону роднае мовы.

Дудараву Аляксею і Някляеву Уладзіміру: чакаем ад Вас новую «Вежу». І няхай вернецца старая «Вежа» на тэатральную сцэну.

Забалоцкай Людміле: «Святло палыну» — добрая паэзія, хоць, можа, зашмат чарнобылю [палыну]. За Вамі, Люда,—«Красавік» і «Жнівень».

Іпатавай Вользе: ад Вольгі Міхайлаўны мы чакаем драматычнага ўвасаблення Усяслава Чарадзея, чароўных аповесцяў пра ўсіх іншых беларускіх рыцараў.

Клімковічу М. і Адамчыку М. (ці наадварот): вашая камедыя «Нагавіцы святога Георгія» ўдалася. То напішыце яшчэ адну п'есу-травесці. Але ўжо з арыентацыяй не на Дон-Жуана і Бергмана, а на беларускую карнавальную трацыдыю.

Каржанеўскай Галіне: некаторыя добрыя паэты былі яшчэ і бліскучымі крытыкамі — А.Блок, М.Гумілёў, М.Багдановіч... Чакаем і ад Вас кніжку літаратурных эсэ і партрэтаў.

Конану Уладзіміру: пара перайсці ад міфалогіі, фальклору і паэзіі Багдановіча да сучаснай літаратуры. І напісаць манаграфію пра жыццё і творчасць Анатоля Сыса.

Сысу Анатолю: апрача новай паэтычнай кніжкі чытач чакае ад Вас мемуараў.

Шамякіну Івану: ад Івана Пятровіча мы чакаем драму на тэму партыйнай эліты. Нешта ў стылі Максіма Горкага пад назваю «Апошнія».

## Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

Пераліку імён я калісьці дужа не любіла: кожны жаночы спіс без майго імені быў ударам па самалюбству. На шчасце, я даўно злячылася ад прагі ўсеагульнага прызнання і ад дыскамфорту пры адсутнасці такога. Таму спакойна магу любы спіс успрыняць і любы скласці — хай сабе і з двух дзесяткаў літаратараў.

Але перш чым перайсці да прозвішчаў — паразважаем. Што ўзяць за крытэрый? Мастацкі ўзровень твораў? Тут могуць быць чыста густавыя разыходжанні, хаця крытэрый гэты, несумненна, адзін з галоўных. А можа, інтэлект творцаў? (Бо не ўсякі носьбіт таленту можа быць інтэлектуалам.) А можа, грамадскую пазіцыю? (Бо не кожны нават разумны пісьменнік — прагрэсіст і дэмакрат.) А мо ўзяць за аснову прынцып таварыскасці, падабенства поглядаў і характараў? Не здзіўлюся, калі менавіта гэты прынцып будзе дамінуючым у большасці апытаных. Так ці інакш — пытанне выбару імён няпростае...

Каб трошкі спрасціць яго, буду зыходзіць з жанраў, а таксама адпаведнасці літаратара абранаму жанру. (У тым сэнсе, што далёка не ўсе знаходзяць *свой* жанр пры валоданні словам, і творца з празаічным ладам мыслення, напрыклад, упарта піша вершы.)

З публіцыстаў і эсэістаў назаву Я.Пархуту, А.Казловіча, В.Акудовіча і Л.Дранько–Майсюка. З іх толькі першы рэалізаваўся, як мне думаецца, у поўнай меры. А.Казловіч увесь час з некім «заядаецца» — то з уласнымі героямі, то з калегамі, то з начальствам... Ён як бы «загразае» ў чужых астралах, што, вядома, не можа не замінаць самавыяўленню. (Напісаць «чаго чакаю» — ці не азначае «ад чаго пазбаўляцца» ці «што набываць»?) В.Акудовіч — «рэч у сабе», ён як бы збоку, на памежжы пісьменніцтва, і што з яго вырасце — пакуль невядома. Л.Дранько–Майсюк у эсэістыцы ці не мацнейшы, чым у паэзіі. Тут ён разнастайней, раскаваней стылёва, і эрудыцыя дарэчы.

У паэзіі чакаю «другога дыхання» ад Р.Баравіковай і Т.Бондар. У добрай творчай форме М.Дукса і З.Дудзюк, у іх прыкметны творчы рост, а ім, заўважу, у аддаленні ад творчых асяродкаў расці няпроста. Майму — нашаму — пакаленню даўно пара ўзяць на свае плечы большую ношку, чым яно нясе,— як у грамадскім, так і ў творчым плане. Для гэтага дастаткова назапашана і ведаў, і вопыту, і духоўнага патэнцыялу. Не прапускаю ў друку публікацый Л.Рублеўскай. Адчуваецца сіла духу, своеасаблівы характар, гучаць драматычныя ноткі. Гэта важней, чым проста плесці карункі з нічога.

Прозу чытаю менш і які–небудзь тоўсты раман магу кінуць, не дачытаўшы (няхай мне даруюць празаікі). Перавагу аддаю, такім чынам, жанрам сціслым. Стабільна і ўжо цалкам стала працуе А.Асташонак. Уражаная «Лесавіком» А.Кажадуба, чакаю ад яго не «славянскай» групаўшчыны, а такой жа пранікнёнай, густой, каларытнай прозы. Цікава, па–свойму заявіла пра сябе М.Вайцяшонак. Часам, праўда, як бы ідзе за словам, а не слова вядзе за сабой для ўвасаблення задумы, але ратуе нябачная, пругкая ніць духоўнасці: усё звязвае, знітоўвае ў адно. З генерацыі маладзейшых звяртае на сябе ўвагу Б.Пятровіч. Не столькі фармальным пошукам, што характэрна для яго пакалення, колькі псіхалагічнай глыбінёй і бездакорным густам.

Што ў нас на чарзе? Драматургія? Дык гэта жанр прыкладны. Надрукаваная п'еса не можа мець уплыву на чытацкую аўдыторыю, а пастаўленая — ужо іншы твор, сінтэтычны. Драматургі як ніхто залежаць ад кан'юнктуры, ад рэжысёрскіх прыхамацяў... і яшчэ ад тысячы фактараў, не звязаных з мастацтвам.

Да пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей, у нас ставяцца досыць паблажліва. Не тое, каб не паважалі, а проста неяк не прымаюць усур'ёз. І дарэмна. У нас выдатныя дзіцячыя пісьменнікі — ад В.Віткі да Н.Галіноўскай і маладзейшых. Працытую па памяці:

Гебемот разявіў рот  
І глядзіць на масалёт  
Ты мяне паслухай, братка:  
Масалёт — не кашаладка!

Хто, як вы думаеце, аўтар? А.Жыгуноў! Вершаў — россып, на ўсе ўзросты, а вось прозы для малых, для падлеткаў — бракуе.

З узростам многія таленавітыя пісьменнікі як бы астываюць да ўласна пісьменніцкай творчасці, спрабуюць сябе ў іншых ролях — кіраўніка, палітыка і г.д. Лічу, што ў нечым гэта заканамерна і непазбежна. І ўсё ж шкада, што не часта мы бачым у друку вершы А.Вярцінскага, Н.Гілевіча, Г.Бураўкіна, што аналітычны розум В.Каваленкі служыць адно задачам Інстытута літаратуры, што адышоў ад крытыкі на карысць іншым жанрам П.Васючэнка...

Ці дабрала я да лічбы 21? Нават пералічваць не бяруся. Як ужо атрымалася...

## Юрась ЗАЛОСКА

1 С.Вераціпу — пастаяннай прапіскі і сталай працы; тады ён сустрэнецца з быццём, а быццё (літаратурнае) — з ім.

2. З асаблівым хваляваннем чакаю новых вершаў Зянона Пазьняка.

3. Чакаю новых перакладаў А.Мінкіна.

4. Чакаю рамана «из нашего времени» ад А.Федарэнкі.

5. Са скепсісам чакаю новых пост–тэкстаў С.Дубаўца.

6. Чакаю скарэйшага заканчэння «Дзённіка спадара Дэкарта».

7 ...І хуткага выдання рамана «Гайд–парк» Франьцішка Эн.

8. Ад часопісаў «Полымя», «Маладосць» і «Нёман» — нічога не чакаю ў тым сэнсе, што пэўны час ужо гляджу ў іх што вартае «заднім лікам».

9. Творчасць У.Арлова, мне здаецца, немагчыма прадказаць у прынцыпе; але буду чакаць.

10. Валянціна Аксак... Калі выйшаў яе першы зборнік «Цвінтар», мне, па шчырасці, адразу захацелася, каб надалей аўтарка казала пра свой асабісты цвінтар. З выхадам кнігі «Капліца» пабачыў, што секулярызацыя паэзіі Вал. Аксак пачалася. Але не стала вызначальнай. Таму хацелася б пажадаць Валянціне Аксак яшчэ больш актыўнай, калі не поўнай, секулярызацыі ў творчасці.





11 Чакаю перакладаў і асабліва інтэрв'ю Васіля Сяргеевіча Сёмухі.

12. Эсэістыкі і дысертацый Юрася Пацюпы.

13. Перакладаў і чамусьці прозы Яна Максімюка.

14. Кнігі паэзіі Зм. Коласа.

15. Ад У.Конана — скарэйшага развітання з публіцыстыкай і крытыкай «нашаніўскай» пары; магчыма, нарысаў па гісторыі сусветнай філасофіі.

16. Ад А.Сідарэвіча — вяртання ў літ крытыку.

17 Ад Алеся Яскевіча — усяго новага.

18. Ад П.Васючэнкі — новых тэарэтычных тоўстых манаграфій; не ведаю, папраўдзе, ці можна бясстратна сумяшчаць крытыку з прыгожым пісьменствам.

19. Нарэшце выхаду кнігі эсэістыкі Валянціна Акудовіча, хоць і надта добра ведаю кошт яго асабістага часу цяпер; просьба да сяброў — па магчымасці, не надакучайце яму «праздными разговорами».

20. Бачу карысным для літаратуры сыход пэўных аўтараў у кантэкст газеты «Свабода». Нехта павінен змагацца і з пяском.

21 Чакаю ўлучэння ў літаратурнае жыццё пісьменніцы Наталлі Ваўчок.

Іншыя магчымыя 21+N пажаданні нішто не замінае выказваць у штодзённых прыватных гутарках.

## Іван АФАНАСЬЕЎ

...Анкета заспела знянацку, у шчырай прыязнасці тэлефоннага знаёмства: «Ваш літаратурны заказ дваццаці аднаму літаратару», кінуўшы выклік марным разумовым патугам вытлумачыць колькасную формулу прыгожага пісьменства і ўжо не адпусціўшы ў спакуслівую прастадушнасць амаль дзіцячага спадзявання на «сапсаваны тэлефон». Дваццаць адзін! Гульня скончана. Час тлумачыць свет з сябе, абаронены ад твайго дзэзерцірства магічнай лічбай на дзвярах уласнай кватэры: таксама дваццаць адзін... Трывала аваладаўшы падсвядомасцю, сама лічба неўпрыцям ператвараецца ў тое мноства (двух і адзінкі), у якім кемлівыя іншаземцы–папяраднікі шукалі прыроду гармоніі, бавячы час, падобна рымляну Баэцыю, у спасціжэнні «адзінага цела лічбы», адвечна раз'яднанага на «цот» і «лішку», двойку і адзінку і гэтаксама ж паяднаных прыродай «канечнай» і «бясконцай» ва ўсім існым, бо: «...гармонія ёсць яднанне многага і згода рознагалосага». Ураўнаважанасць супольнага быцця (дзе «тваё» ратуецца ад нябыту «іначшым») імкнецца ў гэтай арыфметычнай паслядоўнасці да абсалюта–Бога, некалі ўвасобленага ў дасканалай адзінкавасці першай лічбы і ці не таму здолеўшага, на думку В.Розанава, з'явіць Боскую Шчырасць «у арбіце Першай Іпастасі» — рэлігіі сусветнага бацькоўства, той выратавальнай мэтазгоднасці, калі закінуты пасля Капернікавага адкрыцця ў касмічных абшарах чалавек менавіта ў сабе набывае на радасць засмучонаму філосафу кіруючую думку вышэйшага пачатку і пераадольвае эгаістычную зацыкленасць богаабранага народа праз ахвярнае ўзыходжанне да ідэалу. «Спрадвечнай магчымасцю быць іначшай» — як пазначыў (тое?) А.Разанаў у паэме «Гліна» («Крыніца», 1994, N 1)? І хоць «тут нас ужо няма», але, прамовім разам з паэтам, «праступаюць задумы / Каб неўзабаве / Звязацца ў цэласны тэкст / Як гліна». І хіба не ў такім узыходжанні ўсвядомім піраміду, якую ў рускай культуры напрыканцы XX стагоддзя ці не з гэтага матэрыялу збудаваў у аднайменным рамане Л.Лявонаў?..

Сапраўды, элітарнае шануе вышыню, а не прасцяг. Няхай дзеля гэтага ў сварцы Бога і Сатаны, не прызнаўшага створаных з гліны людзей роўнымі анёлам, трэба быць не сведкай, а ўдзельнікам, рыхтуючыся да таго здзяйснення, у якім аўтару «Метафізікі хрысціянства» калісьці бачылася ніколі не дасягаючая велічыня «Хрыстос + 0», дзе «0» — усё мажлівае «што–небудзь».

У свой час расейцы разнялі дух і гліну, паводле высновы Ф.Буслаева, уратаваўшы ад матэрыялізму Адраджэння чысціню прынцыпаў іканапісу, схаваную ад культурных катаклізмаў веку ў правінцыйным побыце рамесніка. Аднак для нас пасля шматвяковага Чарнобыля праслаўуты «0» — праблема культуры, анкета самой гісторыі. Драма беларусаў — у неабходнасці прасторы, якая пярэчыць вышыні. Пакутніцкі крыж, пацэліўшы ў цэнтр нашага «0», вызначыў у паганскім сімвале ўмову гармоніі, спасцігаемай толькі на Зямлі і тымі, хто сам падпарадкаваны бязлітаснаму разбурэнню і ў кім архітэктар расейскай «Піраміды» адчуў шчырасць апошняй справаздачы, невядомай нябесным духам. Нават так званая «афіцыйная» культура (=літаратура), закліканая, на погляд парадаксальнага Э.Невядомага, адно займаць месца, бліскуча дэманструе сутнасную «тэрытарыяльную» падлегласць Ідэі — ад незабыўных «Людзей на балоце» да «Петраграда — Брэста», што міжволі, ужо назвай, аспрэчыў бадзёры аптымізм правадыра (аддаць «прастранства, каб выйграць час»).

Беларускі дух абжывае прастору і ці не таму дагэтуль калядуе ў прочках, спалучаючы развітанне з набыццём, каб зямлю прымірыць з небам і нарэшце ўтаймаваць гэтую дзіўную лічбу: 21. Пакуль матэрыял чакае майстра, усе мы — яе палонныя. Пра літаратурны ж заказ лепш спытаць у пераможцы...

